# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

4



1933
КРАСАВІК

КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ

# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ



ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.

**КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ**

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ

МЕНСК 1933

# ГІСТАРЫЧНАЯ ГАДАВІНА

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 году пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый належыць да таго тыпу вялікіх партыйных дакумэнтаў, гістарычная веліч якіх раскрываецца ўсё шырэй і шырэй з кожным далейшым крокам практычнага руху, ад гадавіны да гадавіны.

Якім нікчэмным апартуністычным лепятаньнем гучаць асабліва цяпер, калі прамінуў год, розныя літадміністратарскія «здагадкі» аб «выпадковым характары» пастановы, аб «вузка-арганізацыйным прызначэньні яе» і г. д.

Зразумець хоць-бы у найменшай ступені гістарычны сэнс пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка, значыць зразумець, перш за ўсё, гэты гістарычны літаратурны дакумэнт, як партыйны, бальшавіцкі дакумэнт, як неабходнае зьвяно ў тым ланцугу бальшавіцкай літаратурнай палітыкі, пачатак якой ідзе ня толькі ад гістарычнага артыкулу Леніна пра партыйную арганізацыю і партыйную літаратуру, але і ад літаратурнай палітыкі Маркса і Энгельса. Прынцып змаганьня на два фронты (за партыйнасьць мастацтва супроць «чыстага» мастацтва і адначасова супроць вульгарызатарства), што знайшоў гэткае яркае выяўленьне ў літаратурнай палітыцы Маркса і Энгельса, у іх адносінах да Фрэйліграта, Гайнэ і др. літаратурных тагачасьнікаў—ці ня стаў ён выходным прынцыпам ленінскай літаратурнай палітыкі, абагачанай вопытам эпохі імпэрыялізму і пралетарскай рэвалюцыі? А літаратурная палітыка Леніна ў змаганьні супроць усялякіх тэорый «надпартыйнага» мастацтва, супроць літаратараў «звышчалавекаў» і адначасна супроць багданаўскага «аранжарэйнага пралетарскага мастацтва», за мастацтва, даступнае мільёнам, за літаратуру, што стала «часткаю агульна-пралетарскай справы»,—ці не падводзіць яна нас шчыльна да пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 году?

Досыць абеглага агляду асноўных партыйных дакумэнтаў, прысьвечаных пытаньням нашай літаратурнай палітыкі, каб у гэтым пераканацца.

Буйнейшым партыйным дакумэнтам, што вызначыў на многія гады наперад асноўныя вехі нашай літаратурнай палітыкі, зьяўляецца, як вядома, артыкул Леніна «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура», надрукованы ў лістападзе 1905 году.

У гэтым артыкуле, які разгарнуў ва ўсёй ягонай глыбіні прынцып партыйнасьці літаратуры, Ленін выступае змагаром на два фронты ў пытаньнях літаратурнай палітыкі партыі.

Накіроўваючы зьнішчальны агонь супроць гніла-лібэральнага і «ненармальнага сужыцьця» партыйнага дружу з «літаратарам-звышчалавекам», што не дарос да погляду партыйнасьці літаратуры, Ленін рэзка крытыкуе тэорыю «свабоднага», «чыстага» мастацтва.

„Свабода буржуазнага пісьменьніка, мастака, актрысы, ёсьць толькі замаскаваная (альбо ліцэмерна-маскіруемая) залежнасьць ад грашовага мяшка, ад подкупу, ад утрыманьня",—кажа Ленін.

Сапраўдную сваю свабоду літаратура набывае толькі тады, калі яна «адкрыта зьвязана з пралетарыятам», калі «не карысьць і не кар'ера, а ідэя сацыялізму» становіцца рухаючай спружынай літаратуры.

Гэтая літаратура таму і свабодная,—падкрэсьлівае неаднакраць Ленін,—што яна не апранаецца ў тогу неклясавасьці і агульначалавечнасьці. Неклясавая літаратура,—кажа Ленін,—будзе магчыма «толькі ў сацыялістычным бяскласавым грамадзтве».

Аднак, адначасова Ленін пасьцярагае ад вульгарна-мэханістычнага адміністратарскага наскоку на праблемы перабудовы літаратуры. Ленін піша:

„Мы не скажам, разумеецца, пра тое, што гэта перабудова літаратурнай справы магла адбыцца адразу. Мы далёкія ад думкі прапаведваць якую-небудзь аднастайную сыстэму, або разьвязаньня задачы некалькімі пастановамі. Не, пра схэматызм у гэтай галіне менш за ўсё можа быць гаворка".

Ленін завострывае ўвагу партыі на неабходнасьці ўлічваць спэцыфічную прыроду літаратурнай справы, якая ня церпіць, паводле слоў Леніна, «мэханічнага раўнаньня, нівэліраваньня, панаваньня большасьці над меншасьцю».

„Бязумоўна,—піша далей Ленін,—у гэтай справе бясспрэчна патрэбна забесьпячэньне большага простору асабовай ініцыятыве, індывідуальным нахілам... Але ўсё гэта даводзіць толькі тое, што літаратурная частка партыйнай справы пралетарыяту ня можа быць шаблённа, атоежсамлена з другімі часткамі партыйнай справы пралетарыяту".

Няма патрэбы даказваць тут, што гэтае змаганьне супроць лявацкага вульгарызатарства, схэматызму і адміністратарства ў галіне літаратурнай палітыкі гэтулькі-ж злабадзённа для нашай літаратурнай сучаснасьці, як і ленінскія довады супроць гнілога лібэралізму ў адносінах анарха-індывідуалізму «літаратараў-звышчалавекаў»—літаратараў што не дарасьлі да разуменьня прынцыпу партыйнай літаратуры.

Праз пятнаццаць год (у 1920 годзе) Ленін зноў варочаецца да пытаньня пра літаратурную палітыку нашай партыі, у сувязі з засільлем багданаўскага меншавізму ў тэарэтычнай і практычнай дзейнасьці Пралеткульту. У праэкце рэзалюцыі для зьезду Пралеткульту Ленін зноў высоўвае прынцып партыйнасьці літаратуры. Ленін рэзка

выступае супроць багданаўскіх меншавіцкіх спроб стварыць «самастойную духоўную культуру» пралетарыяту, адарваную ад партыйнага кіраўніцтва, ад органаў савецкай улады, ад клясавага змаганьня пралетарыяту. Ленін разглядае, як «тэарэтычна-няправільныя і практычна-шкодныя ўсялякія спробы замыкацца ў сваіх абасобленых арганізацыях»...

У другім месцы Ленін зьдзекуецца над «спэцыялістамі», якія ў лябараторыях «выдумваюць» «пралетарскае мастацтва» (гл. прамову на 3-ім зьезьдзе РКСМ).

Досыць прабегчы вачыма гэтыя выключныя па глыбіне аналізу ленінскія радкі, каб прыгадаць, па асацыяцыі, аб шэрагу вульгарызатарскіх нэо-пралеткультаўскіх памылках напостаўскага кіраўніцтва за апошнія гады. Ленінскія стрэлы пападаюць ня ў брыво, а ў вока ўсялякім «выдумшчыкам» схалястычных «творчых мэтадаў», усялякім носьбітам групавой замкнутасьці, усялякім вульгарызатарам, што зрываюць вялікую сур'ёзную справу перабудовы літаратуры, шаблённа атоежсамліваючы літаратурную работу з другімі часткамі партыйнай справы.

Асноўныя ленінскія прынцыпы літаратурнай палітыкі пранізваюць усе нашы партыйныя пастановы пра літаратуру.

Рэзалюцыя 13 партзьезду РКП працягвае тую-ж лінію ў пытаньнях літаратурнай палітыкі. Тут падкрэсьліваецца, што «рабкоры і селькоры павінны разглядацца, як рэзэрв, адкуль будуць высоўвацца новыя рабочыя і сялянскія пісьменьнікі». Аднак, адначасова завострваецца ўвага партыі на змаганьні супроць гурткаўшчыны за партыйна-беражлівае кіраўніцтва спадарожнікамі.

„Асноўнаю ўмоваю росту рабоча-сялянскіх пісьменьнікаў,—гаворыцца ў рэзалюцыі,—зьяўляецца больш сур'ёзная мастацкая і палітычная праца іх над сабою і вызваленьне ад вузкай гурткаўшчыны, пры ўсямерным садзейнічаньні партыі, у прыватнасьці партыйнай літаратурнай крытыкі.

Разам з тым неабходна прадаўжаць сыстэматычнае падтрыманьне, якое вядзецца, найбольш выдатных, так званых, спадарожнікаў, што выхоўваюцца школаю, таварыскаю работаю сумесна з камуністамі".

Змаганьне за рабочыя сялянскія кадры літаратуры праводзіцца як бачым, «таварыскай работай» спадарожнікаў разам з камуністамі на падставе змаганьня супроць вузкай гурткаўшчыны.

Рэзалюцыя ЦК РКП «Пра палітыку партыі ў галіне мастацкай літаратуры» ад 18 чэрвеня 1925 г. дае яшчэ больш разгорнутую партыйную канцэпцыю змаганьня на два фронты. Рэзалюцыя ў першую чаргу накіравана супроць троцкісцкага капітулянства ў пытаньнях пралетарскай літаратуры, супроць крытыкаў, якія здаюць пазыцыі камунізму і не разумеюць, што «ў клясавым грамадзтве няма і ня можа быць нэйтральнага мастацтва».

Адначасова рэзалюцыя б'е па літаратурным камчванстве.

Супроць капітулянства, з аднаго боку, і супроць камчванства, з другога—гэтакі павінен быць лёзунг партыі"—гаворыцца ў вышэйзгаданай рэзалюцыі.

Праблема перавыхаваньня кадраў «спадарожнікаў» ставіцца ў сьвятле таго-ж прынцыпу змаганьня на два фронты: супроць гніла-лібэральных адносін да палітычных памылак спадарожнікаў і супроць вульгарызатарскай «аглобельнай» крытыкі.

„Адсяючы антыпралетарскія і антырэвалюцыйныя элемэнты... партыя,—гаворыцца у рэзалюцыі—павінна цярпліва ставіцца да прамежных ідэалёгічных форм, цярпліва дапамагаючы гэтыя няўнікнёныя шматлікія формы зжываць у працэсе ўсё больш цеснага таварыскага супрацоўніцтва з культурнымі сіл мі камунізму".

Хіба можна пасьля ўсяго гэтага гаварыць пра «выпадковасьць» гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.? Хіба можна пасьля ўсяго гэтага гаварыць пра «вузка-арганізацыйны» характар гэтага вялікага гістарычнага дакумэнту?

II.

У сэрыі артыкулаў, прысьвечаных пастанове ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка, якія друкаваліся ў «Литературной газете» пад агульным загалоўкам «Старое и новое», тав. Фадзееў вельмі сваечасова і ўдала загаварыў пра нэапралеткультаўшчыну ў дзейнасьці напостаўскага кіраўніцтва ВОАПП за апошнія гады.

Менавіта пралеткультаўскім рэцыдывам—рэцыдывам «выдумліваньня» пралетарскай культуры мы былі абавязаны тэю абстрактна-схалястычнаю, «аранжэрыйнаю» пастаноўкаю «выдуманых» праблем творчага мэтаду, якую мы—воаппаўцы, называлі «творчай дыскусіяй». Менавіта, пралетаркультаўскае рэха адгукаецца ў анты-ленінскім скажэньні праблемы суадносін сацыялістычнай і пралетарскай літаратуры.

А ў «культываваньні гурткавой замкнутасьці, адрыву ад палітычных задач сучаснасьці і ад значных груп пісьменьнікаў і мастакоў»,—пра што гаворыцца ў пастанове ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка на адрас ВОАПП—ці ня чулася пераклічка з пралеткультаўскаю цэхаваю замкнутасьцю, з лябараторна-ідэалістычным, у духу Пралеткульту, адрывам праблем творчасьці ад клясавага змаганьня ад палітычных задач сучаснасьці і ад асноўных мас пісьменьнікаў?

Змаганьне супроць пралеткультаўшчыны ляжала, як вядома, у аснове змаганьня супроць «левых» напостаўцаў (група Лялевіча—Вардзіна) у пэрыяд апублікаваньня рэзалюцыі ЦК РКП ад 18 чэрвеня 1925 году. Гэтае змаганьне ўзначальвала напостаўская група, што стала пасьля на чале ўсяго воаппаўскага руху. Праводзячы ў гэтым змаганьні правільную ў асноўным партыйную лінію, выражаную ў рэзалюцыі ЦК РКП ад 18 чэрвеня 1925 году, гэта група— група таварыша Авербаха—граміла пралеткультаўскае сэктанства «левых» напостаўцаў, выкрывала трацкісцкі характар іх адрыву ад асноўных мас «спадарожнікаў», іх панікёрства ў пытаньні пра фэдэрацыю савецкіх пісьменьнікаў і, нарэшце, што зьяўляецца галоўным, іх анты-

партыйна-фракцыйныя адносіны да рэзалюцыі ЦК РКП ад 18 чэрвеня 1925 году.

У рэзалюцыі надзвычайнай усесаюзнай канфэрэнцыі ВАПП, прынятай па дакладу тав. Авербаха і накірованай супроць «левай», гэта ёсьць, трацкісцкай апазыцыі, сучаснасьць памылак «левых» напостаўцаў зводзіцца: а) да «панікі перад буржуазнаю літаратураю»; б) да «вузка-сэктанскага разуменьня ВАПП, як своеасаблівай літаратурнай партыі»; в) да «недаацэнкі рэзалюцыі ЦК, што мяняла становішча ў галіне літаратурнай палітыкі».

Добра калісьці—па-партыйны добра—пісалі рэзалюцыі напостаўцы!

Мінула шэсьць год і старая забытая рэзалюцыя надзвычайнай канфэрэнцыі ВАПП зьявілася жывым дакорам напостаўскаму-ж кіраўніцтву.

У новых гістарычных абставінах, у новых умовах абвостранага клясавага змаганьня і пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва, напостаўскае кіраўніцтва ВОАПП стала на той-жа, па сутнасьці, шлях нэапралеткультаўшчыны. Тая-ж самая паніка перад буржуазнаю літаратураю і недаацэнка савецкага пісьменьніка, якая праглядвае ў лёзунгу «саюзьнік, альбо вораг»; тое-ж самае вузка-сэктанскае разуменьне ВОАПП, як «своеасаблівай літаратурнай партыі», выражанае ў гутарках пра «генэральную лінію ВОАПП» супроцьстаўленую партыю, ЦО партыі—«Правде» і ленінскаму камсамолу; тая-ж самая «недаацэнка рэзалюцыі ЦК, што мяняла становішча ў галіне літаратурнай палітыкі», выражаная ў практыцы фактычнага сабатаваньня гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый.

У сваёй кнізе «Наши литературные разногласия» Л. Авербах піша:

„Мы зьвярнуліся ў ЦК партыі з лістом (23 чэрвеня 1925 г.), у якім канстатавалі трауЛю і гаварылі: калі ў партыйнымі і савецкім друку нас атэстуюць антыленінцамі, багданаўцамі... дык здымеце нас."

Не ўваходзячы ў ацэнку недапушчальнага пакрыўджана-капрызнага тону ліста, трэба катэгарычна заявіць, што ад рэштак багданаўшчыны напостаўскае кіраўніцтва вызвалялася з вялікімі цяжкасьцямі.

Ці можна абмінуць блёк напостаўцаў з Бухарыным, чыя трактоўка пралетарскай культуры—яўна багданаўская?

Ці можна абмінуць той факт, што амаль ва ўсіх генэральных баёх за марксыцка-ленінскую літаратурную крытыку напостаўскае кіраўніцтва ВОАПП ня было здольна ўтрымацца на пасьлядоўна-ленінскіх пазыцыях?

Ніхто ня мае права зьмяншаць вялікія гістарычныя заслугі напостаўскага кіраўніцтва ВОАПП у змаганьні супроць трацкізму—вароншчыны, супроць пераверзеўшчыны, літфронту і г. д. Пра заслугі ВОАПП і яго:най кіруючай групы, на пэўным гістарычным этапе, гаворыць і пастанова ЦК УсеКП(б).

Але чаму змаганьне супроць варонщчыны ўдарыла рыкашэтам па таму-ж напостаўству ярмілаўскаю тэорыяй «жывога гарманічнага чалавека» і тэорыяй Лібядзінскага пра «непасрэдныя адчуваньні»? Чаму змаганьне супроць пераверзеўшчыны ўдарыла рыкашэтам па таму-ж напостаўству лёзунгам «пляханаўскай артадаксыі»? І, нарэшце, чаму змаганьне супроць літфронту—змаганьне неабходнае, агаліла ідэалістычную ахілесаву пяту творчай пляцформы так званага «псыхалёгічнага рэалізму» напостаўцаў?

Тут нямалая віна багданаўскіх пралеткультаўскіх рэцыдываў напостаўства ў апошнія гады. Ідэалістычная канцэпцыя «жывога гарманічнага чалавека», цесна зьвязаная з ідэалістычнаю пастаноўкаю праблемы псыхалёгічнага паказу вобразу, бязумоўна, хаваецца ў багданаўскім суб'ектыўным ідэалізьме. Раячы пісьменьніку пачаць з аналізу псыхалёгіі «жывога чалавека» як «лепшага шляху літаратуры да разуменьня псыхалёгіі сацыяльнай», напостаўскае кіраўніцтва паўтарала зады сацыолёгаў-суб'ектывістаў, якія, паводле слоў Леніна, пачынаюць з «жывых асоб», не разумеючы таго, што пачаць трэба з «сацыяльнага дзеяньня, у якім выражаюцца думкі і пачуцьці» людзей.

Ідэйна-творчы правал раману Лібядзінскага «Рождение героя» і спробы шэрагу напостаўскіх крытыкаў (Ярмілаў і інш.) узьняць на шчыт тэорыю Станіслаўскага пра дабро і зло ў мастацтве—зьяўляюцца яркім доказам гэтага нахілу да багданаўшчыны і ідэалізму наогул.

Багданаўская цэхавая пастаноўка праблемы мастацтва жывіла напостаўскую тэорыю пра «адземяніваньне» і пра тое, што рабочы-ударнік, заклікаены ў літаратуру, зьяўляецца яе «цэнтральнаю фігураю». Адгэтуль толькі крок да славутай тэорыі, што пачынаючыя пісьменьнікі з рабочых-ударнікаў стварылі «свой» узорны стыль; адгэтуль таксама—той адміністратарскі «аранжэрыйны» характар, які мы нярэдка надавалі нашым «кампаніям» па заклiку рабочых у літаратуру.

Рэцыдывы пралеткультаўшчыны жывілі таксама гурткавую замкнутасьць, недаацэнку савецкай літаратуры і лёзунг «саюзьнік, альбо вораг». Гэты лёзунг ня ўлічваў таго павароту ў бок савецкай улады і сацыялістычнага будаўніцтва асноўных кадраў інтэлігенцыі, пра які гаворыцца ў пастанове ЦК ад 23 красавіка.

Рэцыдывы багданаўшчыны цягнулі таксама на ідэалістычнае дно напостаўскую канцэпцыю культуры.

Калі Багданаў «выдумляў» «чыстую, сацыялістычную» літаратуру і культуру наогул, «незалежную» ад клясавага змаганьня, ад пралетарыяту і ягонай партыі, гэта ёсьць, па сутнасьці, буржуазную літаратуру,—дык тав. Авербах «выдумляў» «чыстую» пралетарскую літаратуру, якая адлучана прорваю ад сацыялістычнай культуры пралетарыяту, што будуе сацыялізм у СССР.

Па сутнасьці той-жа адрыў літаратуры ад практыкі рабочае клясы!

Палажэньне Леніна пра тое, што ў кожнай нацыянальнай культуры ёсьць дэмакратычныя і сацыялістычныя элемэнты; палажэньне Сталіна пра тое, што мы будуем культуру сацыялістычную зьместам, замяняецца ў Авербаха мэханістычным багданаўскім разрывам паміж пралетарскаю і сацыялістычнаю культураю.

Усе гэтыя палітычна-творчыя памылкі былі магчымы толькі таму, што напостаўскае кіраўніцтва ВОАПП стала разглядаць сябе замаль як «літаратурную партыю», з асобаю «генэральнаю лініяй», што супроцьстаіць партыі, цэнтральнаму органу ЦК УсеКП(б) і ленінскаму камсамолу.

Дыскусія з «Комсомольской правдой» сыгналізавала ў значнай меры той адрыў ВОАПП ад палітычных задач сучаснасьці, пра якія гаворыцца ў пастанове ЦК ад 23 красавіка. Неабходнасьць перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый, неабходнасьць ліквідацыі ВОАПП стала на парадак дню.

### III.

Як бывала нярэдка—на крутым павароце—сёй-той разгубіўся, ня ўтрымаўся, «выпал з тележки».

І менавіта ў інтарэсах справы ,у інтарэсах кансалідацыі ўсіх наяўных творчых сіл, здольных рухаць наперад справу стварэньня сацыялістычнага мастацтва, было-б шкодна змазаць факты часовай разгубленнасьці ў некаторай частцы былога напостаўскага кіраўніцтва, і ня толькі разгубленасьці, але (з боку некаторых)—сьвядомага ігнараваньня задач перабудовы, намечанай у гістарычнай пастанове ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка. Досыць прыгадаць спробы сяго-таго зьвесьці пастанову ЦК да «вузка-арганізацыйнай перагрупіроўкі». Досыць прыгадаць выступленьне некаторых значных работнікаў з былога кіраўніцтва ВОАПП у Маскве і Ленінградзе, накіраваныя на дыскрэдытацыю першых крокаў работы Арткамітэту.

І ў нас—у БССР—мелі месца падобныя спробы «адседзецца», увільнуць ад вялікіх пытаньняў, пастаўленых на парадак дня пастановаю ЦК.

Сёй-той спрабаваў абкарнаць пастанову ЦК, спасылаючыся на «спэцыфічныя нацыянальныя ўмовы» літаратурнага фронту ў БССР, заклікаючы да «беларусізацыі» партыйнай пастановы.

Што азначала-б на справе падобная «беларусізацыя» пастановы ЦК? Гэта азначала-б пакінуць шчыліну для старых мэтадаў белаппаўскага кіраўніцтва, скомкаць самакрытыку, «апчаджаць» групавыя пачуцьці таго-сяго з былых кіраўнікоў БелАПП і, нарэшце, утрымаць пралетарскую літаратуру БССР на тых пазыцыях, якія прывялі яе да «адрыву ад палітычных задач сучаснасьці і ад значных груп пісьменьнікаў і мастакоў, што спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву».

Падобная пэрспэктыва пачынала папражальна набываць цела і кроў практыкі Аргкамітэту ССП Беларусі ў першыя часы—пасьля апублікаваньня пастановы ЦК. Ня гледзячы на тое, што лепшая частка творчага актыву пісьменьнікаў сустрэла з уздымам рэзалюцыі ЦК, што трэснулі па швох літаратурныя групоўкі, што Аргкамітэт адразу ўзяўся за перабудову.

Перабудова ішла са скрыпам і з маруднымі тэмпамі. Толькі ў канцы лютага 1933 году, гэта ёсьць амаль праз год пасьля апублікаваньня пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка сабраўся першы пашыраны пленум Аргкамітэту. Спатрэбіўся год, выходзіць для таго, каб падвесьці першыя вынікі перабудовы, каб расштурхаць арганізацыю, рушыць справу па-сапраўднаму, па-дзелавому. І, нават, на самым пленуме нам не ўдалося як сьлед разгарнуць справу самакрытыкі і ліквідацыі рэштак групаўшчыны,—без чаго нямысьліма перабудова.

Спрачаліся пра тое, «што разумець пад тэрмінам групаўшчына», вельмі мала было выступленьняў таварышоў з былога кіраўніцтва БелАПП, якія па-сапраўднаму, па-дзелавому пераглядзелі-б у пляне самакрытыкі ўсю работу БелАПП за апошні пэрыяд.

А можа і пераглядаць ня было чаго? Не! Было!

Акурат таксама, як і ва ўсім ВОАПП'е.

Калі значная частка цэнтральных работнікаў ВОАПП выяўляла ў сваёй літаратурна-палітычнай і літаратурна-крытычнай рабоце вульгарызатарства і адміністраваньне, дык не малая доля ў гэтай справе належыць і быламу кіраўніцтву БелАПП. Вульгарызатарства, памножанае на групаўшчыну, разьядала нашу творчую работу ў пэрыяд, так званай, «творчай дыскусыі». Няўменьне раскрыць спэцыфіку свайго прадмету, жангляваньне дрэнна пераваранымі фразамі з дыамату, аглобельная крытыка ў адносінах да тых пісьменьнікаў, якія ня вытрымлівалі выпрабаваньня аршынараппаўскага «дыялектыка-матэрыялістычнага творчага мэтаду»—вось што ў значнай меры тармазіла нашу творчую работу за апошнія гады. Досыць узяць для прыкладу шэраг літаратурна-крытычных выступленьняў, нават такога кіраўніка, як тав. Бэндэ, каб мець уяўленьне пра ўзровень нашай літаратурна-творчай работы ў тыя гады. Прывяду пару прыкладаў.

Змаганьне за рапаўскі лёзунг «псыхалёгізму» і «жывога чалавека» тав. Бэндэ фармулюе так:

„Наш шлях—шлях зрыву ўсіх і ўсялякіх масак, выкрыцьця ўсёй складанасьці і псыхалёгічнай таемнасьці чалавека".

Пранікненьне ў «тайнае тайных» псыхалёгіі «жывога чалавека» тав. Бэндэ зрабіў выходным пунктам свае ацэнкі рамантызму.

„Нам не па дарозе,—піша тав. Бэндэ,—з тымі, хто лякіруе сапраўднасьць накшталт рамантыкаў, а разам з імі Чорны, Нікановіч і Зарэцкі асабліва".

Зваліць у адну кучу клясава-варожых «рамантыкаў», такіх пісьменьнікаў, як Чорны,—магчыма было толькі пры наяўнасьці лёзунгу «саюзьнік, альбо вораг», пры наяўнасьці схэматызму і вульгарызатарства ў нашай рабоце. Толькі гэтым негістарычным адміністратарскім падыходам да літаратурных зьяў ільга вытлумачыць палажэньне Бэндэ пра тое, што «рамантызм—гэта штандар пасыўнасьці і бясьсільля». У гэтым «прыгаворы» няма канкрэтна гістарычнага аналізу клясавай прыроды рамантызму на розных гістарычных этапах, няма ні слова пра рэвалюцыйны рамантызм!

Нямала паадміністравалі мы ў вялікай справе заклiку рабочых-ударнікаў у літаратуру, захвальваючы пачынаючых пісьменьнікаў, забіваючы ім галовы катэгорыямі дыялектыкі, замест таго, каб пачаць з канкрэтнай вучобы.

Беларуская літаратурная крытыка гэтак-жа сама, як і руская, не абмінула, такім чынам, небясьпекі дэборынскай схалястыкі і, наогул, уплыву меншавіствуючага ідэалізму.

Ярчэй за ўсё гэта выступае ў шэрагу артыкулаў Кучара, дзе часамі ідэі Варонскага спалучаюцца з меншавіствуючым ідэалізмам і з нацыяналістычнымі прарывамі.

Тэарэтычна шкодны груз памылак воапчаўскага мінулага адчуўся таксама і на яўрэйскай літаратурнай крытыцы БССР. У кнізе тав. Браништэйна «Атака» ёсьць шэраг памылак, што выцякаюць з палітычна-шкодных някрытычных адносін да пляханаўскай літаратурнай спадчыны (спасылкі на пляханаўскі «прынцып антытэзы», элемэнты аб'ектывізму і інш.). Памылкі лявацкага і мэханістычнага парадку, ігнараваньне ў шэрагу месц спэцыфікі мастацтва і элемэнты ідэалізму ёсьць у кнізе тав. Дунца «У баёх».

Аргкамітэт ня здолеў «набраць» адпаведную хуткасьць у справе ліквідацыі ўсяго гэтага грузу памылак воаппаўскага мінулага. Гэтага, зразумела, не маглі ня выкарыстаць клясава-варожыя і апартуністычныя элемэнты ў літаратуры.

Славуты ліст «пятнаццаці» зьяўляе сабою яркі прыклад таго, як недахопы нашай работы нахаду перахопліваліся клясава-варожымі элемэнтамі для таго, каб тут-жа быць пушчанымі ў ход супроць партыйнага кіраўніцтва літаратурай.

Кулацка-буржуазныя, нацдэмаўскія вылазкі Сідарэнкі, Баранавых і Нікановіча, рост нацыяналістычных настрояў, пад фальшывым нацыянальным сьцягам у некаторай частцы яўрэйскай літаратуры, сыгналізавалі аб прытупленьні пралетарскай пільнасьці Аргкамітэту. Аргкамітэт ня змог своечасова ўзьняць на неабходную палітычную вышыню пытаньня пра буржуазна-кулацкі наступ на літаратурным фронце. Спатрэбілася ўмяшаньне ЦО нашай партыі «Праўды», спатрэбіліся неаднаразовыя паказаньні ЦК КП(б)Б, каб ударыць па нацыяналізму. Шэраг фактаў сьведчыць пра тое, што, ужываючы самыя тонкія стылістычныя прыёмы маскіроўкі (напрыклад, Калюга ў яго навэлі «Цеснаватая куртачка»), кулацка-буржуазныя эсэраўскія і нац-

дэмаўскія элемэнты часам усыплялі пільнасьць нашых рэдактароў, нават пасьля апублікаваньня шэрагу рэзалюцый ЦК КП(б)Б пра неабходнасьць жорсткага змаганьня супроць вылазак клясавага ворага ў літаратуры.

Верш Лужаніна «Рэцыдывіст» («Заклік» №2) па сутнасьці зьяўляецца працягам антысавецкіх паклёпаў Нікановіча—працягам на новым тыпажы—на зладзейскім асяродзьдзі. Злачыннасьць, як спадарожнік беднасьці ў СССР—вось да чаго дагаварыўся Лужанін. А ў тым-жа нумары «Заклiку», дзе рэдакцыя не праявіла дастатковай пільнасьці ў адносінах да Лужаніна, зьмяшчаецца перадавы артыкул, у якім гаворыцца:

„Набліжаецца гадавіна гістарычных пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый. Мы абавязаны сустрэць вялікую гадавіну дасканалай прапрацоўкай гэтых пастаноў".

Але-ж лепшая «прапрацоўка» гэтых пастаноў—гэта ўзмацненьне нашай пільнасьці ў змаганьні супроць клясава-варожых выступленьняў—вось у чым сутнасьць справы.

## IV.

Першы пашыраны пленум Аргкамітэту ССП Беларусі няшмала часу ўдзяляў прарывам на літаратурным фронце, прарывам вельмі вострага палітычнага характару. Аднак, рэдкі літаратурны пленум дэманстраваў гэткую згуртаванасьць шэрагаў асноўных пісьменьніцкіх кадраў БССР, гэтакі творча-дзелавы характар работы, гэтакі ўздым, як гэты пленум.

Пры ўсіх недахопах Аргкамітэту нельга, аднак, прайсьці міма таго, што пралетарская і савецкая літаратура БССР прышла да першага пленуму ўзмоцненай і адзінай, вызваленай у значнай ступені ад грузу памылак мінулага.

Ат-жа па сутнасьці, менавіта на гэтым пленуме цалкам і поўнасьцю апраўдалася характарыстыка, дадзеная літаратурнаму фронту ў пастанове ЦК ад 23 красавіка.

А с н о ў н ы я   п і с ь м е н ь н і ц к і я   к а д р ы   с т а л і   н а   п л я ц ф о р м у   с а в е ц к а й   у л а д ы   і   с а ц ы я л і с т ы ч н а г а   б у д а ў н і ц т в а. Невялічкай кучцы каляліттаратурных суб'ектаў і нацыяналістычных мяшчан, чыя творчая ўдзельная вага роўна нулю, супроцьстаўлен быў на пленуме лепшы творчы актыў савецкай літаратуры БССР. Дарэмна буржуазна-кулацкія элемэнты спрабавалі ўбіць клін паміж беларускаю савецкаю літаратураю і народным паэтам рэспублікі Янкам Купалам, змазваючы яго памылкі і выкарыстоўваючы яго невыстарчальную творчую актыўнасьць. Ня толькі Янка Купала, але ўсё дакастрычнікаўскае пакаленьне беларускіх савецкіх пісьменьнікаў (Якуб Колас, Бядуля, Цішка Гартны) дало рэзкі адпор вылазкам клясавага ворага.

Усё, што ёсьць сапраўды творчага, сапраўды жыцьцёвага ў літаратуры БССР дэманстравала на першым пашыраным пленуме Аргкамітэту адзінства шэрагаў савецкай літаратуры. І гэта дэманстрацыя яднаньня літаратуры з савецкай уладай і сацыялістычным будаўніцтвам ня зводзілася да голых дэкларацый. Творчы актыў савецкай літаратуры БССР адказаў на гістарычную пастанову ЦК творчым уздымам значнай сілы. Разрадзілася ў значнай ступені атмасфэра літаратурнага адміністраваньня. Пісьменьнік сур'ёзна засеў за работу.

Для таго, каб мець поўнае ўяўленьне аб гэтым творчым уздыме досыць пазнаёміцца з партфэлямі шэрагу нашых пісьменьнікаў. Так Лынькоў друкуе вялікую аповесьць «На чырвоных лядах», тав. Галавач канчае раман «Праз гады», Кузьма Чорны піша раман «Люцыя Нявада», Крапіва напісаў раман «Мядзьведзічы», Барыс Мікуліч канчае раман ««Дужасьць», Зарэчны напісаў аповесьць «Другая маладосьць», Броўка канчае вялікую аповесьць «Сэзоньнікі», Бядуля піша аповесьць «Пагранічнікі», Баранавых працуе над раманам «Голад», Мурашка працуе над раманам Сям'я Канончыкаў», Кульбак друкуе другую кнігу «Зельменяне», Даўгапольскі напісаў раман «Шоўк», Андрэй Александровіч надрукаваў «Хлебную зіму» і працуе над цыклем вершаў «Векапомная восень», Глебка скончыў паэму «Кармэн» і працуе над паэмаю «Асуджаныя на кару», Броўка скончыў цыкль вершаў «Любыя мае тварышы», Куляшоў канчае паэму «Гарбун», М. Чарот працуе над вялікаю паэмаю, частка з якой друкавалася, «Сын партызана», Хадыка падрыхтаваў да друку кнігу новых вершаў, Хведаровіч надрукаваў цыкль вершаў «Радзіўся чалавек», Ізі Харык надрукаваў паэму «Бесьперапынны тыдзень». Кульбак здаў у друк паэму «Чайльд Гарольд з Дзісны», кнігі новых вершаў здалі ў друк яўрэйскія паэты: Камянецкі, Тэйф, Гарцман і інш. З масы рабочых-ударнікаў вылучаюцца паасобныя здольныя пачынаючыя адзінкі: Швэйдэль, Нортман, Шаўцоў, Дзехцяр, Рэйзін і інш.

Мы ўжо маем у наяўнасьці шэраг твораў, якія сьведчаць пра значны творчы паварот у шэрагах так званых «спадарожнікаў». Найбольш яркі ўзор гэтага дае Кузьма Чорны. Кузьма Чорны паказаў сваім творам «Бацькаўшчына»—у прозе і асабліва ў драматургіі—што гутарка ідзе ня толькі пра тэматычны паварот, які разумеецца зьнешне, тэхнічна.

«Бацькаўшчына»—гэта ў значнай ступені творчы вызаў «Зямлі» таго-ж Кузьмы Чорнага. Кулацкі-патрыярхальнай «сіле зямлі», імпрэсыяністкай статычнасьці, пастаральнай лірычнасьці Кузьма Чорны супроцьстаўляе цяпер раскрыцьцё клясавых карэньняў у разуменьні «бацькаўшчына», у разуменьні «мая хата», «мая зямля». Недахопы, што ёсьць у гэтым творы, ні ў якім разе ня могуць сьцьвердзіць палажэньне пра тое, што творчы паварот няміпуча вядзе ў першыя часы да «накладных выдаткаў», гэта ёсьць да творчага аскудзеньня.

Трэба сказаць, што «Бацькаўшчына», як драматургічны твор, сыграла вялікую ролю ў нашым змаганьні за драматургію, насычаную

праблемамі нашага сацыялістычнага будаўніцтва, узьнятую на высокі ўзровень новых вялізных задач, што стаяць перад драматургіяй на дадзеным этапе. Схалястычныя спрэчкі навокал пытаньня пра «драматургію становішча» і «драматургію характараў» вырашаюцца ў значнай ступені манераю Чорнага раскрываць сацыяльныя характары ў іхняй клясавай практыцы, у іх тыповых абставінах.

Творчы паварот Зарэцкага ў ягонай кнізе «Вязьмо» таксама трэба прызнаць істотным, ня гледзячы на значныя гуманістычныя, ідэалістычныя зрывы ў гэтай кнізе.

Яркі ўзор адыходу ад старых абмяжована-нацыяналістычных, ідэалістычных пазыцый зьяўляе сабою твор Кульбака «Чайльд Гарольд з Дзісны». Тут ярка вызначан шлях разрыву паэты з ідышыцка-дробнабуржуазнай інтэлігенцыяй і памфлетычнага паказу іх на фоне загніваньня культуры буржуазнага Захаду. Ільга прывесьці яшчэ шмат прыкладаў творчага павароту асноўных пісьменьніцкіх кадраў у бок савецкай улады і сацыялістычнага будаўніцтва. Гэты творчы ўздым узначальвае цца выпрабаванымі кадрамі пралетарскай літаратуры, што ўмацаваліся ў баёх супроць усялякіх клясава-варожых вылазак на літаратурным фронце, узначальваецца вырасшымі кадрамі марксыцка-ленінскай крытыкі.

Дарэмныя былі спробы клясава-варожых элемэнтаў вытлумачыць пастанову ЦК ад 23 красавіка, як наступ на асноўныя кадры марксыцка-ленінскай крытыкі, як «адмену» пралетарскай літаратуры.

Беларуская пралетарская літаратура, арганізаваная ў БелАПП даказала сваёй шматгадовай барацьбой, пад кіраўніцтвам партыі, што, праводзячы ў асноўным верную партыйную лінію ў літаратуры, яна апраўдала давер'е, аказанае ёй партыяй: барацьба за сацыялістычны інтэрнацыянальны зьмест беларускай культуры, нацыянальнай па форме, уцягненьне кадраў рабочых і працоўных у літаратуру, стварэньне раду буйных твораў пралетарскай літаратуры—усё гэта ня можа быць нікім абыйдзена.

Пастанова ЦК падкрэсьлівае, што становішча на літаратурным фронце характэрызуецца ў першую чаргу тым, што

„у цяперашні час пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, высунуліся новыя пісьменьнікі і мастакі з заводаў, фабрык і калгасаў...“

Змаганьне за вялікае сацыялістычнае мастацтва ўзначальваюць, пад кіраўніцтвам партыі, менавіта пралетарскія кадры, бо клясавае змаганьне ў літаратуры ня толькі не «адмяняецца», але набывае яшчэ больш востры характар.

Ідзе апошні і рашучы бой за пабудову бяскласавай грамады, за выкараненьне рэштак капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці. Клясавы вораг напружвае свае апошнія намаганьні, пускае ў ход свае апошнія самыя хітрыя манэўры, каб з дапамогаю інтэрвенцкіх сіл сусьветнага імпэрыялізму сарваць пераможную справу другой пяцігодкі. Літаратура ня можа ня стаць арэнаю жорсткіх клясавых баёў.

У гэтым змаганьні—гонар і месца марксысцка-ленінскай крытыцы!

Ня гледзячы на шэраг буйных недахопаў у сваёй рабоце, марксысцка-ленінская крытыка налічвае значныя кадры работнікаў. Расьце літаратурна-крытычны маладняк з шэрагаў нашай асьпірантуры. Умацоўваецца бальшавіцкая пільнасьць крытыкі. Расьце яе агульна-культурны і тэарэтычны ўзровень. Нават у апошнім сэнсе—у сэнсе агульна-культурнага і тэарэтычнага свайго ўзроўню, марксысцка-ленінская літаратурная крытыка БССР далёка пакінула за сабою правінцыянальна-фармалістычную жвачку і нацыяналістычную папоўшчыну ўсялякіх Бабарэкаў і інш. нацдэмакратычных літаратурных «тэарэтыкаў».

Марксысцка-ленінская літаратурная крытыка БССР паказала на справе як яна зьмяла з літаратурнага фронту гэтых нацыяналістычных мяшчан. Ім няма звароту!

У атмасфэры росквіту нацыянальных культур—сацыялістычных зьместам і нацыянальных формаю—у бальшавіцкай атмасфэры інтэрнацыянальнага збліжэньня пралетарыяў і паўпралетарыяў розных нацый гінуць гнілыя кветкі буржуазна-кулацкага нацыяналізму.

Расьце і мацнее пад выпрабаваным кіраўніцтвам ЦК партыі на чале з тав. Сталіным вялікае сацыялістычнае мастацтва. Лёзунг сацыялістычнага рэалізму, высунуты тав. Сталіным у гутарцы з пісьменьнікамі, адчыняе сабою новую слаўную старонку ў гісторыі змаганьня за вялікае сацыялістычнае мастацтва. У сьвятле гэтага лёзунгу ставяцца па-новаму творчыя праблемы пралетарскай савецкай літаратуры, ставіцца па-новаму творчая вучоба пісьменьніка.

Не жангляваньне катэгорыямі з дыялектыкі, а канкрэтная вучоба, што ўнікае «ў тэхніку справы», у дэталі справы—вось што стала стрыжнем нашай вучобы. Вучоба па-сапраўднаму—па-бальшавіцку, в у ч о б а н а р э в а л ю ц ы й н а й п р а к т ы ц ы р а б о ч а е к л я с ы, цесная сувязь з масамі, выхаваньне кадраў—вось асноўнае зьвяно ў рабоце. Гэта азначае: не распухлыя сьпіскі «мёртвых душ» літгурткоўцаў-ударнікаў, а сыстэматычнае апэрацыйнае кіраўніцтва практыкаю работы літгурткоў; ня крытычныя нататкі «вакол ды навокала», не «лявацкая», «рвацкая» крытыка, а д з е л а в а я к а н к р э т н а я д а п а м о г а пісьменьніку ў с п э ц ы ф і ч н ы х цяжкасьцях, што стаяць перад ім; не алілуйшчына і дэлікатнае манэрнічаньне з пісьменьнікам, а разгорнутая бальшавіцкая самакрытыка, не групэўшчына і самаізаляцыя ад значных груп пісьменьнікаў, а кіраўніцтва ў с ё ю савецкаю літаратураю.

«Пад сьцягам змаганьня за генэральную лінію партыі на аснове ўдзелу ў будаўніцтве сацыялізму, у змаганьні з клясавымі ворагамі і апартуністамі ўсіх колераў, на прынцыпах высокай ідэйнасьці ўцягненьня і далучэньня да творчай дзейнасьці шырачэйшых працоўных мас, адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў, як атрад культурнай сацыялістычнай рэвалюцыі, пойдзе да новых рашальных посьпехаў («Правда»).

А. Зарыцкі

## ПЕРАБЕЖЧЫК

У раньні, як гул завірухі зьнік
І прасьцяг стыў у шызым дыме,
Яго стары лясьнік
Прынёс да саўгаскіх будынін.

Завея ў сумётах яго пахавала
Пад гул вятроў,
Пад гаёў галашэньне.
Тузіну злотых ды хлеба кавалак
Знайшлі мы ў зрэбных кішэнях.

Мы зьнялі кажух
І пояс,
Мы сьнегам церлі яго ля хаты
І аб долі бядацкай
Чыталі аповесьць
Па даланёх шурпатых.

Ляжаў ён уночы
Ў ранейшым абшарніцкім доме,
На голаў кідаў плякат
Няроўны цень.
І розныя німбы
І купідоны
Рагаталі з высокіх сьцен.

На павекі паклалі яму два злотых,
Даў зоатэхнік свой фрэнч.
І вея выла рэквіем пад плотам,
Ля ганкаў і коўзкіх парэнч.

Ранак.
Ёсьць дамавіна.
Усё, як трэба.
І на сьнезе зямля здэцца гэткаю чорнай.
І навошта аркэстры?
— Усімі гаямі пяецца апошняя трэба
Таму,
Хто жыцьцё пачынаць
Яшчэ думаў учора.

Сьнежныя зьмеі бягуць,
Недзе
рыпіць
вочап.
І далёка,
далёка
— праз блеклую муць
Устае ледзьве бачна Польшча.

Асадніцкі хутар
Ды кляштар нейкі.
Шэрыя вёскі.
Поле.

І быццам сон на павекі
Небакрай
ападае
доле.

. . . . . . . . . . . . . . .

Нас сем чалавек—
З саўгасу, з суседняе гуты,
Мы ўглядаемся моўчкі ў дрогкую муць,
І плыве прад вачыма
Асадніцкі хутар
І думкі,
Як хмары плывуць.

У сьпісах пазык
— Паны,
Ваяводы,
Прэлаты—
Дайце месца яшчэ аднаму мерцьвяку,
Каб знаць на выпадак адплаты,
Колькі вам адпусьціць першаякасных куль.

А мы, як сьлед, падраўнялі зямлю,
Пад хвояй старой і пахілай,
І нам застаецца апошні салют
Аддаць над яго магілай.

І ахнулі сем дубальтовак дружна
І ў пушчах ласіных залп застываў,
І плыў далей урачыста і мужна
Ярасьці нашай дзевяты вал.

1932-33 г.

Міхась Лынькоў

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ[1])

(Аповесьць)

## ЦІХІЯ СЯЛІБЫ

Калі ноччу ды ўзьнімаецца вэрхал на мястэчку, лаянка, бітаніна, пачне шкло бразгацець—адразу ведаюць усе:

— Няйначай у Цыпрона Палашчынага.

У Цыпрона жонка Палашка. Таму і Палашчын. Як-жа: Цыпрон блінцы пячэ, Цыпрон і кароў падоіць, Цыпрон і жлукта паставіць... і чаго, чаго ня робіць Цыпрон, хіба толькі дачок не раджае. Гэта Палашчына ўжо справа.

— Цыпронька!

— Га?

— Ці ня сьпёк-бы блінца, нешта моташна мне, ды й душка-ж тут на чарэні занадта...—лямантуе на печы Палашка.

— Блінцы? Хіба ўжо сьпяку...

— А мо' й кароў падаіў-бы, дзяўкі-ж на полі...

— Кагоў, дык кагоў...

А яшчэ завуць Цыпрона Гугнявым. От выцяў калісьці конь капытом, ды ўцэліў у самы нос, так увесь і прыплюшчыў, пакінуў от хіба на самы кіпець. А галоўнае ў Цыпрона—дзеўкі. Сем дачок, усе на выраст, чатыры на выданьні. Бяда! Што ні ноч, гудуць каля хаты хлапцы, як вулей той. З гармонікам, са шчыкецінай, з каменьнямі. З бітанінаю, з лаянкаю. І хоць-б то хлапцы ўсамдзелішныя, сталыя, то-б сказаў, кавалеры. Эт, шуядзь адна. Жаніхоў то на вайну пазабіралі, засталіся вось смаркачы, галаштанікі, а што і дарослае якое, дык адны недаморкі тыя. Але-ж што вычвараюць... Пусьці вось дзявок да іх, альбо іх да дзявок,—не абярэшся ліха потым.

— Пгыюцкі дом табе згобяць, гагабцы гэтыя... Кожная дачка па дачцэ, от адных хтысьцін не абягэшся...

І Цыпрон ня пускае дачок ні ў камору пры клеці, ні ў пуню, сьпяць от у полагу ў сенцах. А сенцы на замку, ня выставіш дзьвярэй.

---

[1]) Працяг, пачатак глядзі ў № 2—3.

— Ты-б от, татка, мо' ў камору пусьціў-бы, дужа-ж ужо тут духнеча, ня вытрываць проста... Усё роўна-ж камора пустая, ды й матка дзежкі ў стопку паставіла...

— От я вам дам камогу, ня вытгываю... Іш ты іх, каговы белабгухія...

Але як ты не замыкай, няма ўсёроўна спакою. Што ночы візг пад вокнамі, тлуманіна. Палашка, дык тая як цюльпах. От лягла і захрапла адразу, аж прусы пужаюцца. Ні бяды ёй. А ты прыслухайся, як цябе зьневажаюць, апоўзьлікі, ліха іх матары.

— Цыпрон, балабон,
Адчыні камору...
Цыпрон, Цыпрон,
Аддзе твае дзеці?
Цыпрон, выйдзі вон—
Уцяклі дочкі з клеці..

І гарцуюць аж проста, і скачуць, і на гармоніку рэжуць, галузуюць ва ўсю. От дагаварваюцца аб нечым. Чутно, як шапацяць пад вокнамі.

— Ты, Мацьвей, лезь ды вазьмі вяроўку, ды прывяжы, калі не за нагу, дык за дошку з палацяй, от пацягнам...

Цыпрон пільнуе. Ідзе з палацяй у мыцельнік, бярэ новую пяньковую атосу і неўзаметку становіцца ля вакна. Вось зьяўляецца цень на шыбцы. Шорхаюць рукі, каб спрытней адчыніць ваконную створку, адчыняюць, зьяўляецца галава, упаўзае і перавісае на падаконьніку цэлае тулава.

І тады размахваецца Цыпрон з усяе сілы, аперазае незнаёмую сьпіну тоўстым канцом атосы.

— От гэта табе лазіць, да па чужых вокнах, да па дзяўках, да стагых людзей не паважаць, да...

Спаласаваны неспадзеўкі атосай аж якоча на вуліцы, кідаецца ад болю ў сьлёзы, але сустрэты рогатам і кпінамі таварышоў, перамагае боль і, ківаючы кулаком да вакна, сыпле мацюгамі, памінаючы ўсіх сваякоў: і далёкіх, і блізкіх, і Цыпронавых, і Палашчыных.

— Ты от пачакай, гугнявы чорт!

— Зьеў, дык і гыпайся, ідзі вун ды папгасі ў маткі шмальцу гузінага, мо' хгыбет памажа...

Але-ж праз якое паўгадзіны трашчыць ужо ў сенцах. І чорт яго ведае, што там трашчыць. І чорт яго ведае, чаго лямантуюць дзеўкі? І скуль там брэх сабачы? То-ж насланьнё, няйначай.

Цыпрон бярэ запалкі і тупае ў сенцы. Толькі ён ступае на парог, як зьбівае яго з ног нечы сабака, які як дуж кідаецца ў хату, цягнучы за сабою даўгую вяроўку.

— А бо-о-жухна...—мармоча Цыпрон, лузнуўшыся патыліцай аб дзьвярную клямку, але хутка разумее, у чым справа.

— Бачыш, татка, ужо страху з сянец жэрдкамі ўзынялі, ды яшчэ сабаку на вяроўцы спусьцілі... ці ня Піліпавага сабаку спаймалі...

— Каб ужо вас сабакі саміх паелі, мае вы дачушкі... І хто-б гэта?

— Няйначай Лаўрэнаў Підыпка, татачка...—гаворыць самая меншая дачка Цыпронава, якой от толькі яшчэ гадоў з дзесяць.

— Цыц ты,— тукаюць на яе старэйшыя.

— Я от цыкну вам...

Цыпрон доўга яшчэ ходзіць па хаце і наводзіць парадак. Выпускае сабаку, абыходзіць двор, шукае лесьвіцу, і, прыставіўшы яе да сянец, доўга корпаецца там і вохкае.

— Тое-ж, пганцы, пазьдзігалі ўсе латы. І гваздоў цяпер не набягэшся. Хіба да Абгума ганіцай схадзіць, ды от Лаўгэна спаткаць, пагаварыць з ім. Нядобга-ж так. Такі-ж, можна сказаць, паважаны чалавек, а сыны ну проста гыштанты тыя, астгожнікі. Ізноў-жа казаў сусед Піліп, чаму ты дзевак магнуеш, замыкаеш чаму. Тгасца іх ня возьме. Калі што якое, дык, бгаце мой, яно і без замкоў табе згобіцца. А ня будзеш замыкаць, дык ня будзе і гэтага гагмідагу што ночы, дзяўкі ў цябе, дзякаваць богу, у кгыўду сябе не дадуць. У кгыўду не дадуць, а глязі—у добгы час яшчэ і кавалега якога пгывядуць... Чаго ты, уга, яшчэ як можа здагыцца... Пгыдзецца, няйначай, у камогы ім спаць, тгасца іх галаве... .

А гурма хлапцоў, што ўзарвала страху, ужо на другім канцы вуліцы, завіхаецца ля настаўніцкае кватэры.

— Хопіць з яго, Цыпрона, няхай бо вось хаця высыпіцца крыху. Цяпер настаўніцу трэба папужаць. Нябось, паехаў ужо ўпраўляючы. Нашла сабе палюбоўніка...

— Да ўжо-ж, прыяжджаў-жа сёньня вечарам, яшчэ мне дзьве грыўні даў, калі вароты яму адчыняў...—інфармуе Ігнатка, сын Якуба Смыка, гаспадара настаўніцкае кватэры.

— От-жа, браткі мае, грошай у яго грошай, мне аж дзьве грыўні...

— Да ідзі ты, падлізьнік панскі...—і хлапчука шлёпаюць па патыліцы.

— А ты ня бíся, татку скажу!

— Брысь, саплівы, штаны—глядзі—згубіш, матка плакаць будзе.

●

Іван Каваль прыладжваў барабан у крупадзёрцы—зламалася там шруба нейкая—і бразгацелі шайбы, ды зрэдку дзынкаў малаток у спрытных руках кавальскіх, ды заходзіўся візгам рашпіль. Хведар Жаранкоў цягаў засопшыся мяшкі ў клець. Потым адпрог каня ад дышля, зьняў хамут і пусьціў каня ў хлеў. Усеўшыся на абрубак, старанна змусоліў цыгарку і, пускаючы даўгія зацяжкі, салодка сплёўваў ды, упыніўшы позірк у зямлю, прыглядаўся, як лопаліся ў жоўтай сьліне дробныя пухірыкі дыму. Адпачываў. Прыемна адчуваў, як сохне пад сонцам узапрэлая сьпіна, як соладка ныюць лапаткі. Лагодна лашчыцца вятрыска да твару, асьвяжае

яго. І ні аб чым ня хочацца думаць. Прападзі яно ўсё пропадам, абы от сонца ў сьпіну прыгравала-б. І Хведар зьняў нават шапку, падставіўшы сонцу ўпацелую лысіну, ад якой спускаліся кудзелістыя рудыя пасмы, спускаліся аж на лоб, хаваючы выцьвілыя карыя вочы. Толькі от нос тырчыць шызаю сьлівінай, ды шчацініцца руды парасьнік барады, вусоў, зжаўцелых ад табакі. Мулела нешта ў назе, і Хведар разбарсаў лапаць, доўга пераціраў у руках анучы, разгладжваў на палапленым калене і доўга закручваў на нагу, зьдзьмухваючы сьцяблінкі саломы, луску мякінную.

— Нешта ты, пане Хведар, не гаваркі сёньня?

— А чаго ўжо мне, Іван Іванавіч, гаваркому быць... Дзе ўжо нам... От напетаешся на працы, дзе ўжо тут, да каб гэта гутаркамі займацца.

— Канешне, за працаю не нагутарышся. Але-ж усе мы працуем.

— Дзіва што працуем, але розная праца бывае. Вунь Мотэль калупае шылам, дзень пры дні калупае, ледзь бача ўжо, а што карысьці з тае працы?—от хіба адны толькі дзеці, поўна хата гэтай затлумы. І Сяргей вун працуе, шчупакоў усё ловіць. Каб не давалі разьнікі трыбухоў бабе—з голаду даўно апух бы. Альбо скажам Пэйсах Фарбэраў—круціць з сям'ёй лазу год круглы, самі на тую гужбу перабіліся, а трантамі трасуць, дзеці ходзяць у каросьце. Хвядос працуе—у яго і ў клеці спорна і на душы нябось ня чорна. І Алтар працуе, Французаў Алтар... Як-жа... І ён-жа лазу круціць, на колькі тых плытоў круціць, ды ці мала чаго ён круціць... От-жа не параўнуеш яго працу з Пэйсахавай, альбо скажам з Шубавай... От жа і Лейба, мой гаспадар, таксама працуе. Бач і крупадзёрка гудзе і сэпаратар ёсьць, ды і грошы калі што крамнікам дае, на процанты дае. Да таго-ж і староста ён яўрэйскі—і тутака ня мала перападае. Вунь Еўніха прышла, самавар прынесла бліскучы... То-ж вядома, за сына клопат, што прыкашчыкам у горадзе. Прызыў-жа хутка па-зачарговы. Ну, канешне, мэтрыкі там, сёе-тое, глядзі—і вызваліўся гады на два. Ён та вызваліцца, а Пэйсахаў сын ідзі, бо Пэйсахаў сын лазу круціць, ён жа цыбулю жарэ, рэдзьку жарэ, а ня прысмакі тыя. Вось і працуе Лейба... І я працую... І староста Хвядос працуе—у яго і ў клеці спорна і на душы нябось ня чорна... І Мірон працуе—не падохлі шчэ дзеці з голаду, дзякаваць богу... Працуем, каб на яго звод... Вот у вас, Іван Іванавіч, дык можна сказаць, паважаная праца, бяз ніякага кручэньня—свой мазоль, але чысты мазоль, бо на гэтай да працы і мазгі трэба мець... Я от, зламалася гэта там, дык чорт яго дабярэ, хіба даклаў бы розуму, каб разабраць ды зноў скласьці. Ды, прызнацца, і рады крыху я, што яно гэта зламалася, от хоць бы сабе адпачнеш якую гадзіну. На ўсіх-жа не напрацуешся, няхай на іх звод.

— Гэта вы правільна, пане Хведар...

— А хіба-ж працу маю паважаюць, ці што? От працаваў з месяц у фальварку, дык вызывае ўпраўляючы і кажа: ідзі ты, хлопча, ідзі, ды каб і духам тваім тут ня смуродзіла... Уга, добры

хлопча на сорак пятым гадку... А за што? Хіба я ўжо вінаваты, што жарабё там засілілася неяк за аброць, нагу зламала... Потым вугаль паліў у Кляпчанішчы... А вот ужо другі тыдзень у Лейбы тут, на крупадзёрцы, ды і па ўсёй гаспадарцы.

— Кепска от, пане Хведар, што піць ты, таго... задужа-б я сказаў ласы...

— Што праўда, то праўда... Ёсць грэх... Але зноў-жа... Ну што-ж мне ў пятлю лезьці ці што, калі-ж задужа ўжо часам сумна бывае... А тут і чалавека, я-б сказаў, каб гэта параіцца ды пагаварыць вось так, як з вамі, дык жа яго з агнём не напаткаеш. Хіба да папа пойдзеш, да кабанюгі гэтага... Раней от настаўнік быў, чалавек жа такі абыходлівы... Дык жа няма яго, паехаў дзесьці, а мо' і павезьлі яго кудысьці—жвенькалі-ж вось тады людзі... А цяпер прыслалі цукерніцу нейкую. Дык што-ж ты з ёю, хіба як з чалавекам пагамоніш? Ды яна на цябе і глядзець ня хоча, зьнюхалася вун з упраўляючым... От сапраўды-ж мая жонка пра яе кажа, пра настаўніцу: гэта-ж ня вучыцельша, а от так нейкая шалахцела-малахцела... Дзіва там, навучыць... От і жывем так, Іван Іванавіч, абы мадзелі крыху...

— А скажы ты мне, пане Хведар, што за ліха здарылася з табой мінулым тыднем. Білі цябе, кажуць, дужа білі... З чаго-б гэта?

— А няхай іх пярун заб'е да сасмаліць, дзіва што білі... На гэта яны здольны... Дык, гатова, кажаце, направілі ўжо... От жа, Іван Іванавіч, дасьціпны вы чалавек задужа. І якую-б вам рэч ня даў—кожная да парадку ў вас дойдзе. Залатыя рукі, ня тое што ў мяне...

— Дык ты ўжо, пане Хведар, скажаш там Лейбу, што рамонт як сьлед, усё прыгнаў, цяпер, брат, дзяры крупы.

— Дык яно-ж так...—і Хведар ідзе да мяшкоў з просам, крэкчучы ўзьнімае адзін на сьпіну і засыпае ў коўш. Ідзе па каня, надзявае хамут і доўга, чартыхаючыся і навучаючы каня, прыпрагае яго да дышла.

— Ты от ужо крыху пастой, адпачні яшчэ, а мы от шасьцяронкі змажам, каб лягчэй яно йшло...—і доўга марудна калупаецца ля прыводу.

Іван Іванавіч, сабраўшы ў скрынку свой струмант і зірнуўшы на палапленую Хведараву сьпіну, ідзе на вуліцу і праз невялічкую мястачковую плошчу ідзе да свае кузьні, якая прытулілася ля рэчкі каля грэблі.

— І чалавек, можна сказаць, нішто чалавек, а вось глядзі ты... Няма ў яго сталай прычэпкі ў жыцьці, от соўдаецца з месца на месца як няпрыкаяны і хоць бы табе хто пашкадаваў яго трохі... Ды што там пашкадаваў... От слова таго ласкавага і то ніхто ня кіне яму...—думае Іван Іванавіч, адмыкаючы дзіравыя дзьверцы свае чорнае закуранае кузьні.

●

Сабіраліся часта ў Івана Іванавіча пакурыць, а то і проста так пасядзець, пагутарыць, навін якіх тых паслухаць, бо траплялася часамі газэтка якая ў каваля, часта ён горад наведваў. Заходзіў звычайна Напрэй Казёл, Валодзька пастух—калі вольны ад працы. Заходзіў Аніс—шахцёр, заглядаў часам канавал Зьміцер, да сёй-той з лазакрутаў, маладзейшыя каторыя.

Іван Іванавіч рабіў па вечарох у хаце ўсякую дробную работу: то карэц залітуе, то ключ зробіць новы, паправіць замок. Усякую работу, дзе ня трэба ні кавадла таго, ні горна. Для літаваньня-ж ён прыладзіў нават невялікі горан, дзе прыладжна было старое калясо ад вэлёсыпэду і да гэтага каляса прымайстравана адмысловая ручка... Калясо круціцца, а па ім бяжыць раменны пасок дык круціць у бляшаным барабане паддувальнае кола, якое і наганяе паветра ў горан. Крутнуў разы са два—літавальнік як сьлед.

— Анжынэр наш, адно слова,—кідае Валодзька-пастух, трымаючы ротам кавалачак паперы на цыгарку, бо рукі заняты разьвязваньнем капшука,—а ці змог-бы ты, Іван Іванавіч, от скажам, машыну пабудаваць?

— Не... што вы, дзядзька Уладымер... Голымі рукамі машыну не пабудуеш, на гэта завод патрэбны, анжынэры патрэбны, зноў-жа тэхнікі там...

Дзіва што... От быў я ў нядзелю ў горадзе, дык там такую машыну ўстанавілі, што ўсю газу адмяніла. У кожнай гэтай хаце лямпкі такія адмысловыя, а да іх дрот. І гарыць, і як яшчэ гарыць...

— Я-ж таксама от у Кацярынаславе бачыў, калі ганялі плыты мы пазалетась. Дык там таксама па дроце,—дадае Напрэй Казёл.— Мусіць-жа от ён дуплінаваты, дрот гэты. Ну і цячэ па ім штонебудзь і гарыць у гэтых самых лямпках. Дзіва то, да ўсяго дадумаюцца людзі. Я от 'шчэ маленькі быў, калі гэтыя самыя газавыя лямпкі зьявіліся. Тады 'шчэ з лушнікамі жылі мы, от вісіць у кожнай хаце боўціла такое, на ўсю хату, не павярнуцца... Колькі тае кудзелі пасмалілі дзяўчаты ад лушнікоў гэтых. А лямпак браць не хацелі: «чорт мо' выдумаў яе, а ты палі». Ну да і зноў-жа прамудрасьць з гэтым паленьнем, да і газу купляць трэба. А смалякі ня купленыя... Цяпер то яно, канешне, і смаляка часам цяжэй дастаць, як газы той фунт. Ды і сьвятлей яно з лямпай. От памятаю, як купіў поп лямпу, тады пачала і вёска купляць. А цяпер дык яно ўжо й нядзіва. І колькі гэта лямпаў розных разьвялося. У школе вунь вісіць у клясе, дык мусіць па хунту за вечар жарэ, газы гэтай. От каб у хату, дык гаспадарку зьвяла-б усю. А цяпер от бач па дроце. Найначай дуплінаваты...

— То, дзядзька Андрэй, ня дуплінаваты, а звычайны дрот. І йдзе па ім электрычнасьць, от бы як маланка тая. Канечне, яе і ня ўгледзіш электрычнасьці гэтай, але як дойдзе яна да танюткіх дроцікаў у лямпе, дык дужа гэта яна іх напальвае. От яны і сьвецяцца, таму

і сьвятло, і зыркае сьвятло. Ды от я й пакажу вам электрычнасьць гэтую самую.

Іван Іванавіч дастае з шафы некалькі батарэяк для кватэрных званкоў, якія папраўляе ён для фольварку. Прыладжвае некалькі дроцікаў.

— Ну, а цяпер вазьмеце, дзядзька Напрэй, у рукі гэты дроцік.

— Ну што-ж, і вазьму...

— А цяпер дакранецеся пальцам да гэтага дроціка.

— Ну што-ж і дакрануся...

Усе з цікавасьцю пазіраюць на Напрэя, на яго лапушыстую бараду, бучныя вусы і густыя бровы, з-пад якіх выглядаюць цёплыя шэрыя вочы. Раптам Андрэй аж падскаквае, кінуўшы з рук дроцік.

— Каб жа цябе нарад, дрот, а кусаецца,—аглядае са зьдзіўленьнем свой палец Напрэй.—Аж шчыміць.

Усе спрабуюць кусаньне.

— От вам і электрычнасьць. Пусьці яе ў лямпачку спэцыяльную, яно і сьвяціць будзе,—і Іван Іванавіч прыладжвае малюсенькую лямпачку ад кішэннага фанарыка. Лямпачка гарыць і ўсе зьдзіавана пераглядаюцца.

— Глядзі ты... Дык вось у горадзе там заместа вось гэтых скрыначак невялікіх машыны вялікія, яны і выробляюць электрычнасьць ды такой сілы, што дакраніся чалавек да дроту—адразу і заб'е, як маланкай. Але нашто-ж дакранацца. І вось электрычнасьць цэлы горад асьвятляе і нават машыны можа круціць, спэцыяльныя цягнікі рушыць, уга, дзе толькі ня прыносіць яна карысьці чалавеку.

— Бачыў ты! Да чаго чалавек не дадумаецца! І ўсё на патрэбу сабе, каб значыцца жыць лягчэй на гэтым сьвеце... Усякую гэта машыну сабе паставіў. Вун яшчэ на маёй памяці дык хлеб ўсё на ветраках малолі. Хоць яно, канечне, і там не бяз розуму, усякае прыстройства там, але-ж звычайнае прыстройства. Быў яшчэ, праўда, у пана валовік. От і ўсё. А цяпер вось у воласьці паравы млын. І куды табе шпарчэй, чымся на ветраку. Ды й мука лепей. Ізноў-жа і ветру чакаць ня трэба і ніякага табе клопату: ні махі табе не паламіць, ні ветразі не парве. Ізноў-жа аўтамабілі... Вун кляпчанскі пан дык кажуць з-за межаў прывёз машыну сабе, аўтамабіль. Сам сабе йдзе. Ні коняй табе, ні валоў—анічога. Ды яшчэ як ідзе, аж шаша гудзе, колькі тых коняй адных папудзілася ды калёс паламалася.

— Каму, дзядзька Уладымер, аўтамабіль, а каму конь калечаны,—устаўляе слова канавал Зьміцер.—Яно то, канечне, добра пану ў аўтамабілі, а мужыку з канём—сьмерць.

Рэдзенькая барадка Зьмітрава трасецца ад сьмеху і ўся яго галава з шэрым восьпенным тварам хуценька паварачваецца на доўгай шыі, шукаючы спачуваньня сваёй думцы.

— Не кажы, браце... Канечне пан пра сваю карысьць клапоціцца, не пра тваю-ж...

— Гэта правільна вы сказалі, пане Уладымер,—гаворыць Іван Іванавіч, шуруючы шкляною папераю дно карца.—Паны вечна клапаціліся аб сваіх інтарэсах. Аб іх яны клапоцяцца і цяпер. Хоцьбы й машыны сабе—ізноў-жа каму ад іх больш карысьці, нашаму хіба брату? Уга... Вун, мой брат у горадзе на заводзе працуе. Колькі іх там яшчэ працуе. А як сталі новыя машыны ставіць, дык каторых з рабочых і на вуліцу выгналі, ды яшчэ колькі...

— Дык тут мусіць вайна вінавата, Іван Івановіч?

— Прычым тут вайна? Вайна сама сабой. А хіба вайна карысьць якую дае?

— Ну канечне, Іван Іванавіч, аніякай карысьці. Вун у Каравашкі сын зьвярнуўся, ходзіць цяпер на двух мыліцах. Канечне, ніякае карысьці тут акрамя шкоды. А колькі пабітых? Ізноў-жа, параненых? Ды не дабіцца цяпер ні да чаго, не дакупіцца, і дзе яно што і падзелася? Канечне, цяжка нашаму брату. Ды што, калі жэрдку якую плот залаціць, дык паспрабуй сунься ў лес панскі, такую цану ўздулі, што хоць ты трымайся. А за папас у лесе?

— Уга, хутка і зусім упраўляючы хоча ўсякі папас адмяніць, псуюць, кажа, задужа лес каровы,—перабівае Напрэя Уладымер.

— А арэнда пожняў?

— А шурка дроў?

— А паспрабуй кую дзесяціну на панскім прысеяць?

— Дзіва што... Ходзіць вун па парку, як певень той галанскі, упраўляючы наш, от пуза адрасьціў—колькі-б тых сьвечак адных нарабіў-бы з гэтага сала паганага. Ды што-б яшчэ было, калі-б ня езьдзіў штогод сала спускаць на тыя цёплыя воды. Канечне, у вялікі яму клопат вайна!

— А дзе-ж між іншым, пан падзеўся, каторы год нямашака?

— Ды прыяжджалі вось некаторыя нашы хлопцы—салдаты, з Пецярбургу прыяжджалі. Дык казалі—у інтэндантах там дзесьці служыць, поўным генэралам...

— Яно канечне не падпрапаршчыкам якім, вядома генэралам...

— Ну што-ж, на тое, браце, вайна, яна нікога ня міне, ні мужыка, ні пана. Канечне, пану вальготней, нашаму брату цяжэй. Але што-ж ты зробіш. Канечне, прыходзіцца і цярпець. І як-жа без вайны. От сядзелі-б так, ну і прышлі-б немцы і пазабіралі-б усё. От бы табе і цара свайго пасадзілі-б. От ба і сказаў, а хрысьцянемужычкі, а пакланецеся майму богу. А калі што, от бы й уклеіў бізунамі. От ба...

— От ба, от ба...—перадражняе Уладымера Напрэй,—і галава ў цябе не галава, а часам торба...

— Ты гэтак чаму?

— А таму, што дурань ты бываеш задужа часам... От у цябе сыны малыя, дык табе і вайна—столькі то клопату... А от у мяне на вайне адзін, ды другому трэба рыхтавацца, ты-ж замест яго ня пойдзеш. Дык от табе і вайна патрэбна.

— Ды яна і мне ні к чаму... Але-ж як жа так? Ну, скажам, не ваяваць... Ды што-ж з таго будзе? Ну, прыдзе немец, павыразае ўсіх...

— Дужа там павыразае...

— А табе ведаць? Вайна-ж гэта ня жартачкі, не сьвята прыстольнае...

— А калі ня жартачкі, дык і ваяваць ня трэба...

— От ён і зноў! Дык немец-жа прыдзе...

— А няхай яны таксама не ваююць... А ў немца хто? тыя-ж самыя хрысьціяне-мужыкі ды рабочыя, скажам... От жа працуюць у фольварку аўстрыйцы, крыху наламаліся гаварыць па нашкі, ды от і расказваюць: і ў іх жа і поле такое, і гароды і ўсё, адным словам, як у нас, хіба от гаспадарку лепш даглядаюць. Ды й сам жа ты ня раз мо' бачыў, як працуюць яны—дасьціпныя хлопцы: і ў полі, і ў хляве, дзе ты яго ні пастаў. І да дзяўчат ня ломкі—наскія хлопцы. Глядзі, Аніс, наладзяць яны табе канкурэнцыю.

— Кіньце вы, дзядзька, от уздумалі...

— Дык аб чым-жа я... Вось зьбіўся крыху. Ага, аб вайне. Вось і выходзіць па майму розуму—нашто ваяваць, нашто калекаў рабіць, нашто гэта мне ды аўстрыйскага мужыка біць. От вышаў-бы наш цар Мікалай, а насупраць яго Вільгельма і няхай бы там вадзілі адзін аднаго, калі ўжо так укрыўдзілі адзін другога. От няхай бы і дужаліся там ці як. Які-б перадужаў, таму і перамога, ды й плата там якая ці што. І не сьмертаўбіўства табе, ні калек, анічога...

— Так, дзядзька Напрэй, добры плян у вас. Лепш' яно, канечне, па вашаму. Але хто-ж гэта паслухае... Няхай бы сабе дужаліся. Няхай бы галовы паскручвалі адно другому. Толькі-б непраменна нашаму Мікалаю іх здужыць, Вільгельма.

— Чаму-ж гэта так?

— Ды от казалі людзі, бачылі цара ў Магілеве, дык дробны кажуць, ня дужа каб з выгляду гэта, нехлямяжы зусім...

— Хто гэта табе дзейкаў?

— Ды Мікіта з Плёсаў.

— Дужа ён бачыць цара там. Намылілі добра жандары шыю яму, калі па дурасьці ў цягнік царскі сесьці хацеў. Дні тры пратрымалі яшчэ. От, кажа, зьезьдзіў, дзесятаму закажу.

Разыходзіліся позна. У хаце заставаліся звычайна яшчэ Пінька лазакрут ды закройшчык Мойша Гінт. Маўчалі колькі хвілін, унурыўшыся ў нумар мясцовай губэрнскай газэты. Іван Іванавіч укладваў у шафу струмант.

— Дык, кажаце, кепскія справы, Іван Іванавіч?

Не сказаў-бы, каб добрыя. Яно, вядома, як разумець. На фронце адступаюць. Начальства зьвярэе. Народу штодзень трэба болей. Прызыў от-от павінен быць... А тут нядоімкі... А земства хоць бы палец-аб-палец стукнула, каб аб чым паклапаціцца. Дык вось якія справы!.. А ў вас як там?

— Ды яно цяжка, Іван Іванавіч... У лазакрутаў-жа ў нас сабраліся самыя ўжо тыя, што й зарабіць ніяк іначай ня змогуць. Трымаюцца за работу, як сук за дрэва. А ў мястэчку дужа-ж ужо сіалісты налягаюць. Так налягаюць, што ва ўсіх галовы ходарам.

— А вы от насы разьвесілі...

— Дзе там... Цяжка от толькі. Гаваруноў у іх багата, пачне каторы, дзе-ж цябе слухаць будуць.

— Дзіва што... І слухаць ня будуць, калі вы будзеце ў маўчанку гуляць. Хто ў іх там? Мэламэд гэты самы? Дык з яго-ж пясок сыплецца. Хіба от зяць Нохімаў, што з гораду наяжджае? Ну з тым ужо трэба лічыцца. Але-ж хто ён такі? Крамнік? Магазын гастранамічны, кажаце? От і павінны вы гэта на зарубку ўзяць: хто кодла гэта самае арганізоўвае. Мэламэды, крамнікі, усякія там багацеі вашыя: Лейба крупадзёр, Алтэр... Ім та што...

— Дык-жа, Іван Іванавіч, і шаўцы там і ўсе вунь швачкі...

— От я й кажу... Павінны вы неяк ставіцца да ўсяго гэтага...

Спала мястэчка. Чорныя прагаліны вакон—падсьлепаватых, замурзаных—упіраліся нявідушчым зрокам у сонны пыл суцішанай вуліцы. У цяжкой задуме драмалі стрэхі над пахіленымі хатамі—от, от упадуць, рассыплюцца, каб ня гэтая чулая, старожкая цішыня летняе ночы. І калі пачнуць шарэць саламяныя стрэхі ды купчастыя ліпы, ціха рыпнуць дзьверы ў Івана Іванавіча і згасьне ў вокнах цьмяны бляск кавалёвай лямпы.

— Дума разышлася,—кажуць жартам сяляне. Другія клічуць банкетам.

— І ахвота яму газу паліць, то-ж позьняя птаха... А чалавек усё-ж сур'ёзны, з ім пагаварыць можна.

— Дзіва што! Каваль...

●

Раніца выдалася пагодлівая, сонечная. Праз адчыненае вакно відаць быў парк з цэлымі шарэнгамі векавых ліп, да бліжэй да панскіх пакояў туліліся кусты акацый, бэзу, шматлікія клюмбы. Там, дзе ліпы—змрочна, павявае халадком, вільгацьцю зямлі, прэлым пахам гнілога дрэва. Бліжэй—сьветла, сонечна. Чуваць як дзынкаюць пчолы на клюмбах, гудзе авадзень—прыблудзіўся мусіць з двара, ад хлявоў. Ды што хвіліны рыпіць жураў—падае ваду на вінакурню. Дарабляюць вось апошнюю бульбу, а тады бадай на усё лета стане завод, рамонт сякі-такі правесьці трэба будзе, трубы паправіць.

Мацьвей Юльевіч ляжыць яшчэ колькі хвілін на пасьцелі і прыслухаецца, як тахкае на сьцяне гадзіньнік, як шархаціць па шыбах вакна белы матыль, шукаючы выйсьця на вуліцу. Белыя крыльлі робяцца празрыстымі, лінючымі, няпрыгожымі.

— От жа дурніца, ня бача вакна адчыненага.

І Мацьвей Юльевіч, якому назаляе гэтае лапаценьне крыльляў, хутка ўзьнімаецца з ложку, ідзе да вакна, адчыняе яго.

— Ляці ты, дурань!

За дзьвярмі чуваць шолах. То Ганна прыслухаецца, ці ўстаў паніч.

— Устаў-жа, устаў ужо...

— А я ўжо, панічок, прачакалася. Дзіва то, сонца дзе, а вы ўсё сьпіцё і сьпіцё, каторы ўжо раз самавар падагравала,—вядзе за дзьвярыма аднастайную сваю гутарку Ганна.

— Ну добра, я от зьбегаю асьвяжыцца ў купальню і неўзабаве буду.

Накінуўшы халат і ўсьцягнуўшы чабаты, Мацьвей Юльевіч, трохі кульгаючы—от адляжаў нагу крыху—ідзе праз парк да саду, за каторым працякае невялічкая і няглыбокая рэчка. У садзе вільготна, на канюшыне яшчэ ня высахлі бліскучыя кроплі расы і яны рассыпаюцца вясёлкавым пылам, калі зачапіць нагою за сьцяблінку. Прыходзіцца ісьці асьцярожна, каб не замачыць ногі, каб не зачапіць росныя галінкі вішняку, сьліў, купчастага малінніку і агрэсту.

— Колькі разоў садоўніку казаў, каб зрабіў сьцежку добрую да купальні, але-ж упіраецца стары, нібы й не да яго казана.

І Мацьвей Юльевіч, упраўляючы маёнткам, незадаволена моршчыцца.

— То-ж морда шляхэцкая, ўваб'е ў голаў што, хоць ты яму колька тады на галаве чашы. «Сам пан яму казаў тое ды тое... і дзе гэта. каб у садзе ды сьцежкі і навошта... вось у парку другая справа... Ды й рабочых няма...» Узяць бы вось да правучыць добра.

Але-ж такі ўжо сьветлы і сонечны дзень і такія бліскучыя лісьця на яблынях, на ігрушах, і паветра—чыста табе малако тое—што мімаволі расходзяцца маршчакі, напружваюцца ногі і рукі, што аж хочацца падскочыць, пабегчы з кім на выперадкі.

Раптам да слуху Мацьвея Юльевіча далятае нейкае шамаценьне. У самым глухім кутку сада, які ўпіраецца ў рэчку, нехта цягае ў кучу старое гальлё, што засталося тут, павыкіданае з саду яшчэ пры абрэзцы. Але хто гэта загадаў так, хто наймаў, ды хто гэта цягае... Мацьвей Юльевіч, пераступаючы гнілыя калюжыны, асьцярожна падыходзіць да самага паркану. Насустрач яму чалавеча цягне кульгаючы сухі, адламаны калісьці сук ігрушы. Цягне аднэй рукой, бо другая заткнута за паясок. Сук вялікі, шкрабе як бараной зямлю і чалавеча аж засопся, аж высалапіў язык на правы бок і пне вось, нічога не зважаючы.

— Няйначай крывы з мястэчка...

— Ты гэта што робіш тут?

Крывы выпускае сук і стаіць на мейсцы, унурыўшы вочы ў чобат Мацьвея Юльевіча ды мыляе вуснамі, нібы от жуе саломіну. Калошыны штаноў вісяць на іх, як на вешках, да таго-ж хударлявыя ногі, пакрытыя бруднымі парэпанымі цыпкамі. Ледзь трымаюцца штаны на ніцяным тузіку і сьвіціцца праз падраныя лапікі каравае

сухарэбрае цела. Крывы маўчыць, касавурыць вочы ў бок, на паркан, на рэчку і здаровай рукой перабірае матузкі паяскоў.

— Дык цябе я пытаю, ці што? Што робіш ты тут?

— От гальлё цягаю ў кучу...

— Гальлё цягаю, цягаю.. Не навучыцца яшчэ, як казаць трэба.

— Гальлё от, панок, цягаю. Складаю ў кучу, паліць потым будзем.

— То та, гальлё... А хто гэта цябе ў сад пусьціў, гальлё загадаў цягаць?

— Ды гэта, панок, садоўнік загадаў, бацька, бачыце, прасіў яго, каб гэта...

— Годзі, годзі, дужа мне цікава тут, што там твой бацька прасіў. Адразу-ж айда з саду, каб і паху твайго я ня чуў. Ну, жыва мне, варушыся... Адразу-ж... Ды не праз сад, айда праз паркан. Ды глядзі, каб я цябе зноў калі тут ня ўбачыў...

Яўхім зачыкільгаў да паркану. Ступіць здаровай нагой, за ёю асьцярожна падцягвае крывую, нібы намацвае сьлед і тады выпінаецца высока—наўзровень з галавой—правае плячо, а само тулава рэзка крывіцца ў бок ды матляецца пустое крэсла штаноў.

— От смурод той... І дзе толькі не назьбірае, моду ўзяў, усякае барахло наймае. Ня фольварак, а прытулак жабрацкі. І навошта наймаць, калі вунь-жа і аўстрыякаў прыслалі...

Мацьвей Юльевіч распранаецца, лашчыць рукой выпешчанае пружыністае цела і, стаўшы на дашчаныя прыступкі, кідаецца ўніз у ваду, узьняўшы цэлы фантан пырскаў. Ён доўга пялешчыцца ў купальні, пад якую спэцыяльна расчышчалі, паглыблялі дно рэчкі, пасыпаўшы яго пяском і жарствой. Мацьвей Юльевіч доўга цялёпкаецца ў вадзе і крышачку замарыўшыся вылазіць на бераг. Да хаты ідзе не праз сад, а сьцежачкай каля паркану да хлявоў, да новага зрубу, які ставіць цесьлі пад будучую сыраварню, што будуецца па дагаворанасьці з рэб Нохімам.

— З галавой чалавек,—думае пра Нохіма Мацьвей Юльевіч,— ня то што другія якія арандацелі.

Ля зрубу прыемна пахне хвояй, сьпіртным пахам сьвежага дубу, ды потнымі цесьлярамі.

— Ну, як у вас?

— Да дзякаваць богу, паніч, трэці вянок сёньня паклалі, ня шкодзіла-б і магарычу з вас да нядзелі, от ба адпусьцілі паўвядра якога з вінакурні...

— З магарычом кожны дурань зробіць, а от вы без магарыча пастарайцеся... Ды й хіба з мяне магарыч? Патрабуйце ад Нохіма.

— Ды мы, паніч...

— Ну, ну, бяз дурыкаў там...—абрывае Мацьвей Юльевіч і ідзе да пакояў.

— Сур'ёзны паніч,—абзываецца адзін з цесьляроў.

— А што яму... Што ён з табой дзяцей хрысьціў, каб гэта размовы з табой разгаварваць...

— А от жа і хрысьціў, сірату хрысьціў...

— Якую там сірату?

— А от запытай у Мікалая.

— Кінь ты ўжо языком мянціць, то-ж папала на язык, не перамеле,—незадаволена кідае зьнізу, падцягваючы ўчкур пільшчык Мікола...—От бы сказаў раз, дык жвенькае, жвенькае...

— А хіба ня праўда?

— А што табе з тае праўды?

— Дык ты раскажы ўсё-ж-ткі, Мікола, не сярдуй, на гэтага блазна. У чым там гэтая справа была?

— У чым, у чым... Нашлі аб чым гаварыць...

— А ўсё-ж...

— Ну от,—намазвае Мікола шнур вугалём,—от пазаўчора абчасаў я колькі тых кражыкоў і дай, думаю, скочу ў кусты, от туды ў панскія...

— Іш ты яго, прымайстраваўся...

— Дзіва то, прымайструеш, калі бегчы некуды... Дык я сабе й сяджу...

— Сядзіш, кажа...

— Ды кінь ты ўжо... От сабе й сяджу... І трэба-ж, каб на яго ліха, ісьці яму... От на мяне проста й напрэцца... У мяне і духі зайшлі, лепш, думаю, каб знацьцё гэта, дык тры дні ня еў-бы «Ты гэта,—ка'»—гад, робіш тутка што?» Што мне казаць? Сяджу, шыю ў плечы ўцяўшы. «Дык уставаў, ка'». Устаў. «Дык тарыбяры, ка'». Ну і пасунуўся я, каб гэта лісьцейка якое, травінку... «Дык ты, ка'», сволач, рукамі нясі, рукамі». А як-жа так, панічок?». Ды ты мне тут без панічсканьня, гад, іначай застрэлю як сукінага сына».

— Ну?

— І панёс. Што ты з ім зробіш, з гадам печаным. Я нясу, а ён адзаду йдзе, за самыя хлявы загнаў. «Цяпер, ка'», будзеш памятаць, дзе садзіцца трэба». А тут народ яшчэ, колькі людзей бачыла.

— А ты-б яму ў пысу. От узяў бы і ў пысу, і ў пысу яму...—гаворыць Лявончык Сапун, і вочы ў яго пабліскваюць незнаёмымі агеньчыкамі.

— Дзівак ты, чалавеча, мала на сьвеце пажыў, дзе ты з ім пацягаешся...

А хлопцы сьмяюцца, заліваюцца шалёным рогатам. «От сеў» «Сірату хаваў, каб на цябе нарад...»

— Чаго вам сьмешна, дурныя?—пытае чамусьці Лявончык Сапун.

— Як гэта чаму? І чаго ты?

— Ат пагавары з вамі...

І прыкрае маўчаньне апаноўвае зруб. Толькі шархацяць пілы ды шухаюць рубанкі па дошках хваёвых, ды перастукваюцца сякеры на рыштаваньні.

— Дзівак Лявон, от жа хлопец незразумелы...—думаюць некаторыя цесьляры і пільшчыкі, прыжмурваючы вочы ад пахучай тырсы,—не так от, як усе...

— Ганна ўносіць самавар і, здаецца, ня ў руках яна трымае самавар, а нясе яго, трымаючы жыватом—да таго-ж разынесла кабеціну.

— Чэ-э-рава...—кідае позірк Мацьвей Юльевіч.—Каторае гэта?

— Пра што гэта вы, панічок?

— Да от жа...—кідае гэстам на хвартух.

— Ды што вы, панічок,—засаромелася кабета.—Вялікі то вам інтэрас. Чацьвертае ўсяго...

— Ад каго?

— Гм... Бог даў...

— Ну й бог у цябе. Чаго гэта мне не дае?

— А от жаніліся-б, і вам бог даў. Колькі-ж тых паненак прыгожых у воласьці.

— А ты от ці без мужыка...

— А столькі клопату... Дужа так... Каб біў яшчэ часам...

— А грэх?

— Дужа там грэх... От да споведзі калі пайду, дык і зьніме поп грахі ўсе... столькі там і грахоў тых... А гэта... Бяды столькі... Вун гадуюцца ўсе...

— Дык ад каго-ж усё-ж-ткі?

— Не... гэтага ўжо, паніч, не скажу, хоць вы мяне тут рэжце-паласуйце... Толькі на духу хіба, а то не... барані божа...

— Вялікі мне клопат. Нясі от пад'есьці.

— Зараз, панічок, зараз...

Пасьнедаўшы, Мацьвей Юльевіч пашоў у кантору. Там ужо даўно сядзелі чакаючы яго мужычкі з мястэчка ды лясьнік Сідар, які правяраў нейкія рахункі з прышчакаватым курносым канторшчыкам. Канторшчык штохвіліны вымаў з кішэні гадзіньнік і пазіраў на яго, кідаючы паважныя позіркі на сялян. Відаць, ён толькі-толькі купіў гэтую штуковіну, і гонару яго ня было канца.

— От выхваляецца байбус. Бач мурло выгадаваў на харчох панскіх, хоць ты шчанять на ім бі,—думаў Напрэй Казёл.

Тут былі яшчэ стараста Хвядос, Якаў Смык, Лявон Ражок ды Іван Цыбала, які седзячы ўвесь час мяў у руках сваю парыжэлую шапку і каторы ўжо раз запытваў у суседзяў:

— Дзівіся, браце, трэці год усяго як прыдбаў я на Антонія шапку, а от бач—пацяруха ўжо сыплецца з нутра. Ня вата, а от проста пацяруха тая. І з чаго-б гэта?

— А ты панасі яшчэ з год, дык яна ў цябе мо' й палепшае, ня так сыпацца будзе...

Калі прышоў Мацьвей Юльевіч, усе ўсталі і чынна, маўкліва павіталіся. І толькі тады ўжо Напрэй Казёл як больш гаваркі мужчына прыступіў да справы.

— Дык дзень вам добры ў хату, паніч!

— Дзянёк то добры, а якія справы ў вас?

— Ды што справы... Справа, яна, паніч, у лес не ўцячэ, дзе яна дзенецца... А вось з пожнямі, дык справы кепскія. Бачыце, вобчаства паслала нас, каб гэта прасіць вас на праміль бог от наконт канцавых лужкоў... Трава там, не сказаць, каб добрая, асака, бабоўнік там перакідаецца, ды й расьцяробу багата, але ўсё-ж пад бокам—ні парому табе, ні вартаўніка, каб асобнага, самыя для нас выгодныя лужкі. А вы ўсёроўна арандуеце іх штогод. Дык ці ня здалі-б вы нам іх на часьць от.

Мацьвей Юльевіч калупае ў зубах і па яго нарухомым, што нічога ня выяўляе, твары не разьбяруць мужыкі, ці то будзе толк які з перамоў ці не.

— От што я вам скажу: на часьць мне даваць у гэтым годзе ня зручна. Калі што, дык прыдзецца самім убіраць—пакосяць аўстрыйцы. А калі хочаце, дык от можаце браць па пятнаццаць рублёў дзесяціну... Крайняя мая цана...

— Уга... куды вы гэта, панічок, хапілі. Ну сказалі-б яшчэ рублёў па дзесяць, дванаццаць... Куды-б яшчэ ня йшло... А то жарточкі—пятнаццаць рублёў...

— Як сабе хочаце... Ня возьмеце вы, дык возьмуць другія, трава ў гэтым годзе ня дужа каб урадзіла.

— Дык пад бокам-жа, паніч. От жа проста і пачынаюцца лужкі за мястэчкам, за вялікай канавай... Самая для нас найлепшая справа.

— А калі найлепшая, дык плаціце грошы...

— Дык вы гэта крайняе, паніч?

— Вядома, не таргавацца-ж мне з вамі.

— Дык выходзіць, што нам з вамі купцамі ня быць?

— Выходзіць.

— Дык пойдам, хлопцы. Такую ласку дык мы ўсюды знойдзем. Вун, клянчанскі пан дык па дванаццаць рублёў колькі ты хочаш. Ды сена тое ня сена—мурог адзін...

— Што-ж. пашукайце.

— Дык бывайце здаровы.

Напрэй Казёл, за ім Якаў Смык ды Лявон Ражок выходзяць з канторы.

— А стараста дзе-ж?

— Ды там жа яшчэ з Цыбалам засталіся.

— Чаго?

— Ды ці мала па якіх справах. Айда, дагоняць.

Стараста сядзіць яшчэ ў канторы. Іван Цыбала мнецца, перамінаецца з нагі на нагу.

— Дык пятнаццаць, кажаце, паніч?

— Вы-ж чулі.

— Яно, вядома, мы чулі... А ці не магчыма часам усё-ж крышачку таньней.

— Калі-б грашмі, можна было-б і таньней, от рублёў на трынаццаць...

Цыбал доўга нешта мяркуе, пералічае на пальцах і ўрэшце, матнуўшы галавой, Хвядосу—трэба ўзяць,—да ўпраўляючага:

— Дык от, паніч, вы ўжо нам з Хвядосам, з старастам заарандуйце колькі там, ну от дзесяцін з трыццаць лужкоў.

— Арандуйце сабе. От задатак толькі.

— Ды гэта мы можам.

— Ну й добра, а канторшчык вось аформіць усё.

— Ды дай-жа божа ў час добры.

Пакуль пішацца дагавор, Іван Цыбала доўга поркаецца ў сябе за пазухай і, адвярнуўшыся ў куток, выцягвае сваю сыраўцовую шабету. Дастаўшы пачак пяцірублёвак, доўга пералічвае іх, перакладаючы кожную паперку паасобна. Крэдыткі туга паддаюцца тоўстым, нібы застыглым пальцам, і пакуль Іван налічвае сотню рублёў, аж пот працінае яго лысіну.

— Дык от, кум Хвядос, я сотню і ты сотню і будзем мы з табой апасьля ў барышох. Сена яно, уга, ходкае будзе ў гэтым годзе.

— Дай жа божа...

●

Аўстрыякі касілі, грэблі сена, сушылі, складвалі ў стагі. Не маглі от толькі патрапіць з усімі, з мужыкамі, каб от копы такія-ж самыя складваць. Выходзілі ў іх трохі іншыя. Але столькі і той бяды. Жылі аўстрыякі ў панскім гумне, а зімой перабіраліся ў фальварскую лазьню. Быў і стражнік раней прысланы з воласьці, жыў пры аўстрыйцах, а цяпер ужо каторы месяц жылі яны без усякае варты. Раней людзі крыху дзічыліся, а цяпер хоць-бы што, вуну па нядзелях на мястэчка ходзяць, зубы скаляць з дзяўчатамі, з маладзіцамі. Па нядзелях такую музыку наладжвалі, што зьбягаліся ўсе дзяўчаты, каб падзівіцца на аўстрыйскае ігрышча. Скрыпак з пару аднекуль даставалі, бубен. Ды яшчэ от прылады тыя розныя. Возьмуць кій звычайны і на яго струны нацягнуць, ды прыб'юць бляшанак колькі з-пад кансэрваў ды наверх кружалак бляшаных, ды як пачнуць гэта ў тахт бубну ды скрыпкам смыкам драўляным з зарубінамі пацягваць. Такія вальцы наігрывалі, што толькі трымайся. Нават дзявок учылі скакаць па іхнаму. Але, канечне, скокі яны ўсюды аднолькавыя, ні цяжка навучыцца ў іх. Часам які Ганну пад бокі падхопіць і ну кружыць і ну наварачваць пад скрыпку. Сапе Ганна, крэкча, з рук выбіваецца.

— Ідзі ты, паганы. Дзе мне ўжо, ёмашніка захацеў ці што.

Ёмашнік ёмашнікам і «аўстрыец паганы», але зірнуць аўстрыякі на жывот Ганны, самаму старэйшаму аўстрыяку чарнавусаму Язэпу падміргваюць: «твой от тут клопат быў». Паважна той вусы падкручвае і як кот аглядае сябе: «бывае, маўляў, чаго з нашым братам не здараецца, ад сьмерці да ад жанчыны не адкараскаешся».

Хвацкі народ, вясёлы.

Ганна есьці ім варыла. І калі наварыць, пасылала большанькую сваю дачку Настачку ў гумно ці ў сад, ці на поле часам—калі якая работа там.

— Ідзі от ужо, заві Аўстрыю.

Аўстрыя шумела, гармідарыла, пацела над Ганьнінай заціркай. Шумныя выходзілі з-за стала, няньчыліся з Ганьнінымі дзяцьмі, рабілі ім забаўкі розныя, цацкі выразалі з дрэва.

— Шанцуе табе, Ганна,—кідалі часамі фальваркоўскія найміткі, што кароў даілі.

— А што?

— Ды от жа ўдача ў цябе: то ніводнага бацькі дзецям сваім ня прыдбала, а то адразу вунь колькі, цэлая купа.

— Уга... Уга... А што мне рабіць, мужчынкі, можна сказаць, нішто сабе. Хіба шкода мне, няхай от і з дзецьмі забаўляюцца... Панчошкі вунь падарылі маламу.

— Панчошкі? Дзіва то... Панчошкі...

— От жа ўзялі і падарылі...

Часам аўстрыякі пелі пасьля полудню. Альбо вечарам пасьля працы. Садзіліся дзе-небудзь на бярвеньні ці на гумнішчы. Звычайна пачынаў чарняўенькі Янусь, а за ім падхватвалі ўсе. Песьня расла, шырылася, узьнімалася вышэй й вышэй, над гумном, над садам, над цёмнаю сажалкай, над калодзежнымі журавамі. Потым песьня спадала, паволі, спакваля, от як бы той жаўранак у полі, як белы туман раніцой у лагчыне, раніцой над Дняпром сінявокім. Ападае туман, шархацяць асакою хвалі, ліжучы прыбярэжны жвір і пяшчаныя адмеліны.

Слухаюць бабы песьні тыя, падапруць далонямі шурпатымі шчокі маршчатыя, насамі нехаця хліп да хліп, а другая і вытрэ рогам хусткі вока, другое.

— Сумныя песьні. От бы і ня наскія словы, не разьбярэш аб чым гэта яны сьпяваюць там... А песьня даходзіць, адчувае нутро яе... Аб радзіме хіба сьпяваюць, аб бацькаўшчыне, аб матках сваіх, аб нявестах...

— Дзіва што аб матках... Ці ведае каторая, што сын на чужыне, ці жыў, ці здароў, ці бывае ён пад'еўшы...

— Дзіва што, ці бывае ён пад'еўшы...

І як абуты, адзеты, як дагледжаны...

— Дзіва што, як дагледжаны...

— І маткі ў іх нябось, плачуць небаракі па іх, па сынох, от жа як і мы па сваіх...

— Дзіва што, плачуць...

Сумныя песьні, цягучыя.

Вельмі іх паважае—і песьні і аўстрыякаў—садоўнік Францусь Карлавіч. Стары ўжо, рукі трасуцца часам, калі захвалюецца, недабачыць ужо крыху. А песьні любіць. Любіць і паводзіны чалавечыя.

— Бачыш ты іх, у няволі жывуць, у вялікай, сказаў-бы, няволі, а дзе ты іх бачыў, каб днём сьвятошным вышаў бы каторы да не

паголены. Чыстату народ любіць, парадак. Па польску сябе народ трымае. От у нас у Польшчы ня то што ў вас,—расказвае звычайна Францусь аб'езчыку альбо парабку Мірону,—няма таго бруду, нечысьці тае няма, што па хатах у вас. І народ чысьцей ходзіць, і зьесьць смачней. Ну от, да слова кажучы, жывеш ты, Міронька, а што ты бачыш ці бачыў на сьвеце. І кругом цябе незадачы і беднасьць, от пінжак у цябе і ўлетку і ўзімку аднаго колеру. І сын у цябе крывы.

— Характар у мяне задужа ціхі, пане Францусь...

— Прычым тут характар?

— Не гаварэце... От і крыўдзяць мяне часам і падманваюць калі не калі. А я сабе маўчу, от не магу тады слова сказаць, каб гэта да супроць крыўдзіцеля. Няхай ужо мае пяройдзе, думаю... Ціхі характар, пакладлівы...

— Гэта дармо... Дык от я й кажу, што зусім іначай у нас.

— І бедных нямашака?

— Пры чым бедных. Есьць яны, колькі хочаш, а цяпер мо' й болей, бо чуў-жа ты пра вайну, увесь край здраталі наш, знарадамі пазрылі. Але ня ў гэтым справа. Культурней людзі жывуць у нас, вось аб чым я гавару. І ведаеш, дужа-б мне хацелася пабыць там ізноў. А ня быў я там гадоў мо' з дваццатак, бо ня ўжыўся дома да й ня было ўжыцца на чым, былі мы бяззямельнымі, дык паехаў во тады шукаць заработкаў. А жылі мы тады пад Сувалкамі.

— Бо цяпер, кажуць, ідуць там...

— Ото-ж... ідуць...

Часта расчулены песьнямі аўстрыйскімі, ішоў Францусь Карлавіч за рэчку, дзе на водшыбе ля дарогі стаяў стары касьцёл зачынены—служылі тут хіба толькі на Антонія. І ўсеўшыся на прыдарожны камень, даставаў табакерку з кішэні, дрыжлівай рукой браў шчапотку табакі, доўга прыцаляўся да носу і сядзеў нярухомы, унурыўшы позірк у векавечныя ліпы на цьвінтары касьцёлу, у стральчатыя змрочныя вокны, на пахілены крыж.

Думаў аб старасьці, аб маладосьці, аб далёкай бацькаўшчыне, якая за даўгія гады пакрылася ўжо нейкім шызым змрокам, і з гэтага змроку выступалі толькі, яскрава выпукляліся ў памяці пахіленыя, замшэлыя крыжы на дарогах да статуя сьвятога Езуса на канцы роднага мястэчка. Ды балючыя крыўды, якія ня вытруціць час.

Думалі і марылі аб радзіме, аб бацькаўшчыне і аўстрыякі. Толькі яна для іх была сьветлай як дзень, зыркай як сонца, цёплая, як цёплыя лугі прыдняпроўскія, з краскамі, з песьнямі, з чырвонашчокімі дзяўчатамі, з іх галасамі тонкімі і пявучымі. І звала радзіма, заклікала да сябе заклікам гаручым, вабіла да грудзей сваіх— грудзей матчыных і грудзей каханкі любае з сіняю безданьню воч.

Звала бацькаўшчына.

Было гора там. Крыўды былі нязжываныя. Афіцэры былі. Грубыя, азьвярэлыя. Для чаго-ж пакінуты родныя хаты? Для каго вошы карміліў акопах? Для каго сьцякалі крывёй на дратох? Для каго палівалі гэтай крывёй свае і чужыя палі, бязьмежныя прасторы зямлі? Для каго косьці свае хавалі па глухіх лясох і балотах? Для каго?

Але-ж знала родзіма, дакраналася кволымі стрункамі да сэрцаў, і нылі сэрцы, нылі, хваляваліся, шчыміла іх болем салодкім. Каб вёскі свае пабачыць, гарады свае, свае стэпы. Каб пабачыць матак сваіх, сясьцёр і каханак, цёплай сьлязой абмачыць сівыя бацькавыя валасы, каб сышлася сьляза са сьлязой і нарадзілася-б гаручая радасьць сустрэчы.

Звала бацькаўшчына.

І заклікі яе гінулі ў рэхах вайны.

Вайна.

Нічога ня зробіш.

Вайна мае свае законы.

От скончыцца, тады мо' й на бацькаўшчыну. Тады мо' й дарога вольная...

●

У кухні было брудна, засьмечана.

Ля печы на разьвешаных вяроўках прасушвала пападзьдзя розныя рызманы—цэлую раніцу завіхалася ля начовак, мыла, перапалосквала, колькі вады тае паразьлівала. Каб-жа на дварэ, дык не-ж, пнецца ў хату, ды яшчэ вады прынясі ёй, прынясі цэлы цэбар.

Андрэй сядзеў ля стала, цягаў з чыгуна нялупленую бульбу, ачышчаў яе ад шалупін—ліпучых, каб на іх ліха, так і ліпнуць да рукі. Мачаў у соль—от насыпаў на ўскрайчыку стала—і пазіраючы то ў вакно, то на хударлявую пападзьдзю, еў і ўсьміхаўся самому сабе пад нос. Усьмешка працінала, здаецца, і шырокія сківіцы, і чырвоныя прышчакаватыя шчокі, і маленькія з дурасьлівымі агеньчыкамі вочы, канапаты нос і віхор рыжых валасоў над пакатым ілбом.

— Ты от можа-б ужо кіслага малака зьеў?—гнусавіць пападзьдзя ад печы.

—Ня хочу...—а пра сябе: «Матушка называецца... караўкі зьбірае...»

Ведаў Андрэй, што ёсьць у яе і добрая адзежына і добры абутак, ды ляжыць гэта ўсё пахаванае па скрынях ды кублох. А сама вось носіць увесь час пазноскі, ды сьмешыць людзей нялюдзкімі ўбёрамі. Адны сьмяюцца, другія шкадуюць.

— Што вы хочаце ад яе, калі гэта самае бяз клёпкі аднэй у галаве ў яе...

Нават сама пападзьдзя адчувала мабыць часам кпіны, адчувала насьмешлівы позірк вачэй Андрэявых і гаварыла часам:

— Ты от, Андрэйка, не глядзі што я ў атопках... Канечне, дзе гэты жарабец—і тут яна ківала ў бок бацюшкавых пакояў—дзе ён справіць што ці набудзе табе. Яму адзін клопат—выпіць ды закусіць, а нап'еццa—тады і з бабамі пагуляць... Ізноў жа, сын у мяне, у далёкім, далёкім горадзе... Нявестка, унук. Каму-ж яно ўсё застанецца, калі ня ім... Вось і зьбіраю... І яечка туды, і маселца там якое, і сырок—ну й прадаю. Зьбіраю ўсё... Ты от ужо, Андрэйка, калі едзеш куды з ім, дык глядзі, каб ня піў ён задужа... Ізноў жа, калі нап'ецца ўжо, дык глядзі, каб трошы не павыцягалі-б у яго... Ты от тады вазьмі ў яго ды мне аддай на схову...

— Ну як-жа, дужа мне трэба па кішэнях бацюшкавых лазіць, шчэ каб за злодзея палічыў.

— Дык і ты, Андрэйка, з ім разам. Ну што-ж, бог з вамі, бог вам судзьдзя...

Пападзьдзя соўдалася па кухні, шамкала нешта старэчым бяззубым ротам, перастаўляла павышчарбленыя гладышы на паліцах, хадзіла ў лядоўню, з лядоўні ў стопку, доўга і марудна зьнімала сьмятану з гладышоў, а зьнятыя гладышы ставіла ў печ адтапіць тварог. Ставіла ў печ і апасьліва пазірала на Андрэяў віхор.

— Дык ты, Андрэйка, хіба ўжо кіслага...

— Не ня хочу...

— Дык ты ўжо можа на поле паедзеш?

— А чаго мяне папрэ цяпер на поле? На пожні от хіба...

— Дык мо' на пожні?

— Не... І на пожні не паеду...

Пападзьдзя яшчэ больш хвалявалася і старалася не пакідаць кухні. А калі ўжо й трэба было выйсьці куды, брала пачак запалак, вымала засланку з печы і, старанна пералічыўшы гладышы, вымала стольki-ж запалак і падсьлядзіўшы, калі не пазірае ў яе бок Андрэй, лажыла іх на прымурак. У самой ужо аслабла памяць—забудзецца, колькі от тых гладышоў пастаўлена ў печ. І калі выходзіла на двор, у хлеў, каб дагледзець курэй там ці каровы, прабіраўся ўкрадкі поп на кухню і, зірнуўшы ў вакно, торапка завіхаўся ля печы.

— Андрэй, Андрэй... Хутчэй... От бяры той самы большы... Цягні цягні яго... Ды хуценька, ідзе ўжо чамярыца тая... Да не забудзься-ж запалку ўзяць, а то не абярэшся зьвягі... Зьясі ты тут з ёю, з пападзёй маёй—усё што на вока ёй ні патрапіць—як згрыбчыць, толькі ты тады і пабачыў...

— Добрая і з цябе цаца...—думаў Андрэй.

Поп і пападзьдзя жылі кожны паасобку. Кожны цягнуў у свой катух, і кожны стараўся перахітрыць другога. Прыедзе селянін які, хрысьціць прывязуць, прынясуць, кумы пляшку гарэлкі ці от яшчэ там сала кавалак папу, і толькі зазяваецца поп, як паехалі прысмакі ў пападзішыны скрыні. Добра от, што сяляне ведалі ўжо пра матушчын «характар», і калі была якая патрэба, абыходзілі яе і перадавалі ўсё папу неўзаметкі, украдкі.

— Дык з чым-жа вы, дзеткі?—пытае, сустрэўшыся і трасучы падбародкам, пападзьдзя.

— А гэта мы так, от не па справе...

І часта ўзьнікалі вялікія бойкі паміж бацюшкам і яго палавінай. Звычайна пачыналася з-за яек. Засьцігала пападзьдзя бацюшку на месцы злачынства—шукаў той яйцы па гнёздах, альбо абсьледваў яе сакрэтныя сховы ў хляве.

— Душагубец ты, злодзей...

— Цыц ты, памяло, людзей пасаромся.

— А няхай бачаць, які поп у іх, жонку от і тую голадам морыць.

— Каб табе ўжо спухнуць, чэрава... Заморыш цябе, як жа... Многа-б я даў...

— Хрыстапрадавец, аддай яйкі, от скажу благачыннаму,—крычала на ўвесь двор пападзьдзя і наступала з кіем на бацю, які, трымаючы ў абедзьвух руках яечкі, асьцярожна адступаў задам да кухні, стараючыся поле змаганьня перанесьці ў пакой, далей ад людзкога вока. Але часам гэтая стратэгія не ўдавалася. Спатыкаўся поп і ляцеў потырч, забруджваючы яечкамі валасатыя рукі і твар.

— Ага, аб'еўся гад, то та, напіўся мае крыві, напіўся...

Спрэчкі з пападзьдзёй даводзілі часам папа да шалу—дзіка ганяў ён тады па двары матушчаных курэй, каб спаймаць, адпомсьціць.

— От, паадрываю галовы, будзеш ведаць, як прадаваць насіць яйкі...

Тады бегла пападзьдзя на вуліцу, мытляліся на галаве абрыўкі дзесятку хустак да мітусіліся, як тыя два мышыныя хвосьцікі, недагрызкі касічкі на патыліцы.

— Ратуйце, людзі божыя, забівае...

Гэта была крайняя мера. Поп баяўся ўсё-ж-ткі людзей, баяўся сораму, адразу кідаў поле бойкі і хаваўся ў пакоі.

Андрэй звычайна бязуважліва слухаў і назіраў усе гэтыя баталіі, трымаўся строгага нэйтралітэту ды не забываўся тым часам цягаць атварог, па скромнасьці не абыходзячы сваёй увагай і сьмятаны.

Часам шкадавалі людзі:

— Як-жа гэта, Андрэйка, жывеш ты... Гэтая-ж скнара, мусіць, і скарыначкі табе ня дасьць.

— Не дае, ліха на яе...

— Як-жа ты жывеш?

— А от і жыву...—і толькі нос блішчэў, як той гладыш паліваны.

Поп жа на людзях быў «нішто сабе поп», як казалі старыя. «Строгі от задужа, ды з капейкай гэта, ужо што сарве, дык сарве, са дна дастане...» «Толькі да віна крыху тае, ды от да баб крыху слаб, значыцца, да іхнага полу. А так нішто поп, цярпець можна і галоўнае, галасіна... Пявун, можна сказаць дзе ты другога такога знойдзеш...» У папа была буйная гаспадарка, поўныя заўсёды засекі хлеба. Хлеб вазіў прадаваць Андрэй. Грошы поп хаваў у банку і доўгімі вечарамі ўсё думаў аб тым, куды-б лепш прыкласьці свае капіталы.

— Ня дрэнна-б і млынок агараць... нафтавы... І месца нішто на гліняньшчы от-бы, якраз і дарогі тут...

Думаў і выпісваў розныя прэйскуранты машын, усё аблюбоўваў сыстэму. Ды з Лаўрэнам раіўся часам, а колькі от зруб зладзіць каштавала-б.

— Пуню хіба думаеце ў полі ставіць?

— Ды от я так цябе пытаю... Якая там пуня...

А сустрэўшы Івана Іванавіча, прасіў яго распытаць у горадзе, пачым цяпер нафта.

— На што гэта вам?

— Ды от цікаўлюся...

Такі быў поп. Каб сварыцца з парабкам Андрэем, дык асаблівых сварак ня было, бо трохі апасаўся яго—задужа ўжо добра ведаў Андрэй усю хатнюю натуру папа, яго прыгоды з выжыўшаю розуму пападзьдзёй. Толькі заўсёды патрабаваў ад Андрэя дакладнага разрахунку за прададзенае жыта, за сена і патрабаваў усё да капейкі.

— Табе, браце, на ласункі альбо там яшчэ на якое глупства, на дзяўчат, а ў мяне гаспадарка, кожная капейка сваю дзірку мае.

Ды ў асаблівых выпадках, калі продаж быў буйны, тады разам з Андрэем пасылаў і царкоўнага старасту Лаўрэна.

— Ты от стары чалавек, тваё вока вярнейшае, дык глядзі ўжо там...

... Ужо Андрэй сабіраўся пайсьці ў гумно, як бацюшка паклікаў:

— Запрагай там каня, ды ўзлажы там мукі мяшкі са два, прасілі манашкі, каб гэта от прадаць ім. Ды й трэба пабыць там, у капліцы хутка-ж прыстол, няхай от там рыхтуюцца.

— Да ўжо-ж, запрагу...

●

— З чым, яўрэй, прышоў?

— А з чым можа прыйсьці яўрэй ды да свайго чалавека? І з радасьцю, канечне, прыдзе. Прыдзе, канечне, і з горам. З крыўдаю прыдзе.

— А якое, скажам, у яўрэя гора?

— Ох, не кажэце, пане Лейба. Ярмарка от не чакае таго, ці гатовы да яе Арон, ці гатовы да яе Хаім, ці гатовы да яе Мотэльшавец... Якая ярмарцы да ўсяго гэтага справа?. Ну, хіба няпраўду кажу, пане Лейба? От-жа вы разумны чалавек у нас у мястэчку...

Пане Лейба задаволена пацірае рукі і робіць праходку ад дзьвярэй і да самае канапкі, ад жанапкі да дзьвярэй. Абмінае буфэт. У ім бліскучыя люстэркі, і відаць у іх от колькі талерак, блюдаў, розных прыгожых і рознакаляровых келіхаў. Унізе стаіць як туз самазар, паліскае бліскучы паднос, і на ім паблісквае цень Лейбы Давідавіча. А наверсе батарэя падсьвечнікаў, так нацёртыя, што зьзяюць як срэбныя.

— Грошай, мусіць, прыйшоў, канечне, грошай...—думае Лейба Давідавіч,—што-ж прыдзецца даць чалавеку, падтрымаць яўрэя...

— ... І разумныя, можна сказаць, дзеці ў вас, от вылітыя бацькі...

— Ніхто як бог, пане Мотэль...

— Яно, канечне... Але які пекар, такія і абаранкі, як казала Роха... Дык от, пане Лейба, а ярмарка на носе, а выцяжак тых— дзе ты іх бачыў, яно і не дакупішся, ды й, прызнацца вам, і купіла таго прытупіла... Тут от напытаў я партыю, дык дзе-ж ты без задатку. Трэба от рублёў з паўсотні. Ды я й падумаў сабе: а чаму мне не зайсьці да пана Лейбы, а хіба ўжо пане Лейба настолькі жорсткі чалавек, каб гэта ня даць рукі беднаму яўрэю, ня выцягнуць яго з ямы...

— Гм... Гэта вы правільна, пане Мотэль... Яўрэй заўсёды павінен дапамагчы яўрэю. А вы можа тым часам пыталі Алтэра?

— Алтэра? Француза Алтэра? Гэта-ж ужо такі багач, такі багач, што да яго страшна і падыходзіць, гэта-ж такая шышка. Гэта-ж, уга, камэрсант... Дзе там ужо, калі ў яго галаве розныя там лайбы-шалайбы, шуркі ды муркі... Дзе там ён будзе з табой гаварыць, калі галава затлумлена рознымі от жа такімі важнецкімі справамі. .

— Т-а-ак... Алтэр—разумная галава. Ён бачыць, дзе што ляжыць.

— Дай божа кожнаму... Дай божа і вам, пане Лейба.

— Дык от вы можа скажаце, колькі вам трэба грошай і на колькі яно гэта вам месяцаў?

— Я буду ў вас прасіць усяго з паўсотні рублёў... І я буду ў вас прасіць усяго на які месяц, на паўтара... І я буду прасіць у вас, каб гэта вы далі які ды найменшы процант...

— Ох, пане Мотэль, пане Мотэль. Каб гэта ўсім да меншыя, што-б тады было на сьвеце? І ці быў-бы тады ў мястэчку Лейба і ці была-б тады ў Лейбы крупадзёрка? І хто-б дапамог тады беднаму яўрэю? Што вы думаеце? А процант? Процант—ён заўсёды вядомы. От дасьцё якіх пяць рублёў за месяц ці за паўтара... Дужа трэба мне лічыцца са сваім чалавекам.

Мотэль уцінае голаў у плечы. І мулка яму робіцца чагосьці ў каўняры. Патрэбны выцяжкі, да зарэзу патрэбны.

— Дык от бярэце сабе на здаровейка сорак пяць рублёў, аддасьцё праз якія там месяцы паўтары паўсотні...—не дае адумацца яму пане Лейба.

— От дзякаваць вам, пане Лейба. Што-б было... Падумайце толькі што-б было, калі-б ня было вас у мястэчку...

— Чаму-ж не дапамагчы яўрэю... Хто яму тады дапаможа?

— От гэта вы правільна... Дык бывайце здаровенькі, ды няхай будуць вясёлымі вашыя дзеткі да дзякуюць богу за такога бацьку.

Мотэль бокам выходзіць з пакою і асьцярожна—бяз стуку і рыпу—прычыняе дзьверы. Лейба Давідавіч ходзіць яшчэ колькі па хаце, потым зьнімае шчоты са сьцяны, дастае з прыскрынку замусо-

леную кніжку з патропаным, зашмальцаваным коркам і доўга перакідае косткі шчотаў справа налева, зьлева направа. Перакідае косткі і ціха—ледз чуваць—напявае якую-небудзь вясельную песьню, альбо так проста паціхоньку пасьвістае сабе пад нос. Знадворку чуваць, як буйна нешта гаворыць з завозьнікамі Жаранкоў Хведар—галоўны «мэханік», бартаўнік, засыпшчык і касір крупадзёркі. Ды гудзе сама крупадзёрня. Да з-за шалёвачнае сьцяны чуваць як гутарыць жонка з суседкамі: пра гусей, як лепш шмальц гатаваць, лепш скубсьці, як падсмажыць лепш грыбенэс, як лепш мяса дагледзець і чаму ў суседкі Рохі не раджаюцца дзеці, чаму ў швачкі Розы лепш за ўсё ўдаюцца ліфчыкі... От, бабскія ўсё клопаты...

Лейба Давідавіч прыслухаецца, стукае па шчотах, а ў самога новыя думкі клеюцца, выступаюць от так, дражняцца.

— А чаму-б табе, пане Лейба, ды ня купіць воўначоскі? Да душы-ж спатрэбілася-б, не завадзіла-б у гаспадарцы.

Лейба Давідавіч усьміхаецца паціху ў густыя вусы, павесіць шчоты на сьценку і зморшчыць бровы, на лад іх сур'ёзны настроіць і пачынае маліцца богу. Тады цішэй за пераборкай гучаць бабскія галасы аб пахучым грыбенэс, аб ліфчыках, аб падазронай чырвані шчок швачкі Розы...

●

— Дык ты, дачушка, зьбегай да Хаіма, брата. Няхай рубля пазычыць... Так і скажы, няхай пазычыць, на фэльчара, скажы, грошы патрэбны... Ды хуценька.

Старая Гінта сядзіць на ўслончыку ля вакна і ўзіраецца ў палавіцу.

— Памыць от хаця трэба, дужа-ж падлога ужо забрудзілася... Няйначай у пятніцу...

Але гэтыя думкі толькі так, для адводу... Ог-жа хочацца, каб, палавіцамі, начоўкамі з цёркай бульбянай, пераваслам цыбулі ля коміну адагнаць, выгнаць прэч з галавы тыя другія думкі руплівыя, неадкладныя, жорсткія думкі. Чорныя думкі. Што от лезуць жывасілам у мозаг, нібы хочуць разадраць яго на кавалкі, на друзачкі тыя.

— Ці выжыве?

— Сын от?

— Што-ж паміраць надумаўся... Надакучыла мусіць матчына хата?

— І як гэта ўсё неспадзеўкі... От працаваў, працаваў... кожнага таго дня на прыстані... і раптам прычыкала сына...

— І што гэта будзе?

— І як?

— І чаму так марудзіць дачка Блюма, от пашла пазычыць рубля, гадзіну праходзіць...

— Жыцьцё от—ідзе, ідзе і раптам няма яго—нібы дым, нібы вецер...

— І што рабіць?

Ціхія сьлязіны паўзуць па маршчаках старых, зьліваюцца разам і коцяцца жывыя, падаюць буйнымі кроплямі на шэрую хусту, на шэрыя лапікі спадніцы. Вун упала адна на чаравік руды, і чарнее пляма на ім. Чарнее пляма, а ў сэрцы робіцца пуста і плечы зьнібеюць пад хустаю. Зябка робіцца, зімна, хоць сьвеціць за вокнамі сонца і ў белым пыле ў цёплым капушацца куры па-пад воканьню.

На перамену пагоды, мусіць...

— Але што-ж гэта я? Хіба можна плакаць? Вось заўважыць самес колькі тых клапот будзе. Самес стаіць у кутку, пазірае ў вакно і шчыпле рэдзенькую бародку.

Асроэл Мохэр—фэльчар—сядзіць ля ложку. Ен заўсёды панурысты, таму і не разабраць, што ён думае, аб чым ён гадае. Толькі паблісківаюць яго, падвязаныя ніткай акуляры, калі нагінаецца ён над хворым, прыкрыўшы грудзі яго сваёй сівой барадой. Барадой гэтай дзяцей пужаюць у мястэчку, да таго грозная яна ў сваёй велічы і суровасьці. Фэльчар доўга корпаецца ля хворага, выслухоўвае ў вышчарбленую драўляную трубачку, пераварочвае на бок. Урэшце адыходзіць ад ложку, вымае пярэстую хустачку з кішэні і зьняўшы акуляры доўга праціpae іх, уныры́ўшы позірк некуды ў вакно, на вуліцу, на галінку бярозы, што гойдаецца от пад вакном, варушыць лісьцейкам.

— А дзе гэта цётка Гінша?—нібы прачынаецца ён ад задумы.— А-а... вы тут... дык скажэце хаця суседзям, няхай выліваюць ваду...

Цяпер можна даць волю сьлязам. Цяпер не перашкодзяць сьлёзы душы чалавечай, калі разлучылася яна ўжо з грэшным целам і далёка, далёка ўжо, недзе там, куды адышоў і муж, адышлі ў свой час бацькі, адыдзе ў свой час і сама. Толькі крыўдзіць вось бог, сына бярэ раней. Цяпер можна даць волю і голасу, матчыным словам, каб сына аплакаць, долю яго, аплакаць яго асірочаны ложак, бо прыдуць самесы і зьнімуць сына, пакладуць на падлогу. Унясуць услончык гарбаты, сьвечку запаляць—ваду грэць, каб змыць грахі ўсе, каб чыстым, чыстым, у чыстым саване белым пайсьці пад грозныя вочы Іяговы. І будзе глядзець яна бязучаснымі вачмі, бо засьцяць іх сьлёзы. Прыдуць людзі, памоляцца богу і закрычыць яна немым голасам, калі панясуць чорныя мітэ на клодаўе сына. І першыя зоры яшчэ ня ўзыдуць на небе, як ня стане сына, ня стане яго назаўсёды...

Сын Янкеля, Янкеля лазакрута...

І падаюць думкі ніжэй, на зямлю, на хату, на заўтрашні дзень. Робіцца твар суровы, у яго ўплятаюцца шэрыя клопаты. Аб дачцэ, аб Блюме, аб яе дзесяці гадох—хіба ў швачкі аддаць, толькі-ж цяжка машыну набыць, не цяпер, а праз гады якія. Ды вось яшчэ, хто-ж гэта будзе гаварыць кадэш? Хіба наняць старога Залмана, няхай ужо памоліцца разам...

А дзень блекне, схіляецца к захаду сонца, вокны робяцца шэрымі.

І аб ім, незабыўным:

Скора панясуць яго на насілках, на чорных.

Панясуць назаўсёды.

●

Мацьвей Юльевіч нэрвова хадзіў па пакоі, скоса пазіраў на яе дрыготныя плечы, і халадок няпрыязьні пачынаў працінаць яго пачуцьці, яго думкі аб гэтай от жанчыне. Ну, чаго яна прышла і чаго яна плача? І чаго яна ўрэшце хоча? Мо' хоча разьвесьціся з мужам, зьвязаць яго, Мацьвея Юльевіча галаву? Не! Гэты нумар ня пройдзе, не такі ўжо падатлівы Мацьвей Юльевіч, каб кожнай, даруй ты божа, даць волю над яго... Шмат іх было... Старога халасьцяка не правесьці за нос... Дужа там... От, кампанію скласьці, правесьці весела час, каб не заплесьнець у гэтай бярлозе,—гэта яшчэ сюды туды.

— Дык скажы мне... Ну, чаго ты плачаш? Ці я пакрыўдзіў цябе, ці што?

— Ты? Мяне? Што ты... Да цябе я ня маю ніякай крыўды. І з чаго ты ўзяў гэта. Хамы от... І што я ім зрабіла? Яшчэ дзякавалі-б, што да іх людзі едуць, у цемень іхную...

Мацьвей Юльевіч уздыхае, нібы гара падае з яго плеч. Не сказаць, каб падабаліся яму задужа гэтыя сьлёзы, гарачыя словы, мольбы, праклёны, якімі канчалася звычайна кожная сувязь, кожнае, больш менш працяглае, знаёмства з той ці іншай жанчынай. Гэтага мсманту ён заўсёды старанна ўнікаў і адчуваў сябе нібы на скаварадзе, калі так ці іначай трапляў у палон, альбо пад абстрэл.

— А я думаў...—заспакоены і ласкавы кажа ён, абрываючы словы.

— Што ты думаў?—з ноткаю трывогі пытае Зіна.

— Ды я нічога, Зіна, ну дык кажы, у чым-жа справа?

— А ўсё-ж-ткі скажы, аб чым ты думаў?

— Да кажу-ж табе, што от, анічагусенькі. Ну от проста так слова сарвалася...

— Сарвалася... Усе вы такія...—і чырвоныя ад плачу вочы зноў напаўняюцца сьлязьмі, от-от упадуць на стол.

— Ды кінь ты, Зіна, я-ж нічога, я-ж от думаю, хто гэта цябе пакрыўдзіў так. Ну скажы-ж мне, даражэнькая, ну не маўчы...

Далоні рук яго песьцяць кудры валос, мякка дакранаюцца да вуха. От прысаджваецца і сам, абымае гэтак ласкава і пазірае ў самыя вочы, і, здаецца, чыстыя яны, вочы яго, без маны, без плямінкі глядзяць, ня міргнуць. Схіляецца галава яе на плячо, мякчэе ўся ды ціхім хліпкім голасам гаворыць аб крыўдах.

— Ты падумай толькі: людзі кідаюць бацькоў, людзі кідаюць цёплыя месцы, едуць сюды, па кутках гэтых, па гэтых няшчасных

бярлогах, каб гэта яшчэ вучыць іх, дурных, цягнуць іх на сьвет... Дык падзякавалі... От, паехаў ты ўчора, прайшло якіх з паўгадзіны часу, і пачалося гэта пад вокнамі. Рыпалі вакеньніцамі, пелі ўсякую... Хіба можна сказаць толькі, што яны пелі... Ды яшчэ ў фортку кідалі рызьзё ўсякае, бруд усякі... А тады яшчэ ўзялі і павесілі на вокны сабаку здохлага, раскрыжавалі от так са ўсякімі брыдотамі... Ды каб ведаў ты, от-жа дзеці з імі, з хуліганамі гэтымі, мае-ж вучні са школы... Да і Якаў добры, сядзіць памеж у хаце і нібыта й ня чуе. От пасьля толькі, калі вакно чысьціў, дык жартачкамі рознымі, от так укалоў бы, каб змог:

— Нешта вас, паненачка, хлопцы нашыя не паважаюць...

— А са старэйшых хто быў там?

— А хто іх там угледзеў... Якаў вось ведае...

— Добра. Я ўжо сам гэта разьбяру. Як скажу ўраднiку, ды як агрэе катарага разоў з дзесяць—дзесятаму тады закажуць. А табе найначай спакайнейшае месца патрэбна. Хаця-б от у школу пры валасьці, куды клапот меней: ні табе там ні прыём, ні дровы, аб усім гэта загадчык паклапоціцца. Ды й групу адну весьці будзеш. Дык калі хочаш—буду ў горадзе, пагавару з інспэктарам, няхай перавядзе. Балазе так і настаўнік адзін не ка двару прышоўся, дужа ўжо з папом у рожкі пашоў.

— А ня будзе далёка?—і дзе тыя сьлёзы падзеліся.

— Дзе там далёка, дзесяць вёрст якіх. Ці тры ці дзесяць—якая розьніца.

Растае крыўда Зіна. Добра от, калі стаіць за сьпіной тваёй чалавек моцны. Да чалавека гэтага людзі паважаюць: і паважаюць і баяцца.

— Даражэнькі мой, любенькі...

Чэзьне крыўда і сонечка на душы.

Ды за дзьвярмі, бразгаючы талеркамі да рыхтуючы абед, мармыча Ганна пад нос:

— То-ж круцёлка, ліха на яе... Мала таго, што езьдзіць да яе, дык і сама прыпёрлася... То-ж, паны, паны—кажуць, а ў іх дык яшчэ горш...

●

Манашкі сустракалі вохамі ды паклонамі.

— І ў якія то годы, бацюшка, у абіцель нашу грэшную...

— Іменна грэшную: рыбку ясьцё, гарбатку п'еце, а гэта што ў вас? Язь?

— Ліны, бацюшка, ліны...

— Добрая рыба лін, тлустая рыба, толькі от аддае ад яе часам гванінай, калі лавіць яе, скажам, у сажалцы невялікай.

— У канаве, бацюшка, спаймалі, у канаве. Аж да самага Дняпра даходзіць. Дзед Амяльлян налавіў вось, прыносіць от нам і дарыць... Але што-ж гэта мы... Ручку, бацюшка, ручку...

Манашкі складаюць рукі палонікам і па старшынству падыходзяць пад блаславеньне. Бацюшка робіцца сур'ёзным, папраўляе пасмы валасоў на галаве і, паправіўшы расу, бласлаўляе галовы. Яго басавітае «Мяйца і сына» гудзіць у хаце, аж дзынкаюць тонкія шыбы. Зьдзіўлена і трохі з апаскай дзівіцца Марта і прыслухаецца да бацюшкавых слоў. Той совае па чарзе валасатую руку з рудымі пляймінкамі і манашкі моўчкі цалуюць яе, нізка схіліўшы галовы.

— А ты-ж, Марта, чаго стаіш. Ідзі руку пацалуй бацюшку, ды йдзі потым, самавар падагрэй,—кідае скоса сястра Аўдакія.

— А я ня хочу...—выпальвае раптам.

— От я табе не захачу. Паспытаеш матузоў у мяне, калі што...

Марта подбегам кідаецца да рукі і торапка, ледзь-ледзь дакранаецца да яе сьцятымі вуснамі.

— І-і-х... валасоў колькі тых... табакай сьмярдзіць,—думае яна, бягучы на кухню.

— Гэта што за круцёлка ў вас?

— Паслушніцай у нас, бацюшка, паслушніцай. З манастыра прыслалі, з манастыра... От ужо месяцы з два як прыслалі. Ды й якая там паслушніца з яе, от проста так служкай пакуль. Бежанка, маці яе ў манастыр аддала.

— До-о-брая справа... Ну як у вас тут, як жывяце, моліцеся...

— А не гаварэце, жывем... штогод, цяжэй. І народ нібы ня той стаў, чорствы народ. Ты ў яго капейку тую на манастыр просіш, дык ён ня то каб даць, а от гатоў бы ў цябе з горла капейку божую вырваць... Асабліва-ж у вас у мястэчку, бацюшка, дужа-ж шалёны народ, от часам і кпінамі сустракаюць: чаго вас, кажа, нялёгкая носіць тут... Шалёны народ...

— Бывае...—адказвае ціха поп і трохі крыўдзіцца за прыход свой. «Пашлі-б у другі, пашукалі, от-бы сустрэлі таксама»—думае пра сябе.

— Дык ты ўжо, бацюшка, паспытай хіба рыбкі нашай... Сястра Марыля, ідзі-ж там пашукай у скрыні... Пад прыскрыначкам там, дзве трубка палатна беленага, от там са сьвянцовай вадой крашчэнскай... Толькі не бяры поўную там, а пачатую вазьмі, зьлева...

— Дык ты ўжо, бацюшка, не пагрэбай чарачкай нашай, абіцельскай... Блюдзём от для людзей паважаных, ці мала хто трапіць часам... Ды й прыстол жа ізноў...

Бацюшка ня прымушае доўга прасіць сябе. Навошта гэтыя цэрамоніі. Ён па-гаспадарскі накладвае большыя кавалкі рыбы, старанна абсмоктвае кожную костачку, дастае з кішэні вялізны з добрую бабскую хустку насавік у клетачку, старанна і акуратна абцірае вусы, гучна чысьціць нос.

— От труба ярыхонская,—думае сьмірэнна сястра Аўдакія, мэханічна перабіраючы чорныя чоткі,—дасьць жа бог здароўе такое. Сакавіты яшчэ мужчына, галава ўжо сівая, а вусы от-от толькі кранулiся.

Манашкі гутараць з папом, дзеляцца манастырскімі навінамі, выкладваюць свае крыўды: абяцала Панасіха трубку палатна на манастыр, ды вось цягне чагосьці, менш от носяць дзяцей лячыць у капліцу і няйначай з таго часу, як завялася ў воласьці акушэрка, мала дае скарбонка... Ідуць справы ды ўсё ўніз, ды ўсё ўніз.

— Госпадзі божа, твая то сьвятая воля, не пакінь народ свой у нявер'і...—шэпча сухімі вуснамі сястра Аўдакія, упёрыўшы позірк у чорны лік Мікалая, цудатворца таго Мірлікійскага.

Ён уторыць сястра Марыля, падцягваючы вусны сардэчкам, шапоча ўсьлед:

— Божа, наш божа, даруй грахі нашы...

— Зануды,—думае бацюшка,—от сядзяць, неба копцяць.— І тут-жа ловіць сябе на гэтай грэшнай думцы.—Ня мной гэта пачыналася, ня мной гэта і скончыцца. І зноў-жа, ня можа народ абыйсьціся бяз гэтага: без капліц гэтых, бяз гэтых чорных манашак... Гм... і бяз мяне выходзіць... Што ты яму дасі заместа капліцы, заместа кумпалу таго зялёнага, заместа бліскучага крыжу, заместа ўсяго таго, чаму я служу... Каб больш бязульства было, непаслухмянства, каб больш гардыні было, чорнай гардыні, за якую от папаў яго сын, студэнт, у чорт ведама там якую губэрню... Сын, называецца... Выгадаваў, можна сказаць... Дык чым-жа можна замяніць усё гэта... Не, ты от ведай мейсца сваё... Цярпеньне ведай... Ды ня злобствуй... Яно й будзе ўсё ціха і лагодненька. От я... Сыт, задаволены, грошы ў банку...

Любіць поп пасьля сытнай стравы ў філёзофію часам укінуцца, паварушыць мазгамі крыху. Ня грэх бы от і словам тым з кім небудзь перакінуцца, да дзе ты знойдзеш чалавека талковага, хіба от з гэтымі муміямі, хіба з фурыяй пападзьдзёй. І сумуе часам поп па «разумным» чалавеку.

— Дык ты, бацюшка, гарбаткі выпі,—перапыняе яго думкі сястра Аўдакія.—Вада ў нас ня то што ў вас у мястэчку. Чыстая вада, як сьляза тая, з крыніцы студзёнай...

— Што-ж, вып'ем і гарбаткі за ваша здароўе,—і мяняюцца сподкі адна за адной ды пацее лысіна і пукаты бацюшкаў лоб.

— А от рушнічок вам, сама вышывала,—прапануе сястра Марыля.

А Андрэй цягае мяшкі з возу, даглядае каня. Вось увайшоў у кухню, абтрасае муку з сьпінжака, з шапкі. У муцэ і шчокі, і Марта пырскае сьмехам, гледзячы на яго.

— І-і-х ты кірпатая! Чаго-ж табе да сьмяяцца з мяне?—і адразу цап рукой той за самую піпку-нос.—Няўжо ты такая да манашачка маладзёнечка?

— Ідзі ты...

— Чаго-ж ты такая ўжо да ня ветлівая. Чалавек у госьці да цябе, а ты й на дыбачкі.

— Толькі я цябе й бачыла!

— Да ты ня крывіся, абыходлівей будзь. Дай вось-жа, красуня, вадзіцы, от памыю-ся я да дзівіся, які прыгажун перад твае вочы

ясныя стане... от і пачырванела, а мамкі мае... Што та будзе з табой, як памыюся я?

— А будзе ўжо... То-ж язык...

— Ну, ну... я ж ня кусьлівы. От палівай, галубіца, на рукі. Да бліжэй, бліжэй, я-ж ня воўк...

Марта палівае рукі Андрэю, той мыецца да паглядае на яе і гарацць у яго вачох агенчыкі дурасьлівыя. От-жа сьмешны хлапец...

— Ты чаго ўсьміхаешся... Га... Хіба сьмешнае ўбачыла што? Хлопец я, уга, усе дзяўчаты бяз памяці бягуць...

— Дзіва што, пабягуць да цябе, канапаты!

— Канапа-а-ты! Ах жа ты, кірпаценькая мая! Дай жа я тваю кірпу пацісну,—і мокрыя пальцы цапаюць нос.

— А вот на-ж табе, такі хвацкі,—і цэлы карэц вады выльвае Марта яму на шыю, а сама адбягае з вясёлым рогатам у кут..

Прычыніўшы дзьверы, стаіць сястра Аўдакія. У яе падцягнуты вусны і вочы колюць як шыльле.

— Марта, адразу айда... Марта, табе гавораць ці не? Ды хутчэй-жа, нягодніца, іш ты, распусту завяла... А ну, жывей,— ціха і злосна шэпча сястра Марыля.

— А вы гэта што? Маткаю ёй будзеце, альбо цёткаю?—дурасьліва пытае Андрэй.

— Зачыні свае вусны грэшныя, распусьнік... Ня ведаеш, дзе бываеш... А ты чаго стаіш, чаго чакаеш?

— А то мне там рабіць. А-ж самавар паставіла і тут цяпер, пасяджу...

— От я табе пасяджу ўжо,—і сястра Аўдакія з злосьцю, з кухталём хапае за руку Марту і вядзе ў пакой. Ды сухія яе вусны шэпчуць, перамінаюць імя божае за грахі чалавечыя.

— Фу ты, ну ты... І праскамідыя-ж,—абзывае Андрэй манашку, узгадаўшы слова, пачутае ім ад папа і ад старасты. І ўзгадаўшы другое слова «фурыя»—якое часта ўжывае поп, кажучы аб пападзьдзі, прысьцёгвае і гэта слова да праскамідыі.

— Чыстая табе фурыя, без падробкі...

Але Андрэй не здаецца. Ён прыадчыняе дзьверы ў пакой, пытае:

— Бацюшка, можна мне?

Поп глядзіць на сястру Аўдакію. Тая мнецца крыху, але адказвае:

— Заходзь, раб божы...

Раб божы адразу-ж прэцца на лаву і садзіцца зьніціўшыся недалёчка ад Марты ды паціхеньку, украдкі перамігваецца з ёю, апасьліва пазіраючы на сястру Аўдакію. Тая сядзіць нібы аршын праглынуўшы, шэпча нешта і нібы от насыпалі іголак поўны мяшок чорны—варушыцца гэты мяшок і шархацяць іголкі тыя ў ім.

— Налі, сястра Марыля, шклянку гарбаты рабу божаму,—шапоча Аўдакія. Яе злосьці ні то спачувае, ні то падсьмейваецца з яе Марыля.

Поп ціха усьміхаецца ў вусны да пачынае іструктаваць манашак аб прыстольным сьвяце, аб падрыхтоўцы капліцы, аб падчыстцы паляны ля сьвятой крыніцы, каб было дзе імшу адслужыць.

●

Десьці ў сенцах скагыталі парасяты да рохкала старая сьвіньня, поркаючы лычом у дзьверы. Дзьверы рыпелі на завесах, соўдаліся ўзад і ўперад старая закрутка да ціха дзынкала кружолка бляшаная на лямпе, заіржаўленая, замушаная, якая вісела на дроце, абверчанай палінялай рознакаляровай паперай.

— То-ж чамярыца на іх, вымерхаваліся ўжо, дзе ты на іх набярэшся... От дзьверы і тыя сарвуць...

Настуля, падаткнуўшы падол старога андарака, завіхалася ля печы, дзе парыліся чыгуны бульбы. Большы от для сьвіньні, для парасят, для цялушкі крыху, а меншы для сябе—паронкі. Дзеці коўзаліся па падлозе ў мыцельніку. Старэйшы кідаў у цэбар з памыямі трэскі—плыты ганяў, ды назаляў Настулі, што-раз цярэбячы яе за спадніцу!

— Мам, а мам...

— Чаго ўжо табе? Ах каб на цябе немач, усю кашулю ўмачыў, цячэ аж...

— Дай клубок, мамка, плыты вязаць...

— От я ўжо аперажу цябе матузом, дык ты ў мяне будзеш ляжаць як зьвязаны...

— Дай, мамка, нітку...

— Адчапіся назола, дай от сьнеданьне прыгатую,—і Настуля хапала малога на рукі і, трымаючы яго пад пахаю, выкручвала кашулю і, даўшы добрага шлепанца, пускала на падлогу. Меншая вазілася з кацянятамі, ціскала іх, цягала за хвост, карміла бульбінай. Тыя мяўкалі жаласна ды капушыліся ў начоўках, тычучы адно аднаго мяккімі, пухнаценькімі мордачкамі. Паводаль сядзела старая кошка і раз-по-раз пазірала сумнымі вачыма то на начоўкі, то на Настулю. Ды падыходзіла часам да начовак і абнюхвала якое кацянё, старанна аблізвала яго, ды пачынала мяўкаць на ўсю хату.

— Іш ты яе, жывёліна, а не кажы-ж ты, матка як ніяк, разумее...—думалася Настулі, і яна кідала дзіцёнку:

— Ты от, Ганначка, кінула-б ужо іх, навошта ціскаеш так... Кінь, дачушка...

А на двярэ мычэла пад вакном цялушка-пералетак, і новыя думкі ўкліньваліся ў Настуліну галаву, не давалі ёй супакою, не давалі ёй адпачынку.

— Управіцца вось, ды схадзіць хіба ношку травы якой прынесьці, у ярыне назьбіраць, бо дзе тая трава на паплавох, пакасілі ўжо... І гэтулькі-ж клопату, вечна галава забіта, дзіва то, без гаспадара: і пасей, і пажні, і пакасі, аб гумне падумай каб пусьціў хто колькі тых коп зложыць... Ды й бегай, кланяйся, каб хто змалаціць пасо-

біў... Ды мя дарма-ж усё—от адажні, прыдзі бульбу капаць, прыдзі лён трапаць па восені, вытчы трубку кужалю. Табе на грош, а ім от на рубель адрабі, дзіва то, ласыя на чужыя рукі. І петуйся дня і ночы, а зьесьці калі дык от душыся паронкамі, душы дзяцей нішчымніцай. Нарабілі от, каб на немач, вайны ім захацелася, каб яна ўжо, даруй божа, у горла колікам ім...

А каму—ім—хто яго ведае... Казалі от людзі—германцы на нас насядаюць, душаць людзей, страляюць, газы тыя пушчаюць, і хто ведае, чаго гэта яны на нас так узьеліся, хіба ім мала зямлі свае, цары мо' пасварыліся? А з чаго-б ім сварыцца, здэцца-ж ня ім аб паранках думаць, аб бульбе той з шалупінамі.

— А можа гэта грэх пра цара ды так думаць? Хіба задарма от і ў малітве пра цара гаворыцца, пра «государя нашего Мікалая Александравіча»... Відаць-жа што не здарма, от жа й на партрэце ізноў.

На заседжанай мухамі фатаграфіі і сядзіць на чорным кані ён, Лявон... От узьняў шаблю ўгару, а конь на дыбкі, грае бліскучымі вачыма, белыя шчоткі от на капытох... І прыгожыя штаны ў Лявона, сінія, сінія... Ды па іх канты чырвоненькія, ды чырвоныя грудзі, а колькі от гэтых шнурочкаў з круцёлачкамі бліскучымі. А шапка, шапка з белым арлом. Отжа шапка—шнурок ад яе аж на грудзі, да гузікаў. Вочы ў Лявона—глыбокія і чорныя. От так і ўзіраюцца ў цябе, нібы пытаюць:

— Ну, як пажываеш, ненаглядная супруга мая Настуля, Як нашыя дзеці?

А ўнізе незразумела так, літарамі залатымі—покуль прачытала, язык дуб дубам:

— «Лейб гвардыя яе імпэратарскае вялікасьці Аляксандры Фёдараўны уланскі полк».

Царыца то. Казаў от, як на пабыўку прыяжджаў. У цара, казаў, яшчэ шмат палкоў якіх, ды вялікая армія, пяхота гэтая, анцілерыя там ды шмат яшчэ чаго...

Як прыяжджаў, бегалі ўсім сялом усьлед, дужа-ж тую форму ўпадабалі, важнецкая форма. «Ляпей як у афіцэра»—казаў дзед Панкрат, стары салдат мікалаеўскі. А Зьмітрашчысін Панас—прыяжджаў разам—дык той, мусіць-жа ад зайздрасьці, дзеду Панкрату:

— Ты не глядзі, дзед, на шапку бліскучую. І яны чэсьць аддаюць афіцэрам нашым... пяхотным...

Дзе ты тут разьбярэш. Канечне, салдат. От-жа й адрас салдацкі з уланскага таго палку. Ростам быў высокі, таму і ў уланы забралі—так казалі людзі. Настуля бярэ за карткай стопку шэрых лістоў і старанна пералажыўшы іх, кладзе ізноў за партрэт.

— Сьніўся от пазаўчора. Нібы на пабыўку прышоў, а я от нібыта проса сушу на пячы... Каб жа то спраўдзілася! Але што-ж гэта я, чыгуны павыплывалі, хіба таўчы ўжо. Да ціху ты, неўгамонны... Бач, моду знайшоў, чуць што, дык і біцца. Малое, а ўжо з кулакамі лезе, сястру крыўдзіць... Падай от таўкач лепш.

Бульбяная пара засьцілае ўсю хату, расою кладзецца на замурзаныя шыбы вакенца да пачуўшы едзіва яшчэ больш скачуць парасяты за дзьвярмі ды ходарам ходзяць дзьверы пад напорам сьвінога лычу.

— Нішто вам, вытрываецца, от укіну яшчэ мякіны крыху, дзе на вас бульбы аднэй набярэшся... Ну, хіба ўжо... ідзеце, дзеткі, падалей,—Настуля адчыняе дзьверы, і ў хату трухам кідаецца сьвіньня аж пасклізаецца па падлозе і, усадзіўшы лыч свой аж па самыя вочы ў карыта, хапае на повен рот, аж трасуцца тыя парэпаныя вушы, ды ходарам ходзяць па баках сухія рэбры. За сьвіньнёй кідаюцца на выперадкі парасяты і з візгам і скогатам ваююць за мейсца ля карыта, адштурхваючы адзін аднаго, кусаючы адзін другога за лыткі... Але старая сьвіньня наводзіць парадак: таму дасьць лыча ў бок, таго адштурхне нагой таго так перакоціць, што аж заліваецца, скуголіць, ды асьцярожна прабіраецца да карыта.

— А ты чаго? Ідзі, ідзі, кажу, адтуль.

— Да я, мамачка, шчаціны нарву, на хібу от, каравашнік цукерку дасьць.

— Я от табе дам цукерку, цукерашнік,—злосна абзываецца Настуля, адцэджваючы паронкі,—ідзі от сьнедаць.

Пасьнедаўшы зьбіраецца Настуля па траву схадзіць, але яе думкі перабіраюцца стукам у вакно. Відаць, соцкі, от па барадзе яго распазнаеш.

— Дык на сход, Настуля, от на сход сабірайся.

— Дужа мне там вялікі клопат, мая от там справа?

— Не, не... Абавязкова. Нядоімку прыслалі спаганяць... дык от ужо ня баўся.

Нібы белы сьвет памутнеў, от счарнела ў вачох адразу. Дзе ты возьмеш нядоімку тую... Спасобія таго хаця-б на крупы хапіла. Хацелася-б от у панскае калі схадзіць, зарабіць залатоўку якую, дык дзе ты тут з дзецьмі ўправішся... Пазычыць у каго? Ды дзе ты, у каго? Кожны без капейкі лахае. Хіба ў старасты? Дужа ён табе раскінецца... Уга... І пытаць ня варта, от у кабяля ў гэтага, ды й за бульбу яму шчэ ня плачана. Не, трасцы, не дачакаецца, каб гэта...— і Настуля з агідаю ўспамінае яго прыставаньні на пожні, яго скрыўлены злосьцю твар, асклізлыя шчыліны воч, гарэўшыя зьвярыным палам. Уга, не на тую напаў, шолудзь...

Калі Настуля разам з другімі бабамі-салдаткамі падыходзіла да старастава хаты, там ужо зьбіраўся сход і тлум галасоў поўніў усю вуліцу. Зьбіраліся на бярвеньні. Хто сядзеў на хваёвых старастаўых кражыках, хто от проста так на трэсках, на шуме тым ад кары ля бярвеньняў прымайстраваўся. Іншыя стаялі паўкружка, гаманілі, зьбіўшыся паасобнымі купкамі.

— Уга, армія прышла, дывізія бабская ў паходзе, шабеты цягне з грашмі,—жартуе, шамкаючы бяззубым ротам, дзед Панкрат.

— А ты от падстаўляй кішэні, прыпасьлі для цябе, для бяззубага...—у тон адказвае ўдава Барташыха.—Бач ты, выскаляецца, а з самага ўжо пясок сыплецца.

— Цыц, ты, цыц! Зачапі от яе, дык яна табе нагаворыць...

— А ты іх, браце Панкрат, не чапай, яны цяперачка ўга, дужа-ж от ужо злосныя, пападзіся адзін—на кавалачкі разьдзяруць... Дзіва то, бяз мужыкоў ходзяць,—уторыць Панкратаў яго прыяцель дзед Сымон, і яго выцьвілая казьліная бародка трасецца ў тахт рогату. І не рагоча, а от проста так: кхе-кхе-кхе... Ды закашляўся восьі па-пярхнуўся і зайшоўся аж, ніяк ня можа адхыркацца, аж сінее старыды ўсё—кхі-кхі-кхі...

— То-ж пярхун стары... У дамавіну пара, а ён яшчэ ў жарты ўкінуўся...

— Ды вы-ж... кхі-кхі-кхі...

— Маўчаў-бы ўжо, кігікала старое, сівы корч...

Сход рагоча, спачуваючы бабам—дужа трапна старога падкалолі. Рагоча і ўраднік, маладым салдаткам падміргвае, хвацка падкручвае зусім от жоўтыя, як у пруса таго, кончыкі вусоў ды хвошча бізуном па наваксаваных халявах шчыгульных ураднівцкіх чобатаў.

— Бач ты пузан!—перашэптваюцца бабы, туляючыся адна за другую.

Сход рагоча, усьміхаецца кожны, а ў каторага на душы кошкі шкрабуць: як то яно будзе, чым яно ўсё ды абыйдзецца. І больш гэтай разгубленасьці, перапалоханасьці на тварах у салдатак. Усе пазіраюць украдкі на старасту, на ўрадніка, на заклапочаных і зьбянтэжаных соцкіх—дзіва то, абяжы ўсе вуліцы—і чакаюць, калі от пачнуць гаварыць аб справе.

— Ну, дык хіба пачнём, стараста... Ну, там каторыя бабы-маладзіцы змоўкніце хаця ўжо, а маладзейшыя марш адсюль адразу-ж... Давайце, хрысьціяне, пачнем сход. А справа-ж вам вядомая. Я от старасту загадаў, каб ён праз соцкіх паведаміў усіх, каб зараз-жа нядоімкі несьлі. Калі от быў час другую рату плаціць, а хто з вас хаця-б паварушыўся. Дык от у дваццаць чатыры хвіліны, каб гэта, значыцца, грошы ўносілі і ніякіх там разгавораў. Дык так што, хрысьціяне, стараста от па чарзе выклікаць будзе па сьпісу, а вы рыхтуйцеся... Ды ў дваццаць чатыры каб мне хвіліны і ніякіх там разгавораў... А калі хто ў няспраўнасьці, акажацца, худа таму, от-жа раней кажу, няхай тады на сябе пяняе, калі апішам што...

— А от-жа хваробы вам, трасцы вам, а ня грошай,—раптам прарывае Барташыху.—Каб-жа от духі з вас павыцягала, як цягнеце вы з нашага горбу. Бач ты яго—дваццаць чатыры хвіліны... Мой сын от трэці год як вошы корміць у акопах, ды от і да меншага дабіраюцца... Дык дваццаць чатыры... Скулы от табе дваццаць чатыры, бач, разгадаваў пуза!

— А ты цётка, прывяжы язык за шчыкецціну, пакуль ня возна. Дужа ён у цябе порсткі,—адказвае ўраднік і не падкручвае ўжо, а нэрвова шчыпле вусы.—Ты от пацякла, як дзяжа тая, і пашла языком мяньціць: латата, латата, глядзі лапатух нагоніш... А што і да чаго—і не дабярэш. Ну служыць твой сын, і няхай служыць. На тое ён салдат, на тое і прысягу цару кую ён прымаў, каб веру сваю,

цара свайго праваслаўнага да айчызну-матушку ад ліхіх ворагаў аберагаць. І прычым-жа тут падатак... Патрэбны грошы дзяржаве? Патрэбны...

— Дык няхай і возьме...

— Дзе-ж яна возьме?

— А дзе хоча... Пры чым тут мы?—чуюцца нерашучыя галасы з натоўпу.

— Дужа мне тут з вамі разгаворы разгаварываць... Сказаў, і каб ні гу-гу... Каб зараз-жа было ўсё выпаўнена. Ды пажывей. От выклікай, стараста!

А сэрца так і заходзіцца ў Настулі, калі ўсё бліжэй і бліжэй яе чарга па падворнаму сьпісу. Вот ужо Іван Цыбаля доўга порхаецца ў сваей шабеце, ды адвярнуўшыся шукае, каб адабраць больш старыя, самыя трухнявыя, дзіравыя траячкі і рублі. Аж сапе небарака.

— Эге, нешта й вы, дзядзька Іван, падкульгалі. Што-ж гэта? Заўсёды такі спраўны, а татука аж дванаццацера рублёў,—пытае ураднік.

— Няўпраўка бачыце, пане ўраднік... Ізноў-жа сена тут падышло, ня было часу,—і аддаючы грошы і шкадуючы іх, Іван думае аб будучых барышох на сене з панскае пожні: «уга, у дзесяць разоў назад вазьму, з гакам, можна сказаць, пакрыю, але-ж канечне, і рубля шкода, на дарозе ён табе не валяецца... а капейка да капейчыны...» Аж уздыхнуў.

Ужо плачуць некаторыя маладзіцы: будуць у іх палатно апісваць. Галосіць старая Еўдакіміха—запісалі ў яе карову. Некаторыя пабеглі грошы шукаць пазычыць, некаторыя стаяць унурыўшыся, да ўсяго бязуважныя і чакаюць свае чаргі.

— Божачка, што та будзе са мной?—мітусіцца непакойная думка Настуліна.

— Наста Мікалаішка!

— Тутака я...

— Дык з цябе... з цябе... чатырнаццаць рублёў з цябе ды сямнаццаць капеяк. Дык уносіць от?—і старастава рука трымае напагатове абгрызены аловак, ды вочы старасты глядзець от, прысмоктваюцца як п'яўкі тыя балотныя, сьлізкія—ня міргнуць нават. І ў вачох тых чытае Настуля: «ага, папалася, гадаўка, от табе за ласку тваю». А ў горле ў самой от пяршыць, пяршыць, так і сьціскае горла болем пякучым, гаручай крыўдай. Ну й няхай, ну й што-ж, прападай яно ўсё пропадам.

— Няма ў мяне...

Усьміхаецца ўраднік у вусы—от маладзіца-ж ядроная, нібы яблык-антонаўка—ды кідае ў голас:

— А ў каго-ж яны будуць, каб гэта за цябе ды за прыгожую такую нядоімкі плаціць?

— Сказала—няма... і нямашака...

— Дык хіба цялуху запішам?—пытаецца стараста ў ўрадніка халодным бязуважлівым голасам, а сам пазірае скоса на кабету.

Скаланулася Настуля, пасунулася наперад на крок, сьцяўшы рашуча кулакі. Ня даць! Якое яны, маюць права адбіраць выгаданае табой, рукамі тваімі выпеставанае. От павыдзіраць вочы гэтыя агідныя, павыскубаць жоўтыя вусы, на кравянку пусьціць гэты нос урадніцкі, бурбалку гэтую паліваную. Толькі ня даць!

Але абмякла разам. Апусьціліся зьнясіленыя рукі, што ты тут зробіш. Ды й народу сорамна. Што-ж, няхай...

— А хіба хопіць цялушкі на выплат?—пытаецца ўраднік у старасты.

— Пералетавак... Нішто цялушка, мо' хто й купіць... Цена-ж невялікая...

— Ды от і я-б купіў хіба, каб гэта канечне пасхадней...—перамінаецца з нагі на нагу Іван Цыбала і ўнікае, каб сустрэцца з кім вачыма, бо чуе як колюць яго злосныя шэпты, галасы азьвярэлыя: «Крывасмок кожнага на бэльку засіліў-бы». А сам думае: «Дзівакі людзі, ну што я зрабіў ім. Хіба не ахвота кожнаму, каб гэта таньней ды зручней. Чаму-ж гэта й ня купіць, калі яно зручна. І хто-ж гэта ды сваёй гаспадарцы вораг?»

— Дык калі так, запісвай, стараста,—загадвае ўраднік.

— Ну, што-ж, бярэце... І хату сабе бярэце... І сьвіньню бярэце. Дзетак сабе бярэце, жытку маю, крсў маю—усё бярэце жывалупы... І ты от, дзядзька Цыбал, прыходзь... Мала табе ўсё, дык знайду яшчэ чым мяла тваё заткнуць пражорнае...

— Дай ты ёй рады...—шэпча Цыбал і туліцца за сьпіны другіх, уцяўшы голаў у плечы.

Звадыякі гэтыя сьлёзы. От трымалася-б, дык дзе там. Засьцяць вочы і плавае вуліца ў тумане шызым, не заўважыла як і ў хату прышла, села на ўслон ля вакна і так і прасядзела нярухома, пакуль ня прышлі на двор соцкія, ураднікі, стараста. Ды малеча зьбеглася з двароў суседзкіх, падзівіцца. Старыя тыя ня пойдуць, каму ахвота на чужое гора глядзець. Доўга ганялі цялё па агародчыку, пакуль не зьвязалі вяроўкай за шыю, павялі да варот, падганяючы хлабысьцінаю. І тады ня вытрымала Настуля. От, падкацілася камяком да грудзей злосьць вялікая, зьвярыная злосьць. З сянец выскачыла, гнеўная, чырвоная, з ускудлачанымі валасамі, з расхрыстанымі грудзьмі. Ухапіла ў рукі таўкач і рынулася, пабялеўшы і сьцяўшы зубы, замахнулася таўкачом над урадніковаю галавою.

— Ціху ты, што ты з розумам, Настуля,—кінуўся соцкі Зьмітрок і выбіў таўкач з рук,—апамятайся, небарака, ці варта цялё таго, што ты задумала...

А ўраднік, спакойны, от толькі крышачку зьбялелы, адступіў на крок які і размахнуўся бізуном. Той прасьвістаў у паветры і ўліп у Настульчыну сьпіну, кончыкам сваім сьвінцовым працёгшыся па грудзёх, па шчацэ. І яшчэ раз апяразаў бізун, прайшоўся з поцягам па здрантвеламу ад жудасьці целу.

Умэнт ня стала дзяцей на двары, разьбегліся хто куды.

Урадьнік стаяў і глядзеў з асалодай, як крывіўся твар, рабіўся няпрыгожым гэты твар такой прыгожай і ядронай як антонаўка та: маладзіцы, як уздрыгвалі нібы ашпараныя варам плечы, ды пальцы рук хапіліся за расьсечаную шчаку. І хацелася даць яшчэ скрамсаць на друзачкі гэтае жывое, прыгожае цела, гэтыя прывабныя, чырвоныя шчокі. Аж соладка зудзела ў руках.

— Кіньце вы, пане ўраднік!—кінуліся соцкія.—Ото-ж неразумная баба, маладая от, гарачая, жыцьця таго як сьлед не пабачыла... Кроў яшчэ ня выбрадзіла...

— Я от выбраджу... Была-б другая на мейсцы яе, дык пакарміла-б клапоў у халоднай з тыдзень, выхадзілася-б... Ды ладна ўжо, я чалавек ня злосны...

Староста стаяў моўчкі і ў яго вачах сьвяцілася сытасьць і задаволенасьць.

— Ну дык пойдам хіба...

Настуля як села на дварэ на прызьбе хаты, так і прасядзела да позьняга вечару. Схаваўшы твар у далоні рук, яна ня рухалася з мейсца і цяжкія, як тыя шэрыя каменьні—варушыліся ў галаве думкі, душылі жорнамі тымі на мозаг. Уткнуўшы насы ў шыбы вакон, заліваліся плачам дзеці ў хаце.

— Каб вы от ужо падохлі, клопат бы зьнялі ад мае галавы...

І дзесьці глыбока, глыбока ўзварухнулася пачуцьцё матчына, не грэшную благую думку абразілася.

— Чым жа от яны вінаваты... мае любыя...

Устала і, чапляючыся за сьцяну, пашла ў хату, сабрала павячэраць дзецям ды ўлеглася на палаці. Не хацелася ні распранацца, ні пасьцілаць дзяругі тыя, узьбіваць падушку нанач. Як лягла, так і ляжала з прыжмуранымі вачмі, так і заснула нераспранутай.

Падвечар на другі дзень соцкі зайшоў. Патоўкся з хвілінку ля парогу, на ўслончык сеў.

— Дарэмна гэта ты, Настуля, учора... Дзе ты гэта саломінай абуха пераб'еш?

— Ат, не кажэце ўжо...

— Ды гэта я к слову... Бачыш, ужо служба ў нас такая, каб з людзьмі напастыляцца... Ізноў жа ўраднік: ты яго халеру пальцам крані—у астрозе згнояць.

— Ды я да вас, дзядзька Зьмітрок, і ня маю нічога... Хіба вы тут вінаваты ў чым...

— А я думаў, крыўдзіцца ты будзеш... Усё-ж-ткі Лявон быў—хоць і маладзейшы куды ён—але-ж вялікі дружка мой. Колькі то на зайцоў папаходжвалі, на ліса... Харошы быў чалавек Лявон, дай то божа вярнуцца яму... А я вот па справе, ліст табе тут заказны, з арміі відаць, ад Лявона. Дык ты ўжо ня крыўдуй на мяне.

— Ды што вы, дзядзька Зьмітрок, далася вам гэтая крыўда! Узялі от, ну дык што-ж... Няхай іх ужо за печані возьме... Не ў пятлю-ж мне лезьці...

Вышаў Зьміцер, дзьверы за сабою прычыніў, от чутны крокі яго, хворткаю рыпнуў. Да ўсяго цяпер прыслухаецца чутка Настуля, от, пасьля ўчарашняга. От трэсьне бэлька над печчу, заварушыцца сашаль у дошцы—і чуе Настуля, балюча прыслухаецца да кожнага гука.

Запаліўшы лямпку, узялася за ліст. І доўга ўглядалася ў незнаёмы почарк—не Лявонава рука то ды й пячаткі навошта—і раптам зьбялеўшы перачытвала раз-по-раз кароценькія радкі. Ня верылася, не разумела, як то можа быць, каб Лявон... Каб мой Лявон... Гэты вясёлы, вечна ветлівы хлопец. І такія рукі, от што кража падымаў за адзін канец, гэткія ванчасы ўскідаў на кары? Ня можа быць... Няпраўда... Мо' хлусяць гэтыя літары слоў? Мо' ня так прачытала? А словы ўсё адны і тыя, слоў гэтых ня зьменіш, не пераставіш...

«... за веру, Цара і Айчыну паў сьмерцю харобрых на ратным полі...»

На ратным полі...

На полі...

Сьмерцю...

І калі зразумела—сьмерцю—тады схапілася аберуч за галаву і загаласіла немым голасам, голасам дзікім, зьвярыным, ад якога сьціхлі дзеці, што коўзаліся на бруднай падлозе, гуляючы ў нямудроныя свае гульні. Сядзелі моўчкі, і палахліва—от-от гатовы заплакаць—пазіралі на матку. Тая білася галавой аб стол, сьціскаючы ў руках канцы апаўзаўшага абруса ды нема ўсё галасіла. Мігацела лямпа, і яе водбліскі кlaліся палахлівымі плямамі на брудныя сьцены, на столь, на заваленыя рызьзём палаці.

Урэшце змоўкла яна, нейк выпрасталася раптам, выцерла хусткай вочы, кінула руплівы позірк на хату, дзяцей заўважыла.

— Тутака вы... Хадзеце от да мяне...

І лашчыла кудзелістыя галоўкі і думала ў голас:

— Паспытаеце от гора людзкога, бязбацькавічы... Вялікае яно—ні канца, а ні краю... Хто та аб вас будзе клопат мець... Дзіва от то: людзі—зьверы, кожны другога рад за горла ўхапіць... мала ўсё... Ненажэрныя людзі, ненажэрная злосьць лютаная... Але-ж што мне рабіць цяпер?—і прыслухалася да вячэрняй цішыні, нібы чакаючы адказу на свае думкі.

Ніхто не адказваў. Толькі шкрэблі мышы ў падпечку ды недзе ў сьценцы тачыў дрэва шашаль.

●

Сілівон Мялаў падплятаў вераўчаны лапаць і раз по разу кідаў косы позірк на жонку. Аўгіньня адцэджвала атварог на рэшаце і клала яго ў сырнік.

— Ты-ж глядзі от сываратку ў цэбар вылі, а то прападзе яшчэ задарма. А так парасятам будзе...

— Дзіва то, я ня ведала... Мо' сам пахлёбаеш?

— Цябе вучы дурную галаву, дык хоць бы падзяку якую... Вечна агрызаешся...

— Мо' пацалаваць цябе гнілога за словы твае ласкавыя, за навуку?

— Пацалуй от ужо Аніса...

Аўгіня глядзіць на мужа, выпрастаўшы стан, прыжмурыўшы зейкі і ў позірку гэтым не гарaць, а цьмеюць аганькі нянавісьці, агідлівасьці, нібы от не на чалавека глядзіць, а на чарвяка, на сьлізьня таго, на балотнага смаўжа.

Сілівон адчувае гэты позірк. На яго бязвусым і безбародым маршчакаватым твары відаць, як рухаюцца скіўцы, от перакусіў-бы ад злосьці падплетку, лыпаюць бязбровыя вочы.

— Вызьвярылася чаго, пытаю?

— А таго...

Ці варта гаварыць з гнілым. Аўгіньня моўчкі выкладае атварог, прымайстроўвае над цэбрам дно ад дзежкі, кладзе сырнік, дастае з сянец камень і націскае сыр.

— Глядзі ўжо, каб не зваліўся часам...

— А ты куды?

— А табе што?

— Да пытаю вось, сабралася куды?

— Куды ды куды... Пасяджу вось на прызьбе, суседак паслухаю...

— Глядзі!

— А ты без глядзелак. Добра бачу...

— Правучу...

— Правучы сваю долю...

— Ото-ж ужо сатана кручаная!

Аўгіня, накінуўшы хустку, ідзе на вуліцу, дзе сядзяць на прызьбе бабы, языкамі мелюць, апошнімі навінамі дзеляцца.

— А ці чулі вы, казалі от—Настулінага Лявона забілі, ходзіць маладзіца, ног пад сабой ня чуе. Дзіва то, пажылі колечкі... Сама што ні ёсьць пара—красавац толькі і—на табе, забілі... Ды гэткага-ж хлапца асілка...

— Дзіва што, сьмерць! Ці на вайне, ці ў хаце. Яна не разьбірае. Другому от толькі жыць ды красавац, і глядзі ты! А каторы даўно ў зямлю просіцца, альбо катораму і сьлед пайсьці туды, дык таго не кране. Дзе ўжо там, абыйдзе, таечкі, за вярсту.

І вочы, бач, спачуваючы пазіраюць на Аўгіньню... Аўгіньня маўчыць. Яна добра разумее гэтыя позіркі. Як жа, дваццаць восьмы год пашоў бабе, а счарнела ўся, на здыхлю тую зрабілася. І вочы дзе тыя, дзе падзеліся тыя шчокі. От сьцягнула падбародавік, адны косткі тырчаць, старыя спадніцы ня трымаюцца, дзе тое што і падзелася?

— Дык як Аўгінька, хіба ўжо кінуў лячыцца твой?

— Мой, мой... Які ён мой? Адчапецеся вы з гэтай падлай старой.

— А езьдзіў-жа ён, казалі, да знахара некуды...

— Што з таго, што езьдзіў... Такім ужо і сапсее. Што гэта яму па хваробе ці што, такім ужо й нарадзіўся, дзе ты тут вылячышся, калі застаўся такім, от... недаробак той...

— І глядзі-ж ты хоць бы табе валасіначка на твары, дык дзе-ж там, ня твар, а калека тое чыстае, голае... І мужчына з сябе нішто, здаецца... Бач і гаспадарку як даглядае. А от жа гнілы...

— Дзе там, таечкі, гнілы... Калі-б то Васіля, скажам, узяць Напрэявага, дык то гнілы чалавек, нутро ў яго ўсё сатлела, кырхае ўсё, кырхае, ды з твару ссох, як трэска тая. А тут хіба-ж ён хворы, паглядзець так, дык і здаравяка з сябе. От з Яўменам маім шулы ставіў, дык хіба ты з ім управішся!

Бабы пачынаюць перашэптвацца між сабой, чутны прыглушанныя сьмяшкі, прыглушаны, але даволі адчуваемы шопат: «да йдзі ты... от пажыві з такім-жа чалавекам... той жа, таечкі, чалавек, дык от...»

Прыкра Аўгіньні слухаць гэтыя перасуды, прыкра штодня выслухоўваць гэтыя надакучлівыя, нібыта й спачувальныя запытаньні, даведзіны, каторыя адчуваеш як кпіны, як зьнеслаўленьне часам:

— Бач ты, і жыве-ж з такім...

І неўзаметку пакідае Аўгіньня прызбу, на двор ідзе, соўдаецца па ім от так, без парадку, у хлеў зойдзе паглядзець на каровы, каб не папаролі часам адна адну, дужа-ж от наравістая адна, купленая, не свае гадоўлі.

Каровы ціха стаяць, ляжыць адна, жвачку жуюць і ў змрочным хляве чуваць толькі як пераступіць карова з нагі на нагу—от вахлюпчыць пад капытамі, ды прашамаціць часам кура на бэльцы, выцягваючы ў сьне курынае крыло сваё куцае.

— І жытка мая—от той жа сон курыны, ні табе радасьці, ні табе асаблівага гора...—думае Аўгіньня.—Усё ёсьць здаецца, і сыта, і абута, і клапот каб там якіх асаблівых, дык нямашака... А хаджу вось толькі як у сьне...

Аўгіньня пазірае на калёсы пад павецьцю, дзе прымайстраваўся занач Сілівон—дужа-ж у хаце прусы дапякаюць.

— Сьпіць ці ня сьпіць, нелюдзь?

Ідзе ў хату. Прыкрывае лепш дзіцёнка на палацях, ляжыць от, раскідалася.

— Дачушка мая, доўганосенькая...

І Аўгіньня ўспамінае ночы восенскія, ядроныя. Жыта малацілі. Дамапагаў Аніс, рукі тыя ў яго, рукі, цэпу ніяк не падабраць ім... Хадзіў Сілівон да хаты, рамня таго шукаць сырцовага, каб цапаўё падвязаць лепш. І ў еўні тады снапы выстаўляючы... Пахлі снапы полем жытнім, мяжой да курным дымам, духам сухім ад еўні. І колькі раз сустракаліся ўпотайкі, каб людзі ня чулі, ня бачылі за гумном, у Анісавай пуні... Любіліся торапка, хапаючыся, каб Сілівон не падумаў чаго, ня ўзяў на сваё вока. Але дзе ты схаваешся. Хвядос стараста колькі раз папікаў Сілівона—брата, што ты от кабеціну да рук не бярэш, глядзі, і кіне цябе зусім.

А калі дзіцё нарадзілася, хадзіў Сілівон як зьвер, усё дапытваў.

— Ад каго?

— Як-жа ад каго, ты-ж мужам даводзішся мне...

— Годзе капікі строіць, кажу... От як аперажу вяроўкай, дык завыеш...

— На гэта-ж толькі ты і здатны.

Спрабаваць падыходзіць з ласкаю:

— Ну чаго от ты на мяне вызьвяраешся? Ну, скажы, чыё,— і вокам ківаў на зыбку.—Як ніяк, я-ж бацька перад людзьмі...

— То та-ж што перад людзьмі...

— Ну й павінен я ведаць... Канечне, чаму і дзіцёнку ня быць, як-жа без яго ў гаспадарцы, павінна-ж яно гадавацца ўжо неяк. Але-ж павінен я й ведаць, дзе гэта ты...—хацеў сказаць «круцілася» і сказаў:—дзе ты яго падчапіла.

— А там-жа, дзе ўсе людзі... От што Сілівон, ня пытай ты мяне задужа аб гэтым, усё роўна я табе не скажу нічога, ні на валасіначку, ні на каліўца тое, ні на столечкі...

— Яна думае я й ня ведаю. Анісаў то быў інтэрас...

— А калі ведаеш, пытаеш навошта?—і сама зачырванелася.— То-ж хітрасьць гэтая бабская, нязграбная ды куртатая.

— У-у\... гадаўка, раструшу от... Каб ужо сына, дык як так, яно-б і да справы, як кажуць... А то на табе, чарапку от... Толькі звод у гаспадарцы...

Даўно гэта было, гадоў са тры, мо чатыры... Звыкся з дачкой трохі Сілівон, ня гыркае на яе, як раней, калі што:

— Ы-ы... байстручыха...

Але ня мог памірыцца з думкай аб тым, што вось ён Сілівон, працуй гэта, карпей, дубей, намагайся, каб усё ды ў гаспадарку, да паболей... А каму гэта, для каго, для якога чорта лысага петавацца. І ўся злосьць пераходзіла на жонку, на Аўгіньню. Яна сьвет замуціла, праз яе няма спакою. Дзіва то, ашчасьлівіць думаў, у аднэй спадніцы ўзяў... Раілі ўсе суседзі: працавітая, ціхая, не бязульная як другая там каторая... От табе й не бязульная... Схлусіў Цыпрон, сьпіхнуў дачку са свае шыі.

І ці шула часаў на двары, ці клаў жэрдку новую ў плот, ці новае грабішча стругаў, усё думаў:

— Не папушчуся, каб гэта маёмасьць мая ды пашла па мне пухам-прахам. Заб'ю, рукамі сваімі задушу, а не папушчуся... Хваробы... Няхай другі хто спажывае, толькі-ж не яна... Але-ж шула часаў, грабілна рабіў, папраўляў страху, ставіў новы сахор у гумне, вычэсваў з бярозавае плашкі новую падушку ў калёсы, спрытна даглядаў за гаспадаркай,—і ва ўсім гэтым знаходзіў асаблівую уцеху, больш як каму другому ўласьцівую яму. Прыемна было бачыць, як новая падушка ўсёроўна як улітая ў калёсы.

— Як вылітая тая, от-жа адгабляваў...

А за жонкай сачыў. Не то што каб хадзіў за ёю пільнаваць яе сьледу. От проста падазрона пазіраў на яе, любіў надакучліва распытваць: куды йдзе, куды зьбіраецца. І калі пазьнілася дзе

якім вечарам—нэрваваў, непакоіўся. Ня тое, каб рэўнасьць тая была, каб сэрца, сказаць, гарэла. Не! Баяўся другога байструка.

— Чаго, чаго, а сіло на цябе возьме ды й павесіць... Прыдбае ў тваю гаспадарку, узрадуе яшчэ дачкой якой. Як жа, рыхтуй Сілівон пасагі...

Кпіў над сабой і горка ўсьміхаўся.

●

Лаўрэн сына вучыў. Піліпа.

— Папаўся нарэшце, ірад...

Піліп выгінаўся як вуж, і зад яго то падскокваў на падлозе, то шураваў сукаватыя забруджаныя палавіцы, а рукі парыўчата хапаліся за Лаўрэнавы калені, якімі была моцна сьціснута Піліпава шыя.

— Ты от у мяне пакруціся, пакруціся ўжо, я табе хапану,— і ўсё прылаўчаўся, каб ямчэй ударыць па больш мяккаму мейсцу. І чым больш пападаў, тым ўсё больш паддавалася ахвоты зьнішчыць зьмясіць з гразёй гэтага гада, распусьніка гэтага. І ўжо лейцы не пападалі кожнага разу па намечанаму мейсцу, а часам стукаліся па падлозе, часам траплялі па Піліпавых каленках, і той аж заходзіўся тады, захліпаўся...

Ля печы стаяла ўнурыўшыся маці.

— Што-ж, няхай... Калі заслужыў рыштант, дык няхай от і паглядзіць крыху...—падумала і пашла на двор.

Лаўрэн аж узапрэў увесь, буйныя кроплі поту скочваліся з лысіны, з ілба, на якім натужыліся—от от гатовы лопнуць—сінія віхлястыя жылы.

— От табе за настаўніцу... Бач ты яго, каб за шкнарадзь да мяне вураднікі цягалі, на старасьці год зьнеслаўлялі... От табе за Цыпронавы сенцы, бач, і старому чалавеку напастыляе. Гэта табе за проса маё... Бач, у бацькі красьці, на курава цягаць. От я табе пакуру ўжо... Гэта табе—слухайся бацькі, гэта—ня бязуляй, гэта табе—навука, гэта от—матку перадражняць... Гэта-ж трэба—сямнаццаць год хлопцу, а розуму таго ні на капейку...

— Хопіць хіба ўжо,—нерашуча кінула маці, увайшоўшы ў хату.

— Глядзі, заступніца, а то й цябе аперажу...

— Ну, ну... аперазальнік такі знайшоўся... Павучыў крыху і хопіць...

— Ідзі, ідзі ўжо...

Вытнуў яшчэ колькі разоў, кінуў лейцы пад лаву.

— Глядзі каб апошнім разам, каб больш у мяне а ні-ні...

Піліп падняўся з падлогі і як дуж кінуўся за парог. Трымаючы рукой штаніну, ён спыніўся на міг ля плінтусу дзьвярэй і чырвоны, ускудлачаны высунуў бацьку кукіш. Нават перажагналася маці.

— На от, ёлуб стары, панікадзіла дзіравае... На от зьеж... Іш ты яго моду знайшоў, як ката біць... Пастой-жа... Я табе не дарую... Не да-а-рую, паслугач папоўскі... Ідзі вунь пападзьдзі цэбар вынесі...

— Замоўкні, гад... Ды што-б больш парогу майго не пераступаў, рыштант ты гэткі...

— Дужа парог мне твой трэба. Бач, струхлеў увесь... Табе-ж хіба пра папоўскае толькі і клопат...

— Сыдзі з воч, заб'ю!

Лаўрэн сеў на лаве і, сашчарэпіўшы рукі, маўчаў, унурыўшы позірк у кут.

— Ну, дык чаго расьсеўся, кажу... Як сеў, так і прыкіпеў. У людзей то праца, а ў цябе ўсё не па людзку... І сыноў разьбязуліў вось. Людзкое якое, дык яно да працы прывучна, а тваё хіба толькі па гародах чужых ладзіць...

— Ты ўжо гэта кінь. Не твайго гэта розуму справа. От ведай заціркру...

Лаўрэн яўна быў ня ў гуморы.

(Працяг будзе)

**Кузьма Чорны**

# БРЫГАДЗІРАВА ПАМЫЛКА

(Апавяданьне)

## 1

Самая гаваркая ў гурце была Волечка—бялявая, малая жанчынка. Яна сьпявала, гаварыла, заўсёды зьвінела на ўсё поле і на ўсю вуліцу. Цяпер, ідучы з поля, яна ўсё жартавала з жылатварага маладога мужчыны Ёсіфа Катлубайскага. Жартавала наконт таго, што ён сумысьля сёньня ўсё стараецца трымацца бліжэй да яе, бо ці ня думае адбіць яе ад мужа? Сам пануры Ёсіф Катлубайскі ўцягнуўся за дарогу ў жарты, сам пачаў жартаваць. Такая ўжо ёсьць густавалосая. Волечка: любіць сьмяяцца і жартаваць. За ўсімі сьледам клыбаў высокі і тонкі стары—дзядзька Гельскі.

— А дзе, кажаш, будуць дзяліць мануфактуру?—пытаў ён ужо нешта шосты раз Ёсіфа Катлубайскага.

Але той з-за Волечкі ня мог адказаць.

Як прышлі з работы, сабраліся ўсе ў свайго брыгадзіра Косьціка Раўтовіча, каб падзяліць мануфактуру. Мануфактуру гэтую кааперацыя адпусьціла на ўсю брыгаду. Яе было гэтулькі, што ўсім прышлося па кавалку і яшчэ асталася адна хустка, добрая, вялікая, з жаўтаватага паркалю і ў кветкі.

Нейк гэтак вышла, што ня прышлося нічога з гэтай мануфактуры аднэй толькі жанчыне, Марылі. Праўда, яна апошнія дзён шэсьць не хадзіла разам з усімі жаць жыта, але не таму, што не хацела, а таму што ёй даручылі варыць есьці дзецям у ясьлях. Можна сказаць, ні то што даручылі, а проста такі ўпрасілі, бо яна доўга не хацела станавіцца на гэтую работу. Гэта трэба заўважыць, бо пра гэта цяпер, увечары, у Косьцікавым двары, такая пачалася гарачая гаворка, што кончылася яна сьлязьмі і спрэчкаю.

Сам розум дыктаваў даць гэтую паркалёвую хустку Марылі: ёй ня прышлося мануфактуры, а хустка гэтая аставалася. І кожны гэтак думаў. Усё так ішлося, што адразу гэтак і зрабіць трэба было, аднак-жа гэтага не зрабілі.

Мануфактуру дзялілі паміж сябе, вядома, тыя, што працавалі ў брыгадзе. Праца была цяпер цяжкая. Жанкі жалі сярпамі жыта, а мужчыны дакошвалі куп'істую сенажаць. Сярпамі жалі жыта не таму, што ў калгасе ня было жняярак. Дзьве жняяркі, простая і снапавязалка, жалі ў іншым палетку. А сярпамі жалі там, дзе быў засаджан

сад. Маладыя яблынькі адно самымі вяршкамі выглядалі паверх жыта. Пусьціць туды жняярку, значыцца зглуміць сад і жняярку сапсаваць: шчэпы былі паабгароджваны калкамі.

Работа жанкам на жніве была цяжкая. Дык з-за гэтага і пашоў гармідар.

— Што будзем рабіць з хусткаю?—падаў голас брыгадзір Касьцік Раўтовіч, калі падзялілі мануфактуру.

Бачачы, што ўсе маўчаць, ён падказаў сваёй брыгадзе, куды павярнуць гэтую хустку.

— Што будзем рабіць з Марыляю?—сказаў ён.

Тады абазвалася з свайго месца маленькая жанчына Волечка:

— Даць Марылі гэтую хустку.

— Даць, даць!—пачулася некалькі галасоў.

Касьцік ужо ўзяў хустку з табарэта, што стаяў пасярод двара і на якім мералі мануфактуру, і хацеў ужо даць яе Марылі. Але Марылі ён перад сабою ня бачыў.

— Марыля!—сказаў ён, бяры хустку.

— Марылі няма,—адказаў хтосьці.

— А дзе-ж яна?

— Яна з самага пачатку, як толькі пачалі дзяліць, пашла да дому,—там яна адно дзіця пакінула. Яна мне сказала, каб я ўзяла яе частку і занесла ёй. Давайце сюды хустку—гэта сказала Волечка і ўсе глянулі на яе.

— А-а, якраз і няма яе,—сказаў Касьцік, рушыўшы да Волечкі, каб перадаць ёй хустку.

— Увяла-б дзіця на рукі і прышла-б сама,—пачуўся раптам бурклівы голас.

Гэта сказаў дзядзька Гельскі. Ён заўсёды і пра ўсё гаварыў гэткім тонам, ці рад чаму, ці ня рад, тон яго заўсёды аднолькавы, бурклівы. Раз, напрыклад, ён убачыў як араты спыніў коні і адвярнуўся ад ветру прыкурыць папяросу. Левы конь за гэтую паўхвіліну пасьпеў ублытацца ў пастронкі. «Каб на табе, хлопча, шэрсьць курэла з тваім курывам разам»—сказаў дзядзька Гельскі,—«бачыш, конь ублытаўся... Кураць, смокчуць бяз канца і бяз меры! У цябе, ужо, мусіць, у вантробах як у коміне. Усё пракурана!»—І сказаўшы гэта, дзядзька Гельскі здорава пыхнуў махорачным дымам з вішнёвага папяросьніка. Другі раз было гэтак: хтосьці прынёс на сенажаць біклагу вельмі добрага хлебнага квасу. Дык і дзядзька Гельскі такі ніштавата пацягнуў з біклагі, разам з усімі. Ужо як падмянчваў касу, прабурчэў сабе пад нос: «От каб квасу, канечне! А вады з-пад гнілое купіны ня хочаш?!»

Дык і цяпер гэтак сама прабурчэў ён пра Марылю, што яна, не дачакаўшыся канца дзяльбы, пашла дадому.

— Я-ж кажу, што я ёй занясу хустку,—яшчэ раз сказала Волечка.

— Занясі, занясі,—бацькаўскім тонам сказаў Гельскі.

Дык тут і пачалася гаворка. Перш за ўсё падаўся крыху наперад Ёсіф Катлубайскі. Ён падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўва-

жыў сам брыгадзір Косьцік Раўтовіч. Але і не на гэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад катоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ў меру.

— Даць гэтую хустку Косьцікавай Галене.

Гэта значыцца Косьцікавай жонцы. А гэтая Косьцікава Галена нешта ўжо блізка месяца на работу не хадзіла. Сама яна стаяла цяпер тут-жа.

Волечка ад гэтых словаў ўся ўстрапянулася, але ў справу спачатку не ўмяшалася, ня думаючы, каб справа сапраўды павярнулася ў гэтакі бок. (І без яе тут абыдзецца, а сказаць што небудзь супраць Галены, таксама нядобра, бо заўсёды-ж яны жылі, як блізкія таварышкі).

Бачачы-ж, што ўсе на момант прыціхлі, яна сказала, тэтак, каб не пакрыўдзіць Галены:

— Чаму гэта не даваць хусткі Марылі?

Ёсіф Катлубайскі ўставіў вочы сабе ў боты і ўпарта буркнуў:

— Каб ёй патрэбна была гэтая хустка, яна была-б тут.

— У яе дзіцё малое.

— Магла-б узяць дзіця на рукі і прыйсьці сюды.

— Як-жа гэта будзе, усім што-небудзь прышлося, а Марылі нічога?

— Эт, усе на полі робяць да сёмага поту, а ёй там дзецям есьці наварыць—невялікая работа. Яшчэ і сваіх дзяцей там лепш прыкорміць.

Тут і пачалася спрэчка. З аднаго боку, дзе задавала тон Волечка, крычалі:

— Яна не хацела ісьці ў ясьлі! Яна лепш-бы ахвотная была разам з усімі на полі.

— А есьці варыць, дык гэта не работа? Яна раней за цябе ўстае зранку: такуль зьбярэ з чаго варыць!

— Тут ня ідзе гаворка пра гэтае варыва, а пра Марылю. А яна нават лепш за ўсіх рабіла. Яна як рабіла на полі, дык больш за ўсіх работу гнала.

На гэта ня было чаго сказаць, дык з таго боку, дзе задаваў тон Ёсіф Катлубайскі, адно чуваць было раз-по-разу:

— Ат, цацка вялікая—паркалёвая хустка! Гэтулькі крыку з-за няма чаго. Шкада каб хустку ўзяла Галена! От-бо народ! Бяры, бяры, Галена, хустку.

Нарэшце ўжо справа павярнулася гэтак, што важна было ня тое, што Марылі ня прыдзецца хустка, а тое, як гэта Галена возьме хустку, калі яна на поле ня ходзіць рабіць, тады, калі ўсе, што дзялілі мануфактуру, робяць дзень пры дні на полі.

— Вазьму хустку,—апраўдвалася Галена,—а пасьля ўсе гаварыць будуць, што калі жонка брыгадзіра, дык і хустку ўзяла.

— А брыгадзіравай жонцы хусткі ня трэба, ці што?—рубам паставіў справу Ёсіф Катлубайскі, і косьці ў ягоных скіўцах заварушыліся,—бяры, бяры, Галена, хустку.

Галенiны вочы проста такi гарэлi, як кiдала яна позiркi на хустку, ёй вельмi хацелася гэтую хустку ўзяць.

— Лiха ведае што рабiць?—гаварыў адно раз-по-разу зьбянтэжаны Косьцiк.—Не хачу я гэтае хусткi. Пасьля адно крыўды не абярэшся.

I ён паклаў хустку на табарэт.

— Бяры, бяры, Галена, бяры!—крычаў усё Ёсiф Катлубайскi.

Але Галена чакала, каб ёй хто даў гэтую хустку ў рукi.

— А як-жа Марыля будзе!—крычала Волечка. А пасьля страсянула кулакамi:—Галена, не бяры хусткi!

Хустка ўсё ляжала на табарэце. Нiхто яе не чапаў. Усе пакрысе адступалiся ад табарэта. Нарэшце па адным пачалi разыходзiцца, бо было позна, даўно зьмеркла i толькi захад яшчэ ўсё ружавеў. Так усе i разышлiся. Волечка iшал дадому, крычучы сваiм:

— Катлубайскi думае, што калi Косьцiк брыгадзiр, дык ужо i начальнiк? Мы-ж яго самi выбралi за брыгадзiра. Гэта-ж гэтак падлiзвацца к' Косьцiку! От чалавек! Падлiзваецца! Падхлебнiк нейкi, а не чалавек!

Усе ведалi, што гэта i сапраўды так. Таксама ведалi, што няма нiякай патрэбы Ёсiфу Катлубайскаму падлiзвацца да Косьцiка Раўтовiча.

Але раз хустка ўжо асталася на двары, а кожны сваё атрымаў, а тымчасам позна было, а заўтра ледзь дзень нахопiцца ўставаць трэба будзе, дык усе разыходзiлiся, пачынаючы ўжо гаварыць пра сваю кожнадзённую работу. Адна толькi Волечка ўсё гаварыла пра «падхлебнiка Ёсiфа Катлубайскага», а як адышлася далей, дык загаварыла i пра Галену.

— Сквапная якая! Няма каб сказала, што ня трэба мне, значыцца, гэткае хусткi, дык не—каб самой глынуць!

Неўзабаве ўсе разышлiся, толькi некалькi мужчын i хлапцоў спынiлася на вулiцы закурваць на адыходак. I от яны ўбачылi як Косьцiк з вельмi гаспадарлiвым i заклапочаным выглядам прайшоў паўз iх да калгаснага двара з мэтроўкаю (меркаю) на плячы. Гэтаю мэтроўкаю ён цэлы той дзень мераў палеткi: разьбiваў аратым дзялянкi i правяраў скошаныя сенажацi.

Так гэта было цi ня так, але некаторым здалося, што Косьцiк гэта сумысьля i без патрэбы пашоў гэткi заклапочаны на калгасаўскi двор, каб паказаць, што ён вельмi многа стараецца, многа мае клопату. А, значыцца, няма вялiкае ў тым бяды, калi жонка яго ўзяла хустку. Так падумалi людзi. I ўзьбiў людзей на гэную думку дзядзька Гельскi.

— Узяла Галена хустку, цi не?—сказаў пацiху хтосьцi

Усе адступiлi пад Косьцiкавую хату. У хаце гарэла газовачка. Яна ледзьве асьвятляла гэтую старую, трухлявую, як склеп хацiнку. Малюсенькае люстэрачка вiсела ў ёй на сьцяне, i Галена стаяла перад iм у тэй самай хустцы на галаве, углядаючыся—цi да твару ёй гэтая хустка.

Убачыўшы гэта, усе і разышліся. І пра ўсё гэта назаўтра забыліся. Не забылася толькі адна Волечка. Ёй не давала спакою «гэткая няпраўда».

2

Па пайдні было на вуліцы пуста. Сыпёка стаяла ў паветры. Сонныя вароны відны былі на жардзяных загарадзях ля паплаваў.

Ля самае старое хаты ў вёсцы была прытульная мясьціна: хата стаяла крыху ўглыб двара і перад ёю расьлі клёны і каштаны... На прызьбе, у халадку і сядзеў цяпер дзядзька Гельскі. Шырока, але ня цьвёрда (не здаравілася яму гэтыя дні) паставіўшы ногі на зямлю, ён, здавалася, узрос у гэтую прызьбу. Саломінкаю ён калупаў зубы.

Неўзабаве вышаў з хаты сам гаспадар, мажны чалавек з вусамі—Пракоп.

— Хутка трэба ісьці,—сказаў ён.

— Пойдзем зараз,—адказаў Гельскі.

— Сёньня бадай што мы гэтае сена і высушым.

— Можа быць.

— У мяне зуб у граблях зламаўся. Дык ты пасядзі тут, а я пайду зуб гэты ўставіць; і тады пойдзем.

— Ідзі ўстаў і тады пойдзем.

— Я марудзіць ня буду. Я от зараз. Яшчэ ня позна, яшчэ ніхто нават і снапы вязаць ня пашоў пасьля абеду.

Гельскі астаўся адзін. Неўзабаве падышла да яго калгасьніца Рыва.

— Ішлі ўжо жанкі снапы вязаць?—запытала яна.

— Уг-га,—засыпяваў Гельскі,—даўно пашлі.

— Ня можа быць!—перапалохалася жанчына.

— От табе й ня можа быць,—холадна прабубніў Гельскі.

— У каторы-ж яны палетак пашлі?—аж калацілася жанчына.

Гельскі спачатку яшчэ памучыў: ён спакойна калупнуў зубы, пачухаў за каўняром і дастаў тутунь з кішэні. Пасьля ўжо даў адказ:

— Ня ведаю, галубка, у які яны палетак пашлі.

І твар у яго быў спакойны, нічога на гэтым холадзе ў гэты момант не адлюстравалася.

— У які-ж палетак бегчы?

— А што я, галубка, ведаю!

Жанчына пабегла. Гельскі курыў і калупаў у зубах. Пракоп вышаў з граблямі.

— Пойдзем?—сказаў Пракоп.

— У цябе здаецца квас добры, вынясі з паўкварты.

Пракоп вярнуўся ў хату вынесьці Гельскаму квасу.

Увечары, як варочаліся з сена, Гельскі яшчэ зайшоў да Пракопа выпіць квасу. Пракоп, пакінуўшы яго аднаго ў хаце (жанкі з поля яшчэ ня прышлі), вышаў у сенцы цадзіць з кадушкі квас. Сеўшы на карачкі пад кадушкай, ён злаваў потайкам:

— Каб цябе халера гэтага чалавека. Сам ня можа квасу паставіць. Няма, кажа посуду гэткага, каб квас ставіць. Каб ты гэтак жыў, як у цябе няма посуду! Яшчэ старасьвецкіх кадушак поўна прыпрэбка. Каб ты смалы напіўся.

— Ты квасу камусьці шкадуеш?—абазвалася жонка, стоячы ў дзьвярох (яна ўвайшла і чула Пракопа).

— Не шкадую, а сабачае хціваесьці цярпець не магу.

У хаце Гельскі піў квас і ўсё гаварыў, што няма часу сабраць рассыпаную кадушку, каб паставіць квасу. Пракоп нічога не адказваў: натура ў яго гэткая, што любіць ён каб усё добра і ціха было, вылаяць чалавека ў вочы ня можа; цяжка яму і словам зьняважыць чалавека.

Гельскі даў дабранач і пашоў дадому. У хаце зусім ужо было цёмна, мухі ледзьве гулі, усаджваючыся на столі, пакуль не запаляць агонь.

— Каб ты ведаў, што з Рываю сёньня было,—сказала Пракопіха.

І яна расказала, што Рыва дала ў той дзень ходу, шукаючы вязальнікаў. Яна абегла два палеткі і нідзе нікога не знайшла, бо ніхто яшчэ ня выходзіў вязаць. Яна ўбачыла, што з яе пакпіў Гельскі, што вязальнікі яшчэ ня прышлі на работу пасьля абеду. І яна адна пачала вязаць снапы. Нейкі час яна вязала і, бачачы што ніхто ня прыходзіць, кінулася ў другі палетак. Там ужо ішла работа.

— Позна прыходзіш,—сказалі ёй жанкі.

— Я раней за ўсіх прышла. Я ў тым палетку вязала,—пачала даводзіць яна.

— Чаму-ж ты разам з усімі ня прыходзіш? Трэба раней гэты палетак зьвязаць, а там—сырое, можа паляжаць.

Рыва пачала расказваць, як з яе пакпіў Гельскі. Расказваючы, яна заплакала.

— Чаго ты плачаш, дурная,—пацешыла Рыву Волечка.—Плюнь.

— Каб-жа ён блазен, а то стары!—крыўдзілася Рыва.

— Паскуда гэткая!—вылаяла Волечка Гельскага.

Пракопіха расказвала пра гэта здарэньне з Рываю і пра тое, як Волечка цешыла Рыву і злавала на «старога гада» Гельскага.

Пакуль павячэралі, ціхманы Пракоп сам укінуў некалькі слоў у гаворку—не спагадных да Гельскага: «хоць ён мне крыўды і ніякае не зрабіў, але...»

Пракоп пашоў спаць у адрыну. На захадзе неба яшчэ ўсё ружавела—захад быў відзен праз разабраны шчыт. Але пачало хмарыцца, і захад пачарнеў. Пачаў узьнімацца вецер, здаравей стала, прапала духата. Пракоп можа з паўгадзіны драмаў, пакуль заснуў.

Дрымота заімчала яго нешта за чвэрць веку ўглыб часу. Думкі, успаміны, уяўленьні—усё ішло, блыталася, стаяла, варушылася, зноў ішло.

Нейкі хмурны і здаровы дзень быў у пачатку восені. Суха было. Гельскі і Юзік Кірбуць (цяпер нябожчык ужо—дрымотная Прако-

тава думка на Кірбуцю доўга не стаяла) —яны ўдвух вярнуліся з гораду на Гельскага каня і прывезьлі повен воз у саломе усялякага дробнага (а на сваё мястэчка нават і ня дробнага) тавару. Там была бочка піва, скрыня з крамнымі кілбасамі, другая бочка з селядцамі, мяшок з цукерачнымі пакуначкамі і яшчэ ўсяго падобнага там шмат было: ні то крамку, ні то «піцейную кватэру» трымалі яны ў хаўрус у мястэчку. А маючы свайго каня—часта льга было езьдзіць у горад па гэткі «піцейны» тавар. Маючы сваю гаспадарку льга сьвіней падкормліваць. А падкормліваючы сьвіньня—ёсьць што падаць свайго на закуску ў «піцейнай кватэры». Так пакрысе гандаль і ішоў. На гаспадарцы рабіў парабчук.

Дык Гельскі з хаўрусьнікам прыехалі былі з гораду. Тавару ім пашэнціла купіць выгодна, і з тэтае прычыны Гельскі быў вясёлы, узбуджаны. Нават, што мала калі здаралася, гаварылі хаўрусьнікі паміж сабою пасяброўску, у руку адзін аднаму, паджартоўвалі адзін з аднаго: вельмі-ж ужо гладка, як выгаблевана шархэблем, было ў іх і ў галаве і ў сэрцы. Яны прыехалі папаўдні, надвечар і кожны пабег дадому папалуднаваць. Гельскі нават дома перад сваёю сям'ёю рызыкаваў і нават на большай як заўсёды адлегласьці ад сябе трымаў жонку (вядома, да ночы). Быў ён тады яшчэ здаровы, у самай моцы. Росту ён страшэнна высокага і танклявы (цяпер, пад старасьць, сагнуўся адно ў хударлявых плячах сваіх).

На змроку хаўрусьнікі сышліся зноў у Гельскага гумне—здымаць з воза тавар.

Кожнаму суседу хацелася падыйсьці паглядзець на гэтую іхнюю работу, але ўсе ведалі, што ня любяць яны гэтага. А злашча Гельскі, што верыў у нядобрае людзкое вока. Ён будзе маўчаць надзьмуўшыся, а Кірбуць—дык той гатоў проста аблаяць. Дык толькі самы блізкі сусед прышоў ды і то дабраў прычыны: прынёс пазычаную на тым тыдні сякеру. Пракоп, тады яшчэ малады, нядаўна жанаты чалавек, таксама трапіў быў у двор да Гельскага: ішоў якраз вуліцаю і зайшоў. Убачыў, што хаўрусьнікі, як сугнялі соўгаюцца каля воза, разьбіраючы яго, ён доўга там не стаяў. Пашоў, а як вышаў на вуліцу, мацюгнуў хаўрусьнікаў за тое, што яны ёсьць яны.

Дык у той самы вечар адбылася ў мястэчку вось якая справа: поп здаў у арэнду усю сваю зямлю. І заарандавалі тую зямлю тыя самыя ўсё хаўрусьнікі: Гельскі і той другі...

Тут ужо зусім Пракопавы думкі сыцьмелі, некалькі абрыўкаў прайшло яшчэ.

Заарандаваўшы папоўскую зямлю, Гельскі неўзабаве кінуў гандаль. Папоўскую зямлю здаў напалавіну людзям. Гэтак цягнулася аж некалькі год. Пасьля папу зноў самому зажадалася трымаць гаспадарку... Але пакуль гэты гішэфт з папом раскідаўся, Пракоп, разам з іншымі, рабіў Гельскаму напалавіну папоўскую зямлю.

Даўно гэта было, можа больш за чвэрць стагодзьдзя прайшло ўжо ад таго.

Гельскі пасьля таго многа перапрабаваў камэрцыйных і ўсялякіх іншых спраў, але ўсё нейк сышло. Як ішлося на тое, как быў ён цяпер калгасьнік: ніводнае справы доўга ня трымаўся. А перад вялікаю вайною вольны быў ад гэткіх спраў: пачаў рабіць дома—стальмашыў, а для зямлі—трымаў хлапчука-парабчука. Пад гэты час прыпадае росквіт яго стальмашнага рамяства: пачаў нават перарастаць у мэханіка: нанава адбудаваў, папсаваны пажарам ветрак млынару Аляксандру Паціеўскаму. На гэтым этапе свае дзейнасьці, ён раз, падвышіўшы убачыў як праз мястэчка праімчаўся панскі аўтамабільчык (першая навіна на ўсю акругу). Дык Гельскі тут-жа на месцы пачаў хваліцца, што каб ён адно паглядзеў зблізку гэтую машыну, дык сам такую-ж зрабіў-бы. Местачкоўцы не далі веры, але слухалі...

І заўсёды Гельскі меў прывычку вельмі бедніцца.

Сон агарнуў Пракопа як мае быць.

3.

Волечка сьцялася прызыціся з Гельскім:

— Вы стараліся, каб Косьцік узяў хустку! Не павінен ён быў яе браць.

— Каб ня ўзяў, дык быў-бы дурань!—не маргануў нават і вокам Гельскі.

— Чаму дурань?

— А таму што хустка павінна астацца яго жонцы.

— Чаму гэта? Яна-ж на работу не хадзіла.

— Як-жа яна пойдзе, калі ў яе дзіця малое.

— Ну дык от-жа.

— Ну дык і от-жа! Ня ходзіць яна на работу, дык сам Косьцік як чорны вол удвая робіць. Ты думаеш за брыгадзіра лёгка быць?

— Але-ж яму за брыгадзірства большыя працадні налічваюцца.

— А ты хочаш, каб не налічваліся? Ён-жа і ўночы спакою ня мае. Ты-ж сама можа не сьляпая, а бачыла, як ён, небарак, плішчыў на калгасаўскі двор мэтроўку, аж вочы ў яго на лоб вылазілі, тады-ж, уначы, як падзялілі былі мануфактуру.

— Вы сьмяецеся, дзядзька, з Косьці! Мэтроўку малое дзіця панясе! Гэта кпіны ня з Косьціка! Гэта з чагосьці іншага!

— Я сьмяюся? Я гавару што бачыў. А калі я ня пускаю сьлёз гаворачы, дык гэта ўжо бяда? Плакаць трэба? Я плакаць ня буду. Гэта ты летась казала, што ў калгасе дрэнна.

— А што, добра было летась, калі калгас ледзь не раскідаўся?

— Ды ныючы не паправіш. Ня ныць трэба, а рабіць. Папрывыкалі вы ныць!

— Я ведаю вашыя хітрыкі!

— Ну бо ў цябе-ж галава разумная.

— Хустка ў Косьці, Марыля цяпер кляне ўсе нашыя парадкі... Ей памагае Рыва.

— Усім не ўнаровіш. Ты думаеш брыгадзір дарэмна павінен за ўсіх рабіць? Чужая праца табе ня страшна?

— Чужую працу абараняць узяўся!

— Косьця табе ня які небудзь элемэнт. Ён франты прайшоў, ён порах нюхаў, а хто дзе аддзякаваў яму? У яго натура такая—сам ня возьме, пакуль не ўгаварыць яго. Гатоў сам сябе ў крыўду пусьціць.

— Чужую крыўду бароніш, а сам...

— Што сам! Кулак я раскулачаны, ці што? У калгас пралез? Маёмасьць схаваў?

— А можа і схаваў.

— Схаваў? А сама ты многа схавала?

— Я—гэта я. Я да калгасу, ледзьве пражывала на сьвеце.

— А я? Можа яшчэ я за цябе бяднейшы быў! Дробна ўсё ў мяне ішло.

— Дробна! Дробны, ціхенькі, у ціхім балоце чэрці вядуцца.

Тымчасам Ёсіф Катлубайскі гаварыў Косьціку:

— Ты запісаў, браце, там быў мне тыя пяць дзён у працапаўдні. Праўда, мне тады прышлося было да поўдня рабіць тыя дні. Але— запішы на поўныя дні, што табе значыць. Ты вінаваты ня будзеш. Праўда, ня плаціць багаты, а вінаваты, гэта так, але—братка ты мой! Я на тое месца наганю работаю. Пастараюся. Раней за ўсіх выйду калі на работу, пазьней астануся. Ад мяне калгас крыўды мець ня будзе.

— Як-жа я запішу?

— Вазьмі ды запішы.

— Падумай, што ты гаворыш!

— Гавару... Вазьмі ды запішы, пасвойму. Свая справа.

— Свая справа?

— Ад мяне калгас крыўды бачыць ня будзе. Не такі я чалавек. Я-ж кажу.

Брыгадзір ня бачыў спакою і ад Волечкі. Гэтая ўвішная жанчынка раз запарвала яго на вуліцы:

— Ты рад, што каля цябе стараюцца ўсялякія гады і падхлебнікі. Ты слухаеш. А Марыля ўсім гаворыць, што яе пакрыўдзілі. І ўсе за яе. Бо і праўда. Большае права яна мае на хустку за тваю жонку.

І нешта Косьця пачаў заўважаць, што Гельскі ветлівей як заўсёды пачаў вітацца з ім. Разам з тым, ён сапраўды ўбачыў, што нешта нядобрая выходзіць з гэтаю хусткаю справа. Некаторыя нават паглядаць на яго крыва пачалі, нейкае як-бы недавер'е пачаў заўважаць ён сярод людзей да сябе. Вядома, тут яму магло ўжо больш як было здавацца, але ўсё-ж штосьці і сапраўды было. Вельмі-ж Ёсіф Катлубайскі паддаў яму думак: «значыцца яму трэба было да мяне падлізацца, каб пасьля сьмела прасіць мяне пайсьці з ім на нячысты гешэфт? Напішы яму поўных пяць дзён! От на што ён угаварваў мяне, каб я ўзяў гэтую чартоўскую хустку! Але чаго тут стараўся

Гельскі? У калгас ён не пралазіў, а пашоў сьмела. Ён ня кулак, бо ў яго нават у апошні год і каня ня было».

Адзін раз Гельскі зноў сядзеў на Пракопавай прызьбе. Косьця падышоў туды-ж. Гэта як і той раз была пара полудню. Неўзабаве меліся выходзіць у поле.

— Квас у цябе добры,—сказаў Гельскі Пракопу.

— Быў ды няма,—адказаў Пракоп.

— Дзе-ж ён дзеўся?

— Дай рады. Выцек, усе сенцы заліў. Клёпка адна была зломаная. Да часу сяк-так ліпела, пакуль не адвалілася... То ты хіба ідзі бяры граблі, я цябе пачакаю і пойдзем.

— А-а, шкада, што квас прапаў... Такі пайду па граблі. Я зараз прыйду...

Гельскі пашоў, як толькі ён крыху адышоўся, Пракоп пашоў у сенцы і вынес сабе і Косьціку квасу.

— Квас-жа выцек?

— Каму выцек, а каму і не. Ого! Ён усё бедніцца. Гнецца. Увесь век прывык гнуцца, тужыць, што ў яго нічога няма, што ён бедны, дробнае ўсё ў яго... А некалі гандляваў... Не памятаеш ты, малы быў... На паўпанскі капыл выраўняцца стараўся. Дармо, што ён як-бы бядняк—нават каня ня было апошні год. Капяні ты яго, дык у яго на дваццаць год хопіць, нічога не робіўшы. Я гэткіх жміндаў ведаю! Цярплівасьці мае не хапае з гэтым чалавекам. Чалавек гэты—юха добрая. Ты чуў як ён з Рывы насьмяяўся? Цяпер тая крыўдзіцца, што ўсё нядобра, што ў калгасе зьдзекуюцца з яе... Ведама, баба цёмная...

Гельскі прышоў з граблямі і ўбачыў у конаўцы недапіты квас.

— Квас?—сказаў ён.

— Квас,—весела засьмяяўся Косьця.

Яны ўтраіх пайшлі на сенажаць і Гельскі ўсю дарогу маўчаў. Назаўтра-ж было вось што:

З самага раньня, калі яшчэ ня выганялі на поле жывёлу, Волечка прыбегла да Марылі. Тая зьбіралася ісьці ў абору па малако ў ясьлі. Яна стаяла перад люстэркам і ўглядалася ў яго—ці да твару ёй новая паркалёвая хустка. Волечка хацела расказаць Марылі пра справы з хусткаю, і ня толькі расказаць, а заявіць, што яна гэтае справы так не пакіне. Але яна як-бы пачала пазнаваць хустку, што была на галаве ў Марылі.

— Якая гэта хустка?—запытала Волечка.

— А гэта мне толькі што Косьцік прынёс.

— Што ён гаварыў?—не сьцярпела Волечка.

— А ён гаварыў, што ўсе паднімалі гаворку, каб гэтую хустку даць ня мне, а ягонай Галене. Але раз Галена на работу цяпер ня ходзіць, а я раблю, дык ён гэтую хустку прынёс мне. Не хачу, кажа, блытацца з Гельскім і Катлубайскім.

— Я адразу казала, я яшчэ тады казала, што так трэба зрабіць. Дык мяне тады ня слухалі! А цяпер—дык самі... Каб я тады не пакрычала, дык так і асталося-б,—весела гаварыла Волечка.

4

Сэкратар ячэйкі гаварыў калгаснаму старшыні:

— Даўно ўжо я думаю што ў цябе Гельскі не калгасьнік, а гніда.

— І я гэта ведаю,—адказваў старшыня.

— Чаму-ж ты яго ня выкінеш?

— Я ня маю за што ўчапіцца.

— Учапіцца? Учапіся за ўсяго яго, за Гельскага.

— А прычына?

— А прычына сам Гельскі. Склікаць трэба сход і пагаварыць пра Гельскага. Я нюхам чую, што ён не калгасьнік.

— Пачакай,—сказаў старшыня,—цяпер нядаўна пра Катлубайскага працадні, пра паркалёвую хустку—нейкія гутаркі былі. Пакуль не забыліся—можна з гэтага пачаць? Можа што выявіцца.

У той-жа дзень, увечары, вось што было:

— Ага, ты здагадаўся? Дадумаўся такі нарэшце!—крычала Волечка ў самы твар брыгадзіру Косьціку Раўтовічу.—Ты нарэшце здагадаўся, а дзе-ж твой раней розум быў! Табе трэба паказаць пальцам, а сам дык ты ня можаш бачыць! Аддаў хустку, дык маладзец! але можа крыху запозна?! Цяпер хочаш каб усё ціха было, калі Марыля папакрычала, што ў калгасе ўсё гэтак: хто сабе зграбе, таго і права. Гэта яна папакрычала. Крычала яна не таму, што сама ў гэта верыць, а таму што яна адразу павінна была мець гэтую чартоўскую хустку, няхай-бы яна згарэла!

— Я сам спачатку не хацеў браць. Я сам гаварыў, каб даць хустку Марылі.

— Дык трэба было і рабіць гэтак. Ніколі з свае думкі ня зьбівайся. А то ты паслухаў Гельскага і Катлубайскага.

— Паслухаў, гэта праўда. Але-ж і не адны яны гаварылі.

— Іх сёй-той падтрымаў. А ты і раскіс. Рад што табе хустку даюць! Ты ведаеш, што ты зрабіў? Цяпер і Гельскаму добра і можа яшчэ каму. Чым большы неспакой, крык і крыўды тут у нас, тым...

— Я ведаю. Пракоп гаварыў пра Гельскага.

— А хоць-бы гэты і Пракоп! Дома ў запечку, дык і ён гаворыць, а дзе на людзях, дык...

Гутарка гэтая адбывалася на тым-жа ўсё самым Косьцікавым двары. Народу ўсё зьбіралася больш. І ўсё адчувалі, што пара ўжо забыцца на гэтую хустку, бо штосьці большае выростае тут.

Як прышоў Ёсіф Катлубайскі, Косьцік адразу загаварыў да яго, сьцішыўшы ўсіх:

— Я гавару перад усімі: ты ўгаварваў мяне, каб я табе напісаў лішніх працадзён. Ты думаў, што я гэта зраблю табе за тое, што

ты даваў мне хустку? Дык я зрабіў памылку, узяўшы хустку. Яе я аддаў Марылі, ёй яна павінна была належыць з самага пачатку.

— Ты прагуляў пяць працадзён,—закрычала Волечка,—і думаў, што табе запішуць за поўныя дні? І на гэта падлізваўся да брыгадзіра? Прызнавайся!

А пасьля Косьцік загаварыў да Гельскага.

— Ты мог, скажам, па шчырасьці спрыяць мне, з гэтаю хусткаю,—сказаў Косьцік,—але вось!

І ён паказаў на Рыву. Рыва вышла наперад, каб гаварыць.

— Пакуль тут яна сёньня скажа пра цябе,—закрычала Волечка,—дык гаварыла яна, што ў калгасе бегала, шукала гурту і калгас лаяла. Вось яна зараз скажа пра цябе!

— Я па шчырасьці спрыяў табе, наконт хусткі.

— Па шчырасьці спрыяў?—перабіла Волечка.—А пасьля нагаворваў, што Косьцік больш хваліцца работай, чым робіць. Памятаеш, што ты казаў пра мэтроўку? Каб зрабіць выгляд, што вельмі стараецца, дык і мэтроўку панёс уначы? Гэта абы хустка яму асталася?

— Пракоп, што ты мне казаў пра Гельскага?—сказаў Косьцік да Пракопа.

Усё было скончана. Справа перамагла натуру. Пашоў Пракоп малоціца пад грамадзкі камень. Справа павярнулася гэтак, што трэба было ісьці на адкрытую. І Пракоп вышаў наперад.

— Ну, што-ж, я скажу,—загаварыў ён,—самі ведаеце. Ён бедніцца, гнецца, а капяні ты яго, дык у яго... я казаў і кажу... А як ты тут яго раскулачыш, калі ў яго нават і каня ня было. А тымчасам—нагандляваў калісьці, быў яму час... Паглядзіш як ён цяпер жыве. А як ён раней жыў!..

— Гавары, гавары, дзядзька Пракоп,—не магла ўстаяць на месцы Волечка—бялявая, густавалосая, маленькая жанчынка.

Сяргей Дарожны

# ЗДАНЬ БЛУКАЕ ПА ЭЎРОПЕ

(Урывак трэці)

Па заводзкіх дварох
Лазіў волатны гам,
Мітусіліся людзі пад грукат і звон.
Гэта ў енках мэталю
Ўставаў Бірмінгам,
Гэта ў стогнах лябёдак
Гучэў Дармінгтон!

Сонца засьціла дымам
Заводаў Шэфільда...
Над Брытаніяй віўся
Прыбыткаў тайфун.
Ноч па біржах ня спалі
Купцы першых гільдый
І канторы уздым
Вымяралі на фунт.

Эўрапэйскі уздым!
Прамысловасьці росквіт!
Біржавая мяцеліца—
Звон і дым...
На сусьветных антэнах
Сэнсацыі росту
Дрыгацелі няўпынна
На ўсе лады.

Але раніцай—
Новага ветру вал
Нячувана завыў нясьціханаю нотай.
І той, хто учора
Прыбытак каваў,
Без работы стаяў ля заводзкага плоту.

Крызіс над імі! работы няма!
Трохтысячны сьпіс мэталістаў адразу...
Што іх чакае за плотам, турма?
Ці паліцэйскі з балонкаю газу?!

Не! Яны будуць ламаць гэты кон,
Вуліцы будуць ад іх выгінацца!
Чуеш, Брытанія?
Крык гудкоў...
Чырвоныя сьцягі і гул дэманстрацый!

А вецер дужэў
З непамернаю сілай
І крызісу хваля ішла напралом.
Па горадзе грозна натоўпы хадзілі—
Галодныя, злосныя,
Моўчкі, бяз слоў.

Хадою шырокай
Ад самага золку,
Усімі грудзямі і тробай усёй,
Магуты сваёй разьвінаючы столкі,
Яны пачыналі рашучы бой!

## „Рукі Масквы“

Тады на нараду
Ішлі дэпутаты,
Уласьнікі фабрык, рабоў жывых...
І дзень пачынаўся з трыбуны палаты
Трывожным дакладам—„Рука Масквы“

Тым часам газэты
Хлусілі бяз меры,
На рупарах рваліся
Залпы пагроз...
І крэйсэраў грозна узброены шэраг
Імпэрскія сьцягі да Балтыкі нёс.

Над морам вісела
Туманаў заслона
І мёртвыя хвалі плылі за кармой.
Тады капітан
Для ўрачыстага слова
Узьняўся на мосьцік выключных прамоў.

І бомбамі падалі
Словы на дэк,
І твар капітана, і выбраны стэк,
І ўсё, што было ў ім ад'сіл жывых,
Крычала шалёна:—Рука Масквы!
Ва ўсім вінавата рука Масквы!

На палубе роўна
Стаялі матросы,
Па дэку халодны ішоў падвей...
Яны капітану сказалі проста:
— Лонг ліў рэвалюшэн!
Лонг ліў савет!

А ўвечар, калі настаўлялі гарматы
І крэйсары бралі на поўны ход,
На кубрык зьбіраліся па адным дэлегаты
На першы і нелегальны сход.

Гайдалася цемры
Разьлітая лава,
І сход нелегальны тады сказаў:
— Яны заварылі агідную справу
І на саветы рыхтуюць залп.

Мы не сабакі
Драпежнай Антанты,
Справу рабочых душыць не дамо!
Далоў капітанаў! Далоў лейтэнантаў!
Курс—рэвалюцыя! Шлях—дамоў!

І пагадзілася сем караблёў:
— Ёсьць рэвалюцыя! Ёсьць дамоў!

А рана, калі затрубілі зоры
І лейтэнанты ўзьнімалі пэнт—
Сыгналам паўстаньня завыў над морам
Грозны і слаўны крэйсэр „Вэльент“.

За ім, калыхаючы вод разьліў,
За справу рабочых усёй зямлі
Суровай сьцяною на захад ішлі
Паўстаўшыя караблі.

**А. С. Серафімовіч**

# ПЯСКІ

**(Апавяданьне)**

I.

Ён быў стары, такі-ж стары, як млын, у якога страха зьехала на бок і раскудлачаная насунулася пачарнелаю саломаю.

Ня мігцела белая пена, ня бегла з шумам і грукатам вада, а чуць пабліскавала тоненькая жылка ў жолабе, што стаяў над зямлёю на слупкох і гультаявата, задумёнпа-паволі варочалася старое асьлюзлае, пачарнелае кола, набіраючы, як у місачкі, у каробкі, што паволі падстаўляюцца, ваду, баючыся ўпусьціць лішнюю кроплю дарагое вільгаці, якая так скупа сочыцца ўнізе пясчанага ўзгорку, жоўтага сярод зялянiны тапалёў і вятлін.

Ён быў стары, і, засталучыўшы далоньню вочы, пазіраў на ціхае, соннае зьзяньне, уважліва шукаючы, ці не капае дзе. Але белы з кволаю маладою травіцаю пясок пад скрыняю быў шчытна чысты і сухі, і навыперадкі бегалі з вялікімі бярвеньнямі мурашкі.

Праз санлівую ціш, праз лістоту нахіленых вятлін слаба зьвінела ліючыся вада.

Яе ціхі звон, што не памірае ні ў дзень, ні ўночы, санліва праходзіў у празрыстае, што сьвятлее соннаю усьмешкаю, паветра, поўнае водару чабару, мядовае травы, сухога гарачага пяску.

Зьвінелі, хістаючыся ў цені слупкамі, мошкі. І часам здавалася, зьвініць сама цішыня, зьвіняць гарачыя паўдзённыя фарбы, бель пялёстак, блакітныя плямкі незабудак, густая лістота.

І каб не парушыць гэтую звонкую цішыню, нават галубоў ня было, і іхнія тлумныя гурты не ляталі шызым бліскучым натоўпам.

Завозьнікаў было мала. Стаіць, узьняўшы да блакітнага неба аглоблі, воз, у ягоным цені храпе каравы мужычок. Конь распрэжаны пакалыхваецца, перамагаючы санлівасьць, і ў куткох крыху расплюшчаных вачэй смокчуць хабаткамі нятурбаваныя мухі.

Стары ідзе высокі, крыху сагнуты, з касьнічкамі наўкола голага ў кропельках чэрапа, з белаю бародкаю ні то ад мукі, ні то ад старасьці.

У сьвірне ня чуваць жарон, ня стукаюць наўзахваткі драўляныя кулакі, а ціхенька па-старэчаму шастае адзіны камень і скупа, ледзьве прыкметным струменем сыплецца мука. Пасыплецца, пасыплецца, дый задумаецца, і ў дарэмным чаканьні стаіць разяўлены кораб. Сонна і ціха садзіцца мучны пыл, ды зноў, бялеючы і дрыжачы, хістаецца тоненька мізэрны струмень.

Адзін мяшок мелюць тыдзень, і рэдка хто заходзіць у млын. Дый дарогі тут дрэнныя—у лесе тарчаць пні, карчы, карэньні і зваленыя дровы, ды палом напрувашчан.

Стары падыходзіць да возу, чухае бліскучы, як і ўсё тут, чэрап і кажа:

— Сьпіш?.. ну сьпі, сьпі...

Мужычок храпе. Конь падымае вейкі, ад якіх крыху ў бок адыходзяць мухі, глядзіць, моргаючы добрымі вільготнымі вачыма, і пачынае жаваць вяла і сонна, ды зноў пачынае драмаць, хістаючыся з жмутком у губах.

Стары пахаджае.

У млыне няма чаго рабіць. Здавалася, спрадвеку сама па сабе зьвініць вада, само па сабе павольна, ціха, па-гультайску, варочаецца азімшэлае кола, самі па сабе, такія стракатыя і пахучыя кветкі, зеленеюць вятліны, жаўцеюць насунуўшыся пяскі. Хіба як зьбярэцца стары, возьме вастраносы малаток і, лёгенька цюкаючы, пачне накоўваць сьцёрты камень.

Ня любіў дзед адыходзіць з млына, бо да вялікае ракі цягнуўся лес, перабляытаны хмелем, завалены вывернены дрэвамі, хмурны і нявеітлівы.

Але ў той бок, дзе было сьветла і прасторна, дзе жаўцелі пяскі, дзед часта выходзіў. Выйдзе на пясчаны ўзгорак, сядзе, падставіць голую галаву гарачаму сонцу і сядзіць. Каля ног—кароткі паўдзённы цень, а ў далячыні—без канца-краю, як вокам згледзіць,—пяскі.

Ветру няма, паветра нярухомае, празрыстае і чыстае, але пясок гучыць дзіўным, чуць разабраць-гукам, жалобна і сумна. Плывучы і тонкі, ён нават як і няма ветру сыплецца з перагнутых хібкоў і гучыць.

Пазірае стары, і на самым небасхіле мігціцца жоўты бляск. Людзі жывуць, як за морам, за разложыстымі пясчанымі прасторамі.

А яшчэ за дзедавую памяцьцю вярсты за чатыры стаяў хутар, падымаліся да неба вочапы студняў, зеляненелі сады, цягнуўся лес з палянамі, з срэбранымі лясьнымі вазёрамі. На палянах касілі сакаўную траву, у вазёрах ставілі хабатні.

Разьмяк стары пад сонейкам, сядзіць. Горача хвалюецца марыва, здаецца струменіць гарачы небасхіл, неўзапаметкі растае.

Стары пазяхае, хрысьціць зарослы калматы рот.

II

Сярод аднастайнага звону вады, сярод цішыні, што санліва перамагае сябе, аднойчы пачуўся жывы гучны голас.

Стары заўсёды рана ўставаў і сягоньня прачнуўся, як толькі крануліся на пяскох ружаватыя водблёскі. Абышоў млын, пасядзеў на ўзгорачку, зварыў у пячурцы пад старою вярбою жур і стаяў, ні то праневашта думаючы, ні то ўспамінаючы пад сонцам, што так цёпла прыгравала праз гальлё.

І тады даляцеў гэты голас, гучны жаночы голас. Стары зрабіў рукою брыль над вачыма і павярнуўся да лесу.

З лесу крыва выпаўзла чорная каравая ад даўно засохлае гразі дарога, і карэньні пакалечана тарчалі па ёй, але нікога ня было. А з лесу ізноў даляцела гучна і весела:

— Но, нно-о... заснуў...

Заскрыпелі колы, фыркнуў конь.

У прагаліне паміж кустамі сунулася жывое рыжае і каля яго мігацела белае. На паваротцы выставілася адбіваючы паклоны ў дузе, конская галава, аглоблі, у бакі хадзіла, падскаквала ўсімі коламі па карэньнях драбіна, а ззаду, асьцярожна ступаючы па калючых сухіх камяках босымі нагамі, ішла дзяўчына з пугаю.

Яна была дужая, рабая, з вясёлымі вачыма, і белая хустка ссунулася на шыю.

— Здароў, дзядуля.

— Добрага здароўя, галубка.

— От памялі нам пшанічкі.

— Ну дык што-ж.

Дзяўчына ўзялася за рагі мяшка, як за вушы, але дзед, раптам схамянуўшыся, адсунуў яе:

— Куды... сарвешся яшчэ.

Яна падала яму на плечы, і ён, згорбіўшыся, трымаючыся поверх пялчуксў за мяшок і пільна сочачы, каб не падагнуліся старэчыя ногі, бадзёра пашоў да сьвірна, а ззаду пасьпяўся весела гучны сьмех:

— Глядзі, пераломішся...

І да таго быў чужы, так неспадзявана ўварваўся гэты сьмех у звонкую цішыню і спакой, нібы садзьмула гультаяватую санлівасьць, і доўга яшчэ гучэла ў лістоце, пад абвіслаю страхою, за вятлінамі каля жаўцюсенькіх пяскоў, і радасна сьмяяліся залацістыя ўзоры сонечных плям, што неўзапаметку вашушыліся на пяску.

— Ты адкуль сама, галубка?—казаў дзед, засыпаўшы пшаніцу да зноў падыходзячы да возу.

А яна весела і прызвычаена раскілзвала каня.

— Дзе-б гэта ў цябе каня напаіць? Бачыш вады ў цябе, куры ўсю выпілі.

Ды зноў, напоперак прызвычаенаму парадку, ярка затрапятаўся сьмех. Яна лінула рэшту вады з вядра. З добрых, мяккіх, што нешта жумрылі, конскіх губ капалі кроплі.

Стары паварушыў брывамі:

— Басаногая.

Ізноў непрызвычаена гучна пачулася пад вятлінамі:

— Але-ж, а то як. Вунь лесам ішла, усе чыста ногі пакалола. За дваццаць пяць рубельчыкаў на год ня надта абуешся. З Шавырыката хутару я, у Івана Поснага за наймічку.

— Ліхадзей.

— Там і праўда: ліхадзей.

— Ліхвяр.

— Голадам усіх рабочых памарыў.

— Ото-та ты з галечы распасьвілася,—і дзед весела стукнуў яе па крутых і дужых плячах.

А яна ўжо села на воз і скіроўвала каня, сморгаючы ляйчыною.

— Што-ж так... не пагасьціла.

— Сварыцца будуць, чэрці лазатыя. Калі зьмелеш?

— Якая ты, і патлаадзіць не далася... Прыяжджай перад сьвятам, зьмялю.

А ўжо колы скрыпелі ў лесе, і з гушчару чуваць быў гучны голас:

— Нно-о, доўбня, куды лезеш? Ізноў на рагацiну...

А потым далящела:

— Дзядулька, а дзядулька, як бы мне Суччыну грэблю аб'ехаць? Каб не загразнуць ізноў...

Доўга хадзіў бяз толку стары, спыняўся і ўсё цёр лысіну, стараючыся нешта прыгадаць:

Зьвінела вада, зьвінелі паўдзённыя фарбы, зьвінела звычайная санлівая ціш, а дзед нічога ня чуў, і ўсё адно стаяла перад вачыма.

Вышаў на ўзгорак, але і пяскі не радавалі, нярухома ляжалі разморамыя, і неўзапаметку дрыжучы струменіла гарачыня.

А ўночы нехта не даваў спаць. Выйдзе дзед з хаты, цёмна, адны сіняватыя кропелькі купальскіх чарвякоў. У лесе аказваецца бугай, ды раптам заплача скаргаю пугач тоненька і хліпаючы, як плачуць малыя пакрыўджаныя дзеці.

— Ага... ці бачыў!

Зьвініць вада, зьвініць вада і напаўняе цёмную і нярухомую маўчанку нечым іншым, поўным іншага значэньня і сэнсу. Дзед ня можа разабрацца, чухае лысіну:

— Ага?.. Скажы, калі ласка!..

Ён ідзе ў хату, кладзецца, засынае, але нехта чулы і непакойны ізноў будзіць, і ён ізноў выходзіць.

Тое самае, і над пяскамі вісіць маўчаньне і цемра. Але старому неўспадзеўкі чужое робіцца гэта маўчаньне, і нярухомая, сухая, гарачая цемра ўжо ня поўна журлівых нявыразных, або яскравых і выразных перад вачыма падрабязнасьцямі, мінулага, соннымі хутарамі, гучнымі дзявочымі песьнямі, бойкамі і п'янствам хлапцоў, непасільнаю працаю, сьвятамі,—ціха, пуста, глуха, і стары шырока пазірае, нічога ня бачачы ў цемры, і раптам... раптам, бачыць хмурную пустату і маў-

чаньне. Бачыць і разумее турботу чаканьня, каб пачуўся гучны вясёлы крык, затрапятаўся яркі сьмех і напоўніў пустату і маўчаньне адзіноты.

— Спакуса, даруй божа!..—і хмурны сунецца ў хату, доўга варочаецца на саломе, пакуль не пачнуць рабіцца выразнымі галіны, лісты і нявыразныя абрысы нізка насунутае страхі.

## III.

Перад сьвятам прыехала дзяўчына.

Ізноў у сонечны дзень пачулася рыпеньне колаў у лесе і гучны голас. Ён дзіўна і рэзка схамянуў лесавую ціш, і стары весела зварухнуў бровы:

— Прыехала... Ці бачыў!

— А я, дзядуля, чуць вылезла, ізноў, здыхла, у дрыгву ўбілася...—і на заваротцы лагодна памахвае добрая рыжая конская пыса, і над возам бялее хустачка,—змалоў ці што?

— Змалоў, змалоў... злазь, напой каняжыну, пагасьці.

Конь п'е, задуменна губляючы чыстыя кроплі. Івал недалёчка ў лесе, як на флейце, вырабляе хітрую фіарытуру.

— Ну што-ж, распрагу, няхай рыжык адпачне, ды і я стамілася.

Ён пазірае на чорную загару худых выцягнутых шчок, на пацямнелыя, вялікія, што сіне наўкола, вочы.

— Падалася ты, галубка.

—/Заезьдзілі, праклятыя, от да чаго, сілы няма!.. як дзень, як ноч спакою ня ведаеш... Хоць-бы кармілі, як трэба, а то амаль не галодная... Гэты тыдзень на касьбе, рукі траха не адваліліся; а вернешся дадому—есьці вары на ўсю арцель...

Але голас у яе, як і раней, гучны, вясёлы, і жвавыя вочы на рабым схуднелым абліччы, як бы яна апавядае не аб працы не па сіле ёй, а пра нешта вясёлае і радаснае.

Стары выцягвае і ставіць пазелянелы самавар. Самавар ставіцца разы тры, чатыры на год, у самыя ўрачыстыя выпадкі.

Яны сядзяць пад старою вятлінаю. Гасьцінна і ласкава шуміць труба. Чуць варушацца сонечныя плямы. Госьця п'е дзевяты кубак, выцірае пот, што ліецца па расчырванелым абліччы, ставіць узверх дном і кладзе зьверху апрызак цукру. Але стары ня можа адчапіцца, просіць, і яна зноў налівае, і зноў льлецца пот па чырвоным распараным абліччы.

— Так-так, галубка, скажам, у некаторых іншых грэблі размывае, ато і млыны зносіць, а ў мяне стаіць, як у Хрыста за пазухаю, бяжыць сабе вада жолабам ціхім манэрам, ці табе вясна, ці лета, ці зіма—усё адно, бо вада крынічная, яна не баіцца ні сушы, ні маразоў. Ну за год мала-мала, бедна-бедна, а асьмін са сто заробіць, ато і паўтараста, от як перад богам. Што-ж мне, пад'еўшы, адзеты, абуты.

— Так, гэта сапраўды, нават вельмі добра, калі яна рваць ня можа, таму і грэблі ў вас няма ніякай,—і яна моцна адкусвае цукар,—адно

толькі нудна ў вас тут, пясок ды лес і больш нічога, чалавека ня ўбачыш.

— Як нудна? Чаму так нудна?

Стары ўсхваляваўся і высока ўзьняў сівыя ломаныя бровы.

— Якая нуда, калі з грашыма... з грашыма, любая, ня нудна, з грашыма, любая, усюды весела. І завозьнікі заўсёды бываюць, ня той, дык той прыедзе. Прыедуць і ўсё раскажуць і пра вёску, ато і ў горадзе якія справы, нічога ад цябе ня ўтояць, усё, як мае быць.

— У майго дзядзькі на рэчцы млын быў, дык гэта...

— Нудна!.. не, от нудна, калі кішкі марша граюць. Нудна, калі духі з голаду падцягвае... От пагляджу я, ні ў табе, ні на табе, ногі ўсе патрэскаліся...

— Ато не патрэскаюцца. Аж кроў... і па пакошы, і па лесе, і па гразі ўсё босая.

— Што гэта за чалавек, калі ў яго шчарбатага гроша няма за душою, га? А ці шмат ты заробіш наймічкаю... І век свой жабрачкаю зжывеш... ці-ж ня праўда?.. Хто цябе замуж возьме...

З ёю першы раз так гаварылі. Ціхая ласкавасьць сонечнага дню і ўзорна анталяжныя цені, што ціха варушацца па пяску і ў траве, спакойная задумёнасьць і нявыразны звон вады ды спагадныя дзедавы словы, усё ласкава зазірала ў душу.

Яна ўздыхнула, шырока выцерла потны твар і апошні раз рашуча перакінула кубак.

— Дзякуй, дзедка.

І раптам засьмяялася.

— Эх жыві, ня бойся, няма хлеба, да зоркі пасьці, кашулька чорна, вывернуўшы насі... ну, бывай, дзядуля, трэба ехаць, і так сварыцца будуць. Салгу, скажу, што ня ўправіўся змалоць, дык чакала.

І калі яна па-мужчынску ўперлася нагою ў хамут, сьцягваючы супоняю клешчы, дзед падышоў і, трымаючыся рукою за дугу, прамовіў:

— Га? Што я табе кажу... дзяўчына ты добрая, пакорная, пайдзі ты за мяне замуж.

Зрабілася ціха. Зьвінела вада. Двое сьветлых, двое вялізных вачэй пазіралі на яго.

— Ты падумай,—хуценька і хвалюючыся стараўся дзед,— ты падумай, што ты ёсьць? Га?.. Колькі мне жыць асталося, га?.. толькі, колькі табе, мне ня жыць, а памру, усё тваё, млын увесь, от як ёсьць, тэстамэнт зраблю, будзеш пані, абшарніца...

А яна ўсё пазірала на яго круглымі вачыма ды раптам зарагатала. І ўвесь час, пакуль скрыпелі колы чуваць было, як нехта аж клаўся ад рогату ў лесе, пакуль сьціхла. Потым далёка, далёка, з-за дрэў, з-за галін, з-за лістоты даляцела песьня. Пеў адзінокі жаночы голас то журботна і ціха, то задзірыста і весела. І калі губляўся ў лясным гушчары, ізноў зьвінела вада, ізноў задумённа-гультаяватая цішыня,

ізноў маўкліва-гучныя фарбы красак, лістоў, мігатлівых мошак, ды ізноў даплывае нявыразны, аслаблены адзінокі і прывабны голас жанчыны.

Цалюткі дзень ціцюляў дзед і цёр лысіну.

— Га?.. скажы калі ласка!..

## IV.

Кожны раз, як яна прыяжджала з пшаніцаю або па муку, была тая самая гаворка:

— Дурніца, свайго шчасьця ня бачыш... Млын не капейчыну штодня зарабляе, кожны дзень харчуе... усё тваё... майго веку не на доўга хопіць, год, два, а там сама сабе пані, прапусьціш, будзеш локці кусаць...

Яна сьмяялася або злавала, потым пакінула сьмяяцца і слухала. Аднаго разу дык сказала:

— Або хай будзе па твойму... што там... пайду за цябе... адно тастамант перад шлюбам канечне зрабі...

Але як была замужам, заламала рукі, сьціснула зубы і з агідаю заплюшчыла вочы.

— Гнілы... зямлёю ад цябе сьмярдзіць,—злосна пабліскваючы вачыма, кідала яна.

— Ну дык што-ж... вочы ў цябе на патыліцы былі, як сватаўся...

Яна ўся пайшла ў гаспадарку, прагна аддаючыся прывабнасьці мець сваю, парадкавацца з сваім. Загадавала птушак, купіла двое парасят. Узьняла страшны гвалт з дзедам, каб перакрыў млын. І як той не адбіваўся, але прымушан быў накрыць новаю саломаю, і млын шыкоўна і весела жаўцеў на сонцы новаю страхою.

Млын раптам рассунуўся да вялікіх памераў, і ціха варочалася кола, і стаяў ён адзін, засталучыўшы чарнатою сваіх абрысаў лес, пяскі, мінулае жыцьцё.

Раніцою, калі расплюшчвала вочы, і з роснага лесу чутны былі адзін перад адным тысячы птушыных галасоў, першае, што кідалася ў вочы, гэта—новая страха пад сонечным бляскам. І як засыпала, апошнімі нявыразнымі расплыўчатымі абрысамі цёмна танула павольнае кола.

Зьмянілася ў дзеда.

Гультайскі-дрымлівая цішыня запоўнілася новымі рухава-маладымі гаспадарнымі гукамі. Сакаталі куры, вішчэлі падсьвінакі, гучна лаялася маладзіца з завозьнікамі.

Яна ўся была ў гаспадарцы, што наладжвалася цяпер, баялася прапусьціць лішні дзень, лішнюю хвіліну. І дні, сумятлівыя, поўныя турбот, ішлі аднакія, падобныя адзін на аднаго гэтак сама павольна і нямінуча, як нямінуча павольна варочалася старое кола.

## V.

Занудзіўся парадзелы лес, і далёка відаць паміж асыпаных дрэў. Усё паліняла, пацямнела, нібы прышоў нехта адзінокі ў цёмную нудную імжаку ночы, сьцёр яскравыя фарбы і гукі, і ад тых дат нечага чакае халодная маўчанка, няветліва прыслухоўваючыся.

Дні кароткія, і гаспадыня ўсё сядзіць у вакне. У яе руках мігцяцца пруткі, робіць панчохі на зіму. А ў акно тупа пазіраюць цёмныя абрысы млыну.

Бясконца зьбягаюць з бліскучых пруткоў рухавыя петлі, бясконца трацячыся, бягуць думкі, і ціхенька, як аднастайнае журчаньне, льлецца журлівая песьня, што пяе не пра тое, аб чым кажуць словы.

— Ой, дыы дзееўчынка-а... дзеееўчынкаа...—выгаварваюць губы.

«... а на правай на ручачцы ды радзімы знак...»—сьпявае сэрца,—«ды радзімы знак... а валаскі русыя, як лён-лянок, і назаве яго поп-бацюшка Яначка»...

— ... адда-а-в-а-а-лі дзеўчы-ну-у ні за лю-ю-ба-га-а..:

«... і выцягне Яначка ручачкі да мамкі... абаўецца мамачка...»

— ... за ня лю-ю-ба-га-а ды за ст-а-р-а дзе-е-да-а...»

«... Матулячка... матулячка... засьмяецца мамулька, засьмяецца татулька, татулька, кучаравы муж-мужычок...»

І зьвіняць сьлёзы і блішчаць шчасьлівыя вочы, а за сьцяною ходзіць дзед і сьпіраецца з завозьнікам.

— Я табе казаў да суботы, у суботу-б і прыяжджаў... калі-ж вады няма, ну няма, не магу-ж я радзіць яе...

А за вакном б'ецца журбою і скаргаю, лятуценьнем пра шчасьце, якое паціху звоніць сьлязьмі, лятуценьнем пра маладога мужа, пра хлопца Янку, пра малюсенькую дачку, якой у касу ўплятае чырвоны касьнік, і бягуць словы песьні, і бягуць з тонкіх бліскучых, як вада, пруткоў петлі.

Узімку, як срэбрам укрыўся лес ды йскрыліся пяскі, начамі прыходзілі ваўкі і вылі жаласна і доўга.

Ціхенька цурчэла вада пад тонкаю лядзяною скарынкаю. А часам пачынаў лятаць сьнег вялікімі цяжкімі камякамі і круціўся, і вецер скаголіў у коміне і пад вокнамі. Тады рана клалася, і ні пра што не хацелася думаць і лятуцець.

Але разам з вясною ізноў варочалася журба па любым, кучаравым, далёкім, незнаёмым, па Яначку, па маленькай дзяўчынцы з чырвоным касьнікам у касіцы.

## VI.

Коратак і чуток старэчы сон.

Прачнецца, паслухае: ціха дыхае маладая жонка, ціха дыхае лясная глуш. Ізноў засьне, ды йзноў нехта: «стары, а стары...» Ізноў устане, выйдзе: зьвініць вада, маўчаць дрэвы, нехта варочаецца чорна, нязграбна, вялізным клубком.

Толькі-б не ўцякла ціхенька,—уцячэ—ня вернецца.

І ён баязьліва і падазрона прыглядаецца да завозьнікаў, што застаюцца начаваць.

— Любы, ты-б ехаў дадому... дома-ж спрытней начаваць... бачыш у мяне і сена няма, а то ваўкі навернуцца, як раз загрызуць каня, без хлява-ж, бачыш, паставіць няма дзе...

У месячныя ночы стары амаль зусім ня сьпіць. Прачнецца,— ціха, ня чуваць дыханьня. Выйдзе з хаты.

Паміж гальля сочыцца белае дробнае сьвятло, няправільнымі блакітнымі плямамі. Падобныя на зданьні пазіраюць аблітыя краскі. Лістота—дзіўна белая і ад млына адзін густы гарбаты цень. У жолабе займаюцца фасфарытныя агенчыкі, і павольна, змрочна, укрытае пнём, дзіўна варочаецца кола.

Зьвініць вада, зьвініць блакітнавата-празрыстым звонам. І стары, як варажбіт, ходзіць ў зачарованым царстве.

— Скажы, калі ласка, дзе дзелася, га?

Пяскі вузка, па зладзейску жаўцеюць у лесе тонкімі, што нярухома праціскаюцца, языкамі. Але і сама нярухомасьць іх тоіць упарты сталы рух у глыбіню, у самае сэрца натапыранага, чутка і баязьліва прыціхлага лесу.

Зазірае ва ўсе зацішныя куткі, у сьвіран, паміж таполямі, усюды аднакім спосабам пераблытаны плямы сьвятла і ценю, усюды маўклiва і пуста.

Выбіраецца. Дрэвы радзеюць. Пясок ўсё гусьцей рыпіць пад нагамі, і адкрываецца смугла-нявыразны прастор, поўны няўлоўнага змарлага жыцьця.

На ўзгорку ў месячным сьвятле нахіленая жаночая постаць.

Стары спыняецца, нахіляе галаву. У чула-хісткім блакітным зьзяньні загадкавы далёкі і той самы гучны голас:

— Перад Купальлем дзяўчаты вянкі на ваду пушчаюць... у чацьвёртым годзе я пляла, а ён затануў... А ў Шавырыне цяпер кірмаш... хлопцы гуртамі ходзяць, а дзяўчаты сланэчнік лушчаць, гарэхі грызуць... Ото сьмеху... пабяруцца за рукі... а ўвечары прыстаўленьне...

Хістаецца блакітнаватае зьзяньне, і на краі нараджаюцца і гінуць няўлоўныя прывіды.

— ... малпа нават, ото сьмеху, як чалавек, а ўвечары на вёсцы карагод... далёка чуваць...

Маўчаць, і не разьбярэш, доўга ці коратка. І ў яго крыкліва ўрываецца злосны бабскі голас:

— Здохнеш, ні воднага дня тут не застануся. Прадам або пасаджу арандатара і ффью...

Яна сьвішча груба па-мужчынску, і на старога бліскаюць шэрыя злосныя вочы.

Стары варушыць зарослым валасатым ротам. Ён падаўся, пастарэў. Ня чуе або прапушчае паўз вушы яе словы і шапаціць, варушачы валасамі навокал роту і гледзячы сьлязьлівымі вачыма на пяскі:

— Та-ак... усё занесла... а таксама весела, як маляды быў... Наш хутар онь за гэтым узгоркам стаяў, а за хутарам сад, а за садам поле... Зьбяромся, бывала, за садам, гарэлкі набяром, пернікаў, дзяўчат зьбяром, таксама карагоды ладзілі. А ў бацькі коні былі— зьвяры. Запражом коні, дзяўчат на хутары возім. А за гэтымі выдмамі возера было, вялікае лясное возера было, сьвет-етлае... восьцямі добра рыбу білі... надосень...

Доўга варушыць круглым валосістым ротам.

— Багата жылі, сотні тры авечак, каровы гадавалі, а бабы на шыі срэбраныя грошы насілі.

І ён усё варушыць і шамкае круглым валосістым ротам.

Хістаецца блакітнае зьзяньне, нараджаюць і растаюць прывіды, валочацца гурты авечак, блішчаць лясныя вазёры, бразгаюць на шыі ў баб рублі, бялеюць хаты, і стрэхі мігацяцца на смутна нявыразным небе.

Не, гэта—пясчаныя узгоркі, і бела пад месячным сьвятлом.

Таполі цямнеюць, востра выцягнутыя і нярухомыя...

Не, гэта—вузка выцягнуліся цені ад узгоркаў, доўгія і мёртвыя.

Яна кладзе галаву на рукі, ставіць локці на калені і таксама пазірае, выцягнуўшы шыю, і бачыць за краем, дзе мігцяцца прывіды, бачыць кірмаш у Шавырыне, сьмех, жарты... гарачая ласка... рукі, што моцна і груба абнімаюць... кудлатая галава...

Яе голас, чужы і далёкі, гучыць побач:

— Як могілкі... каб дзе што... усё бела...

## VII.

Здавалася, усё было нядаўна: нядаўна скрыпелі ў лесе колы, нядаўна плыла па лесе жаночая песьня, нядаўна...

Але часам стары казаў, гулка стукаючы нагою па дрэве:

— Во... і гэта трэба сьсекчы...

І тады яна шырока пазірала спалоханымі вачыма: бязьлістыя галіны суха і шэра вырысоўваліся, бясплённыя па блакітным небе, і голыя карэньні абламана тырчэлі з пульхнага пяску.

А як пашла за старога, часта сядзела тут у густым цяні, і сакаўныя лісты шапталіся над ёю, сядзела на мяккай шаўкавіста-зялёнай траве. І паўставаў жах часу, што адыходзіў.

Ужо шмат такіх дрэў ад тых дат насеклі, і ўсё больш радзеў лес. Пясок нявідочна, але няспынна ўпаўзаў. Ён, як нявінаваты, пралазіў тоненькімі няпрыкметнымі лукаткамі і язычкамі, пралазіў паміж кустамі, паміж карэньнямі, паміж травы і красак, зірнеш, і пасохлі ўжо карэньні, спусьцілі ўніз галовы краскі, згінула трава, зьляцелі птушкі, і журботна стаяць голыя дрэвы.

Ды ізноў забывалася, ішлі ў цень жывых дрэў, ляжалі на зялёнай траве, у лістох гуртаваліся і шмыгалі няўпынёныя птушкі, міналі гады.

Часам гаспадыні здавалася, дзед памрэ назаўтрае, праз тыдзень, сама больш—праз месяц. І яна чула прыслухоўвалася да ягонага дыханьня, прыглядалася да марудных рухаў, да рук, да галавы, што трэслася.

А страха пакрысе цямнела, салома натапырылася і пачала зьвісаць. Адно вада зьвінела, як і раней, ціхім, задуменным, дрымліва-тульлтаяватым звонам.

І усе некалі новыя, так нечакана і весела што ўварваліся былі, гаспадарскія гукі—курыная гаворка, гагатаньне гусей, рохканьне, гучны голас маладое гаспадыні, усё зблажнела, пакрысе усмакталася, расчынілася у гультайскі-дрымлівым, няспынным звоне.

Нібы ня было ні людзей, ні жывёл, ні мітусьні, ні клопату, а, ня моргаючы, пазіраў адзін млын пачарнелаю натапыранаю саломаю, варочалася кола, ды ціха зьвінела вада.

## VIII.

Як бы нагадваючы, што час мінае бясьплённа і без узвароту, прыходзілі мутныя дні бяз сонца, бяз фарбаў, бяз ліній.

Усё пагасла, абрысы танулі, і да самага неба ўставалі й круціліся пяскі. Поўныя роспачы хадзілі яны госымі слупамі, засталучваючы паветра, сонца, сінія далі.

І здавалася, ужо ня будзе вясёлага дню, радасьці, сьмеху, звонкіх маладых галасоў. У мутным хістаньні—нямінучая, сьляпая маркота.

Хмурая паўзе нуда.

Млын, людзі, вятліны, гаспадарка здаюцца такія маленькія, нікчэмныя.

У такія дні гаспадыня злосна і нудна крычыць:

— Што ты?.. Ну куды ты?.. Ці-ж ад цябе што будзе!.. З табою хоць век ляжы, нічога ня выляжыш... хоць прывядзі мне мужыка, ды каб дзеці былі... стары чорт!..

Ён здэтанавана асыкаецца, міргае і ўсьміхаецца.

— Ты дармо... ты... гэта... ты пачакай крышку... яно можа яшчэ...

Узьнімае бровы, песьціць, і трасуцца рукі, а яна ізноў чуе земляны гнілы пах старасьці.

— У-у, ты, стары сабака, каб ты праваліўся, сьмярдзючы чорт, каб ты здох... не адубее, палена старое...

Яна курчыцца ў безнадзейным плачы.

Стары нікчэмна і зьбянтэжана топчацца. Потым намружвае сівыя бровы ды кажа скрыпучым голасам:

— Я табе ўважыў, а ты што?.. што ты была? Га? Колькі майго веку засталося? Усё тваё... а цяперака я вось падзяру тастамант, от табе... здыхай з голаду!..

— І здохну... не патрэбен мне твой млын, уцяку!..

Плач глухі, ціхшэйшы.

А раніцаю з-за разълеглых пяскоў ізноў спакойна ўстае сонца і пазірае доўгімі залатымі тнямі, і ціхенька гаргечуць гусі, і хмурна. ўважліва варочаецца чорнае кола, пазірае млын усё адным і тым самым таемным спыненым поглядам.

## IX.

Нібы далёкі ўспамін, па лесе трапечуцца маладыя здаровыя галасы, сьмех, жарты.

На паваротцы вываpачваецца адна хурманка, за ёю другая, побач ідуць хлапец і дзяўчына.

Яны сьмяюцца, штурхаюць адно аднаго, аблічы мігцяцца весела і радасна. Нібы няма пачарнелага млына, няма ўсохлага лесу, няма старога мужа, нуды, безнадзейнага чаканьня. У кожным руху, у нязначным слове, у бесьперапынным мігценьні бяспрычыннага сьмеху, што нястрымна ўсё запаўняе наўкола, яны робяць справу маладосьці, асаблівую справу імклівае бяспрычыннае радасьці.

Гаспадыня пазірае хмура і нязлагадна.

— Ну, годзе вам ірзаць.

— А табе, старая сукнавалка, зайдрасьць.

Твар цямнее, як бы бізуном шлёгнулі, і крыкі і лаянка прарэзьліва і злосна разьлятаюцца па лесе.

— Гультаіны, швэндаюцца тут... хі-хі-хі, ды ха-ха-ха... вас за работаю паслалі, а вы заляцаецеся... месца не знашлі... от скажу не малоць пшаніцы, паедзеце, як змыдзганыя, гаспадары не падзякуюць...

Але крыкі, вішчаньне і лаянка ня могуць затамаваць холаду і жудасьці ўзьнятае журбы.

«Старая... старая... старая...»

Гэтага дня ўсё падала з рук, і старому праходу ня было ад лаянкі.

Старая!

Так, так, старая...

І яна прыслухалася да свайго пагрубелага голасу. І яна адчула сваё пацяжэлае цела. І гэта самае казала маленькае люстэрачка.

Паволына дзень за днём, маршчак за маршчаком, сівы волас за сівым і... старасьць, няма маладосьці, няма шчасьця, ласкі, няма дзяцінага крыку...

— О-о-о-о!..

Яна скавытала, біла пасудак, штурляла ў дзеда гаршкі. Потым утаймавалася і пазірала на яго, ня моргаючы.

— Ці ні звар'яцела?

Ня міргнуўшы брывамі, не зварухнуўшы мускулам, пазірала яна. А ён хадзіў добры, стары, трос галавою. Хадзіў як ходзяць людзі, што стаяць аднэй нагою ў магіле. Але-ж ён такі, як яна запамятавала.

Гэта было цяжка, гэта было спачатку пакутна цяжка і страшна. У яе трэсьліся рукі, рассыпалася і нічога ня выходзіла.

Але як першы раз дзед выпіў, нічога не заўважаючы, яна была кінулася да яго са спыненымі ад жаху вачыма і, сморгаючы, няслухмяным языком шаптала:

— Выплюнь... выплюнь...

Потым прывычаілася і акуратна падсыпала, дапамагаючы, што дня.

Стары чэўраў, чуць цягаў ногі, але скрыпеў, як старое дрэва, і цягнуўся час.

Памёр ён неўспадзеўкі.

## X.

Як падвячоркам паружавелі пяскі, гаспадыня пачала клікаць мужа вячэраць.

— Стары, га стары?

Голас яе глытала цяжкае спакойнае маўчаньне. Нават у лесе з далёкімі чырвонымі вяршалінамі не адгукалася звычайнае рэха.

— Ста-ры!

Зьвініць вада...

Гаспадыня зірнула ў сьвірны, у хату, выпусьціла куранятніцу з куранятамі, падперла дзьверы, каб ня ўлезьлі сьвіньні, ды пашла да ўзгорку,—стары ляжаў ніц, занурыўшы сівую бараду і запусьціўшы старэчыя худыя пальцы ў залацісты сыпучы пясок.

Загаласіла на ўсю моц, і прыказваньні крыкліва біліся на нябожчыкам, але ўжо за некалькі крокаў над цяжкімі нярухома-мёртвымі пяскамі навісала маўчаньне.

— Ды на каго ты мяне пакідаеш... ды родненькі ты мой... ды куды-ж я цяпер, сіроцінка...

І над ляжачым нахілілася і прыпала жанчына з сівымі кароткімі косамі, што вылезьлі з-пад хусткі, з азызлым у маршчаках і сьлёзах тварам, апанаваная журбою і шкадаваньнем чалавека, з якім зжылася, да якога прывыкла.

## XI.

Здавалася нічога не зьмянілася. Павольна-задумёнка, занятае толькі сваім, варочалася чорнае мокрае кола, з тонкім цурчаньнем звонка зьлівалася вада, і мёртва, нічога не дакляруючы, пазіраў млын, насупіўшыся пачарнелаю саломаю.

Як старая вярнулася з гадавой памінальнае імшы, села на пясок пры сьцяне і заплакала. Але плакала не па старым, а раптам прыгадала, як нудна незаўважанае мінулае жыцьцё, хутка і ёй паміраць, і радасьці яна ня бачыла. Ды і да старога нарэшце прывыкла, і было цяпер пуста і адзінока ў парадзелым сухастойным лесе.

Млын, як і раней, пазіраў на яе сьлепа, цяжка, ня зводзячы нявывога вока. А жыць трэба, трэба ўставаць раніцаю, аглядацца, карміць птаства, засыпаць у жорны, тарокацца з завозьнікамі.

Шукала арандатара, але ніхто ня йшоў у глуш, ды і яе ўжо не цягнула ў Шавырына, на кірмаш, у балаган на прыстаўленьне. Карагоды там ладзілі дзяўчаты, якіх яна ня ведала і якія яшчэ не нарадзіліся, як яна сама была дзяўчынаю.

Наняла найміта.

Ён прышоў хмурны, у дрэннай вопратцы і пазіраў спадылба. Спаў у сьвірне пад жорнамі, што гудуць, як дзень, як ноч. А як падышла восень, ён перабраўся ў цёплыя сенцы іхняе хаты. Гаспадыня трымала яго сурова, і ён працаваў, не складаючы рук, хмурны, маўклівы, ніколі ня ўздымаючы вачэй.

Толькі раз узьняў вочы і сказаў:

— Гаспадыня, давай разьлік.

— А што?

— Пайду.

— Куды-ж ты пойдзеш?

— Пайду, трэба месца пашукаць, можа, у горадзе... можа зараблю ды ў вёску,—і, адвярнуўшыся, пазіраў на гразкую дарогу, што заварачвалася ў лес.

— Ясячка,—прамовіла гаспадыня, і ў голас яе затрымцела кволасьць; раней яна ўсё крычала на яго: Яська,—Ясячка, куды-ж ты ўцякаеш, можа дрэнна ў мяне?

— Дрэнна ня дрэнна, а пайду.

— А ты астанься, я табе пэнсію павялічу.

— Абрыдла.

Уночы яна да яго прышла, але ён лаяўся брыдка і цынічна і прагнаў.

— Свалата... старая ведзьма... пашла ты к...

А яна карміла яго соладка, адзела, клапацілася. Заўсёды ў яго была гарэлка, і ён зьдзекваўся з старой. Потым выправіўся пачаў з ёю жыць, але яна не аддала млына па запрадажнай, як дакляравала была, а толькі зрабіла на яго тастамант.

Ён адразу пачуў сябе гаспадаром, і чорнае, змрочнае кола зрабілася стракатае, замігцела сьвежа-вычасанымі латамі. Ізноў весела і падноўлена пазірала страха залацістаю роўна падстрыжанаю саломаю.

## XII.

З-за вятлін, праз лістоту і кусты шыпшыны, чувацЬ былі задзерыстыя п'яныя выкрыкі, звон, рогат і песьні.

— Гэй... ўю!.. палі!.. кажы!..

Чуваць быў цяжкі тупат кованых ботаў і крыклівыя бабскія галасы, дзіўна і ня суладжана была п'яная весялосьць з узорна-хісткімі задумёнымі плямамі на траве, з шэптамі лесу, што крыху памахваў вяршалінамі.

Але як цішыня на хвіліну перамагла п'яны гвалт, чуваць было, як зьвінела вада, і каламутна, ня зводзячы цяжкага позірку, глядзеў млын, і паволі варочалася кола.

Ізноў выкрыкі, сьмех, жартаўлівая лаянка, блытаныя песьні, цяжкі і нэрвовы тупат тушылі цішыню, звонкія фарбы і нахабна, раскудлачана і п'яна панавалі сярод задумёнасьці лясного спакою.

З вузенькімі бліскучымі шчылінкамі, з потным шчасьліва-чырвоным, нястрымна разьеханым абліччам, з сівымі косамі таспадыня, седзячы перад разасланым пад вярбою абрусам з закускаю і трымаючы кілішак, што мігцеў хвалістаю гарэлкаю, выводзіла праразьліва высокім, як ушчэмленая ў плоце сьвіньня, голасам:

І пі-іць бу-дзем
І гу-уляць бу-дзем

— І гу-уляць бу-дзем!..—глуха, як з-пад зямлі, безнадзейна круцячы поткаю раскудлачанаю п'янаю галавою, патакаваў сусед:

—... а прыдзе сьмерць,
паміраць будзем!..

— падтрымлівае гаспадар, уважліва і злосна, топчучы зямлю нагамі, што не маглі трапіць, куды трэба.

— Ужо як прысьляпіўся быў... як прысьляпіўся...—як лякотка трашчыць, ківаючы галавою, чырвонашчокая з наўчна-хітрымі бабскімі вачыма маладзіца:—а я што-ж..... я—нічога, я—ня гордая... яны гэтыя, што гарадзкія, што яны!.. Падфарбуецца, падбеліцца, яшчэ сяк-так, а разьдзень яе, на ёй няма нічога...

— ... па-мі-раць бу-удзем...

— ... бу-удзем!—сьцьвярджае сусед.

— ... бу-удзем!—чуваць з лесу.

— ... бу-удзем!..—забівае цяжка гаспадар.

— Частуйцеся, любенькія, частуйцеся, ото-ж весела, ото-ж добра... Калі ласка, яшчэ... на наш век будзе, дом—поўны келіх, млын-жа бесьперасьціханку дзень, ноч меле... Хопіць-жа, Ясечка, саколік ты мой ясны.

— Ввельмі нават... па-мммі-раць бу-удзем...—хваравіта скрывіў рот, цяжка яму саўладаць з языком,—як здохнеш, старая, перш-наперш боты сабе юхтавыя... Га?.. Хто гаворыць?.. Бо на мяне працуе... на гаспадара... найміта найму... ггаспадар, і толькі, таго...

Праз чад пахмельля, што праходзіць наскрозь, ізноў блізка ўстаў лес, млын, штодзённая работа, гаспадыня, хмурна і падазронна азіраючыся, кідала на хаду:

— Ці ні зажурыўся па кралі па сваёй? Думаеш, нічога ня бачу? Усё бачу, злам і цябе!

— Ды ты што, з розуму вышла...

— Усё бачу.

— Цю... у лесе жывём, як ваўкі, голасу чалавечага ня чуваць...

— Ня чуваць, а што ты ўсё ходзіш ды азіраешся.

— Цьфу тты, праваліся ты .. Ад старасьці ёй прыстаўляцца пачало ўжо... Што ты мяне мучыш!

Нешта, чаго ня было раней, прышло і стала. Падазронае і няўлоўнае яно таілася за дзьвярыма, у млыне, здавалася ў хаце, на паляне, у голасе, у самых нязначных словах і выразах.

І гаспадыня казала, як садзілася палуднаваць:

— Дай-жа мне кавалак.

— Ды я табе адрэзаў.

— Ну што-ж, на, вазьмі мой.

Калі хлопец доўга замарудзіць каля млына або загаворыцца з завозьнікамі, ніколі яна першая не пачынала есьці або піць гарбату.

— Ясечка, еш, ці што, стыне.

— Зараз, еш сама.

— Ды што я... еш ты.

Пачалася лаянка, і па лесе гайсаў візглівы бабскі голас, пераблытваючыся з грубою лаянкаю наймітa.

Уночы да яе падыходзіў дзед. Прыдзе неўпаметку і бязгучна стане побач у цемры, бялеючы спакойным аблічам і барадою. А часам лягыць ніц, занурыўшыся барадою і глыбока запусьціўшы сагнутыя пальцы ў залацістый пясок.

Ёй ня было страшна, бо ў ягонай фігуры, у ягоным абліччы ня было дакору. Сумленьне яе даўно зажыло, і ён ня будзіў яго.

Але ў гэтым спакоі абліча, што нічога не западозравала, стаяла:

— І з табою тое самае...

Са стогнам скрыгітала праз сон, прачыналася досьвіткам, уся залітая халодным потам, і пазірала, ня зводзячы вачэй, пазірала з нянавісьцю на здаровае, маладое, моцнае абліча хлопца, які моцна хроп, адкінуўшы моцную руку і разявіўшы рот.

І яна падымалася, як кот, з зялёнымі па кашэчы бліскучымі вачыма, і з кашэчымі асьцярожна-мяккімі ўхваткамі, ня зводзячы вачэй з соннага, кралася ў куток і лапала пад лаўкаю рукамі. Ёй пакутна хацелася падняць і спусьціць вострую бліскучую сякеру упоперак гэтага чорнага роту.

Ён прачынаўся і са зьдзіўленьнем пазіраў на яе дзіка вытрашчаныя вочы.

— Што вытрашчылася? Ці не залаты зрабіўся?

— Задушу сваімі рукамі... кішкі выпушчу... ведаю што надумаўся, даўно заўважыла...

Дзень быў повен крыку, лаянкі, пагроз, упікаў. Ён біў яе не шкадуючы, з тэю асаблівaю жорсткаю пажадлівасьцю, з якою б'юць толькі жанчын.

Зьбітая, зьнявечаная, яна ляжала цэлыя тыдні, але як толькі ўставала, як толькі магла кратаць апухлымі губамі, злосна шыпела:

— Падрыхтаваўся ўжо... з краляю сваёю... нябось тут і чакае... сярбані, сярбані кашы спачатку... нябось, управіўся падсыпаць...

Што болей ён яе біў, дык зласьней ўпівалася яна, як клешч, у ягоную душу тысячамі западозраньняў, упікаў, скаргаў.

Як і раней сьвяціла сонца, хісталіся залатыя плямы, жаўцелі пяскі, зьвінела вада, сьпявалі пявучую музыку яскравыя фарбы дня, але, ўсё засталучваючы і гасячы, ня зьнікаў душны туман, і людзі затыхаліся.

## XIII.

Янка абуў свае апоркі, надзеў мытую кашулю, жакетку і пачаў падпіразвацца.

Увайшла гаспадыня і загаласіла:

— Ах ты басяк, ах ты паскуда, ізноў да свае кра...—і спынілася.

Нешта спакойнае, поўнае нутранога сьвету ляжала на ягоным абліччы, з якога зьнікла жорсткасьць і ўзлаванасьць апошніх год.

— Куды-ж ты, Янэчка?—прамовіла гаспадыня, пачуваючы, як зашчымела і ўпала сэрца.

Янка ўціснуў дзяжку, прасунуў канец, узяў торбу і шапку, павярнуўся да абразіка і пачаў хрысьціцца і нізка кланяцца.

— Бывай, гаспадынька, не ўспамінай ліхім словам. Пайду. Ня жыць нам, бачыш, як мы крыўдзім адно аднаго.

Ён нізка пакланіўся ёй: ускінуў торбу на плечы і вышаў.

Яна кінулася, хапаючыся за рукавы, завісала, цягнулася за ім, галосячы.

— Ды на каго-ж ты мяне, сіроцінку, пакідаеш?!. галубок ты мой любенькі—ці ўжо я табе такая праціўная?.. Ці-ж я табе не ўнаравіла чым?.. Ясячка, вярніся, ўсё—тваё, мне-ж і расінкі макавай ня трэба...

— Не, матка, ня жыць нам.

Ён адабраў руку і пашоў.

Яна заскочыла наперад і, ўся трасучыся, пырскаючы сьлінаю, крычала прыдушаным злосьцю голасам:

— Дык здыхай, валакіта сусьветная, здыхай з голаду пасярод дарогі, і каб табе ўсе праваслаўныя плёвалі ў паскудную мызу... каб ты пад платамі з голаду апух, голая ты доля!..

І захлёбваючыся ад дрыжачага нецярплівага жаданьня хутчэй выгаварыцца, пракрычала:

— Тастамант падзяру... здыхай!

Ён заўняўся, павярнуўся да млына і злосна плюнуў:

— Каб яна праваліласяа табе, окаянная... Душу ўсю выматала.

На паваротцы гразкое дарогі, што йшла ў лес, ізноў дагнала, павесілася на шыі і ціханька галасіла, вар'явалася.

— Ясячка, радасьці-ж ня ведала на сьвеце і расінкі. Сам ведаеш, маладосьць з старым пражыла, дзетак ня было... цяпер ты ў мяне адзін....

Яму зрабілася шкода гэтае жанкі. Ён спыніўся.

— Вярніся, слова напоперак не скажу...

Вызваліўся і хутка пашоў па дарозе, і доўга было відаць ў нядэшлым, што далёка сьвяціўся, лесе, як цьвёрда і упарта ішоў чала-

век, не азіраючыся, і доўга відаць было, як білася галавою жанка аб сыпучы, што прасьвечваў праз траву, пясок. Цёмны млын абыякава і мёртва пазіраў на абаіх, марудна варочалася кола.

## XIV.

Журботныя, адзінокія пачаліся гаспадыніны дні, месяцы. Сьвет ня міл. Куды-б не пашла, што-б ні рабіла, усё нагадвала пра Янку.

Шмат перадумала і ва ўсім сябе вінавáціла. Каб вярнуўся, зусім іначай пашло-б жыцьцё, ласкавае, ціхае, сардэчнае.

Сумна пазірала, як усё глыбей і глыбей ішлі ў лес пяскі, няўпынна, як старасьць

Патаемная надзея, што вернецца, жыла і ня тухла ў сэрцы і наганяла жах, што няспраўдзіцца.

Млын, лес ужо не памятуе старая, каторы гэта раз пабялелі сьнегам. Не станавіліся дубка сьціснутыя марозам пяскі і нярухома чакалі цяпла і сухіх ятроў.

Як мяцеліцы суняліся, і сьнег, нагінаючы гальлё, ляжаў цяжкімі пластамі, а халодны зімні месяц яшчэ ня ўзыходзіў, нехта бразнуў у вакно.

— Га?

Можа, луснула з марозу бервяно ці скаціўся з страхі лядзяк.

Яна прыціснула твар да намерзлае шыбы, загараджваючыся рукою ад сьвятла. Праз белаватую муту жалобна відзен быў сальвэт млына. Як прыглядзілася, ні то хадзіла цямнеючы фігура чалавека, ні то дрэва клалася пад акно цянём.

Сэрца застукала нявыразным прадчуваньнем, і яна трывожна спыталася:

— Ды хто там?

— Пусьці.

Прытрымліваючы, баязьліва адчыніла крыху дзьверы, і, уносячы марозную пару, ступіў чалавек у лахманох. Ён пазяб. Хмурны, худы, змардаваны быў у твары.

— Ясячка!

Так і кінулася. То плакала, то сьмяялася, а ён хмурна пазіраў на падлогу паміж каленьмі.

— Млын-жа як стаяў, так і стаіць.

— Як-жа, Ясячка, на нас, родненькі, на нас з табою працуе... цяпер эх як будзем жыць з табою...

— Не спаліў ніхто, добры чалавек.

— Што ты, што ты, Ясячка, што ты; корміць ён нас, гаспадары-ж мы з табою .

За дымным самаварам ва ўтульнай цёплай сьвятліцы расказваў звычайную рабочую валацужную аповесьць. Працаваў, як вол, каб сабраць, паехаць у вёску, прыдабыць сям'ю, гаспадарку, але як ня было работы, як швэндаўся па эканоміях прапаноўваючы рукі, усё праядаў.

— Во...—ён падняў руку,—пальца ня было,—адарвала на машыне, тры тыдні пракачаўся.

Узлавана пазіралі змучаныя вочы.

Першыя дні гаспадыня ня ведала, чым карміць, куды пасадзіць госьця і, ня зводзячы вачэй, пазірала на яго.

А начамі ізноў пачаў учашчаць старык. Нярухома ляжаў ніц, і здавалася, бялеючы, барада, як мута на вокнах. Ва ўсёй добрай старэчай фігуры ня было і заваду ўпіку, і было гэтулькі дабраты, было гэтулькі дзіцячае даверлівасьці, што яна ўся трэслася, як прачыналася, і дапытліва пазірала Янку ў вочы.

— Каб зірнуць табе ў душу... што ў цябе там,—сумна гаварыла яна і са злосна-скрыўленым абліччам, уся трасучыся, шыпела:

— Сям'ю сваю захацеў прыдабыць... я не патрэбна стала, адзін млын патрэбен, прыбыткі, а мяне можна справадзіць... у-у, ліхадзей!.. у-у, забойца!.. Каб ты здох.... прапсюру, здохнеш пад плотам...

Ізноў упікі, неўтаймаваныя западозраньні, ізноў жахлівыя крыкі жанчыны, якую б'юць, і ўсё адзін і той самы, што нічога не гаворыць, мёртвы позірк рэчаў. І пад гэтым тупым і цяжкім позіркам, поўным мёртвае ўлады, людзі былі маленькія і нікчэмныя.

Міналі дні, тыдні, месяцы, гады, ствараючы страшную прывычку жыцьця.

Ізноў хада часу адчувалася толькі таму, што то там, то тут зялёнае раскідзістае некалі, што шапацела жывымі лістамі, дрэва цяпер стаяла нярухомае, мёртва ўзьнімаючы да неба сухія нятрывалыя галінкі. Ды пяскі роўна, нямінуча спакойна расьсяляліся ў лесе.

У рэдкія хвіліны, як гаспадыня паедзе куды, зьвінела вада, у лесе аказваліся на сухім гальлі турчыкі і дзікія галубы, Янка выходзіў на пясчаны узгорак, садзіўся, браў у рукі галаву і думаў.

Думаў, што ён нібыта на гасьцінцы ў гарачыню ходзіць па эканоміях, і няма дзе наняцца, і расіцы няма ў сухім роце. Забыўся і думаць пра гаспадарку, пра сям'ю. І нібыта наўкола нічога няма, стаіць адно млын, чорны, насуплены. І нібыта пухне ён. Ужо з варота ўшыркі зрабіліся дзьверы, вышэй над дрэвы мігціцца вялізнае кола, і пад самыя, пад самыя пад шэрыя хмары ўзьнялася шырокая страха. І куды ні зірне, усюды чарнее млын.

Раптам...

Ён расплюшчвае вочы, узмахвае галавою, сьвеціць сонца, зьвініць вада, ззаду праз дрэвы чарнее млын.

— Ці бачыў, задрамаў. Пайсьці паглядзець засыпку.

Устае ды йдзе працаваць.

Варочаецца гаспадыня, ды ізноў і лес, і звонкая вада, і галубы засталучваюцца крыкамі, лаянкамі і піскліваю злосьцю.

## XV.

Задумаўся Янка. Мала пачаў есьці, слова ад яго ня дойдзеш, пакінуў біць гаспадыню. Галоўнае—пакінуў біць і гэта больш за ўсё

яе турбавала. Цэлыя ночы ня спала, трымала заўсёды хлеб і скаромнае пад замком і пільна сачыла, каб не падсыпаў чаго ў ежу.

— Ну, чаго маўчыш? Чаго маўчыш, крыванійца!..

Досьвіткам, як нікога ня было з завозьнікаў у млыне, Янка пашоў у сьвіран, пакапаўся, нешта ўзяў, і суровы і хмурны падышоў да яе.

— Хадзем.

— Гэта яшчэ куды?.. Да каб ты здох, каб цябе трасца затрэсла, халера скурчыла... каб ты...

Ён зьбіў кулаком, схапіў за касу і павалок.

Старая ў роспачы хапалася за гальлё, за кусты, за траву, за пясок і раўла, нібы жывёлу тут рэзалі.

Але як млын астаўся ззаду і наўкола абступіў лес, моўчкі і абыякава плытаючы ў галінах поўныя прадсьмяротнага жаху крыкі, старая стала на ногі і прамовіла, трасучыся, як ліст.

— Ясячка, родненькі, куды ты мяне бядзеш?

— Ну хадзі, хадзі...

І яны ішлі паўз сухіх вазёр, паўз прагалкаў, бялюсенькіх ад пяску. А як увайшлі ў зарасьнік, заблытаны дзікім хмелем, сказаў.

— Кленч, гавары пацеры.

У спушчанай руцэ цяжка паблісквала сякера.

Яна паваліліся, хапаючыся і абнімаючы ногі.

— Родненькі, ня губі ты сваю і маю душу... дай ты мне наглядзецца на сьвет божы...

А ён спакойна і холадна:

— Напакутваўся... цярплівасьці не стае... дня ня бачу... усё адно канцы мне... ня вырабіцца... а табе здыхаць даўно пара, старая ведзьма...

— Ясячка, ня дасьць бог табе шчасьця... успамянеш маё слова.

Яна паўзла, хапаючыся за яго ў прадсьмяротным жаху. А ён адышоўся на крок:

— Ну старая, ня хочаш гаварыць пацер, ці што?.. Дык і так пойдзеш...

І, адставіўшы нагу, размахнуўся сякераю.

Яна завішчэла, але ня з жахам, а са зьвярыным крыкам шатанскае злосьці:

— Тастамант... тастамант-жа я... падрала...

Ён застыў з занесенаю сякераю, а яна качалася ў гістэрычнай злоснай радасьці, у рогаце, дрыжыкамі ўпіваючыся ў зямлю, і пена бурбалкамі пастала на губах.

— ...падрала... падрала... падрала...

І лес, хмурна абнімаючы з усіх бакоў, кпліва і глуха паўтараў страшнае слова:

— ...падрала... падрала...

На сухой галіне кланялася варона:

— Страціў... страціў... страціў...

Упусьціў сякеру, пашоў, хістаючыся, трымаючы абедзьвемі рукамі галаву. А над ім стаяла бурае неба, бурае паветра, лес, што затануў

у мутна-бурай імгле. Пясок узьняўся траха ні да самага неба, і хадзілі, нахіліўшыся, мяняючыся няясьнымі абрысамі, касыя слупы, тручыся вялізарнымі галовамі ў мутна хісткіх хмарах.

Куды ні зірнеш, было аднастайнае, і ня было прасьвету, ня было межаў роспачы.

## XVI.

Час мінаў не чакаючы, нібы нічога асаблівага не адбылося. Гаспадыня кешкалася з птушкамі, тарокалася з завозьнікамі, брала мерку. Янка засыпаў, накоўваў камень, папраўляў паломатае.

— От што, гаспадыня, калі тастамант ізноў не напішаш, сыйду, няма чаго мне тут жыць, от табе апошняе слова.

— Хадзем да папа. У яго ляжаў тастамант, у яго ізноў напішу. Пашлі.

Поп вышаў на ганак і ваўкавата пазіраў на абаіх.

— Бацюшка, да вашай міласьці.

— Вы чаго гэта,—ня слухаючы, загаварыў поп,—чаго-ж гэта шлюбу не бярыцё. Што-ж гэта па бусурманску? Душы свае ў пекла рыхтуеце? Брыдка табе, старая, гэтак я і прычасьці ня дам, гавець будзеш.

— Бацюшка, ды куды тут выходзіць,—гаспадыня заплакала,—да паўсьмерці б'е, месца жывога няма. А тыдзень назад што надумаўся: завёў у лес і хацеў засекчы, от як перад богам. І цяпер той тастамант, што ляжыць у вас на яго, няхай ляжыць, але толькі, калі мяне забітую знойдуць, або памру, ён мяне, значыцца, зьвёў, так і ведайце, хоць няхай рэжуць нябожчыцу.

Янка адступіўся. Халодны пот укрыў аблічча.

— Дык тастамант цэлы быў!..

У галаве зьвінела, і ён ня чуў пра што гаварылі.

— Э-э, ды ты вунь куды глядзіш? Катаргі захацеў? Ну, от што: касьба хутка, дык прыходзь тыдні на два лужок скасіць, на царкоўнай зямлі... заместа эпітыміі будзе, грэх будзеш замольваць... ды глядзі, прыходзь, ато і паліцыі можна... той казаў... А ты, старая, тастамант лепш бы на царкву перапісала, ды, ато грэх гэтак...

Мёртвая петля зацісьнула. Сыйсьці не хапала сілы, ды і ад работы цяжкае адвык, у млыне было заўсёды пекла. Гаспадыня не перасьціхала крычаць: забойца, рыштант, катаржнік, а ён біў яе, азьвярэлы.

## XVII.

Ці вячэраў з гаспадыняю надвячоркам, ці гаварыў з завозьнікамі, ці засынаў уночы, заўсёды стаяў каля яго Нехта трэці. Янка расплюшчваў вочы, і заўсёды адзін і той самы вырысоўваўся чорны абрыс млына.

У гуле каменю, у пераліўным звоне кола чулася разьмераная гамонка. Нехта бесьперапынку і ўдзень і ўночы гаварыў, не перасьціхаючы.

Спыняўся, нахіляў галаву, прыслухоўваўся. Здавалася працяжна, аднастайна:

— ...о-го-го-о-о... га-га-а-а-у-у... го-го-о..: —

Своеасаблівая, адменная, нікому незразумелая мова, але з чалавечымі думкамі. І, як восеньні туман над рэчкаю, думкі гэтыя нявыразна, разарвана, мяняліся і раставалі, няпрыкметнымі абрысамі смутна складаліся у:

— То—мой... ты—мой... не ўцячэш... ты—мой... не ўцячэш... ты—м-о-ой...

Да гэтага гультаяватага ў руху кола, да гэтага чорнага, хмурнага зрубу з зьвіслаю саломаю, да разьмерана звонкай вады, да каменя з аднастайнаю заўсёды ягонаю гаворкаю, але з разнастайным таемным зьместам, Янка навучыўся ставіцца, як да жывога

— Чаму ня йдзеш вячэраць?

— Млын, бачыш, ня пушчае.

Або:

— Кола нешта ўзлавалася, траха рукі з плячука ня вывярнула.

Або:

— Ну і разьвесяліўся сёньня камень: так і скача, так і скача, муку не ўпраўляешся адграбаць.

Калі стомліваліся ад спрэчак, бойкі і лаянкі, пачыналі піць, гуляць. Прыяжджалі з хутароў, пілі завозьнікі.

Калі Янка напіваўся, яго баяліся. З чырвонымі, як мяса, вачыма дзіка пазіраў з-пад намружаных брывей, калматы, з разадраным каўняром.

То плакаў, абнімаючы галаву, п'янымі сьлязьмі.

— Галоўка ты мая бедная, прапала ты ні за грош, ні за нюх табакі. Што я на белым сьвеце бачыў? Жыцьця ня бачыў, радасьці ня бачыў, адно пясок сыпучы жытку маю засыпае... Ах ты, праклятая!..

Цяжка і доўга пазіраў на млын, і выгляд такі самы чорны, спакойны, скрыўлены, такі, які, мусіць, быў і за старым, за ягоным бацькам, і абымшэлае кола, што абыякава варочаецца, запалілі у ім злосьць.

— Праклятая!

Схапіў сякеру, як вар'ят, сячэ. Сякера глуха па самы абух з размаху ўбягае ў пачарнелае дрэва, раскідаючы трэскі. Трашчаць, расколваюцца і зрываюцца з завес дзьверы. Гаспадыня ў роспачы скавыча:

— Вяжэце, вяжэце яго, вужаку!.. Прапала дабро!.. Вяжэце яго!..

Трэскі разьлятаюцца ва ўсе бакі, і зруб пачварна разяўляе рот.

— Не падступайся... заб'ю!..

Цяжкая сталь усё глыбей і глыбей увaходзіць у жывое чорнае мяса, і з візгам асалоды раз по раз ўсаджвае з чырвоным ад напружаньня абліччам чалавек. От, от абурыцца, і на ўвесь лес зараточа больны чалавек.

— Го-го-го-го-о-о...

— Вяжэце яго!.. Вяжэце яго!.. Беце ў маю галаву!.. Ой, баценькі! забівае!..

— Го-го-го... га-га-га...

Прыбеглі госьці, завозьнікі, але да Янкі, у чыіх руках сьвістала сякера, страшна было падступіцца. Сяк-так выбілі сякеру калом, зьбілі з ног, населіся, сьцягнулі назад рукі і, узлавана дыхаючы, адвалаклі назад пад вербы.

Назаўтрае, толькі разьвіднела над пяскамі, Янка ўзяўся за сякеру і старанна ўвесь дзень зацыроўваў пасечаныя месцы і зьбіваў новыя дзьверы.

Мала пражылі яны адно аднаго. Памерлі амаль ня ўсьлед спакутваныя, стомленыя, але ўжо прывыкшы, прымірыўшыся да ненавіснага жыцьця.

І калі іх везьлі на каламашцы, млын, напалову зруйнаваны, са зьвіслымі камякамі пачарнелае саломы, пазіраў на труну з тым самым абыякавым мутным, які нічога не гаворыць, поглядам. Асьлізглае, укрытае мохам кола варочалася павольна і абыякава.

Непераможна насоваліся пяскі.

Доўга выглядалі з пяску напалову засыпаныя пачарнелыя зломкі млына. Нарэшце і іх зруйнавала з зямлёю. Пясчаны прастор насунуўся да самае ракі.

І ў месячныя ночы мігцелі прывіды, бялелі хаты, цягнуліся таполі, бразгалі ў бабаў рублі, і праз звонкую цішыню, і праз звонкія сьлёзы чулася:

«а на правай на ручачцы ды радзімы знак»...

Прывіды раставалі, і бялелі пяскі, нярухомыя, мёртвыя, ды цені, чарнеючы, выцягваліся ад узгоркаў.

---

Мікола Хведаровіч

# РАДЗІЎСЯ ЧАЛАВЕК

## ТАК БЫЛО...

На моры хваля гнала хвалю,
Раджаўся дзень, зьнікала ноч,
А ў поўнач совы заікалі,
Пільнуючы трухлявы корч.

Людзкія рукі ў працы нылі,
А зрок ярчэў ад шчасьця жыцьць.
Зямлю жалезам паланілі,
Змываючы сьляды іржы,

І засявалі зернем. Ў стоме
Набухнуўшы жытлом, палі
Буялі сьпелаю саломай
І нанава яны цьвілі

Зярнятамі, пахучым клёкам
І зыркасьцю ў жыцьцёвым тле.
Такім уцешным зорнавокім,
Раджаўся хлеб, пахучы хлеб.

Зноў абуджаліся ўзьлёты,
Ізноў раскошаю цьвілі
І сьмех, і радасьць, і турботы,
Надзея, праца і палі.

Багацячы зямную раду,
Ад скону дня, ад веку ў век
Жыў хваляваньнем, заняпадам,
І ўзьлётам сьмелым чалавек.

Здабыткамі ён славіў гора,
А потам—дні свайго жыцьця,
Няўцям была яму пакора,
І скон жыцьця яму—няўцям.

Багацячы зямна палацы,
Ад скону дня, ад веку ў век
У муках, болю, поце, працы
Радзіўся волат-чалавек.

На моры хвалі гналі хвалі,
Раджаўся дзень, зьнікала ноч.
І неабдымнасьцю крылялі
Абшары васільковых воч.

Лясы сьпявалі безьліч песень
І сонца высьцілала шлях,
Праменьнем яркім паднябесься
Здавалася яму зямля.

Яна дарыла безьліч працы,
Бяздоньня гора, змрок начы
І дужасьць стала завіхацца,
Каб гэты змрок перамагчы.

Багацячы зямна палацы,
Узыходзіў дзень, праходзіў век...
У болі, радасьці і шчасьці
Радзіўся волат-чалавек.

### І гэты сіні далягляд...

І гэты сіні далягляд,
І гэтыя сьляпыя далі,
І гэты перазірк назад—
Хаду яго зачаравалі.

Як мор, захопніцтва сьцяло
Гарачую узьнёсласьць зрокаў.
Сьціскалася тужэй сіло
Прадажных дзедаўскіх аброкаў.

За перагонам—перагон,
Ня зьлічыш гэтых перагонаў,
Буянасьць дальніх берагоў,
Заўзятасьць паланелых гоняй.

Хадзьба няведамых хадкоў
І папярэднікаў шуканьні,
Сьляды іржавыя падкоў—
На парастках усходаў раньніх.

На костках мору і маны
На багне чалавечай славы
Буялі сокам дзірваны
І дзідамі шляхі паслалі.

Зямлёй арудаваў Васал,—
Бязьмежнасьць ніў яго пшанічных,
Уласнасьць, дужасьць сам-на-сам,
Закону жорсткае аблічча.

Сьвятыня—статуй багача,
Ад нашчадкаў зьвіняць трамбоны,
Жабрацтва, бэстасьць палача
Людзкою больлю нявымоўнай.

На гэтай потайнай хвальбе,
На выдумках яе акрасы
Гугнява змоўленасьць скрабе
Шкрадою ўласнай перагасы.

А гэты сіні далягляд,
І гэтыя сьляпыя далі,
І гэты перазірк назад—
Хаду яго зачаравалі.

## Дарогаю яго жыцьцёвай...

Дарогаю яго жыцьцёвай,
Бясконцай пуцявінай шчасьця,
Нязьмерна горка палыновай—
Ня суджана яму прапасьці.

Бывае холад няньчыць люта,
Бывала расьцьвітаў ён ружай.
Яна—жыцьцёвая пакута—
Загартавала крута дужасьць.

Дарогаю яго змаганьня
І зараз вецер люты студзіць,
І зараз сонечнае раньне
Хвалюе і ласкоча грудзі.

Яно палоніць прагай ўзьлётаў,
І творчых дум яго бравада
Крыліць бясконцаю работай—
Штодзённасьць і жыцьцё і радасьць.

Але навокал ломяць коп'і
І кожны час трымціць крывава,
Шаленьне існасьці ў таропе—
Здабытак на пражытак права.

З багацьцем спацыруе дужасьць,
Шалеючы ад прагі шчасьця,
І кажанамі здрада кружыць
І чарнакрыльлем сонца засьціць.

Прыжытая вякамі помста,
За каплю першай асалоды,
Балючым муляе наростам,
Крывёю сочыцца, нязгодай.

Скіліць жабрачаю асінай,
Лютуе сіверам на багне...
Змаганьня кожная часіна
Скрыгае ў ярасьці зубамі.

Дарогаю яго цярністай—
І замяць бесхацімна цьмее,
І сьпеў лютуе урачыста
Глухой начы Варфаламея.

А ён, упарты і нязломны,
Гартаваны ліхой нядоляй,
Руйнуючы усе законы
Куе сабе жыцьцё і волю.

Ясноты для жывога слова,
Упэўненасьць крылатай справе,
І росквіту для творчых сховаў,
І права чалавечай славы.

А шчасьця-ж хопіць ўсім на сьвеце,
Яго здабудуць працай людзі...
Праз стому, скрогат ліхалецьцяў
Яно надзеяй песьціць грудзі.

## Калі ты будзеш жыць...

Калі ты будзеш, волат, жыць,
Прыгледзься ў навакольнасьць кемна
Жыцьцё ў таропе мчыць, імжыць,
Там горды творца і нікчэмнасьць—

Заходзяцца ў такой гульні,
(Яна жыцьцёваю завецца)
Яглом сабачае ганьні,
На ружах дня—абраза сьмецьця.

Пакуль кірунак твой цьвіце
А зрок імкнёны прамяніцца,
Калючы вязь табе пляце
Нікчэмны і зайздросны хціўца.

І дзідамі—на сэрцы чмар
Твае жыцьцёвае таропы.
Ў насупе валавяных хмар
Тваім зрабіўся далакопам.

Другому поперак нажом
Ляжыць тваё зямное шчасьце;
Яго ён ціханька, выжлом
Прытворна мерыцца абкрасьці.

Яму няўцям праліты пот
І чэмер дзён жыцьцёвым бродам.
Юліць на словах абармот,
Карціць тваею нагародай.

І сябра дзён твайго зямна,
Любові нявымернай шыры—
На справе здраднік і мана,
На словах хціўца і няшчыры.

Нянавісьцю спалі ты іх,
Гаці ў бяздоньне збродаў згубкі:
Яны на радасьць дзён тваіх
Каравыя працягнуць рукі.

Яны спрадвеку чорны сьлед,
Паклалі у ясноты даляў.
Цьвіце бясчынства курасьлеп,
Гаціць уходы кукалямі.

Ўвесь гэты чорнакрылы зброд—
Падонкі, дзён былых акраса,
Як водгук апантаных год
Эксплёататарскае клясы.

Яно—прыжытае—карціць,
Шукае свае выйсьце ў новым,
Каб дзірванамі парасьці
І чмарам горкім палыновым.

Зьмяці нянавісьці агнём
Асколкі дзён былой аруды:
Яны трухлявым цьмеюць пнём,
Пачварным асядаюць хлудам.

Агнём пылае ў сэрцы кроў,
А далі радасьцямі клічуць,
Зьмяняе волі змагароў
Зямлі скарузлае абліčча.

Ў змаганьні тым гартуйся сам,
Адзінай барацьбой адвеку,
Каб нашых новых дзён краса—
Паўстала постаць чалавека.

## Я заўважыў зыркасьць воч...

Я заўважыў зыркасьць воч,
Разбэшчаную волю прагі;
На вуснах—сьмеху ператоч,
Клумок адхолівай зьнявагі.

На сонца зырыш гэты сьмех—
На дол праменьнем ён лажыцца...
Расчуленасьць зславіць прымей
Хвалёным каласункам жытца!

Твой шлях праменьне залаціць,
Туманны-ж досьвітак стапнее.
Бадзюгі змрокі калац цьь
Заўзята рушыла віднея,

Яе ня спыніш. Барацьбой
Да перамогі прыйдзе сьветлай:
Незабракованы набой
Агнём на сэрцы змогу петрыць.

Я заўважыў дужы рост
У думах воч чарнявай смолі,
І росквіт чалавечых кроз.
І радасьць чалавечай волі.

Хоць вілаваты боек шлях
Хоць сьлед хады ў тузе сумёгаў,
Хоць недамораная тля
Пачварай мерыцца употай—

Шалёны часу кругабег
І зьмена дзей яго—бясконца:
Ў змаганьні, стоме, барацьбе,
Радзіўся найвялікшы творца.

Яго здабыткі—множаць дні
Геройствам, гонарам, адвагай.
Зырацъ вачэй яго агні
Крыніца нявымоўнай прагі.

Гісторыя, шалёны бег
Твой зачарованы спрадвеку,
Але ў зацятай барацьбе
Радзіў ён творцу чалавека.

Яго я заўважыў рост
У думах воч чарнявай смолі,
І росквіт чалавечых гроз,
І радасьць чалавечай волі.

### Заўзяты ях брахні...

Заўзяты ях брахні
Ліслівы цягне хвост.
Крывавых дзён хадні
Паложаны на прост.

У стоме ноч прайшла,
На небасхіле—рань,
Паўночная віхла
Мяркуецца зырацъ.

Разьбіты чорны склеп,
Шалее тхла хаўрус.
Паломаную клецъ
Пільнуе зброд спакус.

За даляглядны ніў
Туга зямлі спадзе,
Адменнай цяплыні
Прыходзіць новы дзень.

Ён сьпетрыць змовы бруд,
Разьвее сон начы,
Уласьніцкіх аруд
Спапеліць гніль-карчы.

У скарбах тых яго—
Жытло і сьвет вясны,
Праменны перазвон
Ад ніваў каласных.

За далягляды ніў
Ту а зямлі спадзе.
Адменнай цяплыні
Прыходзіць новы дзень

17|XI 1932 г.
г. Менск

**Юрка Віцьбіч**

# МАРТЫН ПУТРА

„Без тебя винтовкой меньше одной,—
Не могу отпустить,—Погоди:
Сегодня ночью последний бой.
Налево кругом—иди“.

М. Ціханаў.

## I

У прапахлым ранэтамі і піжмай верасьні, калі залунаў у паветры ігліцай расчэсваны кужаль, узяўся полымем аднойчы спазаранкам на ўзгадаваных пярунамі прысадах хударлявы барбарыс. І полымя пайшло ўгору, дзе пераблыталі ў пуціне па сонца галіны свае смугою набраклыя ліпы і залевамі апойваныя лёмы. І полымя пайшло дадолу, дзе раскідваючы вакол пялёсткі свае, імкнулася ўгрунь паміж гарыць ветамі і шпажнікамі неўгамаванае вандруй-поле. А потым павалілася зьнячэўку апраметная пройма і, раздмухваючы вігнішча, пачала засягваць заслонай іскр і ўтоптаны коламі набітых скрынь, сумежны прысадам байдан, і выразныя шарэнгі дзіўнаю цішынёю агорнутых гармат, і строгія фасады калючым дротам агароджаных кашар, і прынізістыя, з падрапаным магутнымі падкоўкамі бруканцом перад шырокімі дзьвярыма, стайні.

Часам зусім зьнікаючы ў асеньнім полымі і больш моцна тады адчуваючы няявычайны жар уласнай крыві, па прысадах, ад кашар да мэдычнага акалотку, хутка крочыў чалавек у шэрым шынелі. Ён расшпільваў некалькі раз затыхаючыся каўнер з чорнымі ў чырвонай акантоўцы артылерыйскімі пятліцамі, і адразу-ж вецер, прабягаючы золкім струменьнем па сьпіне, прымушаў да ляску зубоў задрыжаць і зашпільваюць каўнер зноў. Занадта цяжкім, нібы з жалеза адлітаваным здаваўся шлём, як у рэкрута на палігоне гармідарыла ў вушах, і кожны адмераны чырвонаармейскі крок дакладна адзначаўся балючым грукатам у скроні і вострым уколам у шыю. Чалавек павялічыў рух, але пакуль дайшоў да дзьвярэй з чырвоным крыжам поверх, здавалася вечнасьць змагаўся ён яшчэ з упартым сіверам, які біў яму з азьвярэньнем у грудзі і блытаў крысы доўгага з вялікім разрэзам ад заду шынелю. Абгінаючы перад ганкам шпітальную двуколку, ён убачыў выпадкова ў шкле галярэі адлюстраваньне свайго

сухога, нэрвовага, з тінкім носам твару, зьмянёнага цяпер нядужаньнем так, нібы праглынуў ён кагадзе цалкам цытрыну і ўсьміхнуўся:

— Э-эх, Альшэўскі, зусім нос на гвінты спусьціў, а яшчэ курсант каманды аднагоднікаў і без аднаго кубіку камандзір разьдзелу лёгкай палявой артылерыі.

Перш як увайсьці ў будынак, Альшэўскі, схапіўшы ў жменю лісьця абчысьціў боты, прапусьціўшы звыкла вялікія пальцы пад рэмень хуткім рухам рук ад спрожкі да хлясьціку разгладзіў зморшчкі на шынялі і, торгнуўшы дужку дзьвярэй, апынуўся ў калідоры, спавітым звычайнымі для ўсіх акалоткаў пахамі—карболкі, едаформу і масьлянай фарбы. Потым курсант нерашуча і нібы чымсьці зьбянтэжаны ўвайшоў у пакой палкавога доктара.

Пад шафкай з пінцэтамі і зондамі сядзеў, разьлёгшыся на крэсьле і выцягнуўшы на матах брудныя боты, за халявай аднаго з якіх тарчала абкусаная драўляная лыжка чырвонаармейца. Ён з выразам вялізарнай пакуты трымаў пад пахаю тэрмомэтр і з-пад зашмульганай расхінутай гімнасьцёркі выглядвала кужэльнае галяндэрскае палатно, а ў вачох пад брылем шлёму з загубленай дзесьці зоркай блукала штосьці лісьлівае толькі яму аднаму—яздоваму 1-й батарэі Сьцяпану Юрчуку—вядомае. За сталом, побач з доктарам Жыглевічам, яшчэ зусім юнаком і па юнацкі жвавым і самаўпэўным, праглядваў газэты камандзір 1-га дывізыёну Путра. Альшэўскі, дзыбаючы, прайшоў у кут пакою да зэдліку і, сеўшы, пачаў чакаць свае чаргі.

— На што скардзіцеся?—падымаючыся і падыходзячы да Юрчука, казаў Жыглевіч.—Вы здаецца і ўчора, і заўчора, і пазаўчора заходзілі ў акалотак?

— Аняго-ж не, таварыш дохтар. Немарацны дык ён вядома не да дзяўчат на вецарынку пойдзе, а ў бальніцу да лекара. Хіры[1]), як сабакі карнатыя, усяго абселі і зжаўцеў зусім, нібы тая баркана[2]). Некалі я абвіртасам[3]) у Віцебск—і вецер дзьме ў Віцебск, я абвіртасам з Віцебску—і вецер дзьме з Віцебску, а цяпера-ткі я ў Віцебск, маю бедную талаву, авохці, нейкая панажа[4]) і ці дасьце веры ці не, а ледзьве вось гэтыя дзьверы да вас адхутаў[5]). А праца яздовага, дык хоць да пары засілься. Заўсёды каля коняй, пярун іх на вэтлух бі, заўсёды на падвеі. Дужа прашу вас, таварыш дохтар, просьма прашу, явеце такую ласку да хворага, каб мяне перавялі ў палковыя кухарцукі. Га?

Жыглевіч уважліва, чамусьці ледзь значна ўсьміхаючыся, выслухаў і потым, схапіўшы Юрчыка адною рукою за плюсну, а ў другой заціснуўшы гадзіньнік, пільна сачыў за рухам стрэлкі. Выразны пульс абганяў сэкундныя удары, адбіўшы ў хвіліну 72 разы. Узяўшы

---

1) Павет. Віцебшчыны—Нядужаньне.
2) Павет. Віцебшчыны—Моркава.
3) Павет. Віцебшчыны—Хуткая пуціна ў два канцы.
4) Павет. Віцебшчыны—Напасьць, навала.
5) Павет. Віцебшчыны—Адчыніў.

тэрмомэтр, доктар убачыў як белы слупік застыў дайшоўшы да лічбы—36,6. Тады, падыйшоўшы да стала пачаў пісаць і, скончыўшы казаў:

— Вось рэцэпт ад усіх вашых хвароб:

RECEPTUM

19 15/x 3 . г.

Rp: Aquae destillate 100000,0

D. S. Суды ў дзень

Ч-цу Сьцяпану Юрчуку

Палковы доктар
*Жыглевіч*

Толькі ў такой дозе гэтага лякарства ў нашай аптэцы няма, і трэба зьвярнуцца да палковага вэтэрынарнага акалотку. А лякарства гэтае—суды гатаванай вады трыма наваратамі ўдзень нашча. Перад карыстаньнем заўсёды ўскаламучваць.

Юрчук адымі толькі губамі крыва ўсьміхнуўся, а ў вачох заўважыў Альшэўскі злосьць бязьмежную, на ўсё рашуча для спаталеньня свайго здольную, якая і цяпер прымусіла пальцы яздавога паступова складвацца ў кулакі. Раптам Жыглевіч, рэзка зьмяніўшы тон і падвысіўшы гілас, загаварыў:

— Вы, Юрчук, першы ў нашым гарматным палку сымулянт. Разумееце? Сы-му-лянт! У вас надзвычайна дужы арганізм без усялякіх намёкаў на хваробу, і трэба вялікая нахабнасьць, каб яшчэ штодня заходзіць у акалотак. Вось і сёньня тэмпэратура і пульс у вас, бязумоўна, здаровага чалавека.

Путра, які даўно ўжо зацікаўлена сачыў за аглядам Юрчука, казаў:—Дык гэта-ж вядомы ўсяму палку Сьцяпан Юрчук. Яздовы, які сьвядома блытае калёсныя атосы з гарматнымі пастронкамі, пенчную абору—з баявым шнурам. У журнале дысцыплінных спагнаньняў 1-й батарэі супроць яго, апошняга ня толькі па альфабэту запоўнены цалкам аркуш, і цяпер спагнаньні запісваюць на вокладцы журнала. Імпэтна ўстаўшы, Путра падышоў да Юрчука і, стаўшы на выцяг, казаў:

— Устаць!

Юрчук марудна падняўся і яшчэ больш марудна выцягнуў рукі па швох.

— Перакажэце камандзіру агнявога разьдзелу 1-ай батарэі, што я вам даў два прызначэньні без чаргі. Паўтарэце!

Скрывіўшы ў бок губы, нібы давячыся чымсьці, Юрчук глухім і нязвычайным для сябе голасам паўтарыў:—Загадана перыказаць камандзіру агнявога разьдзелу 1-ай батарэі, што ад камандзіра 1-га дывізыёну я атрымаў два прызначэньні без царгі.

— Потым,—гаварыў далей Путра,—я прапаную яшчэ палітківраўніку 1-ай батарэі праверыць ваша сацыяльнае паходжаньне. Не даю веры, што вы—сын грузчыка, як адзначана ў чырвонаармейскай кніжцы. Калі ваш бацька грузчык, дык мой, напэўна, генэрал ад інфантэрыі. Нюх у мяне ў гэтым стасунку спрактыкаваны. А цяпер—як мага барджэй адсюль.

Калі Юрчук, неяк спатыкаючыся, выйшаў, Путра паклаўшы на стол шашку з рэвальвэрам і здымаючы па прапанове доктара фрэнч, гаварыў:—Ніколі не сумняваюся, што вось такі выпадковы чырвонаармеец на фронце пачне ў рашучы момант сеч пастронкі і, пакінуўшы ворагам зусім баяздольную гармату, дасьць драпака на канёх. Ён-жа пасьля першай нязначнай перастрэлкі прыйдзе ў акалотак з раненьнем у паказальны палец.

Не заўважыўшы нават, як хутка сапрэўся пад пахай кагадзе толькі падобны да ледзяню тэрмомэтр, Альшэўскі нібы ўпяршыню разглядваў камандзіра дывізыёну. Увайшоў моцна ў сьвядомасьць курсанта Мартын Путра ў зашпіленым на ўсе гузікі шынялі, абцягнутым партупэяй і рэмнямі таксама туга, як туга быў абцягнуты сінявай ад частага галеньня скурай твар яго з упартым падбародкам, увайшоў з мэталёвым прарэзьлівым голасам і сакавітай мовай старога салдата. І хіба-ж гэта ў Мартына Путры, які цяпер па пояс голы стаіць нярухома пасярэдзіне пакою, прабег коса праз усе грудзі шабельны пісаг, а на лапатцы прытулілася цынамонавая ідылічная радзімка? І хіба-ж гэта ў Мартына Путры моцныя цягліцы каменячоса і больш моцна як трэба пад левым саском віхурыць сэрца? Прагнымі вачыма юнака, нават заняўшы на ўласную хваробу, разглядае камандзіра дывізыёну Альшэўскі.

На што скардзіцеся?—запытаў абыдзённа Жыглевіч, пасадзіўшы Путру на зэдлік і сам сеўшы супраць яго.

— Дыхавіца ў час хуткага руху, начамі прыступы задушша, як быццам пры слабай канцэнтрацыі хлёру, сталы шум у вушшу, мэрам на перадавой агнявой пазыцыі, замарока. А гады два таму адчуваў толькі парою лёгкую дыхавіцу.

Доктар уважліва дасьледваў твар пацыента, нібы жадаючы па рысах яго прачытаць назву хваробы. Заўважыў прамяністыя вахляры каля вачэй, ломаныя зморшчкі на лбе, зьвілістыя артэрыі на сівізною шчыра зачэпленых і скронях і ўжо дакладна акрэсьленыя сумныя складкі ў кутох роту. Абмацаў артэрыі рук, якія згубілі калішнюю сваю элястычнасьць і перакінуліся ў цьвёрдыя, больш на гусіныя

трахэі падобныя, шнуры. Ён пачаў папрукваць пальцам па прудзях, потым выслухаў іх чуйным стэтаскопам і, калі Путра паклаў па яго прапанове сашчэпленыя рукі за галаву, доктар нават усьміхнуўся задаволена, стараючыся адразу-ж скамячыць грымасай усьмешку, пачуўшы над сэрцам глухі шум. Зрываючыся раз-по-раз ад зморы, гудзела крывёю набраклая кроў сымфонію гнуткай аорты:

> Складаны мэханізм—карбютатар самалёта, але непараўнальна складаней сэрца чалавека. І з той сэкунды, калі ўпяршыню штурханула пяшчотна матчына кроў сынава сэрца ў далёкую пушчу, пачало тыхкаць тое бязупынку да апошняга ўдару, адзначаючы ўразьліва і сьлёзы, і сьмех, і гора, і радасьць, і нянавісьць і любасьць. І з тае сэкунды, калі ўпяршыню узрыгнула сэрца сына, рынулася бегма па жылах бязупынку да апошняга удару гайдамачная кроў, узбураючы клёкам кожны закутак істоты і выкідаючы вонкі атрутных папярэдаднікаў сьмерці. Але не прадчула зацваканая ліхам матка, як часта мусіць, скарачаючы працяг пушчы, захліствацца устурбаванай крывёю сэрца яе неўгамаванага сына, што рупны да жыцьця смакаваў нагбом дзеля лепшай долі сваіх наступнікаў і сьлёзы ,і сьмех, і гора, і радасьць, і нянавісьць, і любасьць.

Доктар адзначыў хваробу, але, каптуром начынены мэдычнымі ведамі юнак, ён хацеў бліснуць імі таксама яскрава, як яскрава блішчэў на яго цёмназялёных з чырвонай акантоўкай пятліцах келіх са зьмяею. Нібы пра сябе заўважыў ён удумліва Pulsus durus[1]) і, трымаючы ў руках непатрэбны цяпер стэтаскоп, спытаў:

— Як даўно вы ў арміі?

— Прызыву 1913 году,—адказаў спакойна Путра, і раптам шэрагам пытаньняў засыпаў яго доктар, нават не чакаючы адказу на іх:

— Вы вельмі хутка стамляецеся? З цяжкасьцямі і марудна схопліваеце ўсё новае? У вас рэзка паслаблена памяць? Часамі губляеце стрыжань гутаркі? А магчыма адчуваеце паступовую згубу чуйнасьці да новых, рубам жыцьцём пастаўленых думак? Магчыма адчуваеце адчужэньне ад маладога пакаленьня, якое здаецца дробным вельмі нясьпелым, занадта амбітным?

Перад Путрам выразна прамільгнула ўсе вечары за апошні тыдзень, калі прапрацоўваў, як прымацаваны партыец, разам з камсамольцамі 2-ой батарэі рэзалюцыі апошняга партзьезду, і ён, з вялікім зьдзіўленьнем зірнуўшы на румянцам афарбованы твар доктара, і, нават, не чакаючы дазволу, пачаў хутка апранацца.

---

[1]) З латыні –Пульс цьвёрды, звычайны артэрыясклярозу.

Жыглевіч, падышоўшы да рукамыйніка, доўга мыў рукі, потым, абціраючы іх марудліва ручніком, казаў:

— Я з вамі, як з старым салдатам хачу гаварыць шчыра, нават парушаючы гэтым закасьцянелую лекарскую этыку. У вас рэзка выяўлены артэрыясклярөз каранарных [1]) і мазгавых сасудаў. Хвароба, гэта бывае ў старых камандзіраў, запушчана. Раю вам, як мага больш ужываць жыцьцёвых элексіраў—сыраваткі і сыраквашы, і як мага менш пернасьцей—перцу, хрэну, гарчыцы, воцату. З лякарстваў сьпярша паспрабуем ёдавай мікстуры, па дзесяць кропель на шклянку малака, двойчы ўдзень, а потым ёдзіпіну, па адной аплатцы таксама двойчы ўдзень. Але ўсе гэтыя лякарствы, шчыра кажучы, ёсьць паліятывы, а галоўнае—гэта пакінуць вайсковую службу і паехаць куды небудзь у ціхае мястэчка.

Раптам, павярнуўшыся так імпэтна, што цямляк шашкі, падскочыўшы, агарнуў зьмяею яе эфэс і хапатліва задзылінкалі рапейкамі шпоры—камандзір дывізьёну сваім звычайным мэталёвым голасам спытаў:

— Чулі, доктар, як паміраюць старыя гарматы? Чулі пра жыцьцё старых артконяй? Га?—І нават пакінуўшы на стале нарыхтованую лекпомам мікстуру і ні з кім не разьвітваючыся, Путра хутка вышаў з акалотку.

Выймаючы ў Альшэўскага тэрмомэтр, Жыглевіч крыху зьбянтэжаны гаварыў:—Жыцьцё прайшло праз вяршыню парабалы, альбо, ужываючы тэрмін з лексыкіну артылерыстаў, праз вяршыню траэкторыі. Arteriosclerosis спадарожнік старасьці, восень homo sapiens [2]), хвароб прынцаў і жабракоў. Цікава, што ў муміі фараона XX дынастыі Рам Рамэзса III таксама знайшлі артэрыясклярөз каранарных сасудаў. Навошта сьвядома скарачаць жыцьцё, але што зробіш з старымі камандзірамі. І прычым тут, ня ведаю, старыя гарматы і старыя артконі? Гарматы—гэта па за кампэтэнцыяй палкавога доктара і падведамна палкавому арттэхніку, а коні—спэцыфіка вэтэрынарнага акалотку. Э-гэ-гэ-э! У вас 38,6. Ведаеце, я вас аслабаню ад усіх заняткаў і прызначэньняў на два дні, а калі за гэты час вам не палепшае, дык прадоўжу аслабаненьне. У вас у лёгкай форме грып, які нават не патрабуе ізаляцыі. З лякарства я вам прапішу пірамідону з кафэінам.

Альшэўскі амаль што нічога ня чуў, і перад вачыма яго стаялі гэтак дзіўна побач пастаўленыя фараон XX дынастыі Рамзэс III і камандзір І-га дывізьёну Мартын Путра. Ён адчуў як чырвань сораму паступова афарбоўвае яго твар і рашуча пачаў адмаўляцца ад аслабаненьня:—Я адчуваю сябе зусім ня так ужо й дрэнна, таварыш доктар. Дазвольце мне ўвечары зайсьці ў акалотак, і, калі будзе горш, тады я вазьму аслабаненьне.

---

[1]) Сэрца і загіб аорты.

[2]) З латыні—Чалавек разумны. Тэхнічны тэрмін, якім азначаецца чалавек як прадстаўнік першага сямейства аддзелу прыматаў клясы сысунаў.

А навакол акалотку, як кагадзе, вальсавала бязупынку восень. Альшэўскі зрабіў толькі некалькі крокаў па прысадах і пачуў з боку чуйнае:

— Таварыш Альшэўскі!

— Я, таварыш старшыня!—адказаў курсант падносячы далонь да шлёму, заўважыўшы старшыню каманды аднагоднікаў.

— Вы сёньня прыступаеце ў чарговае прызначэньне дзяжурным па стайні 1-га дывізыёну.

— Слухаю, таварыш старшыня!—адказаў Альшэўскі і, зноў змагаючыся з сібэрным буй-ветрам, пакрочыў да кашар.

У вечары перад штабам палка шыхаваўся раўнуючыся на багнэты варты, што блісталі цьмяна старым мосяжам на правым флянгу суткавы народ. Перад днявальнымі стайні 1-га дывізыёну стаяў, паклаўшы сагнутыя пальцы на ножны шашкі, Альшэўскі. Адчуваў сябе дрэнна курсант, але не скрануўся з мейсца, калі дзяжурны па часьці загадаў хворым выйсьці ўперад. Пасьля разводу павёў днявальных на стайню і, пачуўшы як ня дружна ўзялі яны нагу, закрычаў:

— Гарох, гарох рассыпалі таварышы- Узяць нагу!

Раз! Два! Тры!
Левай!
Левай!
Раз! Два! Тры!

## II

Прыняўшы кагадзе дзяжурства, аддаўшы ўжо рапарт дзяжурнаму па часьці, Альшэўскі, стараючыся цяпер перамагчы і галоўны боль, і мардоўную трасцу, і вялізарную змору, хутка хадзіў па стайні, разглядаючы коняй. З правага боку ад аглоўных дзьвярэй стаялі коні 1-й батарэі, усе воронай масьці, за ім і коні гнедай масьці 2-й батарэі, з левага боку ад дзьвярэй коні сівай масьці 3-й батарэі. З намогаю падымаючы боты, Альшэўскі спыніўся, нарэшце, выціраючы насаткаю пот, каля больш знаёмых коняй 1-ў батарэі.

— Азімут!—аклікнуў ён, і магутны варанец з вугальнымі водблескамі, пытальна гледзячы чорнымі, нібы агат, вачыма, павярнуў да яго прыгожую, сухую галаву з шырокім, доўгім ільбом, падсярэдзіне аздобленым белаю зоркаю. Альшэўскі ласкава гладзіў жарабца па шыі, бачачы, як, прасьвечваючы праз тонкую скуру, на гарнашах пульсуе артэрыя, але ён, чымсьці ўсхвалёваны нэрвова, хмыліўся невялікімі вострымі вушамі і перасмыкваў шырокімі ноздрамі. Здаваўся раней курсанту Азімут зусім жарабком за даверлівыя жывыя вочы, магутныя грудзі і нязломную сілу, але аднойчы, паслаб-

ляючы ў час вялікага прывалу папругі, заўважыў нечакана, як расплываюцца выразна абрысы зрокі ў белых кропках сівізны, як глыбей звычайнага запалі вочы і паглыбіліся пад імі ямкі, адвісла крыху тонкая губа. Хірнуўшы пасьля ў вэтэрынара—санітарны журнал, убачыў там:

АЗІМУТ

Жарабец вараной масьці. Пакроўны Аляйдэсдаль[1]).
Зорка на ілбе. на левым баку белы шрам. $18^1/_2$ гадоў.
Пасупленьне на вайсковую службу—1916 г.

— Дыбры вечар, Фугас!—гукнуў Альшэўскі, падыходзячы да сумежнага жарабца, таксама варанца з белаю зоркаю, але з водблескам чорнай смалы. Той, пачуўшы сваё імя, матнуў порскаючы, галавою і грукнуў пярэдняй нагою з белым бальзанам, не пакідаючы ўсё-ж перабіраць губамі авёс. Такі-ж магутны як і Азімут, ён разам з ім складалі корань першай гарматы, прыймаючы на сябе найбольшы цяжар. Толькі круглыя формы цела, пукаты лоб і закругленыя краі ганашаў сьведчылі, што ён быў зусім стрыгунком у параўнаньні з сваім суседам.

Прайшоўшы паўз коняй сярэдняга уносу першай гарматы Эўнуха і Пэгаса, якія адрозьніваліся ад коняй кораню і сваімі менш моцнымі, больш звычайнымі мэрынам цяглицамі, і тым, што ў іх праз увесь лоб ішлі ад чубаў да храп лысіны—Альшэўскі спыніўся зьдзіўлена каля наступнага каня Вахлака, які разам з суседам сваім Амікашонам уваходзілі ў пярэдні унос першай гарматы.

— Што, зноў узялі на рэмус, нябог?—запытаў Альшэўскі. Гэтага паўкроўнага біцюга, з масыўнай галавою на кароткай шыі і вялікім, туга набітым чэравам, добра ведаў увесь першы дывізыён ад яздовых да пісарчукоў. Хворы на прыкуску, ён стаяў галавою на сярэдзіны стайні і хвастом да абгрызеных ясьляў, прывязаны двумя кароткімі павадамі да абодвых бакоў свайго станка. Упоперак станка над яго клубамі прымацавалі днявальныя моцную цалёўку, каб адвучыць ад прывычкі брыкацца, але ён і ў гэты момант падводзіў зад, стараючыся убрыкнуць Амікашона. А Амікашон, які чамусь нічога цяпер, засмучаны, ня еў, толькі уздрыгваў пры гэтых спробах, паварочваючы сваю, некалькі нязвычайную для біцюга, сухую і лёгкую галаву.

А вось і Пракімен, жарабец камандзіра першай гарматы, які крыху гарбатай галавою і доўгімі нагамі сьведчыў аб сваім паходжаньні з Дону. З гісторыяй Пракімена, які зацікавіў Альшэўскага сваёю назваю, пазнаёміў яго аднойчы ў палкавым клюбе над партыяй у шахматы камбатр восьмай гаўбічнай. Дзесьці за Харкавам у нявыказны 1920 год гналі будзёнаўцы, прымушаючы коняйісьці на

[1]) Парода коняй, радзіма якіх узьбярэжжа ракі Кляйд у Шатляндыі.

ўчвал, зацiскаючы перадплечам дрэўцы пiк, дзянiкiнскi конны полк. Стэпавыя сухiя конi лёгка iмчалi казакоў, толькi адзiн з iх пачаў паступова прыпыняцца пад цяжарам гладкага палкавога папа. Калi папа пачалi з усiх бакоў, дасылаючы пiкi ўперад, акружыць, ён, пачырванелы, нiбы царкоўны кагор, лупцаваў каня крыжам, якi кагадзе трымаў у руках, па клубох i ахрыплым басам рычэў:

— Ратуй, Пракiмен, халера на тваю галаву!

Ён мацюгаў далей гэтак вычварна, што браткi з крэйсару «Гангут», якiя зьмянiлi флёцкiя камашы «Вера» на боты будзёнаўцаў, ледзь кiшкi не парвалi ад захапленьня. Потым расы папа, нагэтулькi ён быў чараваты, хапiла на леi для ўсяго шабельнага эскадрону i яшчэ засталося для чышчэньня драгунак. У пераметных торбах яго нагi сядла знайшлi эвангельле, пляшку ачышчанага дэнатурату i два нежынскiх соленых гуркi. А жарабец, захаваўшы сваё iмя, трапiў у конны артдывiзыён.

I зусiм нечакана сярод варанцоў I-ай батарэi заўважыў Альшэўскi жарабца буланай масьцi Эскулапа, якi належаў палкавому вэтэрынару. Эскулап зацiкаўлена глядзеў на курсанта сваiмi вiрлатымi ад панiклiвасьцi вачыма з дробнымi складкамi скуры на верхнiм павеку, задзiраючы ўгару пад прымусам сваiх вузкiх ганашаў галаву, за што клiкалi яго заўсёды зьвяздаром i чаму i цягаў ён заўсёды ў страi шырокi, адным канцом да пярэдняй папругi, а другiм да пераносься прышпiлены шпрунт.

— Iў! Iў!—заскавытаў раптам адзаду раздражлiва Вахлак, стараючыся моцнымi рыўкамi парваць повад i схапiць Амiкашона вышчэранымi зубамi за сьцягно.

— Вахла-ак!—крыкнуў пагражальна курсант, але конь, скасавурыўшыся на момант злымi невялiкiмi вачыма, зноў загаласiў, падводзячы зад, каб убрыкнуць Амiкашона.

На хвiлiну аслупянеў Альшэўскi, убачыўшы, як пахiснулiся ў бок муры стайнi, i хутка адышоўшы ад станкоў на сярэдзiну яе, аблёгся, зьдзiўлены, на аснадную шафу. Адразу-ж пачалi загадкава падмiргваць лямпачкi, пачалi падскакваць на почапках фуражныя саквы, потым загуло ў вушах, як гудзе вулiчны брук, калi рушыцца па iм галёпам артдывiзыён, i, нарэшце, Альшэўскi, торгаючы моцна ад узбурэньня партупэю, пачуў лаянку Вахлака:

— Каб ты ўвесь век гiзаваў! Каб цябе воўк пашкадаваў! Каб ты да часу скапыцiўся. Сiмулiруе толькi, торба з курасьлепам, хваробу! I ў страi таксама ў дурнi шыецца, а пастронкi нацягваць заўсёды я i пярэднi унос. Спытайце хоць, торба з курасьлепам, у Гэраклiта з другой, альбо ў Розэнкрэйцара з дзевятай. Чаму я, напрыклад, не хварэю цi iншыя. Табе, забежнiк, не гармату вазiць, а катафалак пахавальнага бюро. Замест сядла, хаўтурную гуньку трэба.

— Абое рабое, што Вахлак, што Амікашон і яздовага свайго варты,—казаў ціха Эўнух,—заўсёды разам з Пэгасам нацягваем ня толькі свае пастронкі, але і сярэдняга уносу.

— Я хварэю таму,—маркотна заўважыў Амікацон, зьвяртаючыся да Вахлака,—што мая канстытуцыя непараўнальна далікатнейшая за вашую. Я ўнук славутага Айрыш-Лада, які выйграў усерасійскае Дэрбі ў 1903-м годзе, я праўнук... кхы! кхы!.. славнага Гальтымора чыстакроўнага ангельца, я прапраўнук Кэндаля і Марганэты. Далей мой род, як сьведчаць студ-букі[1]). ідзе па лініі Стаквэля для таго жарабца, якому Калігула паставіў залаты статуй у сэнаце. Кхы! Кхы!

— Салмон-жа радзі Ваоза ад Рахавы.

Ваоз радзі Авіда ад Руфі, Авід-жа радзі Ясея,—мелясавым голасам уступіў у гутарку Пракімен і адразу-ж яго перабіў, ахрыпла зарагатаўшы Вахлак:

— І-га-га-га-га! Праўнук Гальтымо-ора? Шляхціц-махціц кундзеляў сын! Гэрой з часопісу для сапселых шаўлюжак! Га-га-га! Ты нарадзіўся ад шпрыцу са спэрмай каросьлівага асла. Клянуся ныркамі майго бацькі! І-га-га-га-га!

Трымайце, трымайце мяне, калегі, а то я маю зьняважыць яго,— закрычаў дзіка Амікашон, але не скрануўся з месца і адразу-ж, зьмяніўшы тон да звычайнага лагоднага, казаў далей,—Я мушу апэляваць да грамадзкай думкі 1-га дывізыёну. У мяне цяпер тэмпэратура ня менш як 41, зусім няма апэтыту і надта балючы кашаль. Потым яшчэ мне млосна ў сувязі з тым, што кагадзе я сьніў пра сваё першае... кхы! кхы!.. каханьне, кабыліцу дывізыйнага шабэльнага эскадрону прывабную Амазонку. Я бачыў зноў бліскучыя вочы, ружовыя ноздры, шаўкавіста-замшавыя губы і чуйныя, тонкія вушы, якія, спаймаўшы гукі палкавых валторнаў, прымушалі складныя ногі гэтак вытворна танцаваць матчыш і кракавяк. Шчыра кахаў я ў часы свайго юнацтва, але прыйшоў чалавек з вострым нажом і... і пагасла назаўсёды разнастайная гама нябеснай шчаснасьці.

Як кагадзе, неспадзявана уткнуўся Пракімен і амаль адначасова чмыхнулі ўсе коні першай батарэі, пачуўшы рэзкі пах ладуну і дэнатурату:—Зело добра вытлумачвалі сны ў біблійны час Язэп Пекны, у сярэднявечча—доктар Каліостра і напярэдадні сучаснасьці—Мартын Задэка. Амін.

Высока задзіраючы ўгору галаву, чаму цяпер не замінаў адшпілены шпрунт, Эскулап прамовіў:—Падлічаючы суб'ектыўныя дадзеныя хваробы, у вас, глыбокапаважаны Амікашон, бязумоўна, інфлюэнцыя. Гляўбэравая соль і сода некалькі дапамогуць вам у гэтым стасунку, а потым філігранавасьць вашай шляхэтнай, у сувязі з гэнэалёгіяй, годнасьці дазваляе паспрабаваць і наступныя сродкі з

[1]) Заводзкая кніга пэўнай пароды, у якую заносіцца радаводны запіс усіх прадстаўнікоў гэтай пароды.

чалавечай фармакалёгіі. Першы рэцэпт, на які зьвяртаю я вашу ўвагу выключна ад інфлюэнцыі:

RECEPTUM

19 15/X 3 . . . г.

Rp.: Pulv. Doweri 0,2.

Natri bicarbonicki 0,3

M. f. p. t. d. № 12

Па 1 парашку тройчы ўдзень.

Артканю Амікашону

Артжарабец Эскулап

—Другі, прасякнуты жыцьцёваю мудрасьцю рэцэпт ад усялякіх рашуча хвароб наступны, шаноўны:

„Житіе простое і трезвое, умѣренный труд" страсти тихія и безмятежныя, жилище на здоровомъ мѣстѣ, одежда приличная времени года: вотъ самыя нужнѣйшія условія для сохраненія здравія.

Пресѣченіе страстей даетъ долгоденствіе, а вихри мирскихъ треволненій быстро продвигаютъ нас ко гробу і житію потустороннему".

— Калі памяць ня хлусіць наконт старонкі, арудам, з якога я чарпаў гэтае каліва мудрасьці, зьяўляецца:

О
продолжении жизни
человеческой
или
домашній лѣчебникъ
составленный
изъ лучших отечественныхъ
и иностранныхъ Писателей
княземъ
Парфеніемъ Енгалычевымъ

Стр. 132.

Москва.
Въ Университетской
Типографіи
1833 г.

— Ibidem [1]), старонка 20,—яшчэ больш задзіраючы галаву так, што коні бачылі толькі яго ноздры, казаў Эскулап, падкрэсьліваючы кожнае слова ударам нагі:

„Иппократъ виделъ женщину, вылѣченую отъ престарѣлой меланхолии—ежедневнымъ употреблением въ пищу одних тольки огурцовъ, не употребляя никакой другой пищи".

— Што датычыцца загадак наконт першага каханьня, дык тут, канечне, на жаль, трэба прымірыцца з пэўнымі акалічнасьцямі. Ёсьць клінічна апрабаваная любжа:

Сэкараўская вадкасьць. Гален Масква.

Спэрмакрын.

Дзяржаўны Інстытут Экспэрымэнтальнай Эндракрыналёгіі.

— Сумняваюся, шаноўны, каб яна вам дапамагала, але ўсё-ж паспрабуйце. Паспрабуйце. «Мэдыцына—краіна цудоўных магчымасьцяй»,—як казаў Парацэльз. «Трэба заўжды жвакаць цуглі»,—як казаў жарабец карпуснога компалка Сатурн з Нагорнага Карабаху. Sursum acord [2]), дружа!

— І-га-га-га-га! А каб ты сплечыўся! Га-га! Слухай, жаніх беспрычандальны,—зноў зарагатаў пакотна Вахлак.—Летась на манэўрах, торба з кураськлепам, казаў мне між іншым, пад час гутаркі жарабец з шабельнага эскадрону Галайда, махаючы галавою ў бок аднэй порсткай задрыгі: «А вось гэта, брацейка ты мой, хоць яна мне і залвіцай даводзіцца, а ўсё-ж першая шлюха ўва ўсёй дывізыі—кабыла Амазонка. Як пачуе жарабца, дык адразу пачынае і юрыць і хвастом круціць». Так казаў Галайда. Клянуся ныркамі майго бацькі! І-га-га-га-га!

Амікашон спачатку пакутна захрыпеў, матаючы галавою, а потым млява заўважыў:—Што чакаць добрага, апрача лаянкі ад учарашняга біндзюжніка з Віцебску, і я, крэўны... кхы! кхы!.. шляхціц Амікашон надта шаную сябе, каб доўгі час на яго злавацца. А вам за параду, шчырапаважаны Эскулап, выказваю глыбокую і бязьмежную падзяку.

Вахлак, кінуўшы ў гэты момант выпадкова вокам на свае брудныя ногі, увесь спахмурнеў і з дзіўнай лагоднасьцю згадзіўся: —Я сапраўды біндзюжны біцюг з Віцебску. Толькі няхай мяне штодня аглобняй лупцуюць, калі тое, што я вам, паважаныя і блізка што паважаныя, цяпер кажу, ёсьць брахня. Грашавіты гаспадар мой Юрчук, чараваты, як жарэбная кабыла на часах, трымаў дзесяць наймітаў і дзесяць коняй. Улетку мы вазілі, торбы з кураськлепам, цяжары па Шашэйнай вуліцы ад вагзалу да прыстані, а ўзімку—лёд да ўсіх рэстаранаў і бальніц. Каб мне зарвала, калі не вазілі. І як добра

---

[1]) З латыні—Там-сама.

[2]) З латыні — Угору сэрцы-набярэцеся духу (біблійныя словы з „Плачу Ераміі":

жыў гаспадар, гэтак дрэнна жылі найміты і коні. Гаспадар цісnуў заўсёды паўгалодных наймітаў, а раззлаваныя найміты лупцавалі і ў хвост і ў грыву коняй. Клянуўся ныркамі свайго бацькі! Тры гады таму за нядоімкі гаспадара па падатках нас прадалі з таргоў, і мяне купіла вайсковае ведамства. Ні якіх добрых, торба з курасьлепам, успамінаў аб надзвычай цяжкай біндзюжнай працы ў мяне не засталося, і таму я зусім не абрадаваўся, калі год таму ў першую батарэю прыйшоў сын калішняга гаспадара Сьцяпан Юрчук, які ўраніцы таго дню, як нас вялі на торг, хацеў мяне пачаставаць аўсом з бітым, апырсканым аршэнікам, шклом, але я загадзе спантарыў. Каб ён пад гармату патрапіў! Учора сын майго калішняга гаспадара раззлованы ўвесь час мармытаў, што атрымаў два прызначэньні не ў чаргу, лаяў камандзіра дывізыёну. Путру і армію, казаў, што паліткіраўнік ужо зрабіў якійсьці запыт, і яго цяпер неўзабаве вытураць з кашар. Потым Юрчук, кінуўшы, як і заўсёды, да часу чысьціць, што толькі змогі, так, бяз дай прычыны, ударыў мяне па жываце і скрэбніцай па ганашу. Каб ён пад час галёпу брук у засмакт пацалаваў! Ї які-ж найлепшы змалку біцюг не пачне, знатураны пасьля ўсяго гэтага кусацца і брыкацца? Га?

— Той хто ганьбіць Путру, спарахнелай торбы ня варт, а што гэта так, вы зразумееце зараз з майго апавяданьня аб яго мінулым,— казаў Азімут, які ўвесь час прыслухоўваўся да вакольнай гутаркі і, калі пачуў імя камандзіра дывізыёну, задрыжэў увесь ад кончыкаў вушэй да шчотак на галёнках у дробнай нэрвовай трасцы.

— Алё, лепшы з Equus[1]).

— Вашы згадкі найлепшы рэцэпт! Кхы! Кхы!

— Чаму-ж, торба з курасьлепам, і не паслухаць!

— Рцы[2]) ад усяе душы, ад всяго памышленія рцы!

— пачулася з розных станкоў першай батарэі.

— Люблю, сусед, твае успаміны. Толькі ты паспрабуй бышка, на гэты раз без рамантыкі,—заўважыў Фугас нехапатліва, перабіраючы губамі, з якіх сьцякаў на падлогу залатымі кроплямі авёс.

— Сьпярша,—пачаў Азімут—наконт звычайнай нам памяці, якая непараўнальна мацнейшая за памяць людзей.

— Калісьці, адыходзячы з пад Мазыру да Рэчыцы, разьлік нашай гарматы падабраў у пуціне на ляфэт у беспамяцьці цяжка раненага, з далонямі закалянелымі, нібы капытны рог, пяхотніка. Легіянэры ў той час у палон ня бралі, і адзічэлыя сабакі дабівалі раненых. Пяхотніка пакінулі ў першым шпіталі, а ў дарозе разам з пахамі салдацкіх потных ануч, бруднай бялізны, збройнага масла і пораху, якім быў агорнуты ранены, мэрам ляшчыны дзермязой, адчуў я пахі каланіцы і жыта. Летась, калі наш дывізыён ішоў у лягеры, пачуў я раптам за пагоркам каля шляху нейкі дзіўны гул, і праз хвіліну на грэблі марудна, але нязломна і нясупынна вырас вялікі трактар «Інтэр-

[1]) З латыні—конь.

[2]) З царк.-слав. мовы—гавары.

10—15». Зьдзіўлена злавіўшы разам з пахамі бэнзіны і цыліндровага масла знаёмыя пахі каланіцы і жыта, убачыў я што кіраваў трактарам нагдышні пяхотнік з чорным цяпер ад гліцы і пылу тварам. Заўважыўшы артылерыстаў, ён скінуў шапку, пад якою бліснула на скронях шэраньню сівізна, і размахваючы ёю, пачаў усьміхаючыся, крычаць прывітаньні, стараючыся перакрычаць і гул трактара і гул гармат.

Улетку, калі дывізыён ішоў на артылерыйскі палігон, пачуў я, праяжджаючы паўз будоўлю чыгуначнага мосту ад інжынэра, які кіраваў устанаўленьнем аркавых фэрмаў, пахі трэскі і сёмгі. Чалавек з таго часу яшчэ больш згорбіўся, яшчэ больш зрабіўся замкнёны, здавалася, зусім не глядзеў на гарматы, але ўсё-ж гэта быў учарашні рыбак з хмурай Кольскай губы, наводнік Эрык Суомалайнэн, і, угледзіўшыся пільна, я заўважыў, як задрыжэлі куткі яго роту і ў паўночных вачах заблукалі юнацкія, на пошугі пазарніцы падобныя агенькі.

Калі сёлета на парадзе праходзіў наш полк бягою паўз трыбуну, чалавек адтуль, з ордэнам на грудзях і з выпрасаванымі ветлівай усьмешкай і сьвятам з зморшчкамі, зычна закрычаў:

— Няхай жыве чырвоная артылерыя!

Адначасна, пачуўшы ледзь—ледзь чутныя цяпер пахі юхты і шаўра, спазнаў я калішняга гарбара і яздавога Валынца.

Спатыкаючыся з гэтымі людзьмі, прывітальным крыкам хацеў я зьвярнуць іх увагу да сябе, але яны мяне не пазнавалі, і таму зьдзіўляе мяне заўсёды вельмі добрая памяць Мартына Путры. Ён двойчы пасьля значных перапынкаў часу пазнаваў мяне, аклікаючы раней, як зірнуць на сьпіс коннага складу. Толькі перш, як апавядаць пра гэтыя сустрэчы, я спынюся на ўласным жыцьці да іх.

У мяне, чатырохгадовага жарабка, яшчэ не зьмяніліся апошнія малочныя зубы і яшчэ прагнуў, незалежнага ад цугляў, алюру ў тры крыжы кожны капыт, і яшчэ бажалі, незалежнага ад шанкалёў, стогну расьсякаемага паветра жвавыя вушы, калі я трапіў з матчынай стайні маёнтку перад вочы вэтэрынараў вайсковай камісіі.

— Паўкроўны жарабец з вялікім процантам крыві кляйдэздаляй,—зрабіў выснову старшы вэтэрынар, дбайна агледзеўшы мяне.—Кампактнае тулава, моцныя грудзі, сухія ногі. Лепшай якасьці конь для лёгкай артылерыі.

Каля двух месяцаў мяне прызвычайвалі язьдзе з гарматаю, а потым прызначылі ў сталіцу краіны буку і дубу—Чарнавіцы на папаўненьне разбаўленай апошнімі баямі 12 Уральскай артылерыйскай брыгады. У гэтай брыгадзе я атрымаў імя, якое пачыналася з агульнай для ўсяго нашага папаўненьня літары—Азімут, Авангард, Абардаж, Амур, Абрэк, Азалея, Амба і г. д. З гэтай брыгадай вывучаў я нагамі геаграфію Галіччыны і Букавіны. Я піў ваду Стрыны і Збруча, Сана і Раты, Быстрыцы і Стрыя, Дунайца і Прута. Толькі ў найчысьцейшай вадзе трапляюцца ласосі і стронгі, больш дрэнную здавальняюцца шчупакі і акуні, яшчэ больш дрэнную абыходзяцца

карасі і ліны, мы смакавалі часам смаглымі губамі ваду, якая кішэла апалоньнікамі і трытонамі, а часам прасякнутую пахамі крыві і трупаў.

Помніцца мне як спынілі вэнгерскія ганведныя палкі нас на даўгі тэрмін у тым месцы, дзе разарваў Карпаты Ужокскі перавал, дзе жужміць па камяньні Стрый, сьпяшаючыся хутчэй прабегчы зьнішчаны дарэшты горад Туркі ля падножжа гары Галіч. Ніколі раней я ня бачыў гэтулькі людзей і коняй, колькі ўбачыў тут. Часамі чулася, як далёка, па той бок фронту, уваходзіла ў невядомы гарадок мерным і такім цяжкім, ад якога, здавалася, угінаецца зямля, крокам, нямецкая пяхота. У адзін суцэльны мэталёвы муралом зьлітая, яна йшла, прымушаючы пад альпійскімі сваімі ботамі з вяршковымі цьвікамі енчыць брук, і на ўсіх дыялектах Нямеччыны сьпявала:

Van die Soldaten
Durch bin stadt marschieren [1])

Адначасна працягваў горны, насычаны пахамі чабрацу і мяты вецер жалобна-працяглую песьню:

Hi-i ве-еі! Но-о-ве-еі[2])

Пад аднастайныя гукі яе каціліі ў прыкрыцьцё гармату буйнага калібру нямецкія артылерысты. А па гэты бок фронту крочыла па шляхох, бегла па палёх, пераплывала рэкі, паўзла па кручах шматмоўная расійская пяхота.

— Сьвятая шэрая скацінка!—аклікалі яе афіцэры.

— Разанская крупеня!—аклікалі яе казакі.

— Арлоўская кабылка!—аклікалі яе кананіры.

А пяхота кацілася нязьлічонымі бяствярымі хвалямі і, раўнуючыся з вялізарнымі, на шырокіх кампрэсатарах гарматамі, заццягвала з вымучанымі, больш падобнымі да грымасы, усьмешкамі:

— Трубка—восем, прыцел—сто
Па сваёй пяхоце зноў

І біў у Карпаты жывы вал—стогнамі, праклёнамі, крывёю, агнём. Дрыжэлі ад страляніны нішчымныя халупы нішчымных гуцулаў. Дрыжэлі начамі ў нашых зрэнках пошугі выбухаў.

Вось у гэткіх варунках я ўбачыў упяршыню Мартына Путру, новага бамбандзіра-наводніка нашай гарматы, якую ахрысьцілі кананіры з суровым, як сукно салдацкага шынелю гумарам імем «Дабранач». Гэта была самая звычайная трохдзюймовая гармата, але паколькі мы былі толькі цякучым дадаткам да яе, здавался яна нам вельмі своеасаблівай, ні на якую іншую трохдзюймовую гармату не падобнай. Гэта быў самы звычайны бамбардзір, які прынёс да «Дабранач»

1) З нямецкай мовы—Калі салдаты праз гарады маршыруюць, пашыраная салдацкая песьня часоў 1914—18 гг.

2) З нямецкай мовы—неперакладная рытмічная песьня асначоў Эльбы, падобная да песьні асначоў Волгі „Эй, ухнем".

пахі—каровінага поту, сырадою, чухонскага масла, польскай, кменам прасякнутай брынзы, бо пасьвіў, перш як апрануцца ў чорную з чырвонай акантоўцы форму кананіра, чароды астзэйскіх баронаў, але і да гарматы прыйшоў ён з упартым падбародкам і са складкай на пераносьсі.

Калі кананір-наглядальнік перадаваў па тэлефону папраўку апошняга стрэлу, Путра наводзіў дакладна гармату, торгаў шнурок, і, аднача́сна з рыўком, цяжка вухкала «Дабранач», нараджаючы на ўзвальлі белую, як сьняжок, хмурынку. Афіцэры рэдка прыходзілі да агнявой пазыцыі і амаль што ўвесь час знаходзіліся ў зямлянцы пад трымя накатамі тоўстага бярвеньня замест столі. Аднойчы, калі нейк выпадкова адзін з афіцэраў трапіў да нас, за некалькі крокаў ад «Дабранач» выбухнула з шчокатам і сковытам аскепкаў, захоўваючы яе ў чорную траціла́вую хмурынку, аўстрыйская граната, раніўшы кананіра-замкавога. Зьбялелы ад хваляваньня афіцэр загадаў:

— Шапкі далоў! Отчэ Наш!

Кананіры, павярнуўшыся на ўсход, агалілі паволі галовы і, гледзячы на абскубены кулямётамі дубняк, засьпявалі, бо мусіў кананір ведаць «Отчэ Наш», як замок гарматы, і замок гарматы, як «Отчэ Наш». Толькі Путра, перавязваючы дбайна раненага, ня зьняў шапкі, і пасьля пацераў да яго падбег узбураны афіцэр:

— Ты што, зьлёб, шапку цьвіком да шалудзівай мазгаўні прымацаваў?

— Бамбардзір-наводнік, а ня зьлёб, ваш благародзь. І навошта, ваш благародзь, гэтак хварэць на генэрала, калі ў вас на палі́ках толькі на адну зорку больш як у Азімута і на адну менш, як у пана Шустава?

Афіцэр замахнуўся рукою, але, напэўна, успомніўшы, што цяжка на фронце адзначыць, з якога боку ляцяць кулі, апусьціў руку:

— Дванаццаць ранцаў, зьлёб! Латыская сьвіньня!

І праз некалькі хвілін Путра стаяў на выцяг пад дзьвярыма афіцэрскай зямлянкі. Бамбардзір мусіў прастаяць дванаццаць гадзін з пудовым ранцам за плячыма, у якім быў камень Карпат—халодны, магурскі пескавік—і з вынізанай шашкай на выцягнутай руцэ. Аранжавае ад дыму сонца марудна плыло з усходу на захад, і ўвесь пачырванелы Путра, часам дбайна аглядаючыся, пераносіў цяжар з аднэй нагі на другую і апускаў лязо клінка да зямлі. Сонца зайшло за Галіч, падняўшыся над Стрыем, затанчыў пад кулямётнымі бруямі туман, у бязлюдных Турках зазваніў звар'яцелы званар па душах змарлых, змрок, хістаючыся ад гарматных пошугаў, пачаў раўнаваць вяршыні Карпат, засыпаючы Ужокскі перавал, калі Путра, апусьціў шашку і самлеўшы, рухнуўся перад дзьвярыма.

Добра ведаў я лепшага сябра Путры яздовага Камарова. Наскрозь прасякнуты пахам бязрупатнага стэповага ветру, зухам прыйшоў ён да «Дабраныч», але з кожнай гадзінай вайны, з кожным забітым канаірам усё больш узрослым рабіўся юнак. Неяк апошнім днём красавіка я заўважыў, як Путра і Камароў разгортвалі ў хмызь-

няку колеру крыві і агню палатно. Кананіры настарожана аглядаліся вакол, але не заўважалі афіцэра, які калісьці прымусіў Путру стаяць пад ранцам, а цяпер хутка ішоў праз хмызьняк. Спалоханы за кананіраў, я моцна закрычаў, і яны, зьдзіўлена зірнуўшы ў мой бок, хутка зьніклі, убачыўшы афіцэра. А досьвіткам я пачуў, як на вяршыні самага высокага дубу штосьці затрымцела, і, калі разьвіднела, убачыў вялікі агністы сьцяг. Да самага паўдня плаваў ён над фронтам, пакуль па загаду афіцэраў яго не расстралялі з нейкаю нацягнутаю, як чумбур, маўчанкаю кананіры.

У нязвычайныя хвіліны, калі адпачывала стомлена ў жаролах гармат сьмерць, бавіліся зьдзічэлыя кананіры. Яны пасьцілалі паблізу ад канавязі шынэль, акрэсьлівалі на ім крэйдай круг і ставілі на кон папяросы, тытунь, мыла, цукеркі і г. д. Потым, апускаючы два пальцы пад учкур нагавіц, пад каўнер курткі, пад планкі кашуль, выцягвалі адтуль вялікіх, з крыжамі на сьпінах, акопных вошай, клалі іх у сярэдіну круга, і той кананір, якога вош хутка дабягала да белай рыскі, атрымоўваў усе падарункі тылу. Бачыў я, як Путра, якому, пэўна, вельмі хацелася атрымаць папяросы «Трызвон», ціхутка падшкоўваў пад ніз шынелю, прымушаючы раптам сваю вош пераскокваць блыхою, і крычаў:

— Гэта ня вош, а проста біцюг! І гладкая, як генэраліха ад дызынтэрыі, і нават Ягоры ёсьць за абарону веры, цара і бацькаўшчыны. Дуй, красуня, дагары! На цябе глядзіць уся Эўропа! Не пасрамі Расеі!

А з афіцэрскай зямлянкі чуў я ў гэты момант нёдачутлівыя для чалавечага вуха словы:

— Хрыстаўлюбёнае войска цікавіцца Марафонскім бегавішчам.

— Гэта добра падымае дух бігосу ў патэнцыі. Ха-ха! Дзесятка трэф!

—П-п паспрабуем... ік... пан паручнік, на брудэршафт агністай ад удавы Клі-Клі-Кліко.

Камароў стаяў самотна, прысланіўшыся сьпіною да дубу, і нейк бязуважна, гледзячы на ігру кананіраў, сьпяваў:

Нам ня трэба ні сеяць, ні араць,
Нам ня трэба касою махаць,
бо падаткі як дзяржаўныя ўсе зроблены,
Салдацьцём усе магілкі перапоўнены.

Увечары яздовы па загаду афіцэра паехаў кудысь у бок ад нашай гарматы, а калі праз два дні нашу батарэю перакідалі на іншую пазыцыю, заўважылі артылерысты збоку ад шляху чорную бесказырку расійскага каніра і белую кэпі аўстрыйскага драгуна. Крыху далей ляжалі, дбайна прытуляючыся да зямлі і нібы аб нечым размаўляючы, кананір і драгун, але ўжо лёталі над імі зялёныя з чырвонымі вачыма мухі люцыліі, капашыліся чорныя бліскучыя жучкі сільфы і жвавыя масянжовыя сапрыны. І, як па агорнутым полымем горану сталёвым лязе блукаюць рознакалёрныя плямы, так блукалі плямы па твары Мартына Путры, калі пазнаў ён Камарова.

Служыў кананір, як замок трохдзюймовай гарматы, загінуў кананір, як трынчык ад шынелявай скоткі; служыў драгун, як клінок залінгэнскай шашкі, загінуў драгун, як рапеяк расьціснутай шпоры, і пахавалі іх разам на парослым сурмалінай узьбярэжжы Залатой Ліпы, на ростані чатырох шляхоў—адзін пайшоў на поўдзень, другі папоўз на поўнач, трэйці рушыўся на захад, чацьверты імкнуўся на ўсход.

Яшчэ больш спахмурнеў Путра пасьля сьмерці Камарова. Ён сябраваў цяпер з кананірам-наглядальнікам, і раз заўважыў я ўвечары як яны доўгі час аб чымсьці гутарылі ў хмызьняку. На другі дзень была моцная страляніна, і ўвесь час Путра трымаў прыцэльнік «Дабранач» на цыфры 140. Потым раптам зрабіў рэзкі скок, пераставіўшы прыцэльнік на 70, і зьдзіўлены я пачуў як выбухнула граната ў рэчцы, адразу за афіцэрскаю зямлянкаю.

Пералёт!—гукнуў побач з гарматаю тэлефоніст, перадаючы папраўку кананіра-наглядальніка, і Путра пасунуў прыцэльнік на 60. Цяпер пачулася як выбухнула граната перад афіцэрскаю зямлянкаю, зазьвінеўшы шклом бутэлек і засыпаўшы вялікаю камлыгай зямлі дзьверы.

— Недалёт!—праз некалькі сэкунд крыкнуў тэлефаніст. Тады Путра паставіў на 65 і адкрыў шпаркі агонь. Пасьля першых стрэлаў захадзілі ходарам і заварушыліся бярвенныя накоты, пасьля пятага цяжка рухнулі, і адначасна зноў пачуў я з таго боку фронту жалобна-працяглае:

Ні-і ве-еі! Но-о-ве-еі!

## III

Няўпрыцям уступілі ў апавяданьне Азімута выразныя мэталёвыя гукі і, паступова нарастаючы і моцна абыймаючы, нарэшце паглынулі яго. На дзядзінцы кашары сьпявалі зычна дзьве артылерыйскія трубы вячэрнюю зару. Ускалануты іхнім палкім заклікам зьбянтэжаны Альшэўскі імпэтна рынуўся ўперад і адразу-ж беспарадна спыніўся. Ён яшчэ чуў як сьціхлі разам дружна трубы, як прадзімалі трубачы чуйныя амбушуры, як адыходзілі яны пад дробны перазвон шпор, а потым, зноў абрываючыся, паляцеў кудысь дадолу, дарэмна адшукваючы нагой падлогу.

— Да дробных, як колцы трэнзалёвых цугляў, дробязяй устае перад вачыма,—вёў далей гутарку Азімут,—другая мая сустрэча з Мартынам Путрам на здавён-даўна крывёю угноеных падзолах Беларусі. Знаходзіўся я тады з «Дабранач» ў артылерыі XV арміі на беразе не хапатлівай Дзісенкі. Направа ад нас да сівага шумавіньня Дзьвіны застыглі на варце IV армія і конны корпус Гая, налева трымалася напагатове III армія, а на другім узьбярэжжы сачыла за кожнаю нашаю гарматаю двумя сваімі I польская армія генэрала Шаптыцкага. Смакавалі мы жорсткую асаку, а людзі—прагорклых тараноў. Катаваў нас каросьлівы клешч, а людзей—

сыпнатыфозная вош. Афарбоўваў нашы цугли крывёю насос і расхіствала зубы людзей шкарбунка. Ніколі ня выпадзе з галавы крывёю і полымем агорнуты 1920 год. У нашай батарэі засталіся толькі ў бязупынным агні да часу зношаная «Дабранач», чатыры хворых кані і тры стомленых чалавекі. Штодня атрымоўвала батарэя фунтовую скібку скаржавелага хлеба, якую траілі дакладна:

> Камбатр і камгарматы Даніла Сагайдак, прасякнуты вугальлем і жалезам да труны каваль, з ястрабовым тварам і цягліцамі кляйдэсдаляў; наводнік і яздовы Зундаль Богарад, спавіты, нават для чалавечага нюху даступны, пах вэажыталю цырульнік, з маленства шчуплы, з шафранавата колеру хваравітым тварам; тэлефаніст і яздовы Тарас Шаміль, прапахлы хвояй і бярозай смаляр, з прагавітымі да працы сялянскімі рукамі, з цікавымі, адначасна і добрымі і злымі вачыма.

Ужо тыдзень як вухала гулка раз-по-раз «Дабранач», прытуляючыся да баравінкі з напалову зруйнаванай гранатамі капліцай на завароце. Даніла Сагайдак, седма на суку недалёкай бярозы, сачыў за выбухамі і, часамі адзначаючы, пудла крычаў:

— Збочыла, зануда, ад цэнтральнай траэкторыі. Гідра шляхецкая! Зундаль, правей—0-05!

Зундаль Богарад, які нагдысь зьмяніў часова ля панарамы [1]) украдзенага тыфусам ранейшага наводніка, нацэльваў дбайна гармату і, трапляючы ў цэль, здаволена мармытаў:

— Калі ласка галіцца, панове. Чым загадаеце, між іншым, успырснуць—вэажыталем, трайным адэкалёнам, гэліатропам?

Тарас Шаміль, лёжма на траве каля тэлефоннага апарату сыстэмы «Арданапс», пераказваў словы прынятай тэлефанапрамы, націскаючы на размоўны кляпан:

— Перанесьці агонь да званіцы вёскі Заружжа, дзе, па дадзеных нашай выведкі, знаходзіцца наглядальны пункт супарата. Ёсьць—перанесьці агонь. Далей?

Хворы, з аголенымі каростай нагамі, я стаў каля канавязі, думаючы аб гэтых людзях і аб Карпатах, якія выклікалі заўжды ўпартую постаць Мартына Путры. І раптам застыў, пачуўшы ад дарогі знаёмы заклік:—кось! кось! кось!—Скінуўшы вокам, убачыў як да мяне падыходзіў нагдышні бамбардзір-наводнік.

— Добры дзень, Азімут! Не гадаў ніколі з табою яшчэ раз сустрэцца. І як-жа ты, небарака, перапаўся!

Мне вельмі хацелася апавядаць Путру, што той трумаль бэнзіны, які Шаміль зьдзібіў у лётнікаў для майго лекаваньня, у яго, у сваю чаргу, зьдзібілі шофэры бранявіка, хацелася апавядаць, што мне

[1]) Аптычная прылада для дакладнай наводкі гарматы ў цэль.

надсілу вазіць гармату, што іншыя тры кані не артылерыйскія, а звычайныя зацмыганыя вадавозы, але, на жаль, наш галасавы апарат не на гэтулькі гнуткі, каб гутарыць з чалавекам, і я толькі, паклаўшы яму галаву на плячо, закрычаў, грукаючы нагою.

— І «Дабранач» тут таксама!—казаў ён потым, аглядаючы гармату.—І таксама ледзьве трывае!—Э-эх, таварышы, мае шчырыя і бязмоўныя!

І хвалюючыся апавядаў Путра зьдзіўленым Сагайдаку, Богараду і Шамілю пра жыцьцё маё і «Дабранач».

Праз дзень пасьля прыходу Путры ураніцы атрымаў, глуха перaказваючы кожнае слова, Шаміль тэлефанаграму з штабу арміі:

ЗАГАД

артылерыі на правым узьбярэжжы Дзісенкі.

в Цыганы. № 01/ап. с. 2 ліпеня

Мапа 2 вярсты.
Плян 250 саж.

1. Супраціўнік сілаю да адной арміі, займае левае узьбярэжжа Дзісенкі ад вусьця ракі Раўкеты да узвышша 32,6.

2. 4 ліпеня у 10 гадзін ураніцы пачнецца стратэгічны адыход XV арміі на рубеж р. Стабынічы і хата лясьніка, што на поўнач ад в. Старая Гута.

3. Кіраўніцтва артылерыяй пад час апэрацыі ускладзена на мяне.

4. 3 ліпеня артылерыя на поўнач ад баравінкі з капліцай адыходзіць да разьмежавальнай лініі IV арміі, паступаючы да асобнага загаду ў распараджэньне камандарма IV. Артылерыя на поўдзень ад баравінкі з капліцай адыходзіць да разьмежавальнай лініі II арміі, паступаючы да асобнага загаду ў распараджэньне камандарма III.

5. Аднагарматная батарэя ля баравінкі з капліцай мае 4 ліпеня шпаркім агнём прымацаваць да сябе увагу артылерыі супраціўніка і палепшыць адрыў нашай пяхоты. Пасьля асобнага загаду адыходзіць на рубеж в. Стабынічы і хата лясьніка, што на поўнач ад в. Старая Гута.

6. Артылерыйскі парк мае на 4 ліпеня забясьпечыць батарэю ля баравінкі з капліцаю двумя баявымі камплектамі знарадаў.

7. Тэрміновыя данясеньні праз кожную гадзіну.

8. Намесьнікі: начальнік штаба і камандзір групы ДД.

Начальнік артылерыі XV.
Начальнік штаба XV.

— Ну, як, хлопцы, уцямілі зьмест загаду?—спытаў Сагайдак артылерыстаў.

— Лысых галіць ня трэба, таварыш камбатр,—адказаў Зундаль Богарад і, паправіўшы дакладна сваю сінюю з чырвонай зоркай шапку, загаманіў:—Слухай сюды, таварыш Сагайдак. У Віцебскай губэрні ёсьць, між іншым, мястэчка Янавічы, у мястэчку Янавічах ёсьць Сураская вуліца, на Сураскай вуліцы ёсьць хата Гіршы Зарха, а ў хаце Гіршы жыве, між іншым, Цыва-Ліба Богарад. Напішы, калі ласка, у выпадку чаго такога звычайнага, што Зундаль Богарад трапіў у палон і неўзабаве зьвернецца да свайго мястэчка, дзе 1000 жыхароў і 100 цырульнікаў, каб перарабіць яго на новы капыл. Цыва-Ліба ўвесь час хварэе і ёй ужо 65 гадоў, дык няхай да апош-

няга уздыху падтрымлівае старую думку, што сын яе жывы і толькі забавіўся паваротам, дык няхай яна штодня, захоўваючы надзею, ходзіць да віцебскага шляху сустракаць пытаньнямі пра сына балаголаў і падарожнікаў. У кожнага бальшавіка ёсьць, між іншым, матка. Як табе на гэтую думку здаецца, таварыш камбатр?

А ў мяне, таварыш Сагайдак,—казаў Шаміль, паторгваючы чорныя, з цынамонавымі ў клетку латамі на каленках галіфэ,—просьба паведаміць на вядомы табе адрас маю маладзіцу наконт хаты і каровы. Атрымаў я хату і карову, калі дзялілі ачкурнікі наскія маёнтак, у якім я змалку працаваў за наймітa. Дык вось, калі на дрэнны выпадак пан зноў вернецца да нас, няхай яна, пачакаўшы буй-ветру, зарэжа карову і падпаліць хату. Трэба казаць, што ад маей хаты на адлегласьці двух старэцкіх кійкоў пачынаюцца панскія клуні. Потым напішы, Даніла, каб яна па мне асабліва не галасіла. Жонка мая руплівая да працы і багата-ж ёсьць у нас у Полаччыны крумянастых дзяцюкоў, ад якіх на ральлі стогне плуг, на поймах стогне каса, на руме стогне сякера, на ганку стогне дрыгалка. Э-эх, у грудзёх гарыць, камбатр!

— Та навішто, хлопці, пэрадчасна кадылам махаты,—казаў, падкрэсьліваючы кожнае слова, Даніла Сагайдак,—выканаем заўтра загад, адыйдзем з гарматаю да паказанага рубяжу, а там запросім цымбалістаў та мусімо паміраты. Сёньня-ж трэба пільна агледзець гармату, праверыць тэлефонную лінію та выкласьці снарады, якія швыдко прывязуць.

І на другі дзень ураніцы убачыў я такі упарты бой, роўнага якому па заядласьці я ніколі ня бачыў раней ні на Карпатах, ні на Падляшшы, ні на Украіне. Найлепшы подступ да Дзісенкі знаходзіўся насупраць баравінкі з капліцаю, і, заўважыўшы адыход пяхоты, легіянэры пачалі ў гэтым месцы фарсаваць раку, наводзячы мост. Тут даўно ўжо прыстрэляны бераг узялася беспамылкова і бязупынна, пры агульнай маўчанцы нашага фронту зацягваць хмурынкамі выбухаў «Дабранач», зьнішчаючы пантоны. І тады разьюшаны супраціўнік наваліўся на батарэю ля баравінкі агнём усіх сваіх гармат.

Даніла Сагайдак сачыў на сваім звычайным месцы за стралянінай і, прымушаючы таварышоў унізе усьміхацца, мармытаў:

Написала Гапа Хвесі,
Що вона тепер в Одесі,
Що вона тепер не Гапа,
Бо на неі біла шляпа.

Аднавокага інваліда «Цэйса» давялося тыдзень таму пазычыць камандзіру дывізыі і камбатр, вымерваючы прыплюснутым вокам адлегласьць паміж выбухамі і жвавым цэлем з дапамогаю грабянцу моцна сашчэпленага, уперад працягнутага кулака, крычаў:

— Па польскай шляхце!
Шрапнэлем!

Розень—30—03!
Прыцэльнік—125!
Трубка—125!
Гармата!
Агонь!!

Я бачыў калісьці пад час бязьлітаснага бою на узьбярэжжы Стахода як шэсьць кананіраў прымушалі маладую тады «Дабранач» вухаць шэсьць раз у хвіліну, а цяпер восем раз на працягу хвіліны закладаў Богарад снарады, восем раз на працягу хвіліны торгаў за шнур Путра, і па праклёнах легіянэраў, па вераску коняй, па трэску пантонаў, я адчуваў, як добра перамаглі яны шматлічныя хваробы зношаннай гарматы.

Рур! Рур! Рур!

— крычаў побач, лежачы плажам каля «Ардананса», Шаміль умоўную назву сваe станцыі, выклікаючы штаб арміі для чарговага даняcеньня. І швэндалася вакол баравінкі з капліцаю сьмерць, а як-жа хочацца заўжды ў гэтакія хвіліны жыць. Здавалася сотня батарэй залівала нас сталёвай залевай і, спачатку вобмацкам, пачала, нарэшце, прыстрэльвацца ўсё кучней і кучней. Паўз нас прабягалі апошнія пяхотнікі і вялікімі вачыма глядзелі на пекла вакол гарматы, а ўжо бліжэй, ніж кагадзе, чулася на гэтым узьбярэжжы: Nejźe na Moskva! Нэjźe na Moskva [1]).

Прыцэльнік спыніўся на лічбе 100, калі бяз ніводнага крыку павіс на суку Даніла Сагайдак, перагнуўшыся ў паясьніцы, і нярухома застыў. Кітайскімі здаваліся зьнізу вочы камбатра, і не разагнуўся грабянец сашчэмленага кулака. Прыцэльнік спыніўся на лічбе 80, калі, падбіты ў галаву аскепкам гранаты, Зундаль Богарад абег двойчы вакол гарматы і рухнуўся перад панарамай, прахрыпеўшы:

— Здаецца Мартын, я між іншым, забіты...

Прыцэльнік спыніўся на лічбе 70, калі аднačасова з выбухам застагнаў цяжка Тарас Шаміль і заваліўся на сьпіну, ня выпускаючы з рук трубкі. Тэлефаніст, адкінуўшы ускудлачаную галаву, глядзеў вачыма бяз зрэнак на агорнутую шрапнэлявымі хмурынкамі блакіць і ў беспамяцьці разам з стогнамі крычаў:

— Тэкля, пашукай у клеці мой доўгі ачкур! Зараз карову да бугая павяду! Тэ-экля-я!..

Ужо ў распаленай да чырвані «Дабранач» адмовіўся працаваць кагадзе безадмоўны выкіднік, і Путра мусіў пасьля кожнага стрэлу вытоўхваць баньнікам стрэленую гільзу праз рулю, ужо скончылі з вэрхалам сваё жыцьцё прывезеныя ўчора снарады, і Путра мусіў парушыць непарушнасьць запасу гарматнага перадка, ужо зьмяніла Шамілёвы стогны безнадзейная перадсьмяротная хрыпка, ужо каля канавязі застаўся жывы толькі артылерыйскі конь Азімут, ужо дзесьці побач гучэлі вясёлыя словы легіянэраў, калі подалек, па той

[1]) З польскай мовы - Гайда на Маскву.

бок фронту, на адлегласьці фарсаванага сутачнага пераходу пачуў я зьдзіўлены шматлічныя гікі:

— Цок! Цэк!
Цок! Цэк!
Цок! Цэк!

Імчалася ў тыле легіянэраў буйнай бягою да шахтароў, нэндзай набраклай Дамбровы, да літоўнікоў, нэндзай пракуранай. Гэты Банкавой, да ткачоў, нэндзай спавітай Лодзі, коньніца Гая, І чую, як ляскаюць клінкі шашак. І чую, як стогне пад падковамі байдан.

Ой, людзі былі ў Гая!
Ой, коні былі ў Гая!

Направа рушыцца на захад абшарпаная, паўгалодная, тыфусам падточаная IV армія. І чую, як клекаціць вада ў кулямётах. І чую, як румзае вада ў дзіравых ботах. Налева імкнецца на захад абшарпаная, паўгалодная, тыфусам падточаная III армія. І чую, як у імпэце губляюць выразнасьць сьпіц колы тачанак. І чую, як загулі над жабрацкай ральлёю сьпякотныя песьні.

Прыцэльнік спыніўся на лічбе 50, калі з гулам, ад якога задрыжэла вакол спалохана зямля, агарнула старую «Дабранач» агнём і дымам. Зьнікла праз міг ускаланутая выбухамі жахлівая хмара, пакідаючы пакрыўлены ляфэт, пагнуты ствол, адарваныя колы, разьбітую панараму і дзіўнага сярод мэталёвых руін артылерыста, які стаяў, прыціскаючы далоні да скроняй. Атручваньне параховымі газамі прымусіла пакутна перасмыквацца кожную цяглiцу, кантузія зрухам паветра прымусіла разарвацца капілярныя сасуды на твары, умываючы яго крывёю, жах незнаёмы прымусіў сацьмець бліскучы крышталь вачэй, але Мартын Путра рынуўся да апарату і, выняўшы з рук Шаміля трубку, якая хрыпкай адклікалася на хрыпку тэлефаніста, пачуў далёкае:

— Адбой! Адбой!

Ён хапатліва ўппрог мяне ў гарманты перадок, ускочыў на сядло і, выціраючы рукавом з твару кроў, казаў з сваім звычайным латыскім акцэнтам:

Выканаем, таварыш, загад! Хіба-ж мы пакінем паном 24 гранаты!

Я ўзяў з месца наўскапыта, але ўжо побач крычалі легіянэры:

Czekaj, psubrat! Czekaj, szybienicznik! [1])

І аваднямі забзыкалі кулі. Адна цяжка параніла Путру, які схіліўся беспарадна на сядле і застагнаў, абыймаючы мяне за шыю, другая шкрабанула па маім баку, пакінуўшы ў дажывоцьце гэты белы шрам. Сьцяўшы моцна зубы, перамагаючы каросту, губляючы па дарозе ружовыя ад крыві камякі пены, я павялічыў яшчэ больш алюр, стараючыся бегчы плаўна, каб ня скінуць Путры, і праз гадзіну, вы-

[1]) З польскай мовы—Пачакай, псіны брат! Пачакай, шыбельнік!

цягваючы ўперад стомлена шыю, дышучы коратка і з хрыпам праз дрыготу пачырванелых ноздраў спыніўся перад нашай пяхотаю. Санітары зьнялі з сядла самлелага Путру, і вэтэрынар змазаў мазьзю мой бок. А наступнай раніцы, разам з усёю XV арміяй, адчуваючы ззаду суровы ляск іншай трохдзюймовай гарматы, бег я да Віслы. Калі артылерысты дайшлі да баравінкі з капліцаю, яны на вялікі час спыніліся. Калі артылерысты адыходзілі ад баравінкі з капліцаю, яны пакінулі магільны грудок, на якім глядзела жаралом на захад у заядлым змаганьні зьмерлая «Дабранач», і пад якім ляжалі Даніла Сагайдак, Зундаль Богарад і Тарас Шаміль.

І раптам зноў залуналі мэталёвыя гукі, але, рахманыя раней, яны цяпер віхурылі клёкам набраклымі агнямётамі, разьдзіраючы ўшчэнт начную цемру. На дзядзінцы клікалі мядзяныя дзюбы:

— Трывогу трубяць трубы,
Хутчэй сядлай каня!

Чулася, як енчылі на пляцоўках кашарных лесьвіц пад ударамі багнэтаў страляныя гільзы. Чулася, як крычалі ў памяшканьнях батарэй днявальныя:

— Устава-ай! Трыво-ога!

І кагадзе недабачлівыя балонкі вакон выбухнулі сьвятлом. І кагадзе дрымлівы брук зарыкаў пад сотнямі ботаў. А ў стайні, ашчэрваючы зубы, крычаў Азімут. Магутны конь, вырываючыся вонкі, прымушаў жаласна трашчаць бярвеньні станка і кожным колцам зарумзаць жалезны чумбур. Адчуваючы клёкат крыві ў жылах і спрыт гранаты ў кожным нэрве, Альшэўскі імпэтна рынуўся ўперад адчыняць дзьверы насустрач артылерыстам.

— Зараз, стары! Зараз!—супакойваў ён праз частку хвіліны Азімута, перадаючы яго яздавому. А праз некалькі хвілін пачуў курсант, як паглынуў і ляскат гармат, і скавыт коняй, і грукат ботаў зычны ў ядраным асеньнім заранку голас Мартына Путры:

— Па мясцох!
Коньнікі, сядайце!
У паходную калюмну!
За мною!
Ма- арш!

1932 г.
Вяліж, Заход. вобл.

**Жан-Поль Бэранжэ**

# БЕЛАЯ КУКАРДА

**Куплеты да ўрачыстасьці, якою раялісты адзначылі гадавіну першага ўступленьня расійцаў, аўстрыякаў і прусакоў у Парыж.**

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў,
Што пераможаным вярнуў
Кукарду белую і гонар!

Дзень гэты трэба шанаваць,
Ён дапамог царом саюзным
Французаў буйных закілзаць
І добрых вызваліць французаў.

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў,
Што пераможанымі вярнуў
Кукарду белую і гонар!

Мы самі нам дапамагчы
Палкі чужынцаў заклікалі
І самі нашых брам ключы
Мы ім з ахвотай аддавалі.

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў,
Што пераможаным вярнуў
Кукарду белую і гонар!

Каб нас ня выратаваў бог,
Хто-б абярог нас ад няшчасьця:
Наш сьцяг трохкаляровы мог
Над вежай Лёнданскаю ўзьняцца.

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў,
Што пераможаным вярнуў
Кукарду белую і гонар!

Хай застанецца для вякоў,
Як мы прасілі на каленях
У пераможных казакоў
Героям нашым прабачэньня.

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў,
Што пераможаным вярнуў
Кукарду белую і гонар!

Ўсе нашы дзедзічы пры нас!
Час небясьпекі хай мінецца.
Мы, ўсе французы, выпьем ўраз
За перамогу чужаземцаў.

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў,
Што пераможаным вярнуў
Кукарду белую і гонар!

'Шчэ трэба чару асушыць
За Гэнрыка, таго шчасьліўцу,
Які патрапіў сам здабыць
Сабе пасад свой і сталіцу.

Вітаньне вызваленьня дню,
Што сэрцы радасьцю напоўніў
Што пераможаным вярнуў
Кукарду белую і гонар!

*З французскае пераклаў*

*АЛ. ДУДАР.*

*Увага.* Белая кукарда—эмблема фэўдалізму контррэвалюцыі, якая здолела вярнуцца ў Францыю, дзякуючы чужаземнай інтэрвэнцыі.

Гэнрык IV—кароль Францыі, правадыр пратэстантаў у рэлігійных войнах XVI стагодзьдзя. Бэранжэ іранізуе з Люі XVIII, якога зрабілі каралём інтэрвэнты.

Л. Мілеў

# ПА ДВОХ БЕРАГОХ

І ў даўжыню і ў шырыню раскінулася сяло Малавата па правым беразе Днястра; здаецца, няма яму ні канца, ні пачатку.

За трынаццаць гадоў, як гаспадарыць тут начальнік жандарскага пастарунку, Гервазій Цапой, шмат чаго зьмянілася. Зьнікла частка халупак, якія стаялі не абгароджаныя, і на іх месцы цяпер узвышаюцца вялікія хаты, усе пакрытыя чарапіцаю, з пафарбаванымі на зялёны колер ганкамі, упрыгожаныя дрэвамі і дрэўцамі.

Пазірае направа, пазірае налева, і не нарадуецца сэрца Цапоя вынікамі, якіх ён сам дасягнуў вялікай старэннасьцю.

Што праўда, то праўда. Шмат турбот і бяссонных начэй паклаў Гервазій Цапой, пакуль убачыў сяло такім прыгожым і багатым. Колькі мітусьні і клопатаў ён меў, пакуль дабіўся, каб тыя шэсьцьдзесят гаспадароў з верхняй часткі вёскі «добравольна» прадалі ўсё тое, што мелі каля сваіх убогіх хатак і выехалі ў Бразылію...

Засталося яшчэ «іх» трохі, але і Гервазій Цапой спрытны, гаспадар,—неўзабаве вытрасе і тых.

І толькі ў Бразыліі, паводле яго слоў і слоў «пана» відавочніка, «яны» знойдуць «цуды раю».

Вясковыя кулакі, правая рука Цапоя, крычалі на ўсё горла, каб гаспадары ня былі ўпартыя і параяжджалі ў Бразылію, дзе яны ўбачаць, што шчырую праўду гаварыў пан шэф.

— Вам даецца магчымасьць і ўзяць з сабою сёе тое, а вы, дурні, яшчэ ўпіраецеся, як тыя бараны,—крычалі кулакі на сходзе склікаsuccessive Цапоем.

На гэтай справе сам Цапой добра нагрэў рукі: шмат перапала з двух бакоў—відавочнік-бразылец на пераезд сялян усунуў яму ў рукі некалькі даляраў, сапраўдных даляраў—бяз жартачку, а з другога боку, румынскі ўрад прыслаў яму проста з Бухарэсту падзяку за добра выкананую справу.

Не засталіся пакрыўджаныя і кулакі: яны раскупілі маёмасьць тых шасьцідзесяці гаспадароў...

Аднак мэта Гервазія Цапоя ня была ўсё-такі цалкам дасягнута,—заставаліся яшчэ ня кранутыя халупкі з ніжняга краю вёскі.

— І гэтых трэба будзе выкарчаваць адсюль, бо тут бальшавіцкая зараза глыбока пусьціла свае карані...

Але, ня гледзячы на ўсе захады начальніка і відавочніка, яны не давалі абдурыць сябе, не хацелі папрабаваць «цудаў раю».

Гервазій Цапой некалькі тыдняў хадзіў пахмуры, а ў хвіліны злосьці нават біў жандараў. Ночы прабаўляў на нарадах з сялавымі «гаспадарамі», абмяркоўваючы плян, як-бы да д'ябла вытурыць тых, якія яшчэ засталіся.

І вось аднойчы ён паслаў па іх жандараў.

— Слухайце!.. Скажэце ім... лагодна... што клічу іх я, сам Цапой! Скажэце ім... што ў канцылярыі жандарскага пастарунку атрымалі для іх штосьці вельмі прыемнае... Праз паўгадзіны Цапой выступіць перад імі з прамовай.

— Што, ня верылі! Хачу, каб вы самі пачулі, што пішуць вам родзічы з-за акіяну... Яны, нават, ня марылі аб тэй раскошы, якую там знайшлі. Вось, слухайце, што вам пішуць... Успомніце мае слова, цераз год-два вернуцца з Бразыліі мільёнэрамі. Я сам паляцеў-бы туды, але нічога ня зробіш... зьвязан дзяржаўнай службай... Азіраючы панурых хітрым вокам, чакаў адказу. За яго плячыма, трохі з боку, шапталіся «гаспадары».

Халупнікі цішком рабілі адзін другому знак краем вока. Моўчкі казалі друг другу: «Сьцеражэцеся, браты, Бразыліі, гэта хлусьня і больш нічога!»

Цапой усунуў руку ў шуфляду і выцягнуў невялікі канвэрт, паматы і запэцканы.

— Чатыры тыдні ішло з Бразыліі. Калі атрымаў, пане Юры?— запытаўся Цапой цераз плячо.

Адзін з шаптуноў вышаў наперад.

— Учора, якраз увечары, мне прынесьлі з гміны... пішуць мне, што дзякуй богу... лепш ня можа быць... сам хрэсьнік мой, Базыль Пламадзяла піша мне...

І Цапой аглядаючы «аўдыторыю», разгладзіў на стале ліст. Прачытаўшы прывітаньні, ён перайшоў да апісаньня жыцьця эмігрантаў-бесарабцаў у Бразыліі.

— Вось жыцьцё! Дурні, яшчэ думаюць... Так добра, як у хрыста за пазухаю,—пад'юджваў адзін з кулакоў, што стаяў за сьпіною Цапоя.

Халупнікі з вялікай увагай лавілі кожнае слова.

— Хросны! Усе мы, шэсьцьдзесят гаспадароў, жывем тут у Бразыліі вельмі добра... Дзякуем пану шэфу за добрую параду, за тое, што накіраваў нас на добры шлях... Яшчэ просім цябе, хросны, каб ты прачытаў наш ліст тым з ніжняй часткі вёскі...

Усе мы просім, каб ты сказаў ім, што яны вельмі пашкадуюць, што не паехалі разам з намі...

Цапой скончыў чытаць.

Маўчанка. Толькі за дзьвярыма, на дварэ чуліся гутаркі.

— Ці чулі?—запытаўся Цапой.—Зямля, усялякія багацьці сьвету, грашовая дапамога, гаспадарка, гэта табе ня жартачкі!.. А вы яшчэ думаеце... У каго галава на плячах і мяне слухаў, той сягоньня-ж...

бачыце самі,—і шэф зноў узяў ліст у рукі:—Бачыце самі, як яны мне дзякуюць... Пачынайце-ж рыхтавацца, ніхто ня хоча вас ашукаць, хіба-ж і мы ня людзі... дзяржава румынская ведае, што робіць!..

Голас з двара перапыніў словы Цапоя. Павярнуліся да дзьвярэй і ўбачылі—Базыль Пламадзяла з двумя таварышамі-эмігрантамі прабівалі сабе дарогу праз натоўп сялян.

Адразу ўсе скамянелі.

— Здаровенькі былі, людзі добрыя,—спыніліся яны каля стала шэфа.

Цапой кусаў свае вусы. Жандары з вылупленымі як у жабы вачыма чакалі разьвязкі вельмі няпрыемнага моманту. Тыя за сьпіною шэфа як у рот набралі вады.

— Ня верце, браткі! Прадалі нас бразыльскім паном!—загучэў голас Базыля.—Шэсьць тыдняў мы пакутвалі... галодныя, халодныя ратаваліся ад панскага раю за акіянам, у Бразыліі.

Халупнікі ўперліся вачыма ў Базыля, прагавітым слыхам ловячы яго словы.

— Ліст падроблены... ня верце... Мы вам раскажам усю шчырую праўду аб раяваньні ў Бразыліі,—казаў далей Базыль.—Уцяклі? Ашукалі румынскую дзяржаву?! Прыехалі назад у вёску, каб толькі падбухторваць народ?.. вышчарыў Цапой зубы. Стукнуўшы кулаком па стале, ён паказаў свае агідныя, чырвона-атрутныя дзясны.

... Сёньня, абыходзячы пасты Малаватай, Гервазій Цапой успамінае пра мінулыя дні.

«Дзяржава румынская ведае, што робіць», прамільгнула ў яго думцы, і ён пачынае кашляць. «Калі гэта было?»...—сам у сябе пытаецца Цапой.—«Залетась», дакладней успамінае ён.

Ён заходзіць у гміну, і напамінае «пану старасту» аб тым, што сёньня—дваццаць пятага кастрычніка, на што той адказвае:

— Але, пане шэф... паводле бальшавіцкага календара, сёмае лістапада...

Цапой глядзіць на яго, а потым бяжыць далей. Няма калі тутарыць—дваццаць пятае кастрычніка—цяжкі для яго дзень. Жандары з раніцы ўжо каля Днястра.

З левага берагу даносіцца музыка. Цапой глядзіць на гадзіньнік, ужо каля дзесятай гадзіны. Хутка варочаецца ён на жандарскі пост і праз некалькі хвілін па тэлефону рапартуе, што ў вёсцы Малаватай, на другім беразе Днястра, бальшавікі пачалі сьвята.

У адказ атрымаў інструкцыю самога жандарскага палкоўніка.

Была ўжо адзінаццатая гадзіна, калі ў Малаватай, недалёка ад берагу, працоўныя сяляне—малыя і дарослыя—з музыкай, з чырвонымі сьцягамі сустракалі дзень Вялікага Кастрычніка.

Калі-ні-калі найбольш моцна кінутае слова пералятала цераз Днястро і спынялася на бесарабскім беразе, у Малаватай, якая глядзела так сумна, здавалася зусім парожняй.

Жандары, як шалёныя, кідаліся туды і назад, каб хто небудзь ня выйшаў на бераг. Але дарэмныя былі іх захады, сялянам удавалася

выбраць хвіліну, і яны зьяўляліся то тут, то там. Некаторыя сядзелі на прызбах каля хат, а больш адважныя ўзьдзябурваліся на дрэвы.

І калі з левага берагу Днястра з усіх бакоў загучэў Інтэрнацыянал, Гервазій Цапой скамянеў, а з многіх хат—з прызбаў і дрэваў—сяляне чырвонымі хусткамі і насаткамі віталі Савецкую Малдавію з днём Кастрычніка.

З пенай на губах вышаў Цапой на вуліцу, зьбіраючы жандараў.

— Гей! Гей!...—драў ён горла, задыхаўся ад шалёнай злосьці. Ад шаленства ня мог знайсьці слоў.

Позна ўвечары шэф Гервазій Цапой па простаму проваду тэлефанаваў у Кішынёў:

— Арыштаваў сорак чалавек... іншых заўтра раніцою...

Цішу ночы прарэзвала музыка з левага берагу Днястра: працоўныя Савецкай Малдавіі сьвяткавалі Вялікі Кастрычнік.

*Пераклаў з малдаўскае П. БУЗУК.*

Браншітэйн

# МАРКС І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

У артыкуле, дапасаваным да 4-ай гадавіны з дню сьмерці Плеханава і названым «Пра адносіны Г. В. Плеханава да мастацтва паводле асабовых успамінаў», Аксельрод-Артадокс пісала:

Материалистическое понимание истории, поставившее своей целью дать строго научное об'яснение всему историческому содержанию, должно было естественно, обратить внимание и на искусство.

Но основоположники материалистического понимания истории Маркс и Энгельс были не только кабинетными мыслителями, но и бойцами на поле битвы жизни. Теоретические задачи, непосредственно связанные с интересами практического движения пролетариата, стаяли на первом плане. Вопросы искусства были поэтому отодвинуты на задний план.

В найденном наброске предисловия к „критике политической экономии" Маркса мы находим... три страницы, посвященных искусству, но, к сожалению, рукопись обрывается.

Как всегда у Маркса содержание этих страниц интересно глубоким подходом к проблеме, но это между прочим.

Энгельс ничего не оставил нам из этой области". [1]).

Я падаў гэту досыць вялікую цытату са старога, забытага артыкулу Аксельрод-Артадокс для таго, каб зьвярнуць увагу чытача на выключна яркі ўзор надзвычайнае недаацэнкі эстэтычнае спадчыны Маркса і Энгельса, поруч з празьмерным выпукленьнем ролі Плеханава, як «асновапаложніка марксыцкае эстэтыкі».

Падумайце толькі: роля Маркса для навуковае эстэтыкі і літаратуразнаўства абмяжоўваецца трыма старонкамі-урыўкамі з прадмовы да «Крытыкі палітычнай эканоміі».

«Па дабраце сардэчнай» Аксельрод-Артадокс, паміж іншым, кідае бегла камплімэнт на адрас гэтых 3-х марксавых старонак: «Глыбокі падыход», і г. д.

Затое-ж, ужо зусім проста скажу—бязьлітасна яна распраўляецца з Энгельсам: «Энгельс нічога не пакінуў нам у гэтай галіне», г. ё. у галіне навуковае эстэтыкі і літаратуразнаўства, заяўляе безапэляцыйна Аксельрод-Артадокс.

Калі ў сувязі з гэтым згадаць славуты лёзунг «Плеханаўскай артадаксыі» і паклёп пра нібы-та «скупыя выказваньні» Леніна па пытаньнях мастацтва і культуры, пушчаны па нашым літаратурным фронце меншавікамі-пераверзеўцамі, трацкістамі і меншавіствуючымі

[1]) „Под знаменем марксизма" № 5—6, 1922 г.

ідэалістамі,—дык карціна паходу супроць марксызму-ленінізму ў літаратуразнаўстве зробіцца яснаю.

У гэты паход уключылася ўся буржуазная, так званая літаратурная навука і эстэтыка, пачынаючы ад адкрытых мракабесаў-ідэалістаў, аж да ўсялякіх прыспасабленцаў, пераапранутых у марксыстаў буржуазных сацыёлягаў, пераверзеўцаў, трацкістаў, нац-дэмакратаў, дэборынцаў і інш., якія ў большай ці меншай ступені арудуюць «цiхаю сапаю» на літаратурным фронце, ціхом спрабуючы падкопвацца пад падваліны марксыцка-ленінскага літаратуразнаўства. Якраз да гэтае фракцыі буржуазнага літаратуразнаўства—фракцыі «ціхіх», «рахманых», без тэарэтычнага абрэзу ў руках, без адчыненага паказу зубоў адкрытага нацыяналізму і ідэалізму мы павінны сьледуючы паказаньням партыі і тав. СТАЛІНА прыкаваць нашу палітычную пільнасьць на дадзеным этапе абвостранага клясавага змаганьня, у дадзеных умовах новае тактыкі клясавага ворага.

Ленін перасьцярагаў неаднакроць нас ад гэткіх «рахманых», пераапранутых у марксыстаў ворагаў марксызму:

„Диалектика истории,—пісаў Ленін,—такова, что теоретическая победа марксизма заставляет врагов его переодеваться марксистами“. [1]).

Ці не зьяўляецца «Плеханаўская артадаксыя» яскравым прыкладам гэткага пераапрананьня.

Аксельрод добра-ж ведала—яна не магла ня ведаць, што як Маркс, гэтак і Энгельс неаднакроць выказваліся па пытаньнях літаратуры і мастацтва; што абодва яны доўгія гады знаходзіліся ў блізкай сувязі з Гайнэ, з Фрэйліґратам, што Маркс зьбіраўся напісаць работу пра Гайнэ і пра Бальзака, і працаваў над пытаньнямі хрысьціанскага мастацтва, што ў Энгельса ёсьць артыкулы і лісты, прысьвечаныя канкрэтным пытаньням мастацтва і літаратуры, і што, нарэшце, бадай, кожная старонка работ аўтараў «Капіталу» і «Анты-Дзюрынга» сьведчыць аб тым, што клясыкі марксызму добра ведалі сусьветную літаратуру, што яны дужа і дужа часта бралі адтуль свае вобразы, мэтафары і тую надзвычай багатую вобразную, гостра адточаную мову рэвалюцыянэра-вучонага, які ня мае сабе роўнага ў літаратуры.

Аксельрод-Артадокс не магла ня ведаць, што напрыклад, у перапісцы Маркса з Фрэйліґратам закладзены вялікі матар'ял для вывучэньня шэрагу праблем нашае літаратурнае палітыкі. Не магла гэтага ня ведаць. Гэтак сама, як гэта ведаў Каўцкі, які заявіў, аднак, што перапіска Маркса і Энгельса «на дзьве трацiны зьмяшчае ў сабе нудную матэрыю, альбо зусім дробныя глупствы» [2]).

Мы-ж добра ведаем, як высока Ленін ацэньваў перапіску Маркса Энгельсам. Ленін піша:

„Богатейшее содержание марксизма развертывается... (у перапісцы—Я. Б.) в высшей степени наглядно“.

---

[1]) Ленін, том XII, частка 2-ая, стар. 44. (ст. выд.). Ленін, том. XVII, стар. 29.
[2]) Маркс і Энгельс, том XXIV, стар. 9-ая.

«Надзвычай багаты тэарэтычны зьмест марксызму»—вось пра што трэба казаць, калі гутарка заходзіць аб эстэтычнай спадчыне Маркса. Бо зусім не здарма Энгельс падкрэсьліваў у сваім слове на пахаваньні Маркса, што «у любой галіне, у якой працаваў Маркс—а іх было дужа багата, і ні воднае з іх ён не кранууся толькі мімаходам—у любой галіне, нават у матэматыцы, ён зрабіў самастойнае адкрыцьцё. [1]) Геній Маркса ня мог мімаходам» абмінуць тую галіну, галіну мастацтва, якой ён сур'ёзна захапляўся ў маладосьці (Маркс, як вядома, крыху пісаў у свае юнацкія гады), з якою неаднакроць сутыкаўся ў сталыя свае гады, якую ён цаніў і добра ведаў.

Але дзе-ж гэты «надзвычай багаты тэарэтычны зьмест марксызму» ў галіне эстэтыкі і літаратуразнаўства? Дзе тут «самастойнае адкрыцьцё» Маркса?—кпліва пытаецца хто-колечы з гэрояў «цiхае сапы».

Не магу не згадаць у гэтай сувязі трапнага вобразу, што кінуў Ленін на адрас суб'ектыўнага сацыёлёга Міхайлоўскага, які, як вядома, таксама бачыў у Маркса адны толькі «дробныя глупствы» і «тры старонкі».

Ленін пісаў:

„И вот он (Г. Е. Міхайлоўскі—Я. Б.) сидит и думает свою крепкую думу над глубокомысленным вопросом—„В каком сочинении Маркс изложил сваё материалистическое понимание истории". Всякий, знакомый з Марксом, ответил бы ему другим вопросом: в каком сочинении Маркс не излагал сваего материалистического понимания истории." [2])

Колькі прайшло перад нашымі вачыма гэткіх дарэмных, сьмеху вартых «шукальнікаў марксызму» на літаратурным фронце. Выступаючы ў дыскусыі па пытаньнях мастацтвазнаўства, адзін з нашых савецкіх мастацтвазнаўцаў Фёдараў-Давыдаў казаў:

„На этом этапе (г. ё. 1923-25 гг.—Я. Б.) мы имели т о л ь к о самые первичные общие работы Плеханова, явно недостаточные. Затем имелись т о л ь к о самые общие, по сущности говоря, полупублицистические, очень популярные марксисткие критические работы Луначарского и э т и м, п о с у щ е с т в у г о в о р я, и с ч е р п ы в а л о с ь в с е м а р к с и с т с к о е и с к у с с т в о з н а н и е". [3])

Фёдараў-Давыдаў, як бачыце, таксама «думаў свою крепкую думу», таксама аж да нашых дзён мучыўся глыбокадумным пытаньнем аб ролі Маркса для нашага мастацтвазнаўства.

Але, які жаль! Ён прышоў да яшчэ больш сумных вынікаў: ён, выяўляецца, нават трох старонак Маркса ня ўбачыў за шырокімі сьпінамі Плеханава, Луначарскага і інш. І яму і ягоным староньнікам па лёзунгу «Плеханаўскі артадаксызм» даводзецца адказаць вышэйзгаданымі словамі Леніна: «В каком сочинении Маркс не излагал своего материалистического понимания истории»—а значыць і гісторыі мастацтва.

1) Цытавана па час. „Под знаменем марксизма" № 2—3, 1923 г.
2) Ленін, том. І, стар. 82-я (старога выд.)
3) „За ленинское искусствознание" стар. 31.

Бо для кожнага разумнага чалавека, які здольны як сьлед «думать крепкую думу», зразумела, што роля клясыкаў марксызму—Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна—для літаратуразнаўства і навуковае эстэтыкі зусім ня вычэрпваецца тымі артыкуламі і ўрыўкамі, дзе клясыкі марксызму закранаюць канкрэтныя літаратурна-эстэтычныя праблемы.

Якая цана таму марксыцкаму літаратуразнаўцу, які з хоць якое старонкі твораў клясыкаў марксызму не навучыўся чэрпаць «надзвычай багаты тэарэтычны зьмест» марксыцка-ленінскага мастацтвазнаўства і навуковае эстэтыкі.

Вы хочаце ведаць, дзе закладзены асновы нашае марксыцка-ленінскай эстэтыкі,—чытайце і «думайте крепкую думу» з прычыны наступных няўміручых радкоў:

„В общественном отправлении своей жизни люди вступают в определенные, от их воли независящие, отношения—производственные отношения, которые соответствуют определенной ступени развития их материальных производительных сил.

Совокупность этих производственных отношений образует экономическую структуру общества, реальное основание, на котором возвышается правовая и политическая надстройка и которому соотвествуют определенные формы общественного сознания.

Способ производства материальной жизни обусловливает собой процесс жизни социальной, политической и духовной вообще. Не сознание людей определяет их бытие, но, напротив, общественное бытие определяет их сознание" [1]).

Гэта гэніяльная ідэя, якая паводле слоў Леніна [2]) «впервые возвела социалогию на ступень науки» (бо дала нам «зусім аб'ектыўны крытэры»—крытэры вытворчых суадносін) натуральна і зьяўляецца выходным пунктам пры пастаноўцы асноўных праблем літаратуразнаўства.

Пазбаўце літаратуразнаўства гэтае гэніяльнае ідэі, і яно разбурыцца, як картачны домік—разбурыцца і спыніць сваё існаваньне, як навука.

## II.

Дык вось, я адзначаю першы ўклад Маркса ў нашу галіну—галіну літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства наогул: Марксызм узьвёў упяршыню ў ступень навукі аналіз літаратурных працэсаў, як ідэалёгічных працэсаў наогул, як працэсаў духоўнага жыцьця грамадзкага чалавека.

„Материализм—піша Ленін,—дал вполне об'ективный критерий, выделив „производственное отношение" как структуру общества и дав возможность применить к этим отношениям тот общенаучный критерий повторяемости, применимость которого в социологии отрицали суб'ективисты". [3])

1) Прадмова „К критике политической экономии".
2) Ленін, том 1-шы, старонка 79 (стар. выд.).
3) Ленін, тем I, стар. 79 (стар. выд.).

Ці магла буржуазная ідэалістычная літаратурная крытыка ўсіх адценьняў справіцца з гэтаю задачаю ўтварэньня навуковай эстэтыкі? Не, ня здолела ні ў якім выпадку. Ёй не хапала «дробязі»—об'ектыўнага матэрыялістычнага крытэрыя ў сваёй літаратуразнаўчай рабоце!

Гайнэ, якога так любіў цытаваць Маркс, злосна іранізаваў нейк па адрасе «фіхтэанскага гуся», які, як вядома, адмаўляе нават уласную пячонку і сьцьвярджае толькі, што «я—ёсьць я». У гэтым не надта прыгожым становішчы фіхтэанскіх гусей, (пазбаўлены нават пераваг тых крылоўскіх гусей, продкі якіх «Рым выратавалі») знаходзіліся і зараз знаходзяцца шмат якія літаратуразнаўцы. Інтуітывісцкая папоўшчына, імпрэсыянізм і агностыцызм характарызуюць рэшткі разьбітага, але недабітага буржуазнага літаратуразнаўства СССР.

Згадаем наша змаганьне супроць расійскай імпрэсыяністкай і фармалістычнай крытыкі—гэта было ў сутнасьці змаганьне навукі супроць не-навукі, рэвалюцыйнае думкі супроць контррэвалюцыйнага мракабества і коснасьці.

„Ничего таинственнее литературы нет—пісаў белаэмігрант Айхенвальд—и влекут к себе человека эти волнующие мистерии слова".

Мы ведаем добра сацыялёгічны і палітычны эквівалент гэтых славутых «волнующих мистерий слова». Мы ведаем па якой цане гэтыя «волнующие мистерии слова» катыраваліся ў царскіх ахранках і на капіталістычных біржах—аднак у гэтую хвіліну для нас важна адзначыць гэтыя «містэрыі», як яркі ўзор адкрытага паходу мракабества супроць навукі ў галіне літаратуразнаўства.

Якая ўжо тут, прабачце, за выраз, навука, калі на думку гэтых крытыкаў «слово непостижимо», «словом слова не об'яснить».

Пры гэткай канцэпцыі трацiць усякі сэнс навуковая работа і культурная работа наогул. Усеагульнае неразуменьне і агностыцызм падрываюць у корані ўсякую магчымасьць стварэньня сапраўднае навукі.

Адзін з тэарэтыкаў гэтае канцэпцыі Патэбня—заснавальнік псыхалёгічнае школы літаратуразнаўства—пісаў:

„Искусство есть язык художника, и как посредством слова нельзя передать другому свои мысли, а можно только пробудить в нем свою собственную, так нельзя ее сообщить и в произведении искусства; поэтому содержание этого последнего (когда оно окончено) развивается уже не в художнике, а в понимающих. Слушающий может гораздо лучше говорящего понимать, что скрыто за словом и читатель может лучше самого поэта постигать идею его произведения. Сущность и сила такого произведения не в том, что разумел под ним автор, а в том, как оно действует на читателя или зрителя, следовательно в неисчерпаемом возможном его содержании" (Потэбня, „Мысль и язык"—153).

Адзіны літаратурны об'ект, што існуе незалежна ад чытача, замяняецца, як бачыце, стыхіяй суб'ектыўных чытацкіх успрыняцьцяў і «неисчерпаемым возможным содержанием». Няма Шэксьпіра, а ёсьць

сотні тысяч Шэксьпіраў у сотні тысяч чытацкіх успрыняцьцяў. Няма аб'ектыўнага крытэрыя ў аналізе Талстога, а ёсьць комплекс успрыняцьцяў творчасьці Талстога.

Паўтараючы ў сутнасьці тыя-ж самыя аргумэнты Патэбні, нябожчык Пётр Сямёнавіч Коган таксама сьцьвярджаў:

„Понять художественное произведение—это значить понять его читателя... История литературы есть история прочитанного, но не история написанного".

Суб'ектыўна ідэалістычная тэорыя чытацкіх успрыняцьцяў, што зьнімае магчымасьць стварэньня аб'ектыўнае літаратурнае навукі—ляжыць таксама ў аснове фармалізму. Прынцып «ощутимости формы», гэта ёсьць адчуваньне навізны формы, які, паводле слоў фармалістаў зьяўляецца рухаючаю сілаю літаратурных працэсаў—ёсьць прынцып суб'ектыўна-ідэалістычны, прынцып спажывецкі. Я мысьлю, што гэтых прыкладаў досыць для таго, каб ілюстраваць сваю наступную думку: для таго, каб стварыць навуку аб літаратуры, для таго, каб пакласьці канец рэакцыйнаму гагатаньню фіхтэанскага гуся, які адмаўляе сваю ўласную пячонку (у дадзеным выпадку—літаратурную пячонку)—неабходна было перш за ўсё сарваць са слова яго містычнае пакрывала.

Гэта зрабіў Маркс, калі ён пісаў:

„Человек имеет также „сознание", но и оно не имеется заранее, как „чистое сознание". На „духе" заранее тяготеет проклятие „отягощения" его материей, которая выступает здесь в виде движущихся слоев воздуха, в виде звуков, коротко говоря, в виде языка.

Язык также древень, как сознание, язык это практически существующее для других, а значит, существующее также для меня самого реальное сознание" (К. Маркс, архіў Маркса і Энгельса).

Матэрыяльнасьць і аб'ектыўная рэальнасьць мовы тут высоўваецца ў процівагу ўсякім містычным і агностычным тэорыям пра «недасяжнасьць слова» пра «мукі слова», пра тое, што «думка выказаная ёсьць мана». Матэрыя, што «отягощает» дух,—вось дзе ляжыць аб'ектыўны крытэры. Усе антымарксыцкі-ідэалістычныя канцэпцыі літаратуразнаўства няўхільна скочваліся ад агнастыцызму і саліпсізму, што роўназначна адмаўленьню ад стварэньня літаратурнае навукі. Да такога фактычнага адмаўленьня ад прынцыпу навуковасьці прышоў трацкіст Варонскі, які пісаў:

„Передать другому эстетическую оценку, основанную на чутье, или аналитически отнестись к ней, подчас дело совсем не легкое.. Такая передача возможна только при условии созвучности". [1])

Ідэалістычная канцэпцыя Варонскага—літаратуразнаўчая буржуазная інтуіцывісцкая канцэпцыя, заснаваная на суб'ектыўным чуцьці крытыка,—тут адкрыта распісваецца ў сваёй бязгрунтоўнасьці. «Условия созвучности», пры якіх, на думку Варонскага, можна «перадаць другому эстэтычную ацэнку», занадта патыхаюць містыцыз-

1) Варонскі—„Литературные записи", стар. 20.

мам і папоўшчынаю. Будаваць літаратурную навуку на падобных «условиях созвучности»—рэч зусім немагчымая.

Маркс разьбіў агнастычную лягэнду аб недасяжнасьці слова нагул і літаратурнага слова ў прыватнасьці, але апрача гэтага, мы знаходзім у Маркса, у яго «Уводзінах да крытыкі палітычнае эканоміі» надзвычайную думку, накіраваную супроць усякае спажывецкае тэорыі чытацкіх успрыняцьцяў. Я маю на ўвазе наступнае месца:

„Предмет искуства—а также всякий другой продукт—создает понимающую искусство и способную наслаждаться красотой публику. Производство производит поэтому не только предмет для суб'екта, но также суб'екта для предмета" (Уводзіны, стар. 9).

Дык значыць, ня чытацкае ўспрыняцьце зьяўляецца крытэрыем пры аналізе твораў мастацтва. Прадмет мастацтва—гэта ёсьць твор мастацтва, стварае «способную наслаждаться красотой публику», г. ё. стварае чытача. Але гэтага мала. Маркс падкрэсьлівае там-жа, што «производство создает для потребления не только предмет,—оно дает потреблению его о п р е д е л е н н о с т ь, е г о х а р а к т е р, е г о з а к о н ч е н н о с т ь».

Адначасова Маркс сьцьвярджае, што «точно также потребление порождает способности производителя, влияя на него...»

У сьвятле гэтае марксавае дыялектыкі вытворчасьці і спажываньня нам належыць вырашаць дужа складанае і актуальнае пытаньне пра чытача і кнігу.

Перад намі стаіць пытаньне аб вывучэньні чытача-спажыўца, таго самага, які, паводле слоў Маркса, уплывае на вытворцу, г. ё. на пісьменьніка. Тут перад марксыцка-ленінскаю крытыкаю непачаты край работы. Ленінскі лёзунг «стварыць літаратуру даступную мільёнам», яшчэ больш рэзка высоўвае перад намі задачу вывучэньня чытача, задачу вывучэньня гэтых мільёнаў чытачоў.

## III.

Апэруючы тэрмінамі вытворчасьць-спажываньне, Маркс, аднак, неаднакроць перасьцярагаў ад вульгарна-матэрыялістычнага атоесамліваньня матэрыяльнае вытворчасьці і вытворчасьці духоўных каштоўнасьцяў. У прадмове да «Крытыкі палітычнае эканоміі» Маркс піша:

„С изменением экономического основания более или менее быстро преобразуется и вся громадная надстройка над ним. При рассмотрении таких революций следует всегда иметь в виду разницу между материальным переворотом в экономических производствах, который можно определить с естественно-научной точностью и юридическими, политическими, религиозными, х у д о ж е с т в е н н ы м и или философскими, словом,—идеологическими формами..." [1])

(1 Маркс, „К критике политической экономии", стар. 12.

Ужо тут Маркс лічыць за неабходнае падкрэсьліць спэцыфічнасьць надбудоў наогул і, у прыватнасьці, мастацкай формы сьвядомасьці.

Па-першае, Маркс лічыць за неабходнае заўважыць, што ператварэньне надбудоў ня сьледуе мэханічна за зьменаю эканамічнае асновы. Надбудовы, на думку Маркса, ператвараюцца больш альбо менш хутка усьлед за зьменаю эканамічнае асновы.

Потым, варта зьвярнуць увагу на тое, што, на думку Маркса, як відаць, толькі «матэрыяльны пераварот у эканамічных умовах вытворчасьці» можна азначыць «з натуральна-навуковаю дакладнасьцю», што, па сэнсе пададзенай цытаты, ня тычыцца аналізу літаратурных працэсаў. Тут патугі на натуральна-навуковую дакладнасьць прыводзяць заўсёды да вульгарнага матэрыялізму—да мэханізму. Для ілюстрацыі падаем плеханаўскае палажэньне аб тым, што навуковая эстэтыка «аб'ектыўна, як фізыка»[1]). Вы памятаеце, таварышы, што гэта палажэньне зьвязана ў Плеханава з яго меншавіцкім об'ектывізмам, але, апрача гэтага, неабходна паказаць, што Плеханаў, у дадзеным выпадку, менавіта і грэшыць супроць вышэйзгаданага (у Маркса) разьмежаваньня матэрыяльнае вытворчасьці і ідэалёгічнае. Плеханаў спрабуе перанесьці на літаратуру «натуральна-навуковую дакладнасьць» фізыкі, зьнімаючы такім чынам адзначаную Марксам спэцыфіку мастацкае надбудовы.

Досыць згадаць, якую шалёную атаку вялі мэханісты—вульгарызатары на марксысцка-ленінскае літаратуразнаўства, каб пераканацца ў гістарычным для нас значэньні вышэй згаданага палажэньня Маркса.

Вульгарная пагоня за «натуральна-навуковаю дакладнасьцю» мастацкага аналізу знаходзіла і знаходзіць сваё выражэньне ва ўсякіх спробах вульгарна-матэрыялістычна растлумачыць літаратурныя працэсы рэфлексалёгіяй (Троцкі, школа Пераверзева), псыха-фізычнымі законамернасьцямі (Луначарскі), умовамі вытворчасьці літаратурнага прадукту (фармальна-сацыалёгічная школа) і г. д.

Усім гэтым вульгарна-матэрыялістычным захапленьням, як вядома, ня мала спрыяў Плеханаў, які ў радзе месц ішоў на ўступку вульгарнаму матэрыялізму.

Вось чаму і было непасьлядоўным тое змаганьне, якое напостаўцы вялі супроць вульгарнага матэрыялізму Пераверзева пад сьцягам «плеханаўскай артадаксыі».

А тымчасова ў марксавых «Уводзінах», у тых славутых трох старонках, пра якія зьняважліва казала мэханістыка Аксэльрод-Артадокс, ёсьць калёсальная па сваёй навуковай каштоўнасьці для нас зброя барацьбы супроць вульгарнага матэрыялізму—палажэньне Маркса пра «неравное отношение развития материального производства, например, художественному[2]).

1) Плеханов, т. X, стар. 192.
2) Маркс „К критике политической экономии"—Введение, стар. 24.

Маркс наступным чынам разьвівае гэта палажэньне:

„Относительно искусства известно, что определенные периоды его расцвета не стоят ни в каком соответствии с общим развитием общества, а следовательно, также и развитием материальной основы последнего, составляющей как бы скелет его организации. Например греки в сравнении с современным народом или также Шекспир". (Маркс, „Уводзіны").

На фоне гэтай выключнай па сваім значэньні для нас марксавай канцэпцыі дыялектыкі мастацкае надбудовы і матэрыяльнае асновы агаляе ўсю сваю меншавіцка-мэханістычную нікчэмнасьць пераверзеўская школа. Гэта меншавіцкая школа, як вядома, «зводзіла сацыяльнае жыцьцё да працэсаў вытворчасьці», шукала сацыяльную дэтэрміновасьць «у працэсе вытворчасьці і нідзе больш». [1]).

Для Пераверзева наогул ня існавала дыялектыкі, базы і надбудовы. Ён быў тыповы псэўда-марксыст, пераапрануты ў марксыста меншавіцкі эканамічны матэрыяліст. А што такое эканамічны матэрыялізм меншавіка? Гэта, паводле слоў Пакроўскага «чисто экономическая интерпретация исторического процесса, сама по себе приемлемая для любого буржуа».

На гэткім-жа прыдатным для буржуазіі пункце погляду стаяла фармальна-сацыялёгічная школа на чале з Арватавым. Выходзячы з вульгарна-матэрыялістычнага палажэньня, што літаратурна-мастацкая вытворчасьць нічым па прыродзе сваёй ня розьніцца ад іншае вытворчасьці» [2]), фармальна-сацыялёгічная школа сьцьвярджала, што «літаратурны прадукт вызначаецца грамадзкім спосабам яго вытворчасьці і грамадзкімі спосабамі яго спажываньня» [3]). Праблема законамернасьцяй літаратурнага працэсу зводзілася, такім чынам, да т э х н і ч н а е праблемы «вырабу літаратурных рэчаў». Ні спасылкі на Маркса, ні ўльтра-левацкія фразы звыш-матэрыялізму не маглі аднак схаваць таго факту, што фармальна-сацыялёгічны прафэсыяналізм выпустошваў клясавы зьмест мастацка і прыкрываў, прыспасабленскія манэўры буржуазнай інтэлігенцыі тыпу Шклоўскага.

Апошнія рэваншыцкія выступленьні Шклоўскага сьведчаць аб тым, што небясьпека падобнага падыходу да праблем літаратуры ня зьнікла.

Маркс рэзка бічаваў падобныя тэхнічныя тэорыі ў літаратуразнаўстве. «Хіба вольны,—піша Маркс,—той друк, які апускдаецца да ўзроўню рамяства».

Літаратурным саматужніцтвам, тэхнічным узроўнем літаратурнага рамяства фармалісты-сацыолёгі, як вядома, спрабавалі растлумачыць узьнікненьне, трансфармацыю і зьнікненьне жанраў.

Маркс наносіць сакрушальны ўдар па падобным вульгарызатарстве.

1) „Родной язык в школе" кніга 1-я, стар. 84.
2) „Печать и революцыя" 1929 г. кніга 1-я, стар. 30.
3) „Социологическая поэтыка", стар. 31.

У тых-жа сваіх «Уводзінах» Маркс узьнімае надзвычай складаную праблему няроўнамернага разьвіцьця жанраў». Вось што піша Маркс:

„Относительно некоторых видов исскуства, например, эпоса, даже признано, что он в своей классической форме, составляющей эпоху мировой истории, уже не может быть создан, лишь только началось художественное творчество в собственном смысле; что таким образом, в области искуства известные, имеющее громадное значение формы, возможны только на сравнительно низкой ступени художественное развития". (Маркс, „Уводзіны")

«Низкая ступень художественного развития и... блестящие произведения эпоса»—вось «казус» дыялектыкі, зусім недаступны для разуменьня мэханістаў-мэтафізыкаў. Маркс дужа пераканальна даводзіць, такім чынам, што мэханістычна перанесьці жанры з аднае гістарычнае абстаноўкі ў другую нельга. Якое багацьце зьместу заключаецца ў гэтых, здавалася-б, мімалётных заўвагах. Спрэчкі аб жанрах пралетарскага сацыялістычнага мастацтва—у сьвятле марксавага палажэньня аб няроўнамерным разьвіцьці жанраў—яны паўстаюць перад намі па-новаму. Жанры дваранскае і буржуазнае літаратуры ня могуць быць мэханістычна перанесены ў нашу літаратуру, як гэта камусьці здавалася. Жарт, як гістарычная катэгорыя, а не мэтафізычная ў стыле буржуазна-фармалістычнай паэтыкі—вось найкаштоўнейшыя паказаньні Маркса па гэтым пытаньні.

Праблемы аграмаднае важнасьці паўстаюць перад намі, калі мы паставім у сьвятле гэтае марксавае канцэпцыі праблему фальклёру.

Маркс піша:

„И разве не исчезают бесследно сказания и песни и музы, а тем самым и необходимые предпосылки эпической поэзии, вместе с появлением печатного станка".

Нацыянал-дэмакратычнае, кулацкае, смакаваньне фальклёру, як адзінае крыніцы нацыянальнае формы выяўляе ўсю сваю контррэвалюцыйнасьць у сьвятле вышэйпададзенае заўвагі Маркса. Па новаму ставіцца праблема пралетарскага фальклёру, яго сутнасьці ў сьвятле прынцыпу інтэрнацыяналізму. Саратнік Маркса—Фрыдрых Энгельс дае надзвычайную канкрэтна-літаратурную ілюстрацыю вышэйпададзенай тэорыі Маркса аб «неравном отношении развития материального производства, например, к художественному».

У лісьце да Паўля Эрнста, накіраваным супроць мэханістычнага літаратуразнаўства ў Нямеччыне 90-х гадоў, Энгельс дае свайму карэспандэнту надзвычайную лекцыю дыялектыка-матэрыялістычнага аналізу літаратурных працэсаў. Энгельс даводзіць Эрнсту, што нельга апэраваць па-за-гістарычна і абстрактна разуменьнем мяшчанства і эканамічнае адсталасьці, бо пры падобным мэханічным тлумачэньні зусім незразумелым застаецца той факт, што эканамічна адсталая, мяшчанская Нарвэгія ідзе наперадзе мастацкага разьвіцьця Эўропы.

„За последние 20 лет,—піша Энгельс,—Норвегия пережила такой расцвет в области литературы, каким не может гордиться ни одна страна, кроме России“ [1]).

Як-жа спалучыць гэты непараўнаны літаратурны росквіт з эканамічнаю адсталасьцю Нарвэгіі? У адказ на гэта Энгельс дае надзвычайны ўзор канкрэтнага гістарычнага аналізу разуменьня эканамічнае адсталасьці».

„В Германии,—піша Энгельс,—мещанство является плодом неудавшейся революции, прерванного и задержанного развития...“

Ня так было ў Нарвэгіі. Там, паводле слоў Энгельса, эканамічная адсталасьць не зяўляецца вынікам «перарванага і затрыманага разьвіцьця»:

„Вследствие своей изолированности и природных условий страна отстала, но общее ее состояние соответствовало производственным условиям и благодаря этому было нормальным“. [2]).

Вось як Энгельс ставіць праблему «неравного отношения развития материального производства, например, к художественному».

Ставячы гэту дужа складаную праблему, Энгельс сьціпла агаварваецца: «Все это я считаю нужным основательно изучить прежде, чем выступить со своим суждением». Аднак, нават у гэтай форме наметкі праблемы Маркс і Энгельс аказваюць найкаштоўнейшыя паслугі літаратуразнаўству.

Досыць згадаць як мэханістычна блытаўся ў гэтым пытаньні нават такі суб'ектыўна-шчыры марксыст, як нябошчык Фрычэ.

Фрычэ пісаў:

„Можно установить, как закон, действующий на большом протяжении времени, что гегемоном—вождем в области искусства является экономически передовая страна“ („Проблемы искусствоведения)“, стар. 72.

Цікава, як Фрычэ і яго школа справілася-б з вышэйпададзеным прыкладам росквіту літаратуры ў эканамічна адсталай Нарвэгіі і ў Расіі. Мэханізм Фрычэ ў гэтым пытаньні выяўляе да рэчы ўсю шкоднасьць, яго канцэпцыі «стылю эпохі». Стыль-жа эпохі, як вядома, Фрычэ выводзіў непасрэдна з «эканамічнага стылю».

Праблема «няроўных суадносін разьвіцьця матэрыяльнае вытворчасьці да мастацкае» шчыльна зьвязана, як у Маркса, так і Энгельса, у Леніна з канцэпцыяй *нероўнамернага разьвіцьця розных надбудоў*. Гэта праблема, што яшчэ не распрацавана намі, бяз усякага сумненьня зьяўляецца адной з актуальнейшых праблем нашага літаратуразнаўства.

Падам прыклад. У прадмове да свае кнігі «Литература и Революция» Троцкі пісаў:

„В этом смысле развитие искусства есть высшая проверка жизненности и значительности каждой эпохи“.

1) „Литературное наследство“ кн. I, стар. 8.
2) Там-жа.

Троцкі разглядае мастацтва, як вянок культуры, як яе «кветку», гаворачы ягонаю «квятлівою» моваю. Мастацтвам, узроўнем і якасьцю мастацтва Троцкі заўсёды і ўсюды вымярае жыцьцёвасьць і значнасьць эпохі.

А ўспомніце словы Троцкага, што пераходны пэрыяд ад капіталізму да сацыялізму пазбаўлены свайго мастацтва, вы ўбачыце, што літаратурнае капітулянства Троцкага шчыльна зьвязана з яго паклёпніцкаю контррэвалюцыйнаю ацэнкаю эпохі пралетарскае дыктатуры і нявыпадкова гэта ўвенчана тэорыяй мастацтва, як мярыла жыцьцёвасьці эпохі.

Лёгка здагадацца, што гэтая трацкісцкая тэорыя прыводзіць ня толькі да шэрагу недарэчнасьцяй, але і да простага контррэвалюцыйнага паклёпу, калі згадаць, што менавіта мастацтва, зьяўляючыся ў нашай савецкай рэчаіснасьці вучасткам, які адстае,— нікім чынам ня можа служыць за крытэрый жыцьцёвасьці і значнасьці, скажам, нашае вялікае эпохі пяцігодкі.

Маркс, супроцьпастаўляючы вульгарнаму пункту погляду сваю канцэпцыю, піша:

„Наоборот, тот способ, каким в эти эпохи добывались средства к жизни, об'ясняет почему в одном случае главную роль играла политика, в другом католицизм". [1]).

Тут Маркс дае ключ да разуменьня яго канцэпцыі няроўнамернага разьвіцьця надбудоў. «Зразумела,—тлумачыць тут-жа Маркс,— што сярэднія вякі не маглі жыць каталіцызмам, а антычны сьвет палітыкаю», але ў рознай палітычнай абстаноўцы грае галоўную ролю то палітыка, то каталіцызм, то мастацтва, то філёзофія і г. д. Энгельс, цалкам салідарызуючыся з марксаваю пастаноўкаю гэтага пытаньня, піша:

„От этого получается такое явление, что страны, экономически отсталые могут играть в философии руководящую роль... Но как во Франции, так и в Германии философия и всеобщий расцвет литературы явились в ту эпоху результатом экономического развития". [2])

Дык вось, незаўсёды і ня ўсюды па мастацкай надбудове можна мяркаваць пра жыцьцёвасьць і значнасьць эпохі. Але заўсёды і пры ўсіх умовах, як падкрэсьлівае Энгельс, росквіт літаратуры зьяўляецца ў выніку эканамічнага разьвіцьця.

Апошняе сьцьвярджэньне нам трэба моцна запомніць, бо яно накіравана супроць буржуазных тэорый фактараў, супроць усякіх спроб разглядаць адзіны працэс грамадзкага жыцьця. (які ў канчатковым выніку азначаецца эканамічнаю асноваю) як узаемадзейнасьць розных роўнапраўных фактараў, у тым ліку і так званага эканамічнага фактару.

1) Маркс, Капітал, т. I, стар. 50.
2) Ліст Энгельса да Канрадта Шмідта.

## IV.

На нашым літаратуразнаўчым фронце, як вядома, нямала даводзілася змагацца супроць засільля падобнае тэорыі фактараў. Згадаем сацыялёгічную канцэпцыю Сакуліна і інш.

Але нам таксама вядома, што ў працівагу эклектычнай тэорыі фактараў у літаратуразнаўстве праф. Пераверзеў высунуў сваю тэорыю «аўтаномных паралельных радоў».

Нагадаю сумна-славутую фармуліроўку гэтае тэорыі «паралельных радоў».

„Изучая систэмы образов, литературовед может получать ее об'яснение только из закономерности производственного процесса.. Живопись ничего не может создать в образной системе литературы, политическая жизнь ничего не может создать в образной систэме литературы. И обратно: литература ничего не может создать в политической системе или в живописи".

Разам з меншавіком Пераверзевым працаваў у гэтай-жа галіне, ў справе адрыву літаратуры ад палітыкі літаратурны трацкізм (Варонскі, група «Перевал» і інш.).

У чым сутнасьць гэтае тэорыі?

Зразумела, што канцэпцыя адрыву літаратуры ад палітыкі зьяўляецца сугуба палітычнай літаратурнай канцэпцыяй—канцэпцыяй клясавага ворага, што наступае на пралетарскую дыктатуру пад маскаю апалітычнага літаратуразнаўства.

Маркс і Энгельс падкрэсьліваюць гэта неаднакроць. Энгельс проста кажа аб тым, што палітычнае жыцьцё краіны вызначае сабою часта становішча літаратуры. Хранічнае убоства палітычнага жыцьця Гэрманіі, на думку Энгельса, тармозіць рост мастацкае літаратуры ў Гэрманіі.

Абвастрэньне палітычнага жыцьця, уключэньне літаратуры ў палітычнае жыцьцё, у клясавае змаганьне ня толькі ня губіць талент, але ўзбагачае яго, робіць яго плённым.

Энгельс піша:

„Пока общественное противоречие не примет в Германии более острой формы, благодаря более определенному выделению классов и быстрому завоеванию политической власти буржуазией, в самой Германии немецкому поэту ждать много не приходится" (т. V, стар. 132 эпос нем. соц. в стихах и прозе).

Гэтую самую думку з выключнаю глыбінёю і сілаю разьвівае Ленін у сваіх артыкулах пра Талстога, паказваючы, што «острая ломка всех старых устоев деревенской России обострила его (г. ё. Талстого—Я. Б.) внимание, углубило его интерес к происходящему вокруг него». [2]).

На згубную ролю, якую сыграла палітычнае ўбойства Гэрманіі канца XVIII стагодзьдзя ў творчасьці Гётэ, паказваюць неаднакроць як Маркс, так і Энгельс. Маркс і Энгельс ніколі не даравалі ні Гётэ,

---

1) Маркс і Энгельс, т. V, стар. 132.
2) Ленін—„Толстой и современное рабочее движение".

ні Вагнэру, ні Шылеру і г. д. іхнае палітычнае коснасьці і філістэрства.

Выключна багаты матэрыял для вырашэньня гэтага сугуба актуальнага пытаньня—пытаньня аб узаемаадносінах паміж палітыкаю і літаратураю—дае перапіска Маркса з Фрэйлігратам—нямецкім сацыялістычным паэтам.

На працягу двох дзесяткаў год Маркс і Фрэйліграт знаходзіліся ў блізкім зьвязку. Гісторыя гэтых узаемаадносін мае для нас камуністаў-літаратуразнаўцаў найвялікшае практычнае тэарэтычнае значэньне—значэньне ўзору для нашае літаратурнае палітыкі.

Навокал гэтых узаемаадносін нямала назьбіралася ўсялякіх непаразуменьняў і палітычна-шкодных тлумачэньняў. Немалая доля віны ў гэтай справе ляжыць на сумленьні Франца Мэрынга. Франц Мэрынг, нават займаючы левыя палітычныя пазыцыі ў II Інтэрнацыянале, няздолен быў, аднак, вызваліцца ад грузу кантыянскае эстэтыкі і ідэалізму ў пытаньнях літаратуры. Яго работа аб Фрэйліграце і Марксе нясе на сабе выразную адзнаку кантыянскае тэорыі сузіральнасьці і незацікаўленасьці мастацтва.

Як Мэрынг малюе ўзаемаадносіны паміж Марксам і Фрэйліагратам? Мэрынг малюе Маркса «ласкавым дзядзям» пры паэтычнасвавольным Фрэйліграце. На думку Мэрынга, Маркс «сохранил живую симпатию и большую снисходительность к маленьким способностям паэтаў.

„Он считал,—піша Мэрынг аб Марксе,—что поэты это чудаки, которым надо предоставить итти своей дорогой и которых нельзя мерить на аршин обыкновенных или даже необыкновенных людей. Они любят, чтобы им льстили, когда от них хотят песен; с резкой критикой к ним нельзя подходить". [1])

Намаляваўшы гэткі рахманы «воблік» Маркса, Мэрынг, аднак, сам прымушаны прызнацца, што Маркс «не заўсёды» захоўваў гэту выключную «снисходительность» у адносінах да Фрэйліграта. Мэрынг расказвае пра канфлікт, які здарыўся ў сувязі з палітычнаю бясцрынцыповасьцю Фрэйліграта ў часе Шылераўскіх сьвят. Мэрынг журыць Маркса за рэзкі разрыў з Фрэйліграта м. Маркс па словах Мэрынга, здрадзіў у дадзеным выпадку сваёй уласнай літаратурнай палітыцы, у аснове якой ляжаў прынцып: нязьмешваць паэта з крытыкам, г. ё. д а р а в а ц ь п а э т у я г о с л а б а с ь ц і.

Мэрынг падкрэсьлівае, што ў адносінах да Гейнэ Маркс больш строга трымаўся свае «снисходительности», як у адносинах да Фрэйліграта.

З незахаванаю сымпатыяй да «вольнага мастака», Мэрынг падае наступныя фрэйліґратавы словы:

„Моей натуре, как и натуре всякого поэта, необходима свобода. Партия тоже клетка и даже для партии лучше поется вне ее, чем внутри". [2])

[1]) Ф. Мэрынг „Мировая литература и пролетариат", стар. 155.
[2]) Ф. Мэрынг там-жа, стар. 166.

Мэрынг паўтарае тую самую фрэйліґратаўскую аргумэнтацыю «вольнае па-за партыйнае творчасьці» ў сваім артыкуле пра Гайнэ.

„Он был,—піша Мэрынг пра Гайнэ,—великим художником, и именно потому не был политиком, который мог бы строго придерживатся параграфов программы или которому это было нужно". [1]).

Зараз я давяду, што сваё кантыянска-філістэрскае разуменьне мастака Мэрынг прыпісаў Марксу. Але раней лічу патрэбным нагадаць, што не адзін з нашых буржуазных крытыкаў спрабаваў спэкуляваць у дадзеным выпадку на славутай «снисходительности» Маркса.

Перавальскі крытык Ляжнёў, прапаведваючы буржуазна-лібэральную інтуітывісцкую тэорыю Воронскага пра дзіцячы характар мастака (художник наивен, как дитя), так і спасылаецца пры тэтым на Маркса.

Ляжнёў піша:

„Ваша правота глубже. Очевидно, действительно существует особый тип психологической организации, характерной для писателя...

.„ Я вспоминаю аб отношении Маркса к поэтам, как к большим детям".

Але ці існаваў у рэчаіснасьці падобны «добры дзядзя», літаратурны «ангел-хранитель», якім спрабуюць прадставіць Маркса. Не, ніколі такога Маркса ня было.

Маркс ніколі ня мог разглядаць пісьменьнікаў, як нявінных малых альбо дзівакоў, якім не забараняецца рабіць што ім захочацца. Маркс добра ведаў, што літаратура ёсьць зброя ў клясавым змаганьні, у змаганьні партыі. Кожны радок з ягонай перапіскі з Фрэйліґратам насычаны клясавым змаганьнем за палітычна-завостраную літаратуру. Маркс выкарыстоўвае кожны трапны выпадак, каб даць свайму паэтычнаму другу лекцыю палітграматы.

А калі Фрэйліґрат выяўляе свой дробна-буржуазны індывідуалізм, ён сустракае рэзкі адпор, як з боку Маркса, так і з боку Энгельса.

10-га сьнежня 1858 г. Маркс піша Энгельсу:

„Фрейлиграт, который не мог найти в своей лире ни одного скорбного звука при „трагических" событиях, будь то и в собственной партии (смерть Даниэльса) или вообще на свете (Кайена, Орсини и т. п.) вдруг принимается воспевать это жалкое происшествие" (г. ё. сьмерць паэтэсы Іаганны Моккэль) [2]).

У другім лісьце Маркс яшчэ больш рэзка выступае супроць палітычнай бяспрынцыпнасьці Фрэйліґрата.

Ён піша:

„Чорт бы побрал этот цех поэтов! С появлением его стихотворения о Моккель Фрейлиграт обращается с нами, как со своими друзьями, лишь „совершенно секретно", открыто-же он идет рука об руку с нашими врагами". [3]).

1) Ф. Мэрынг, „Мировая литература и пролетариат", стар. 180.
2) „Фрейлиграт и Маркс в их переписке", стар. 23,
3) Там-жа.

Як-жа тут можна казаць пра «снисходительность» Маркса.

Яшчэ больш рэзка кляймiў Фрэйлiгратаўшчыну Энгельс. Ён пiсаў:

„На всю фрейлигратовщину я искренним образом зол. С этим беллетристическим сбродом все таже старая песня: всегда им хочется, чтобы им курили фимиам в газетах, чтобы вечно о них твердили публике и какой-нибудь дрянной, сфабрикованный ими стишок для них важнее самого большого мирового события“ (Энгельс—Г-же Маркс, т. XXII, стр. 470).

Лiтаратурная палiтыка Маркса i Энгельса, як бачыце, нiчога агульнага ня мае з палiтычнаю бяспрынцыпнасьцю i гнiлым лiбэралiзмам, калi ўжываць тэрмiналёгiю нашых дзён.

Якраз палiтычная завостранасьць творчага таленту Гайнэ прыцягвала да сябе сымпатыi Маркса.

З якiм сарказмам i абурэньнем Маркс кажа пра нямецкiх мяшчан, якiя ня прызнаюць Гайнэ за паэта, бо ў яго, бачыце, нехапае «душы» i праз меру ён быў поўны злосьцi. [1]).

Маркс любiў Гайнэ за яго злосьць, за палiтычную завостранасьць яго вершаў, за яго ненавiсьць да кайзэрскай Гэрманii.

З другога боку, Маркс, аднак, нiколi не арудваў аглаблёю, нiколi не ўпадаў у вульгарызатарства. Ворагi Маркса i камунiзму клалi ўсе сiлы, каб адарваць Фрэйлiграта ад Маркса. Яны пiсалi, што «Фрэйлiграт страцiў свой голас, сваю волю, сваю вытрыманасьць» з таго часу, як ён трапiў пад уплыў Маркса» [2]).

Улiчваючы ролю Фрэйлiграта ў камунiстычным друку, Маркс клаў усе сiлы, каб палiтычна перавыхаваць Фрэйлiграта. Маркс сапраўды, падкрэсьлiвае неабходнасьць асьцярожнага падыходу да паэта, неабходнасьць улiку спэцыфiкi лiтаратурнае галiны. Уся перапiска Маркса з Фрэйлiгратам—гэта яркi дакумант чулага, мудрага, але сурова-прынцыповага, незамiрнага дачыненьня да лiтаратуры i да лiтаратараў.

Ленiн i тут—у лiтаратурным пытаньнi цалкам працягвае лiнiю Маркса. Досыць згадаць Ленiнскую шматгадовую дружбу з Горкiм. Перапiска Ленiна з Горкiм—перапiска найвялiкшага рэвалюцыянэра i мысьлiцеля з найвялiкшым пралетарскiм пiсьменьнiкам—нагадвае перапiску Маркса з Фрэйлiгратам якраз у вышэйадзначаным сэнсе—у сэнсе ўзору камунiстычнага кiраўнiцтва лiтаратураю.

З якою чуласьцю, улiчваючы спэцыфiку лiтаратуры, Ленiн кiраваў на працягу дзесяцiгодзьдзя творча-палiтычным выхаваньнем Горкага. Ленiн ня глушыць Горкага аглаблёю, калi той памыляецца ў палiтычных альбо фiлёзофскiх работах. Ленiн дае ўзор найвялiкшае чуласьцi ў сваiх суадносiнах з Горкiм. Ён сочыць за штодзённым жыцьцём Горкага, за яго работаю, за станам яго здароўя.

1) Маркс—Энгельсу—1856 год.

2) Ф. Мэрынг „Фрейлиграт и Маркс в их переписке“, стар. 49,

У адным лісьце 1913 году Ленін піша Горкаму:

„Без присмотра, что ли, Вы распустили себя. Ей-же ей нехорошо! Возьмите себя в руки и устанавите „прижим“ (режим) построже... по ночам разве стали работать... надо отдохнуть и завести прижим, непременно“. [1])

Вось прыклад чулых ленінскіх адносін да мастака.

Аднак, Ленін ні разу ня ішоў на ўступку ў прынцыповых палітычных пытаньнях. Ленін неаднакроць падкрэсьліваў, што менавіта выразная, непахісная палітычная лінія дае плён мастацкай творчасьці, узьнімае мастака. У адказ на прызнаньне Горкага—«людей понимаю, а дела их не понимаю», г. ё. у адказ на прызнаньне Горкім сваёй палітычнай блізарукасьці Ленін кажа: «Не разумеючы спраў, нельга зразумець людзей іначай як... знадворна».

Ленін вучыць сыстэматычна і няспынна Горкага, што нельга бесклапотна ставіцца да ідэёвага кірунку часопісі.

„Журнал без направления—піша Ленін,—вещь нелепая, несуразная, скандальная и вредная“.

У другім лісьце ён паказвае Горкаму:

„Беллетристику станете выпускать только демократическую, без нытья, без ренегатства“.

А калі Горкі, падпаўшы пад уплыў «богостроителей», напісаў «Исповедь», Ленін яму пісаў:

„Когда мы беседовали с Вами летом и я рассказал Вам, что совсем было написал Вам огорченное письмо об исповеди“ и т. д.

Дык вось, як бачым, Ленін не шкадаваў Горкага тады, калі той памыляўся. Але з якою радасьцю Ленін сустракае кожную перамогу Горкага.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што сваім сусьветным посьпехам пралетарскага пісьменьніка Горкі нямала абавязан Леніну.

Нельга абмінаць таксама артыкул Леніна «Партийная арганизацыя і партыйная літаратура». Тут Ленін зноў падкрэсьлівае ролю палітычнага кіраўніцтва літаратурай.

Ленін піша:

„Спору нет, литературное дело всего менее поддается механическому равнению, нивеллированию, господству большинства над меншинством“.

Аднак, поруч з гэтым, Ленін бярэ пад рэзкую крытыку ўсякія інтэлігэнцка-індывідуалістычныя размовы пра «волю ад грамады», ад «партыйнае клетки», як казаў Фрэйлиграт.

Стварыўшы легэнду аб Марксе, як аб «снисходительном» прыхільніку прыгожага пісьменства і абаронцу «паэтычных дзівакоў»,—аўтар «Легенды аб Лесінгу» лішні раз давёў, што нават левыя ў ІІ-м Інтэрнацыянале не маглі вызваліцца ад кантыянскае эстэтыкі—афіцыйнае эстэтыкі II Інтэрнацыяналу.

---

1) Ленін, т. XVI, стар. 327.

Гэта датычыцца таксама Плеханава.

Ён, як вядома, таксама ня ўстоеў супроць спакусы спалучыць Маркса з Кантам. У шэрагу месцаў Плеханаў, як вядома, адкрыта становіцца на пункт погляду кантыянскае сузіральнасьці і «незацікаўленасьці». Плеханаў кляйміць пісьменьнікаў - народнікаў мянушкаю «квазі-мастакоў» за тое, што яны цікавяцца «больш пытаньнямі, чым эстэтыкаю) [1]). У гэтым-жа духу Плеханаў выступае і супроць Некрасава і супроць Горкага.

З лёгкай рукі Плеханава гэта кантыянская канцэпцыя спрабавала ўмацавацца і ў нашым савецкім літаратуразнаўстве. Я вам нагадаю меншавіка Пераверзева з ягонай тэорыяй «беспечнай игры образами». Я вам нагадаю троцкісцка-пераваьскую канцэпцыю «дзіцячае прыроды мастака» і лёзунг «глуповатой поэзии».

Адсюль і рэакцыйна-буржуазныя размовы пра «засилие политики», пра шкоднасьць тэндэнцыі сьветапогляду і т. д.

Эстэтычная спадчына Маркса, Энгельса і Леніна дае ў нашы рукі найгастрэйшую зброю ў змаганьні супроць ўсяе гэтае эстэтычнае папоўшчыны.

У сваім артыкуле «Нямецкі сацыялізм у вершах і прозе», Энгельс сьцьвярджае, што адсутнасьць «здольнасьці апавядальніка» абумоўлена «няўпэўненасьцю сьветапогляду» [2]). Высокі ўзровень сьветапогляду, выразнае ўяўленьне сувязі паасобных фактаў, пра якія трэба расказаць, з агульнымі ўмовамі» Энгельс лічыць за неабходную перадумову для росквіту мастацкага таленту. У адваротным выпадку пісьменьніку пагражае небясьпека згубіць уладу над сваімі вобразамі. Быць гаспадаром сваіх вобразаў, а не сьляпою зброяй іх, не нявольнікам у «зачараваным крузе вобразаў»—вось што клясыкі марксызму лічацы за неабходную ўмову вялікага мастацтва. Супроць фаталізму меншавіцкай пераверзеўскае тэорыі, што зьнімае праблему сьвядомага замыслу мастака, Маркс выслоўвае прынцып мэтавае ўстаноўкі і сьвядомасьці ў чалавечай дзейнасьці.

Маркс піша:

„Но и самый плохой архитектор от наилучшей пчелы с самого начала отличается тем, что прежде, чем открыть ячейку из воска, он уже построил ее в своей голове" [3]).

Вось гэты «галаўны характар» мастацкае творчасьці, не баючыся абвінавачваньня ў «рацыяналізьме» і «сухасьці», і падкрэсьлівае Энгельс, калі піша:

„... Кто в мышлении не интересуется результатом, чья философия не сознает своей собственной задачи, тот подобен тому художнику, который стал бы рисовать наугад, совершенно не думая о том, что из его работы выйдет".

---

1) Плеханаў' т. X, стар. 13.
2) Маркс і Энгельс, т. X, стар. 126.
3) Маркс, Капитал, т. I, стар. 149.

«Маляваць наўгад»—гэта азначае ў значнай ступені зьнізіць якасьць мастацкага твору.

У лісьце да Мінны Каўцкай[1]) Энгельс лічыць за неабходнае спэцыяльна падкрэсьліць ролю сьвядомага элемэнту ў творчым працэсе. У процівагу меншавіцкаму фаталізму і стыхійніцтву «глуповатой поэзии» Энгельс патрабуе «улады пісьменьніка над сваею творчасьцю».

Ці не пагражае падобная канцэпцыя небясьпекаю тэндэнцыйнай літаратуры?

Энгельс не баіцца жупела «тэндэнцыйнае» літаратуры. Нічога страшнага няма ў тэндэнцыйнай літаратуры,—заяўляе Энгельс[2]).

„Я ни в коем случае,—піша ен—не противник тенденциозной поэзии как таковой. Отец трагедии Эсхил и отец комедии Аристофан были оба ярко выраженными тенденциозными поэтами, точно также и Данте и Сервантес...

Современные русские и норвежские писатели, которые пишут превосходные романы, все сплошь тенденциозные".

Цікава, што Энгельс нават ужывае тэрмін «партыйнай літаратуры», калі ён піша аб Дантэ.

Гэта тым больш цікава, калі ўспомнім, што Троцкі на прыкладзе Дантэ хацеў даказаць, што існуе літаратура надклясавая і пазагістарычная. Троцкі казаў на літаратурнай нарадзе ў ЦК УсеКП(б):

„И когда мне говорят, что художественное значение Данте для нас определяется тем, что он выражает быт определенной эпохи, то приходится только развести руками. Я уверен, что многим, как и мне, пришлось бы за чтением Данте весьма и весьма напрячь память, чтобы вспомнить время и место его рождения, и тем не менее это не помешало бы получить художественное наслаждение"...
(Троцкі „Литература и Революция", стар. 200).

Троцкі, як тыповы буржуазны ідэаліст, «разводит руками» па пытаньні аб палітычнай сутнасьці творчасьці Дантэ, а Энгельс выразна піша (Маркс і Энгельс, т. V, стар. 134):

„Рекомендуем это замечание... вниманию историков, которые видели до сих пор в проникнутом партийным духом гибеллинов произведении флорентийца (г. ё. Дантэ—Я. Б.) что-то совсем непохожее на „закон средневековья".

Вышэй я ўжо казаў аб тым, якое вялізнае значэньне Ленін надаваў тэндэнцыі, кірунку ў літаратуры. Гэтую думку Ленін разьвівае і ўзбагачвае ў сваім вядомым артыкуле «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура». Тут Ленін далей разьвівае Энгельсаву канцэпцыю партыйнае літаратуры, якая павінна зрабіцца «часткаю агульна-пралетарскае справы», якая павінна быць «адкрыта зьвязана з пралетарыятам». Такім чынам, Ленін упяршыню ставіць ва ўсёй яе глыбіні праблему пралетарскае літаратуры.

Эстэтыка II Інтэрнацыяналу, натуральна, не магла пагадзіцца з падобнаю «ерасьсю». Пачынаючы з Каўцкага і канчаючы Троцкім,

---

[1]) Архіў Маркса і Энгельса, 16 стар. 318.
[2]) Там-жа.

тэарэтыкі II Інтэрнацыяналу і нават яго левыя элемэнты (Мэрынг, Р. Люксэмбург) выступаюць супроць магчымасьці стварэньня пралетарскае літаратуры.

Перамогі пралетарскае літаратуры ў СССР і рост кадраў пралетарскай літаратуры ў краінах капіталу разьбіваюць на галаву ўсе контррэвалюцыйныя капітулянцкія тэорыі літаратуры.

Перамагла эстэтыка клясыкаў марксызму—эстэтыка Маркса, Энгельса, Леніна.

Уся літаратурная палітыка нашае партыі і ў прыватнасьці рэзалюцыя ЦК партыі ад 23 красавіка служыць яркаю ілюстрацыяй марксыцка-ленінскае літаратурнае палітыкі.

Неаднаразовыя асабістыя паказаньні т. Сталіна аб перабудове нашае літаратуры, аб змаганьні за сацыялістычны рэалізм, за вялікае сацыялістычнае мастацтва ствараюць, разам з выказваньнямі Маркса, Энгельса і Леніна, жалезны фонд нашага марксыцкаленінскага літаратуразнаўства і літаратурнае палітыкі.

Штодзенная наша літаратурная практыка зьяўляецца яркім сьцьвярджэньнем правільнасьці гэтых установак. Досыць паказаць на рост палітычнае самасьвядомасьці ў шэрагах асноўных мас нашых пісьменьнікаў.

Мудрая літаратурная палітыка партыі, змаганьне на два фронты—супроць лявацкага вульгарызатарства і апартунізму, гнілога лібэралізму—узьняла нашу літаратуру на значную вышыню.

Пачынаюць зьнікаць «звышчалавечыя» размовы пра шкоднасьць «партыйнае клеткі». Расьце партыйнасьць, палітычная завостранасьць літаратуры.

У барацьбе супроць вылазак клясавага ворага, лепшыя кадры нашых пісьменьнікаў сталі на шлях літаратуры сацыялістычнага будаўніцтва—літаратуры палітычна-завостранай, літаратуры тэндэнцыйнай у лепшым сэнсе гэтага значэньня.

Ці ня супярэчыць прынцып партыйнае, тэндэнцыйнае, накіраванае літаратуры прынцыпу аб'ектыўнае пазнавацельнасьці, прынцыпу праўдзівасьці літаратуры?

Не, яны не супярэчаць.

Выступаючы супроць буржуазнага аб'ектывізму Струвэ, Ленін падкрэсьлівае, што «матэрыялізм уключае ў сябе, так сказаць, партыйнасьць» і разам з тым матэрыяліст «больш пасьлядоўна і глыбей, чым аб'ектывіст, больш поўна праводзіць свой аб'ектывізм».

Клясыкі марксызму бачылі вялізарную каштоўнасьць лепшых мастацкіх твораў сусьветнае літаратуры ў іхняй аб'ектыўнай пазнавальнай каштоўнасьці, у іхняй праўдзівасьці. Аб ролі «рэалістычнае праўдзівасьці» кажа Энгельс у лісьце да пісьменьніцы Гаркнес. Праўдзівасьць выкладаньня,—кажа Энгельс—«абнаўляе старую гісторыю», г. ё. шаблёную фабулу і, такім чынам, ахоўвае пісьменьніка ад «штучных прыкрас» [1]).

1) „Лит. наследство" № 2.

Энгельс патрабуе ад мастака «правільнасьці перадачы тыповых характараў ў тыповых абставінах».

Ленін, як вядома, неаднакраць стаяў за праўдзівасьць у мастацтве. Праўдзівасьць мастацтва Ленін падкрэсьлівае ў сваіх выказваньнях пра Анры Барбюса, пра Сінклера і пра Талстога. Сілу мастацкага таленту Талстога Ленін бачыць у «зрываньні ўсіх і ўсялякіх масак», «у цьвярозым рэалізьме».

У адным з сваіх артыкулаў 1854 году, Маркс піша пра ангельскіх рэалістаў наступнае:

„Современная блестящая школа реалистов в Англии, наглядные и красноречивые описания которой разоблачили миру больше политических и социальных истин, чем это сделали все политики, публицисты и моралисты вместе взятые, изобразили все слои буржуазии“... і г. д.

Тое самае пазнавальна-аб'ектыўнае ў мастацтве Маркс падкрэсьлівае ў сваёй перапісцы з Ласалем з прычыны трагэдыі апошняга «Франц фон-Зікінг». Тут Маркс нязвычайна яскрава выкладае свой пункт погляду на аб'ектыўнасьць, на праўдзівасьць мастацтва. Гэтак сама, як «чалавечыя паняцьці»—ёсьць здымкі з сапраўдных рэчаў» (Энгельс), і мастацкія вобразы ёсьць здымкі з сапраўднасьці, адлюстровак сапраўднасьці ў той ці іншай ступені. І менавіта таму і ў той ступені, у якой мастацкі твор зьяўляецца люстэркам рэчаіснасьці—ён мае для нас каштоўнасьці, ён узбагачае нашы веды больш, «чым гэта зрабілі ўсе палітыкі, публіцысты і маралісты, разам узятыя», як кажа Маркс.

Маркс, такім чынам, дае нам у руку надзвычайную зброю ў змаганьні за тэорыю адлюстраваньня ў літаратуры—супроць усялякіх агнастычных тэорый, тэорый іерогліфаў Плеханаўскага разуменьня і г. д.

Згадаем, як Маркс ставіў праблему аб'ектыўнасьці мастацкага вобразу.

„Валтазар,—піша Маркс аб адным з вобразаў трагедыі Ласаля,—может конечно вообразить, что если бы Зикенген не скрыл свой мятеж под маской рыцарства междуусобия... то он победил бы.
Но можем ли мы разделять э т у и л л ю з и ю“. [1])

За крытэрый сапраўднасьці вобразу Маркс лічыць яго ступень адлюстраваньня сапраўдных працэсаў. Маркс не дапускае ілюзорнасьці вобразу. Ласаль-жа абараняе суб'ектыўна-ідэалістычны пункт погляду. Ласаль апраўдваецца тым, што «ў драме мы маем справу не з крытычна-філёзофскаю ісьцінай, а з э с т э т ы ч н а ю і л ю з і я й».

Ласаль увесь час падкрэсьлівае, што ён можа рабіць з гісторыяй і рэчаіснасьцю, што ён хоча, бо ён, значыцца, дае трагэдыю «а д в е ч н а г а к а н ф л і к т у, ш т о п а ў т а р а е ц ц а п р ы к о ж н а й р э в а л ю ц ы і».

1) Литературное н следство“ № 3.

Але менавіта супроць гэтага пазагістарычнага, абстрактнага падыходу драматурга і выступалі Маркс і Энгельс.

Абодвы яны падкрэсьліваюць, што Ласаль не зразумеў суадносін кляс тае эпохі, якую ён спрабаваў мастацкі паказаць.

Як тыповы буржуазны лібэрал, Ласаль «паставіў лютэраўска-рыцарскую апазыцыю вышэй за плебейска-мюнцэраўскую».

І вось гэта неразуменьне клясавых адносін у значнай ступені пашкодзіла трагэдыі. Абстрактныя, па-загістарычныя гэрої трагэдыі ператварыліся, як кажа Маркс у «простыя рупары духу часу», без канкрэтна-гістарычных рэальных індывідуальных рыс, без «шэкспіраўскае жывасьці», кажа Энгельс:

Вось як Маркс і Энгельс ставілі праблему аб'ектыўна пазнавальнага ў мастацтве.

Плеханаў часта блытаўся ў гэтым істотным пытаньні. Яго ўступка агнастыцызму ў пытаньні аб іерогліфах дае сябе адчуваць у ягонай літаратурна-крытычнай дзейнасьці. Бо, якраз-жа пад напорам свае тэорыі іерогліфаў Плеханаў не зразумеў аб'ектыўнасьці і праўдзівасьці сялянскіх вобразаў Талстога, разглядаў іх як «знакі» душэўнага жыцьця двараніна—Талстога і ня бачыў Талстога, як «люстэрка расійскае рэвалюцыі», як пісьменьніка, які адлюстроўваў «адзін з істотных бакоў рэвалюцыі».

Усьлед за Плеханавым гэты агнастыцызм пачалі прапаведваць усе буржуазныя школы ў нашым літаратуразнаўстве (пераверзеўцы, троцкісты, переvaльцы).

Мы ведаем, што Ленін узьняў марксыцкую канцэпцыю «понятия—снимка действительности» на вышыню ленінскае тэорыі адлюстраваньня. Мы ведаем, як Ленін абрушыўся на багданаўшчыну і на плеханаўскую тэорыю іерогліфаў. Ленінскія артыкулы пра Талстога, як «люстэрка расійскае рэвалюцыі», даюць надзвычайны ўзор ужываньня тэорыі адлюстраваньня ў літаратуры.

І вось цікава цяпер адзначыць: Плеханаў таксама як і Ленін ведаў пра перапіску Маркса з Ласалем з прычыны трагэдыі «Франц фон-Зікенген». Але Плеханаў ані слова не сказаў пра тую зьнішчальную крытыку, якую даў Маркс на Ласалеўскую пазагістарычную, абстрактную, суб'ектыўна-ідэалістычную канцэпцыю трагэдыі наогул. Плеханаў цытуе ласалеўскае разуменьне трагэдыі і дадае ад сябе:

„То, что Лассаль говорит о трагедии, можно сказать о беллетристике вообще и о нашей беллетристике в особенности" (Плеханаў, т. X, стар. 61).

Плеханаў тут мае на ўвазе народніцкую бэлетрыстыку. Але менавіта артыкулы Плеханава аб народніцкай бэлетрыстыцы нязвычайна яскрава ўскрываюць пазагістарычныя, абстрактна-ідэалістычныя погляды Плеханава.

Ленін таксама спасылаецца ў адным месцы на перапіску Маркса з Ласалем, але Ленін з выключнаю глыбінёю падкрэсьлівае самую сутнасьць памылкі Ласаля.

Ленін піша: [1]).

„Маркс уже намечая в общих чертах всю линию будущих разногласий лассальянцев и эйзэнахцев, упрекал Лассаля, что он впадает в ошибку „тем, что ставит лютеровско-рыцарскую оппозицию выше плебейско-мюнцеровской".

Ленін тут-жа перакладае мову Маркса на мову расійскае рэчаіснасьці: «лютеровско-рыцарская оппозиция—это либерально-помещичья оппозиция, а плебейско-мюнцеровская—это пролетарско-крестьянская».

Ленінская тэорыя адлюстраваньня зьяўляецца неабходнаю перадумоваю аб'ектыўнага праўдзівага адлюстраваньня рэчаіснасьці. Нядарма ўсе тэарэтыкі II Інтэрнацыяналу, пачынаючы з Каўцкага і канчаючы Адлерам, разглядаюць тэорыю адлюстраваньня, як «даўно ўжо пахаваную пад шум і сьмех крытычнае філёзофіі».

Бо фальсіфікатары Маркса ня могуць ня бачыць у тэорыі адлюстраваньня зьвяно філёзофіі марксызму-ленінізму.

Няма магчымасьці ў адным артыкуле вычарпаць усё тое багацьцё ідэі, якое ўнесьлі ў наша літаратуразнаўства клясыкі марксызму. Апошнія апублікаваныя артыкулы і лісты Маркса і Энгельса разгортваюць усё новыя і новыя надзвычайныя старонкі з марксыцкае эстэтычнае спадчыны.

Праблема «шылераўшчыны і шэксьпіразаваньня», праблема тыпу, праблема культурнае спадчыны і аналізу формы, праблема рэалізму і г. д.—усе яны ўжо зрабіліся праблемамі нашага літаратуразнаўства.

Маркс, Энгельс, Ленін—гэта вялікі трыкутнік нашае эстэтычнае думкі.

«Найвялікшы мозг другое палавіны нашага стагодзьдзя»—Карл Маркс не мог не зрабіцца асновапаложнікам нашае эстэтыкі. Маркс і Энгельс добра ведалі сусьветную літаратуру і высока ацэньвалі яе шэдэўры. Маркс неаднакрацы спасылаецца ў сваіх работах на Шэкспіра, Бальзака, Гётэ, Гайнэ і г. д.

Маркс зьбіраўся напісаць работу пра Бальзака і пра Гайнэ.

Энгельс зьбіраўся напісаць работу пра Дантэ.

Маркс і Энгельс ніколі не станавіліся ў позу плеханаўскага аб'ектыўнага эстэта, які «ня плача і не сьмяецца, а толькі тлумачыць».

Усе сілы свайго запалу Маркс і Энгельс накіроўвалі супроць буржуазнае эстэтыкі, супроць шылер-кантыянскага «эстэтычнага убоства».

З якою нянавісьцю Маркс гаворыць пра рэакцыйны рамантызм Шатабрыяна. Маркс піша:

„Вообще же я читал книгу Сент-Бева о Шатобрияне—писателе, который всегда мне был противен...

1) Ленін, т. XV, стар. 347.

Фальшивая глубина, византийское преувеличение, кокетничание чувствами, пестрое хамелеонство .. Одним словом—лживая мешанина".

(Маркс и Энгельс, т. XXIV, стар. 425).

Ленінская незамірымасьць і запал у ацэнцы літаратуры вядомы нам усім.

Як бы ні шалелі сьвіньні і сабакі буржуазнае рэакцыйнае эстэтыкі, як бы не намагаліся фашысцкія банды Гітлера зьнішчыць марксызм, іхняя песьня дапета! Ніколі, як цяпер ня пучыць гэтак трапна Марксава слова пра ватэр-клёзэтную эстэтыку буржуазіі. Лепшыя прадстаўнікі эстэтычнае культуры чалавецтва парываюць з буржуазнай эстэтыкаю сучаснага буржуазнага сьвету, каб стаць пад сьцягам камунізму і сацыялістычнага будаўніцтва, пад сьцягам інтэрнацыяналізму.

І цяпер, у пяцідзесятую гадавіну з дня сьмерці нашага вялікага настаўніка мы можам паўтарыць словы яго друга Энгельса на сьмерць Маркса:

„Ему мы обязаны всем тем, чем мы стали, и все современное движение тем, чем оно является теперь, стало благодаря его теоретической и практической деятельности; без него мы до сих пор блуждали бы еще в потемках" [1])

Яму мы ўдзячны таксама за найгастрэйшую зброю пралетарыята—ленінізм, які і ёсьць «марксызм эпохі імпэрыялізму і пралетарскае рэвалюцыі», г. е. «канрэтызацыя і далейшае разьвіцьцё крытычнага і рэвалюцыйнага мэтаду Маркса—ягонае матэрыялістычнае дыялектыкі» [2]).

Яму мы абавязаны, вынікае з гэтага, і нашаю вялікаю Ўсесаюзнаю Камуністычнаю Партыяй, што створана Леніным і кіруецца паводле яго запаветаў, што строіць, пад кіраўніцтвам лепшага марксыста-ленінца, сацыялізм на аднэй шостай земнай кулі і што высока над усім працоўным чалавецтвам ўзьняла чырвоны сьцяг марксызму-ленінізму, сьцяг ідэй Маркса-Энгельса-Леніна і Сталіна.

---

1) Архіў Маркса і Энгельса, 1(6), стар. 233.

2) Сталін, „Вопросы ленинизма", стар. 19.

**Мік. Аляхновіч**

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ ПІСЬМЕНЬНІКА

**(Да 70-ці годзьдзя А. СЕРАФІМОВІЧА**

*„Дарагі таварыш!*
*Сястра толькі што паведаміла мяне аб срашэнным няшчасьці, якое на вас навалілася. Дазвольце мне моцна, моцна пацїснуць Вам руку і пажадаць бадзёрасьці і цьвёрдасьці духу. Я надзвычай шкадую, што мне не ўдалося зьдзейсьніць сваё жаданьне і бліжэй пазнаёміцца з Вамі. Але Вашы творы і расказы сястры надалі мне глыбокую сымпатыю да Вас і мне надзвычай хочацца сказаць Вам, як ПАТРЭБНА рабочым і ўсім нам Ваша работа і як неабходна для Вас цьвёрдасьць цяпер, каб перамагчы цяжкі настрой і ПРЫМУСІЦЬ сябе зьвярнуцца да работы. Прабачце, што пішу насьпех. Яшчэ раз: моцна, моцна цісну руку.*

*Ваш ЛЕНІН*.

Так пісаў т. **Ленін** у лісьце да Серафімовіча ў 1920 годзе з прычыны сьмерці яго сына, які загінуў на фронце.

У гэтым лісьце **Ленін** падкрэсьлівае вялікае значэньне творчай работы Серафімовіча для пралетарыяту.

Інакш ставілася да гэтага буйнейшага пралетарскага пісьменьніка буржуазная і меншавіцкая крытыка.

Яна ці атуляла яго творчасьць змовай маўчаньня, ці, калі і давала рэдка і скупа які-небудзь матар'ял, дык тут гутарка ішла аб Серафімовічы, як аб адным з другарадных пісьменьнікаў. Ды і ня дзіва! У яго ня было фарбных людзей з нязвычайнымі, экзатычнымі ўчынкамі, яго тэрої былі простыя рабочыя, сяляне, рамесьнікі. Пісьменьнік шчыра і непадфарбавана паказваў іх жыцьцё і працу. Яны паўставалі з старонак яго твораў, як жывыя з сваім горам і радасьцю.

«Слуп» меншавіцкай крытыкі Львоў-Рагачэўскі піша, напрыклад, наступнае, падагульваючы свае думкі аб творчасьці Серафімовіча: «Яго гэрої глядзяць не ўсьміхаючыміся вачыма і гавораць звычайныя

словы, у іх душах няма гульні». Вывад просты: гэрої Серафімовіча— шэрыя, цьмяныя, няцікавыя.

«Гора-крытыкі» гаварылі аб шэрасьці тэматыкі, аб тэндэнцыйнасьці (што было тады роўназначна «немастацкасьці»), аб адсутнасьці вялікіх праблем. І адначасна яны ўздымалі на шчыт шэраг літаратурных «аднадзёнак», якіх шмат зьявілася ў літаратуры ў гады рэакцыі, якія вырашылі ў сваіх творах такія «глыбокія» і «важныя» пытаньні, як смакаваньне «праблемы полу».

Серафімовіч у сваёй аўтабіаграфіі піша: «Хоць мае рэчы і бралі, але рабілі, так сказаць, «кіслы твар», бо пасьля рэвалюцыі 1905 году тоўстыя часопісі, задавальняючы асаблівыя запатрабаваньні сваіх буржуазных чытачоў, друкавалі пераважна Салагуба, Арцыбашава і інш». («Известия ВЦИК» № 74 (2109) ад 30 сакавіка 1924 году).

Але інакш ставіліся да Серафімовіча лепшыя прадстаўнікі літаратуры таго часу. Лепшыя пісьменьнікі таго часу адчувалі ў Серафімовічы моцнага мастака, выдатнага пісьменьніка.

Глеб **Усьпенскі** пісаў у сваім лісьце ад 16 сакавіка 1891 году да **Гольцава,** таточаснага рэдактара «Русской Мыслі», перасылаючы яму некалькі апавяданьняў Серафімовіча: «Калі вы прачытаеце іх, вы ўбачыце, што гэта вялікі мастацкі талент. Па мойму, гэта Брэт-Гард у лепшых сваіх першых апавяданьнях» («Архив В. А. Гольцева», том 1-шы, стар. 103).

У другім сваім лісьце ад 3-га мая 1891 году, да таго-ж карэспандэнта, Глеб Усьпенскі пісаў: «Ёсьць ў мяне новае, надзвычай добрае апавяданьне Серафімовіча «Уцёкі ў Амэрыку» (з школьных успамінаў). Я яго прывязу Вам, і Вы ўбачыце, што яго абавязкова трэба надрукаваць у бліжэйшай кніжцы «Русской Мысли». Гэта здальнейшы малады пісьменьнік» (там-жа, стар. 105-я).

В. Г. Караленка, у сваёй спэцыяльнай рэцэнзіі на першы том апавяданьняў Серафімовіча, вельмі спачувальна паставіўся да першай кніжкі новага пісьменьніка (Караленка, збор твораў, том IX-ты).

У сваю чаргу Л. Талстой, які ўважліва сачыў за сучаснай яму літаратурай і, нават, рабіў сабе ацэнкі па пяцібальнай сыстэме, на палёх апавяданьняў Серафімовіча «Пяскі», рашуча паставіў «5+».

Серафімовіч (сапраўднае прозьвішча Папоў) нарадзіўся ў казацкай сям'і, у станіцы Ніжня-Курмарскай, 7-га студзеня ст. ст. 1863 году.

Бацька хацеў яго зрабіць верным самаўладзтву служкай, але маці жадала сыну іншага. І калі памёр бацька, яна, ня гледзячы на цяжкае матар'яльнае становішча, дамаглася таго, каб ён пашоў вучыцца ў Унівэрсытэт.

Сумны час панаваў тады ў Расіі. Цар Александр III зажыва пахаваў у каменных мяшкох Шлісельбургскай цытадэлі лепшых прадстаўнікоў гэраічнай «Народнай Волі». Ён трымаў краіну ў жалезным кулаку, бязьлітасна ўціскаючы кожны вольны гэст, кожны рух і пачуцьцё.

Ужо на студэнцкай лаўцы Серафімовіч прымае актыўны ўдзел у рэвалюцыйных студэнцкіх гуртках, зблізкаецца з групай Ульянава, уважліва прапрацоўвае «Капітал» Карла Маркса.

Спробы самаахвярных рэвалюцыянэраў групы Ульянава выступіць у адкрытую барацьбу з ненавісным самаўладзтвам прывялі толькі да суровых рэпрэсый. Самаўладзтва жорстка расправілася з апошнім водгукам рэвалюцыйнай народніцкай хвалі.

Серафімовіч піша адозву-праклямацыю з прычыны замаху на Александра III. Ён піша гэты зварот з тым, каб растлумачыць шырокай грамадзкасьці сэнс здарэньняў, якія адбыліся. Аднак зварот не дайшоў да мас. Аўтар быў арыштаваны і высланы ў далёкую Мезень Архангельскай губэрні. У высылцы ён стыкаецца і блізка сыходзіцца з арганізатарам вядомай Марозаўскай стачкі—Майсеянкам.

Тут, у абставінах ссылкі, пад уплывам навакольнай суровай рэчаіснасьці, Серафімовіч і пачынае свой творчы шлях. Ён піша сваё першае апавяданьне з жыцьця памораў «На крызе».

Сувязь з рэвалюцыйным рухам, і, у асаблівасьці, знаёмства з перадавымі яго прадстаўнікамі, прымушаюць Серафімовіча глыбей вывучыць «Капітал» К. Маркса, глыбей пазнаёміцца з навакольным жыцьцём.

Вось гэтыя моманты на шляху творчых шуканьняў Серафімовіча зьявіліся рашальнымі фактамі яго пісьменьніцкага станаўленьня, яго мастацкіх імкненьняў.

Вялізарнай скромнасьцю характарызуецца творчы шлях Серафімовіча. Ён з глыбокай увагай і з вялізнай цярплівасьцю апрацоўвае, адшліфоўвае кожную дэталь, кожны кавалак твору. Досыць сказаць, што над сваім першым апавяданьнем ён працаваў каля году. Ды і пасьля пры яго перадруку ён кожны раз выпраўляў асобныя месцы, імкнучыся давесьці да масавага чытача сапраўдны сэнс твору, імкнучыся зрабіць апавяданьне больш дасканалым.

Ужо ў першым сваім апавяданьні Серафімовіч паказвае вялікую праўду жыцьця, вялікую праўду клясавай барацьбы, ускрывае эксплёатацыю кулакамі-багацеямі забітых памораў.

На фоне суровай поўначы з цёмнымі хвалямі акіяну, вялізарнымі крыгамі, хмурымі непраходнымі лясамі, у тым дзікім бязьлюдзьдзі, ад якога патыхае мёртвым сумам, паказаны сьмелы ў працоўным уздыме і жалкі ў кіпцюрах кулака памор Сарока. Сарока гіне, занесены крыгамі ў акіян. Яго жонка з дзецьмі застаецца без карміцьца і бяз грошай. «Уся здабыча пойдзе за даўгі», «уся здабыча пойдзе кулаку—Вароне».

Аднак, мы ня бачым у гэтым апавяданьні нотак пэсымізму. У творы Серафімовіч апавядае працоўны ўздым. І ў гэтых паўночных крыгах, у гэтым краі паўночнага зьзяньня, грознай перасьцярогай эксплёататарам зьяўляецца энэргія прыгнечаных, але сьмелых людзей. Бо Серафімовіч ня выдумлёўвае сваіх герояў, ён бярэ іх з самага жыцьця, і таму ў яго апавяданьнях, у яго творах няма хадуль-

ных, няжыцьцёвых людзей. Яны жывуць у яго творах, яны змагаюцца з прыродай, змагаюцца з прыгнятальнікамі.

Пасьля адбыцьця высылкі Серафімовіч зварачаецца дамоў пад нагляд паліцыі. Калі ён вызваліўся ад гэтага нагляду, то з асаблівай увагай стаў знаёміцца з жыцьцём шахцёраў, з жыцьцём заводзкіх рабочых.

Серафімовіч—мастак працы, на працы «наогул» па-за канкрэтнай эпохай, а працы рабочых, сялян, паўпралетараў, батракоў, рамесьніцкай беднаты, ва ўмовах нявыцерпнага прыгнёту Расійскай імпэрыі.

Ён дакладна і павольна, крок за крокам ускрывае штодзенныя звычайныя ўмовы жыцьця шырокіх мас працоўных.

Раньнія апавяданьні Серафімовіча адлюстроўваюць увесь цяжар становішча рабочых у Расіі пры капіталізьме. Яны паказваюць непраходнае бяздоньне між гаспадарамі і рабочымі. У нарысах «На заводзе» і «Пад зямлёй» паказваецца праца рабочых на паўднёвым мэталюргічным заводзе і ў вугальнай шахце.

Серафімовіч з яркай праўдзівасьцю паказвае жыцьцё рабочага ў шахце; ні на сэкунду нельга разагнуцца, атрутнае паветра ўрываецца ў лёгкія, хрыпла дышучы рухаюцца рабочыя за ваганэткамі, якія нагружаны вугалем.

У забоях, лежачы на сьпіне, хваравіта ўздрыгваючы ад udараў, працуе забойшчык. «Усе працавалі, захоўваючы суровае маўчаньне—ні сьпеваў, ні гутаркі. Гэта цёмная, спрадвечная ноч вытруціла ў людзей вясёласьць, ажыўленьне, жарт, сьмех, песьні... Спушчаюцца ў шахты да сьвітаньня, а выходзяць, калі на зямлі ўжо ноч». Там і дзесяцігадовыя дзеці. «Ён (дзіцёнак) быў прыстаўлены адчыняць і зачыняць вароты. Яму не давалі лямпы, каб ня траціць дарма газы, і ён цэлымі гадзінамі сядзеў... сярод маўчаньня і мораку і прыслухоўваўся да шораху... «Такою была капіталістычная рэчаіснасьць».

І ўсё-ж-ткі—«слабае сьвятло дню, што патухае, будзіць бадзёрае пачуцьцё—«надзеі... магчыма дзесьці шчасьця і радасьці». Гэты аптымізм не пакідае пісьменьніка, ён прадчувае дні навальніцы і нацiску. У апавяданьні «Мышынае царства» перад намі горад з маленькімі забітымі людзьмі, якія зьнемагаюць у барацьбе за існаваньне. У апавяданьні дадзена шмат яркіх фігур, якія рухаюцца ў кухні—сутарэньні, якую заняпаўшыя паны здаюць беднякам. У гэтай кухні, у кухонным чадзе, жыве шэраг дробных людзей з іх дробнымі інтарэсамі. У кожнага сваё асобнае жыцьцё—ціхае няпрыкметнае, цяжкае і беспрасьветнае. Жыцьцё гэтых людзей саткана з шматлікіх дэталяў, тонкіх характарыстык.

Серафімовіч паказвае (вялікую) нагляднасьць, веды (ў) паказе гэтага асяродзьдзя, эканомнае карыстаньне дэталямі. Ён умее зацікавіць чытача.

Сумнае жыцьцё гарадзкіх сутарэньняў.

Аднак, і ў гэтым творы ў Серафімовіча ёсьць вера ў прыход новых лепшых дзён і ён ведае, адкуль прыдзе гэты новы сьветлы дзень.

Рабочы Аляксей—сын кухаркі Марфы—спушчаецца ў сутарэньне і гаворыць: «Там над сутарэньнямі, на гарадзкіх ускраінах, у фабрычна-заводзкіх карпусох расьце непераможная сіла, расьце ня днямі, а гадзінамі, ад яе ідзе вызваленьне».

І калі людзі сутарэньня ўсё-ж-такі гінуць, то іх пагібель асабовая, індывідуальная, але зусім не сацыяльная.

Тыя, якія застануцца, уздымуць разам з Аляксеем сьцяг барацьбы за новы сьветлы дзень.

Праз усе жорсткія змрочныя апісаньні асобных трагэдый Серафімовіч праводзіць упарта сваю ідэю: а ўсё-ж-ткі дзень вызваленьня прыдзе, бо ёсьць людзі, якія змагаюцца і якія падрыхтоўваюць гэты сьветлы дзень, што надыходзіць. Убогая аплата працы, голад прымушаюць рабочых-шахцёраў пасылаць на работу ў шахту сваіх малых дзяцей.

Бацьку да сьлёз шкода сынка: «хлопчыку пагуляць-бы», але другога выйсьця няма. Хлопчыку ня ўбачыць больш сонца: разам з бацькам ён павінен на сьвітаньні накіроўвацца ў шахту і зварачацца адтуль уночы. Апавяданьне «Маленькі шахцёр» якраз і паказвае аднаго з такіх хлопчыкаў у шахце.

Цяжкая праца рабочых чыгуначнікаў паказана Серафімовічам у апавяданьнях «Стрэлачнік» і «Сцэпшчык».

Бяздоньне паміж дзьвюма клясамі глыбока расчынена пісьменьнікам у апавяданьні «Заяц», дзе капітан парахода дзікімі зьдзекамі даводзіць да сьмерці бязьбілетнага пасажыра.

«Пад сьвята» і «пад зямлёй»—лепшыя старонкі ў шэрагу мастацкіх твораў, прысьвечаных дзецям працы. Трагічна і моцна гучаць словы хлопчыка ў апавяданьні «Пад зямлёй» аб тым, што яму ня сумна на падземнай рабоце, але «чыжало на сэрцы».

Паказ дзіцячай працы абуджае ў чытача пачуцьцё пратэсту супроць сацыяльнай няпраўды.

Мастак таксама ўважліва замалёўвае тыпы дарослых працаўнікоў, гэтых вялікіх дзяцей, часта па-дзіцячы бездапаможных перад тварам эксплёатацыі пануючых кляс.

У раньніх апавяданьнях шахцёры і рабочыя паказаны ў той пэрыяд, калі ў іх яшчэ не абудзілася клясавая сьвядомасьць. Яны лічаць сябе асуджанымі на працу і пагібель пад зямлёй толькі таму, што вымушаны былі аддаваць свае сілы капіталістычнай эксплёатацыі.

Безнадзейнасьць працоўнага ярма згушчана мастаком у вобразе шаўца Епішкі. Епішка зрэшты-рэшт прыходзіць да ўсьведамленьня неабходнасьці пакарыцца лёсу таму, што дзесьці «творыцца вялікая праўда». Гэты слабы пробліск надзеі на вялікую праўду асьвятляе жыцьцёвы шлях пасыўнага Епішкі.

Смутнымі, але моцнымі сваёй стыхійнасьцю, імкненьнямі да лепшага жыцьця характарызуюцца шматлікія героі ў творах Серафімовіча. Так да лепшага разумнага жыцьця марна імкнецца прабіцца канакрад Яшка.

Серафімовіч паказвае ня толькі цяжкую працу і беднасьць працоўных мас, ён ускрывае таксама тыя цяжкія ўмовы, у якіх знаходзіліся працоўныя масы Расіі таго часу.

Серафімовіч заўжды дакладна і любоўна выяўляе тую вялізарную ўпартасьць, надзвычайную вытрыманасьць і выносьлівасьць, якую выпрацоўвае ў працоўных іх праца. Серафімовіч паказвае ня толькі самы працэс працы; яго беспрасьветны прыгнятальны цяжар ва ўмовах капіталізму, але паказвае таксама сувязь гэтых прыгнятальных умоў працы з пэўным пануючым ладам, з прыгнечанасьцю і бесправем рабочых і сялян, з накапленьнем у шэрагах працоўных гневу, накапленьнем сіл для далейшай барацьбы.

І таму, што Серафімовіч бачыў гістарычныя прычыны гэтых зьяў, іх існасьць, яго апавяданьні не рабілі, ды і не маглі зрабіць, пэсымістычнага настрою. Наадварот, гэтыя творы абуджалі сьвядомасьць шырокіх працоўных мас, заклікалі іх да рэвалюцыйнага пратэсту.

Серафімовіч прысьвячае шэраг апавяданьняў рэвалюцыйнай барацьбе эпохі 1905 году.

Пісьменьнік падкрэсьлівае няўхільны рост рэвалюцыйнага пралетарыяту, рост яго сьвядомасьці і ўпэўненасьці ў перамозе. Ён паказвае таксама, што ўзрастае рэвалюцыйнасьць сялянскіх мас, іх лепшыя прадстаўнікі пераходзяць да актыўнай сьвядомай барацьбы. Адначасна Серафімовіч падкрэсьлівае змычку пралетарыяту з сялянствам, утварэньне рэвалюцыйнага саюзу паміж імі.

Серафімовіч не адыходзіць ад рэвалюцыі, не пераходзіць у лягер буржуазіі, як гэта зрабіла значная частка пісьменьнікаў, спалоханых рэвалюцыйнымі здарэньнямі.

У пэрыяд растрэлаў, шыбеніц, турмаў і высылак Серафімовіч піша шмат апавяданьняў і нарысаў, у якіх заклікае да рэвалюцыйнай барацьбы.

Бацька, які не пасьмеў праліць сьлёзы, нават паказаць выгляд, што растралялі яго сына («Мёртвыя на вуліцах»), цьвёрда ўпэўнены, што надыйдзе час радасьці і перамогі.

Вялізарная дэманстрацыя сіл пралетарыяту з прычыны пахаваньня загінуўшага таварыша прымушае апусьціцца салдацкія штыхі. Салдаты пазнаюць у дэманстрантах сваіх братоў («Хаўтуры»).

У апавяданьні «Як ён памёр» пісьменьнік рэзка падкрэсьлівае клясавыя супярэчнасьці паміж салдатамі і афіцэрамі. Салдат, ня прыкмячаючы афіцэра, не аддае яму чэсьці. У адказ на ўдары афіцэра салдат дае яму «здачы».

У апавяданьні паказана сцэна зьдзеку над салдатам, якога павялі растрэльваць. Вось навялі рулі стрэльбаў... Але раптам бяжыць веставы, крычыць, каб пачакалі. Аднак, гэта не памілаваньне! Гэта

проста перадаецца новы загад: зьняць з салдата вопратку, каб не псаваць яе кулямі.

Жыцьцё рэвалюцыйнай інтэлігенцыі знаходзіць сваё адлюстраваньне ў апавяданьні «Сопка з крыжамі», якое радуе арыгінальнасьцю задуму і нейкай асаблівай інтымнасьцю.

Рэвалюцыянэр пашоў на катаргу, а яго каханая засталася адна. І вось яна ставіць сабе мэтай паехаць туды ў далёкі Акатуй, дзе сопка з крыжамі вартуе памершых, каб хоць раз глянуць на каханага. Пасьля цэлага шэрагу хітрыкаў і перамог яна дабіваецца свайго. Але гутарка з каханым адбываецца ў прысутнасьці начальніка турмы і канвою. Яны прымушаны гаварыць аб староньніх рэчах і толькі вочы гавораць аб сапраўднай радасьці, аб тым, чаго нельга сказаць словамі.

Нарастаньне рэвалюцыі бачыць Серафімовіч і на вёсцы.

У апавяданьні «Зарыва» паказаны моцны вобраз селяніна Афінагеныча, незамірымага стыхійнага сялянскага рэвалюцыянэра, які навучае навакольную беднату ненавісьці і помсьце. Перавозчык Афінагеныч перапраўляе праз рэчку да манастыра багамольцаў. Ён ненавідзіць і ў той-жа час потайкам шкадуе гэты ўбогі натоўп, які шукае ў манахаў ня толькі ўцехі, але і паратунку ад беспрасьветнай нэндзы. Ён ненавідзіць гэтых людзей за цемру і бездапаможнасьць. Афінагеныч бязьмерна жаласьлівы (выпадак з старой), але ён у той-жа час і бязьмерна жорсткі. Так, у адказ на пабоі сялян-кулакоў ён дзесяць раз паліў вёску, пакуль не зраўнаў яе з зямлёй і людзі не зааралі таго месца, дзе яна была.

Ён узрушае сялянства супроць манастыра, які закабаліў усю акругу і дасягае свайго: сяляне паляць манастырскую эканомію.

Апавяданьне поўніцца злавеснымі зарывамі рэвалюцыі 1905 году. Афінагеныч гіне як рэвалюцыянэр, але як рэвалюцыянэр адзіночка.

У апавяданьнях «Сярод ночы» і «Каля стромы» Серафімовіч паказвае змычку рэвалюцыйнага пралетарыяту з рэвалюцыйным сялянствам.

Калі Серафімовіч у сваіх апавяданьнях даў шэраг яскравых малюнкаў, якія запамінаюцца, цяжкай працы ў капіталістычных умовах («Пад зямлёй», «На заводзе» і інш.), калі ён паказаў прасякненьне капіталізму ў вёску, клясавыя супярэчнасьці ў ёй («З зьвярамі», «Галіна»), то ён-жа яскрава паказаў, як капіталізм, прасякаючы ўва ўсе сітавіны побыту, у псыхалёгію людзей, ломіць іх жыцьцё, іх побыт («Пяскі», «Голас»).

У гэтых адносінах зьяўляецца паказальным буйны твор Серафімовіча «Горад у стэпу».

Серафімовіч шмат у чым мае рацыю, калі кажа, што «найбольш характэрныя рысы майго пісьменьніцкага твару яскрава адлюстроўваліся ў маім буйным творы «Горад у стэпу». Лініі, уласцівыя Серафімовічу, падкрэсьлены ў рамане з асаблівай сілай і пасьлядоўнасьцю.

Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі ў яго тыповых рысах дадзена ў вобразах Захаркі і Барша. Становішча інтэлігенцыі, яе шляхі разьвіцьця ва ўмовах капіталістычнага ладу абмалёваны ў вобразах інжынэра Паленава, студэнта Пеці і інш. І, нарэшце, рэвалюцыйнае бушаваньне ў рабочай клясе, якая пераходзіць да організаванага рэвалюцыйнага націску на капітал.

Буржуазны горад вырастае на касьцях і крыві мас.

Выйграюць Захаркі—жорсткія і прагныя назапашвацелі. Пачынаючы з публічнага дому і шынка, дзе сьпіваецца і робіцца распуснай працоўная маса, гэта будаўніцтва канчаецца царквой і паліцыяй, зброяй прыгнечаньня і адурманьваньня рабочае масы.

«Горад у стэпу» быў напісаны ў пэрыяд зьбянтэжанасьці, суму, здрадніцтва пераважнай большасьці інтэлігенцыі, якая пасьля кароткачасовага заляцаньня з рэвалюцыяй 1905 году, спужаўшыся магутнай хвалі рэвалюцыйнага рабочага руху, пачала рашуча пераходзіць на службу сталыпінскай рэакцыі.

Гэта былі гады разгулу рэакцыі, ідэйнага распаду, які знайшоў сваё выяўленьне ў літаратуры, у форме сьцьвярджэньня містыкі, рэлігійнай цемры, узмоцненай распрацоўкі «праблем полу» і г. д.

Літаратуры буржуазна-шляхецкага ўпадніцтва супроцьстаяў бадзёры магутны голас Максіма Горкага, які стварае ў гэты час раман «Маці», глыбока прасякнуты рэвалюцыйным аптымізмам.

Тэма раману Серафімовіча—першыя крокі рэвалюцыйнага руху ў глухім стэпавым пасёлку ў момант, калі капітал пачынае праводзіць каленізацыю гэтага стэпу.

Асноўная праблема раману—праблема ўзаемаадносін інтэлігенцыі і рабочай клясы.

Трэба было быць вельмі тонкім наглядальнікам, узброеным рэвалюцыйнай тэорыяй марксызму, каб раскрыць інжынэра Палынава—прадстаўніка асьвечанай інтэлігенцыі, якая была ў той час «вне подозрений»—як клясавага ворага, як будучага шкодніка.

Серафімовіч правільна прадугледзеў гістарычную ролю меншавізму ў вобразе меншавіка Пятра Іванавіча, які пачаў з арганізацыі рабочых стачак і скончыў службай у, захапіўшага ўвесь гарадок ў свае кіпцюры капіталіста Караедава, былога шынкара.

Нараджэньне рабочай клясы, першыя яе крокі, пачатак рэвалюцыйнага руху, яго паражэньні і перамогі—усё гэта ў глухім пасёлку, дзе капіталізм, выконваючы сваю гістарычную місію, калёнізуе першабытны стэп, будуе чыгунку, заводы, капіталістычны горад.

Прамысловы капітал купляе рабочую сілу ў пасёлку, зьбірае ў пасёлку новыя тысячы рабочых. У пагоне за нажывай капіталісты не застанаўліваюцца ні перад чым.

Старшыня праўленьня чыгункі, якая будуецца, кажа інжынэру Палынаву: «Ці дасягаеце вы гэтага масавымі растрэламі—добра! Знаходзіце карысным пусьціць у ход перамовы, уступкі? Добра! Толькі канчатковы вынік,—рэшта мяне ня тычыцца».

Разьвіцьцё пасёлку, нараджэньне і рост гораду паказаны мастаком аб'ектыўна, строга рэалістычна, бяз цені падфарбоўваньня асноўных дзейных сіл.

Тварам да твару стаяць капіталісты, інтэлігенцыя, пралетарыят. Пасёлак расьце, як на дражджах, уцягваючы ў сябе навакольнае жыцьцё, перамолваючы яго жорнамі прамысловасьці пад бізуном эксплёатацыі, уліваючы натуральную гаспадарку ў кацёл «хапатлівага, неўгамоннага новага жыцьця».

Пасёлак ператвараецца ў капіталістычны горад. «Усё раськідалася па пасёлку, ня стыгнучы—дымілі высокія дымары». «Як-жа! Царкву пабудавалі. Каланчу бачылі? На будучы год турму будаваць будуць».

Поруч з ростам новага гораду растуць і шэрагі рабочых і разам з тым расьце ў масах усьведамленьне свае сілы. У масах узрастае здольнасьць да барацьбы, у яе (масы) «апромністы малады твар строгі, уважлівы», які хавае падрыхтоўку да рашучага бою.

Аднак, рабочая кляса, галоўным чынам чыгуначнікі, яшчэ стаяць на першай ступені свайго грамадзкага разьвіцьця. Пісьменьнік паказвае, як у гэты невялікі пасёлак імкнуліся розныя сьмелыя шукальнікі шчасьця: «прыходзілі ў апорках, у анучах, з голым целам, цягалі каменьні, гліну, выводзілі сьцены, засыпалі зьверху зямлёй і жылі як у бярлозе. глядзіш—ан, праз паўгода боты ўжо нацягнуў, ломіць ужо зямлянку, ставіць хату, заводзіць гандаль».

Зарыўшыся сярод стэповых абшараў у душныя шэрыя зямлянкі, цяжка змагаюцца за сваё існаваньне людзі працы і, здаецца, як быццам няма для іх прасьвету ў лепшае будучае. «Горад у стэпу» малюе першае зьяўленьне рабочай клясы на грамадзкай арэне. Пралетарыят яшчэ раздроблены, ён ледзь толькі пачынае зьбіраць свае сілы. Першыя змагары за яго інтарэсы хутка чэзнуць у турмах і высылцы, але ў дні змаганьня і адзінадушных выступленьняў выяўляецца багацьце магчымасьцяй, якія захоўваюцца ў нетрах мас.

Толькі тут у рабочых масах, у іх арганізаванасьці, у рабочым сатаварыстве закладзена магчымасьць перабудовы жыцьця.

У гэты час з важенца свайго маленькага сямейнага сусьвету старэйшае пакаленьне інтэлігенцыі, што пражыло сваю рэвалюцыйную маладосьць, здольна, у лепшым выпадку, толькі наглядаць за барацьбой рабочых.

І ў гэтым цёмным жыцьці старэйшага пакаленьня інтэлігенцыі толькі адзін момант запальвае надзею на прыход новых дзён.

Уздымаецца новая хваля рэвалюцыйнага руху, дружна выступае пралетарыят, ён захапляе маладую дачку інжынэра Кацю. Яна кажа: «хачу жыць жывой, а ня дохлай».

У гэтую рэвалюцыйную барацьбу, барацьбу за інтарэсы працоўных уключаецца і студэнт Пеця—сацыяліст. Ён жыве ў інжынэра Пальнава—свайго швагра і, на вялікае незадаволеньне апошняга, арганізуе рабочыя масы для рэвалюцыйнай барацьбы. Ён верыць і спадзяецца «пасёлак—сумны, шэры і ўбогі думкай, так. Але і там

б'ецца чалавечае сэрца, і, хто ведае, магчыма там і сьпеюць будучыя барацьбіты, моцныя, палкія».

Даўшы малюнак хваляваньня рабочых і стачкі, Серафімовіч дае ўяўленьне аб тых страшэнных умовах, у якіх жылі рабочыя. Гутарка забаставаўшых рабочых з інжынэрам Пальнавым—адно з найбольш цікавых месц раману.

Калі Пальнаў робіць спробу абаперціся на незалежныя ад яго прычыны, на тое, што плян чаргі пабудоў выпрацаваны ня ім, то ад імя рабочых Рабы самым важкім аргумэнтам зьнішчае Пальнава: «Нам ні цёпла ні холадна... гэтага... адным словам, ці праўленьне, ці кіраўніцтва, дзяцей усёроўна прыдзецца цягаць на могілкі. Хто там камандуе—нас ня тычыцца... Віна ня наша, а падыхаць нам».

Але ідзе жыцьцё. Праходзіць дзесяць год, зьнішчаюцца старыя і ствараюцца новыя, больш моцныя перадумовы для барацьбы рабочых за сваё права на жыцьцё. Гэтыя дзесяць год значна адбіваюцца і на жыцьці шмат каго з актывістаў рабочых.

У абставінах напружанай барацьбы за лепшую долю гінуць выяўнікі інтарэсаў рабочае клясы, ці прыстасоўваюцца да жыцьця.

Калі студэнт Пеця, пабыўшы ўжо ў высылцы, зварачаецца ў гэты горад, ён даведваецца, што шэраг рабочых высланы на далёкую поўнач, некаторыя памерлі ў турме, некаторыя разышліся і што іншая частка ператварылася ў абыватэлей з уласнымі хаткамі.

«Якія там сувязі? З цяперашнім народам хіба сьцяміш? Жруць, як сьвіньні ў карыце»,—гаворыць адзін з былых перадавых рабочых, які прыстасаваўся да жыцьця, адмовіўся ад упартай барацьбы за справу рабочае клясы. Але гэты безнадзейны настрой чалавека, які выбыў з строю, не адпавядае сапраўднаму вобліку жыцьця.

Калісьці глухі пасёлак кіпіць жыцьцём прамысловага цэнтру.

Пісьменьнік ня пужаецца новых форм жыцьця—гэтага «непраходнага садому» на станцыях, бесьперапынных паравозных гудкоў і росту фабрык. Ён ведае, што ўвесь гэты тлум хуткаплыннага жыцьця ёсьць неабходная ўмова для арганізацыі рабочага гневу—гневу, які зруйнуе асновы прыгнечаньня працоўных.

«Горад у стэпу»—гэта прыгавар капіталістычнай сыстэме, гэта выкрыцьцё здрадніцкай ролі буржуазнай інтэлігенцыі, гэта сьцьвярджэньне гістарычнага права рэвалюцыйнай сілы пралетарыяту.

Вялізарная чуласьць да здарэньняў, якія адбываюцца, сувязь з шырокай працоўнай масай, хуткасьць мастацкага погляду, а таксама той рэвалюцыйны гарт, які ён атрымаў у пачатку свайго пісьменьніцкага шляху, далі Серафімовічу магчымасьць стварыць адзін з буйнейшых твораў рускай мастацкай дакастрычнікавай літаратуры.

У часе імпэрыялістычнай вайны Серафімовіч накіроўваецца на фронт карэспандэнтам. Аднак, царская цэнзура забараняе цэлы шэраг яго нарысаў, не жадаючы друкаваць надзвычай цяжкія, але разам з тым глыбока-праўдзівыя малюнкі крывавай вайны. У гэты час Серафімовіч піша шэраг значных твораў, у якіх вайна адлюстроўваецца, як безсэнсоўная бойня.

Вазьмеце такое простае апавяданьне, як «Тэрмомэтр». Дзеці ў пакоі, дзе ўсё напамінае аб бацьку, якаго забралі на вайну і які загінуў там «сьмерцю храбрых». Ува ўсіх рэчах пакою адчуваецца сьлед памёршага бацькі. Дзеці памятаюць: бацька апавядаў цікавыя гісторыі, калі ў іх пад пахай ляжаў тэрмомэтр. Няпрыкметна прахадзіла дзесяць хвілін. Дзеці патрабуюць такога-ж апавяданьня ад маткі. Бедная маці спрабуе ўсьміхнуцца, спрабуе расказаць, а сьлёзы цякуць па яе твары.

Сотнямі тысяч налічваюцца сем'і, якія згубілі сваіх карміцельцаў на фронце сусьветнай бойні, і ў кожную з іх кідалі іскру пратэсту такія апавяданьні», як «Тэрмомэтр», «На пабыўцы», «Шрапнэль» і інш.

У моманты вострых супярэчнасьцяй 1917 году, у момант абвострай клясавай барацьбы Серафімовіч сваё мастацкае слова непасрэдна аддае пралетарыяту, які змагаўся за ўладу.

Ён знаходзіць мужныя і цьвёрдыя словы, якія выкрывалі здрадніцтва пэўнай часткі пісьменьніцкай інтэлігенцыі ў пэрыяд Кастрычніка.

У гэты час Серафімовіч піша лістоўкі, агітацыйныя брашуры, у якіх растлумачвае сутнасьць барацьбы рабочае клясы за дыктатуру пралетарыяту.

Кастрычніцкая рэвалюцыя адчыніла нявычэрпальныя магчымасьці для творчасьці. Кастрычнік, гераічная барацьба рабочае клясы ўнесьлі ў творчасьць Серафімовіча новыя матывы, новыя фарбы і гукі.

Серафімовіч, зьяўляючыся ў той час ужо сябрам камуністычнай партыі, разьяжджае па фронтах грамадзянскай вайны, як карэспандэнт «Праўды», вывучае побыт Чырвонай арміі, уваходзіць у самую сутнасьць вайсковых абставін, вайсковых дзей.

У выніку—шэраг апавяданьняў і нарысаў аб рэвалюцыі і фронце, у якіх Серафімовіч дае яркія малюнкі барацьбы Чырвонай арміі з контррэвалюцыяй. У той-жа час гэтыя нарысы зьяўляюцца подступам да «Жалезнага патоку», твору вялізарнай мастацкай выяўнасьці, мастацкага тэмпэрамэнту.

Раней, як стварыць гэту рэч, Серафімовіч вывучыў адпаведны матар'ял, выкарыстаў шэраг дакумантаў, шэраг жывых сьведкаў. У гэтым зноў-такі выявілася адна з характэрных асаблівасьцяй яго, як мастака.

«Мая новая праца—«Жалезны паток»—кажа Серафімовіч,—дае суму маёй пісьменьніцкай працы. Я задумаў вялікую літаратурную работу, у якой «Жалезны паток» зьявіцца толькі часткай. Усю работу я называю агульнай назвай «Барацьба»

Але гэта ня простая сума, а новая якасьць. «Жалезны паток»—клясычны твор, створаны Кастрычнікам, насычаны ідэямі пралетарскай рэвалюцыі. Гэта мастацкае зьдзейсьненьне ленінскіх паказаньняў аб саюзе рабочае клясы з сялянствам.

Бо з перамогай рэвалюцыі зьмяняюцца ўмовы працы, адчыняюцца пэрспэктывы перабудовы жыцьця на новых падставах. Гэта ўжо не нясьмелыя мары, а глыбокая ўпэўненасьць у перамозе рабочае клясы.

Ад малюнка рабочага побыту, моцнага працоўнага ўкладу вёскі, першых асобных спроб перадавых адзінак прабіцца да сьвятла,—да будаўніцтва новай сьвядомасьці ў агні клясавай барацьбы і вайны—такі шлях прарабіў пісьменьнік, мастак рэвалюцыйнага рэалізму.

Тэмай для «Жалезнага патоку» зьявіўся вядомы гістарычны эпізод: слаўны паход Таманскай арміі, адрэзанай ад асноўных сіл чырвоных. У жахлівых умовах голаду, хвароб, недахопу вайсковага ўзбраеньня і фуражу, голыя, з сем'ямі, з старымі і дзецьмі, з абозам рэштак хатняй маемасьці цягнулася гэта армія да асноўных сіл Чырвоных.

Серафімовіча тут цікавіць не якая-небудзь, магчыма, і нечаканая фарбная дэталь вялізарных здарэньняў фацыяльнага парадку, якія разгарнуліся ў сувязі з Кастрычнікам, а самае істотнае—удзел мас сялянства ў рэвалюцыі, канкрэтныя шляхі іх перапрацоўкі, іх перавыхаваньня.

Сам аўтар так тлумачыць, чаму ён абраў ня іншы, а якраз гэты эпізод:

«Сялянская і казацкая бедната і разьбітыя часткі савецкай арміі ішлі з Кубані на поўдзень, на злучэньне з галоўнымі савецкімі войскамі. Гэтай сялянскай масе прышлося супроць волі адступаць: заможныя казакі пачалі рэзаць беднату, якая спачувала Саветам. Але адыходзіла гэта маса надзвычай неахвотна, абвінавачваючы пры гэтым савецкую ўладу ў тым, што яна ня можа іх уладзіць і абараніць. Гэта маса была блытанай і неарганізаванай: яна не хацела падпарадкавацца камандзірам, якіх сама-ж нядаўна абрала. Але ў паходзе гэтулькі пакут і мукі перанесьлі адступаючыя, такі страшэнны быў для іх унівэрсытэт, што, нарэшце, яны зусім зьмяніліся: голыя, босыя, змучаныя, галодныя яны з'арганізаваліся ў страшэнную сілу, якая ўсе загароды зьмяла на сваім шляху і дайшла да канца. І вось, калі яна прайшла праз гэтыя пакуты, праз гэтую кроў, роспач, сьлёзы, тут у яе расчыніліся вочы, тут яна адчула: так, адзіны паратунак—савецкая ўлада. Гэта ня было сьвядомае разуменьне, як у пралетарыята, а было штосьці інстынктыўнае, унутрана-адчувальнае. Вось я таму і ўзяў гэты матар'ял. Мне здавалася, што ў гэтым кавалку адлюстравалася ўсё наша сялянства і ўсе яго адносіны да рэвалюцыі».

Серафімовіч мастацкі даказвае, што гэты струмень крыві, забойстваў, голаду, хвароб, бязьлічаных ахвяр—гістарычна апраўданы вялікай рэвалюцыйнай перапрацоўкай, новай сьвядомасьцю тысяч сялян, батракоў і рамесьнікаў, што яны «людзі», што без савецкай улады яны, «як тая падла пад плотам», што недарэмна была барацьба, якая прывяла да вялізарнейшых рэвалюцыйных перамог.

Ідэя «Жалезнага патоку»—гэта ідэя пралетарскай рэвалюцыі.

Серафімовіч даказвае, што толькі пад кіраўніцтвам пралетарыяту, пры яго падтрыманьні і дапамозе можа знайсьці свой паратунак, сваё «чалавечае месца ў жыцьці» вялізарная абяздоленая маса працоўных.

Толькі злучыўшыся з пралетарыятам, прасякнуўшыся сьвядомасьцю неабходнасьці непарушнай дысцыпліны, можа і павінна праца перамагчы капітал.

Герой эпапэі—маса і Кожух, яе правадыр—згустак волі да жыцьця і ўлады паўстаўшых рабочых і сялян, якія гатовы перанесьці самыя цяжкія недахопы і страты дзеля перамогі рэвалюцыі.

Нараджэньне і рост калектыву, жыцьцё, барацьба і перамога рэвалюцыі—вось зьмест раману.

Сіла Кожуха ў яго адзінстве з масай, сіла масы ў тым, што яна мае такога правадыра. Вось чаму маса «Жалезнага патоку» і прыходзіць нарэшце да ўсьведамленьня, што «адрэзаныя нявымернымі стэпамі, непраходнымі гарамі, драмучымі лясамі, яны тварылі—няхай ў значна меншым памеры—але тое самае, што тварылі там, у Расіі».

Серафімовіч—рэаліст. У сваім артыкуле «Як я пісаў «Жалезны паток» ён кажа:

«У мастацкім творы трэба раней за ўсё унікаць маны і падфарбоўваньня рэчаіснасьці...

Ад пісьменьніка неабходна патрабаваць, каб ён быў праўдзівы, каб ён не баяўся жыцьця, а браў усё, што ў ім ёсьць, але браў не для таго, каб паласкатаць нэрвы, ці даць вам хвіліннае задавальненьне, а для таго, каб вы прашчупалі самое жыцьцё, усе яго балячкі і гнойнікі».

Серафімовіч піша, кіруючыся запатрабаваньнем праўды, паказваючы рабочага ва ўмовах росту рабочае клясы, калі ён яшчэ «ня ведаў заўтрашняга дню», і не разумеў сваёй ролі ў барацьбе за заўтрашні сацыялістычны дзень.

Ён не падфарбоўваў яго, а наадварот паказаў, як праз шматвобразны і зьвілісты ход жыцьця рабочая кляса вырастае ў сілу, якая скідае няпраўду старога сусьвету, у сілу, якая стварае новы, сацыялістычны лад, дзе «ня вытручваюць душы» ў людзей, дзе душу чалавека працы абагачаюць усімі дасягненьнямі чалавечай культуры.

Серафімовіч усё сваё жыцьцё з упартасьцю і палам рэвалюцыянэра вывучаў і паказваў жыцьцё беднаты, шукаў разам з ёй выйсьця з бруду і жахаў капіталізму.

У раньне рабочага руху ў Расіі ён адзін з першых пяром мастака, усьлед за Максімам Горкім, расказаў аб эксплёатацыі рабочых мас. Ён малюе бязьмежна цяжкое жыцьцё працоўных з пачуцьцём вялікага мастака, рэвалюцыянэра—рэаліста. Ён здолеў у цемры царскай Расіі разгледзець узрастаючую сілу пралетарыяту, які прачынаўся для сьвядомай барацьбы з капіталізмам.

Ён актыўна і самаахвярна ўдзельнічае ў гэтай барацьбе.

Сіла мастацкага слова Серафімовіча ў тым рэвалюцыйным рэалізьме, якім ён карыстаецца ў паказе рэчаіснасьці. Ён з прастатою, але разам з тым з глыбокім клясавым пралетарскім падыходам і праўдай абмалёўвае гэту рэчаіснасьць, углядаючыся ўва ўсю складанасьць жыцьцёвых супярэчнасьцяй, знаходзячы ў іх вядучы пачатак. Гэтым

вядучым пачаткам для Серафімовіча былі інтарэсы барацьбы рабочае клясы і нашай партыі.

Гэта давала яму сілу мастацкай творчасьці. Гэта, бяз сумненьня, дае яму магчымасьць і ў далейшым стварыць яшчэ многа і многа выдатных глыбока-мастацкіх старонак, прысьвечаных нашай вялікай ґераічнай эпосе.

Рэалізм, які мы знаходзім у яго творах, «гэта ня проста стары клясычны рэалізм, гэта сацыялістычны рэалізм.

Пралетарскі пісьменьнік Серафімовіч—адзін з творцаў стылю сацыялістычнага рэалізму нашай літаратуры». (Кірпоцін).

## КНІГАПІС

**ПЛАТОН ГАЛАВАЧ**—*„Спалох на загонах“*, выданьне другое, нанава напісанае, ДзВБ, 1932 г., стар. 189, цана 2 р. 25 к.

Былі вузкія палоскі, палі, зрэзаныя межамі. Былі дробныя гаспадаркі, асобныя, нічым паміж сабою не зьвязаныя. Але рэвалюцыя прышла і на загоны. Прышла каб вызваліць «ад самага страшнага рабства—рабства ў сваёй уласнасьці». Пачалася калектывізацыя. Пра першы этап сацыялістычнага наступу на вёсцы, пра пэрыяд арганізацыі калгасаў, пра станаўленьне калгасаў як формы сацыялістычнай сельскай гаспадаркі і апавядаецца ў аповесьці «Спалох на загонах».

Першае выданьне параўнальна з другім зьяўляецца як-бы чарнавіком, як-бы першымі нататкамі. Аповесьць карэнным чынам перароблена: уведзены новыя пэрсанажы, цэлыя новыя разьдзелы, нададзена больш ідэйная выразнасьць і акрэсьленасьць вобразам, значна апрацован стыль. Савецкі горад паказаны не як толькі горад, дзе чароды каля крам, а як горад сацыялістычнай прамысловасьці, сацыялістычнага будаўніцтва. Значна абмежавана роля стыхійнасьці ў працэсе калектывізацыі і ўзмоцнена роля пролетарскага партыйнага кіраўніцтва. У другім выданьні выразна паказана, што Панас зьяўляецца прадстаўніком пролетарскага гораду, ён пасланы на калектывізацыю партарганізацыяй заводу. Адным словам, зьмены настолькі істотныя, што амаль можна гаварыць пра новы твор.

У аповесьці праўдзіва і пераканальна паказана, што вёска самастойна, уласнымі сіламі, ня здольна перайначыць, перабудаваць жыцьцё. Так паўстае праблема пралетарскага кіраўніцтва. Але гэта кіраўніцтва немагчыма, калі яно ня будзе абапірацца на масы. І ў Панаса зусім правільная рэвалюцыйная тактыка, калі ён у барацьбе за калгас у Цярэшкавым Бродзе, абапіраецца на бедняцкую частку вёскі, прадстаўнікамі якой у аповесьці зьяўляюцца Галіна, Пётра Ашурак, Палашка. Гэтыя людзі спачуваюць калектывізацыі, але выступіць самастойна і рашуча баяцца, бо потым «затукаюць». Бедпякі ў Галавача не штампаваныя. Яны таксама нясуць на сабе груз спадчыны мінулага, у іх ёсьць нерашучасьць, няўпэўненасьць, але дзесьці ў глыбіні сваёй істоты яны адчуваюць блізкую ім праўду новага жыцьця, што нясе з сабою калектывізацыя. Калі Палашка, уласнымі вачыма ўбачыўшы, што ў новікаўскай камуне жывуць зусім ня дрэнна, н а в а т лепш, як у іх на вёсцы, гаворыць яшчэ нерашуча, з адценьнем сумненьня: «Хто яго ведае, як яно лепш будзе, можа і трэба гэта камуна

ўжо, мо' такі сьвет цяпер настаў»,—дык Галіна ў адказ на заўвагу Панаса, каб яна падтрымала яго на сходзе, заяўляе зусім акрэсьлена: «Я то падтрымаю»... Наогул найбольш удалым, найбольш мастацкі яркім з групы прыхільнікаў калектывізацыі трэба лічыць вобраз Галіны. Гэта жывы, канкрэтны чалавек, з сваёю ўласнаю індывідуальнасьцю. Ня будзе перабольшаньня, калі мы скажам, што тэта тыпізаваны, абагулены вобраз маладой мэтаімклівай сялянкі-бяднячкі.

Тав. Галавач добра ведае сялянскае жыцьцё і паказвае яго ў тыповых праявах. Пры гэтым рысы тыповыя для пэўнага пласта вёскі ён бярэ ня ў чыста псыхалёгічным пляне, а заўсёды з выразнай сацыяльна-клясавай афарбоўкай. Адсюль уласьцівая яму выразнасьць, дакладнасьць сацыяльнай характарыстыкі і пэўная скупасьць маляўнічых сродкаў пры пераходзе да індывідуальнай псыхалёгіі, да стварэньня характару.

Надзвычай цікавую фігуру дае сабою серадняк Клемс. Не выпадкова паказу ягонага жыцьця, ягоных перажываньняў адведзена параўнальна шмат месца—у аповесьці ён зьяўляецца прадстаўніком асноўнае масы серадняцтва, з асяродзьдзя якога выходзяць зусім ня дрэнныя калгасьнікі. У Клемса ёсьць такая-сякая маёмасьць, жыцьцё ў калгасе ён уяўляе сабе досыць цьмяна, і таму расстацца з гэтаю маемасьцю яму вельмі цяжка. От ён вее на таку жыта і думае: «Да іць тады яго ў адзін засек ссыпаць трэ' будзе, у адзін засек», дае каню сена, і зноў да яго прыходзіць неадчэпная думка: «Да іць і цябе, брат, тады ў адну кучу»...

Што-ж акрэсьліла рашучасьць Клемса пайсьці ў калгас?

Спачатку ён наважыў быў ня верыць, калі пра калгасы будуць гаварыць добрае і загадзя «гарадзіўся ад калгасу сьцяною сваіх, важкіх, як яму здавалася, меркаваньняў». Потым у думках Панаса ён пазнаў свае ўласныя думкі, толькі крыху інакш выказаныя. Гэта злавала яго, і таму ён асабліва заўзята спрачаўся з Панасам. Але дзіўны і нечаканы для яго факт—чым больш ён спрачаўся, тым больш упэўніваўся, што спрачацца няма чаго. Канчаткова вырашылася яго позыцыя пасьля таго, як ён зьезьдзіў з дэлегацыяй у камуну. І яму толькі няёмка цяпер было пайсьці на сход і прызнацца, што ён згодзен з Панасам.

Стварэньне калгасу ў Цярэшкавым Бродзе адбываецца ў абставінах жорсткага клясавага змаганьня. У паказе барацьбы клясавых інтарэсаў вакол калгасу тав. Галавач не паддаецца на спакусы спрашчэнства, літаратурнага штампу, застаецца верным свайму творчаму мэтаду, паказвае яе рэалістычна, так, як яна адбываецца ў жыцьці.

Кулак у Галавача хітрая і сур'ёзная варожая сіла, з ёю трэба змагацца ўмеючы. Зьяўляючыся абаронцамі старога, уласьніцкага ўкладу жыцьця, кулакі ў сваёй ненавісьці да сацыялістычных пачынаньняў на вёсцы скарыстоўваюць усе сродкі, уключаючы забабоны і рэлігію. Адкрыта кулакі ў Галавача ніколі не выступаюць супроць і дзейнічаюць заўсёды за плячыма другіх. Так, напрыклад, Лукаш, змагаючыся супроць камуны, выступае не ад сябе, а як, нібыта,

барацьбіт за агульна-сялянскія інтарэсы. Тое-ж самае і Мышкін. З аднаго боку ён запужвае Палашку, каб не расказвала праўды пра камуну, а з другога—для адводу воч, сам сваяасабліва агітуе за калгас і адным з першых уступае ў яго. На факце ўступленьня ў калгас змаганьне, вядома, не канчаецца, яно толькі ўступае ў другую стадыю. І сапраўды, мы бачым, як у выніку змовы паміж Мышкіным, Незнаёмым і Лукашом большая частка сялян з калгасу выходзіць.

Для характарыстыкі пэрсанажаў тав. Галавач пераважна карыстаецца прыёмам апісаньня ў дзеяньні і гэта ня дрэнна. Гэты-ж прыём ён скарыстоўвае і для характарыстыкі сакратара парткалектыву заводу—Сідара. Але трэба сказаць, што ня гледзячы на гэта, у літаратурным пляне вобраз Сідара Галавачу ня зусім ўдаўся. Калі мы прасочым на працягу аповесьці індывідуальныя рысы, што адрозьніваюць Сідара ад іншых, дык іх знойдзецца надзвычай мала. Індывідуальная характарыстыка Сідара занадта скупая. Мы толькі можам з упэўненасьцю сказаць, што ён ня дрэнны арганізатар (запамінаецца сцэна размовы з Клімам пра змаганьне за якасьць прадукцыі). Але-ж і Панас таксама ня дрэнны арганізатар, і ў аповесьці ня выпуклена, у чым тут паміж імі розьніца.

Поўнай працілегласьцю ў дачыненьні індывідуалізацыі зьяўляецца Клім. Гэта—сакавіты вобраз з асаблівым, толькі яму ўласьцівым, індывідуальным абрысам. Нават больш—гэта абагулены вобраз, пэўны тып рабочага. Клім адчувае сябе актыўным будаўніком нашае рэчаіснасьці, на кожную жыцьцёвую зьяву ён глядзіць вачыма клапатлівага, дбайнага гаспадара-пралетарыя. Бачачы непаладкі, ён жорстка крытыкуе іх, лічыць, што мае на гэта права, але ня церпіць калі хто-небудзь іншы, хаця-бы тэтак сама, як і ён, пачынае што-небудзь крытыкаваць.

Цэнтральнай фігурай аповесьці зьяўляецца Панас. Ён выйшаў з бядняцкае часткі вёскі, змагаўся супроць белагвардзейшчыны ў час грамадзянскай вайны, потым, пасьля дэмабілізацыі трапляе на завод і ўпарта змагаецца за яго аднаўленьне.

Панас добра ведае вёску, добра ведае дробна-ўласьніцкую псыхалёгію селяніна, бачыць усе цяжкасьці, з якімі зьвязана перабудова вёскі на сацыялістычных пачатках. І гэтыя цяжкасьці тав. Галавач паказвае ня спрошчана, а рэалістычна, так, як гэта ёсьць у жыцьці.

Калектывізацыя ўзварушыла вёску. У складаным перапляценьні клясавых інтарэсаў, у жорсткім клясавым змаганьні нараджаюцца калгасы. Але гэтым яшчэ ўся справа не вырашаецца. Сапраўды, у аповесьці мы бачым, што ня толькі да ўступленьня ў калгас многія сяляне, у выніку сваёй дробна-уласьніцкай псыхалёгіі і пад уплывам кулакоў, успрымаюць калектывізацыю, як канец «вольнаму жыцьцю». але, нават уступіўшы ў калгас, некаторыя яшчэ «на ўсякі выпадак» хаваюць ад абагуленьня хамуты, збожжа. Гэтым самым Галавач паказвае, што мала таго, каб селянін сваімі вачыма ўбачыў праўду калектывізацыі, трэба яшчэ ( у працэсе клясавага змаганьня) скінуць

з яго груз мінулага, пераламаць, перарабіць яго сьвядомасьць, зрабіць яе здольнай успрыняць гэту праўду. А гэта вельмі складаны працэс.

Панас добра разумее гэту складанасьць, ведае вытокі гэтае складанасьці, таму частковыя няўдачы яго не палохаюць, ня выклікаюць ніякіх сумненьняў. Ён яскрава бачыць пэрспэктыву—адсюль яго непахіснасьць, упэўненасьць у канечнай перамозе.

У дачыненьні характарыстыкі Панаса Галавач захоўвае свой асноўны прыём—паказ у дзеяньні. Панас працуе ў спэцыфічных умовах. Сельсавет, у які ён пасланы на калектывізацыю, аддалёны ад раённага і іншых цэнтраў. Ды і ўвесь раён, бадай, самы адсталы. У ім усяго дзьве парт'ячэйкі. З гэтае прычыны на працягу аповесьці Панас зьяўляецца амаль адзіным прадстаўніком савецкае ўлады. Устаноўка тут у Галавача зусім зразумелая. Ён хацеў паказаць, што сацыялістычная пераробка вёскі захапіла нават самыя глухія куткі нашае краіны. Але паколькі наша літаратура павінна праўдзіва адлюстроўваць рэчаіснасьць і паколькі літаратура мае абагульняльнае значэньне, дык характэрныя рысы кожнае зьявы ў мастацкім творы павінны захоўвацца. Адсюль зразумела, што ролю сельсавету ў справе калектывізацыі трэба было больш выпукліць.

Вобраз Панаса цалкам удаўся тав. Галавачу, але вышэйпаданы факт у сюжэтным дачыненьні зьяўляецца тормазам для раскрыцьця гэтага вобразу. Унутраная аснова Панасавай практыкі, яго ўнутраныя перажываньні раскрываюцца пераважна ў яго дачыненьнях да Галіны. Аднак у гэтых дачыненьнях Панаса да Галіны пісьменьнік ня здолеў поўнасьцю раскрыць унутраны зьмест Панасавай індывідуальнасьці Гэта і выклікала адступленьне ад асноўнага прыёму характарыстыкі—паказу ў дзеяньні, выклікала неабходнасьць ліста да Сідара. Ліст гэты зьяўляецца своеасаблівай Панасавай дэкларацыяй, а між тым, паводле ступені ўзьдзейнічаньня на чытача, мастацкасьці паказу, паказ у дзеяньні стаіць значна вышэй, як простыя дэкларацыйныя выказваньні.

У лісьце да Сідара паведамляецца шмат новых фактаў, якія ў аповесьці не паказаны. З ліста мы даведаемся і пра тое, што Панасу ў растлумачальнай працы па калектывізацыі дапамагалі сельсавет і настаўнікі. А якраз у дачыненьні Панаса да старшыні сельсавету, або настаўнікаў мог бы раскрыцца ў дзеяньні зьмест ліста да Сідара. Тады ліст выступаў бы ў сваёй адзінай функцыі—сувязі паміж Панасам і парт'ячэйкай, што паслала яго на калектывізацыю, інакш кажучы, сувязі з пралетарскім горадам.

Усё тым-жа прыёмам паказу ў дзеяньні паказан і апартуніст Асьцюк. Галавачу пашэньціла знайсьці спэцыфічна-канкрэтныя рысы, якія робяць гэты вобраз жывым, ненадуманым і ў той-жа час даюць яму адмоўную характарыстыку, выкрываюць апартунізм. Надзвычай характарна, што Асьцюк не саўладаўшы з сялянскім сходам, едучы ў горад, думае ўваліць за гэта віну на партарганізацыю. У размове з Семчыкам ён яшчэ спрабуе прыкрывацца сьцягам прынцыповасьці,

ідэйнасьці, на вечары-ж у Пацярухі ў асяродзьдзі «сваіх» людзей зводзіць сваю «апазыцыйнасьць» на антысавецкія анэкдоты і тым самым выяўляе сваю сапраўдную мяшчанска-абывацельскую сутнасьць.

Галоўнай адзнакай стылю сацыялістычнага рэалізму зьяўляецца праўдзівасьць адлюстраваньня рэчаіснасьці. Гэтым патрабаваньням «Сполах на загонах» у асноўным адпавядае. Але-ж стыль сацыялістычнага рэалізму—гэта ня мёртвая літара, а зьява, што знаходзіцца ў разьвіцьці, станаўленьні. Апрача таго мэтад сацыялістычнага рэалізму ня выключае індывідуальных асаблівасьцяй, таго або іншага пісьменьніка. Тав. Галавач знаходзіцца ў працэсе росту, у працэсе афармленьня знаходзіцца і яго стыль. У сувязі з гэтым для яго асабліваe значэньне набываюць пытаньні майстэрства, мастацкае якасьці. У гэтым дачыненьні мне хацелася-б зазначыць, каб ён, ня кажучы пра паглыбленьне ідэйнага раскрыцьця рэчаіснасьці, зьвярнуў асаблівую ўвагу на рэвалюцыйную тэмпэрамэнтнасьць, на эмацыянальную дынамічнасьць стылю, на сюжэтную пабудову твораў, на маляўнічасьць моўных сродкаў.

Тав. Галавач напэўна яшчэ будзе пісаць пра другі этап калектывізацыі, пра гаспадарча-палітычнае замацаваньне калгасаў, пра перапрацоўку ў калгасе уласьніцкай, дробнабуржуазнай псыхікі селяніна. Застаецца пажадаць, каб у наступным творы яму ўдалося ўзьняць праблему зьнішчэньня прыватнай уласнасьці ў сельскай гаспадарцы на ступень сацыяльна-філёзофскай праблемы. Гэта задача надзвычайна сур'ёзная і адказная, яе ажыцьцяўленьне немагчыма без упартае творчае вучобы, але мы павінны яе ставіць, бо толькі пры такой устаноўцы мы зможам стварыць вялікія палотны, якія-б давалі разгорнуты паказ сацыялістычнага будаўніцтва, зможам стварыць узьнятыя на ступень філёзофскіх абагульненьняў тыпізаваныя вобразы нашае сацыялістычнае рэчаіснасьці.

*ЯНКА ШАРАНХОЎСКІ.*

## Заўвагі да „ЭПІЧНЫХ ФРАГМЭНТАЎ“ АЛЕСЯ ЗАРЫЦКАГА

Пільна і ўважліва прыглядаючыся да першых—часам слабых і бездапаможных да пэўнай ступені—спроб маладога паэта Алеся Зарыцкага, рабілася зразумелым, што ў творчасьці яго адбываецца складаны працэс перамаганьня розных уплываў, што праз гэтае перамаганьне выростае малады паэтычны голас з своеасаблівым тэмбрам і адменнай акцэнтацыяй. Мне вядомы першыя больш-менш самастойныя паэтавы рэчы—і «Песьня пра малако», і «Садоўнік», і першая—забракаваная потым самім паэтам—варыяцыя лірычнае паэмы «Крэйсэр Эмдэн», надрукаваная ў колешнім «Маладняку». Гэтыя рэчы мелі сваёй адзнакай паўтарэньне, эпігонства здабыткаў расійскіх паэтаў эпохі мадэрнізму, пертрансфармаваных на новую тэматыку. Але і ў гэтых рэчах былі паасобныя мясьціны, паасобныя вобразы—

новыя для нашае маладое паэзіі, новыя для Алеся Зарыцкага (маю на ўвазе ўрыўкі з паэмы «Крэйсэр Эмдэн», выдрукаваныя ў гэтай першай кніжцы «Эпічныя фрагмэнты»).

Новае для Зарыцкага складалася з катэгарычнага ачышчэньня свайго паэтычнага слова ад прыўносных ідэёвых і фармальных уплываў, складалася з упартага шуканьня свайго ўласнага паэтычнага стылю (памеру, рыфмы, вобразу-тропу), выпрацоўкі свайго ўласнага ўспрыйманьня рэчаіснасьці, выпрацоўкі свае паэтычнае манэры, нават—«позы». Думаецца, што шмат-якім паэтам не хапае гэтае своеасаблівае «позы», а некаторыя з іх «позу» падмяняюць «пазёрствам», блытаючы гэтыя два дыямэтральна-супроцьлеглыя разуменьні.

Нельга сказаць, што кніжка «Эпічныя фрагмэнты» ёсьць канчатковы вынік творчае работы паэта па ачышчэньні ад уплываў і перайманьняў, канчатковы вынік катэгарычнага станаўленьня «свайго» супраць «чужога». Наадварот—гэтая кніжка сьведчыць аб барацьбе двух супрацьлеглых фармальных плыняў у творчасьці Зарыцкага, і справа крытыкі дапамагчы паэту канчаткова асэнсіць, што зьяўляецца для яго «сваім», а што—«чужым».

Кніжка «Эпічныя фрагмэнты»—ад пачатку да канца ф р а г м э н т а р н а ня толькі па тых канкрэтных фактах і зьявах, якія распрацоўваюцца паэтам, але і па мэтаду гэтае распрацоўкі. Гэтая фрагмэнтарнасьць ёсьць менавіта вынік вось гэтых двух разнародных плыняў—матэрыялістычнага, з аднаго боку, і ідэалістычнага, з другога, успрыйманьня зьяў рэчаіснасьці. Канкрэтныя прыклады, так званых вобразаў-тропаў могуць поўна пацьвердзіць гэты тэзіс.

У паэтычным стылі Зарыцкага вобразы-тропы, з аднаго боку, канкрэтна матэрыяльныя: «прарэзьлівейшы за крык сіваграка крык мэталю» (ст. 71), «барвовае вока бычынае» сонца (ст. 6.) «пацёкі сталёвай крыві» (ст. 16), «фасад аброс барвовай травішчай»—малюнак пажару (ст. 25) і г. д. і г. д. З другога боку зусім іншая катэгорыя вобразаў-тропаў: «падае неабдымная ноч на зорны касьцёр, цёплая і простая, бы каханае імя» (ст. 11), «месяц узыходзіў на зорны касьцёр з рашучасьцю Яна Гуса» (ст. 12), «сухотным румянцам ружаіны заліў маладзік» (ст. 38), «польскіх гарадоў растопленыя выспы» (ст. 54) і г. д.

Калі перайсьці да агульнае характарыстыкі паасобных вершаў-фрагмэнтаў, дык гэтая «стылёвая» раздвоенасьць пераходзіць (дый ня можа не пераходзіць) у раздвоенасьць і тэматычную. Супаставіўшы верш «Дзень індустрыялізацыі» з «Залпам з засады», прыкладам, адразу відаць гэтую розьніцу. У першым выпадку—жывая і канкрэтная постаць «хмурага латыша» Пэтэра Лейшэ:

„Ён словы кладзе,  
*Як гіры на шалі,*  
Ён трыста сэрцаў  
Да апошніх вышынь

Узьнімае адзін
Простым сказам:
— Мы ахвяруем
Пралетарскай дзяржаве
Пяць баявых
ударных
гадзін!" (ст. 6).

У другім выпадку:

„Восень ужо,
Восень ужо,
Коні падаліста
Капытамі грукаюць
Над ёунямі".

Або далей—поўная дысгармонія з матэрыялізаваным вобразам—тропам:

„І на маўклівым сходзе
Цішыні
І вышыні [1])
Апошняе слова
Сказаў
Залп
Партызан".

Ал. Зарыцкі дужа часта сам падсьмейваецца з гэтай раздвоенасьці свайго «стылю».

„У вершы раней быў канчатак такі
(яго я сьцёр):
Пасьля традыцыйных вятроў і
аўтабуса
Лепшай якасьці месяц
Узыходзіць на зорны касьцёр
З рашучасьцю Яна Гуса.
Але год прайшоў,
І сорамна мне за рамантычны
прыпадак,
За Гуса
І іншую гарэзію.
Але год прайшоў.
Вы горш за ката,
— Шаноўная, мадам паэзія! (ст. 12)

Але «шаноўная мадам паэзія» дужа часта пасылае на паэта «рамантычныя прыпадкі». У строгім-бадай лепшым ва ўсёй кніжцы вершы «Чыгунная труна», дзе бярэцца з выключнай паэтычнай сілай канкрэтны эпізод з жыцьця старога і новага ліцейнага заводу, урываецца гэты «рамантычны прыпадак»:

„За Сомай упаў
невядомы жаўнер",
Кроў заліла бразэнт
паходнага ранцу.
Джапарыдзэ забіты.
Валадарскі ў труне
І Блок напісаў „Дванаццаць"

[1]) Дарэчы, „вышыня" тут ня прычым.

— І далей—уводзіцца своеасаблівы «сужэтны масток» пра тое, як «аўтар пачынае смактаць аловак», пра тое, як.

„І просіць у верша
(У голасе трагічны дамешак):
— Паўзходзь
— Хаця чвэртку слова.
— Паўзходзь
— Асьмушку ўсьмешкі".

У выніку выяўляецца, што «верш маўчыць», бо ён—па-праўдзе кажучы—ня можа сумясьціць «разгону мэтафар» (рамантызаваных сродкаў выяўленьня) з строгай выразнасьцю сужэту пахаваньня гарнавога Блішчэцкага, з сухой і сьціплай кампаноўкай гэтага сужэта.

Атаку на «кніжную рамантыку» Зарыцкі робіць і ў іншых вершаў, але гэта ўсё зьяўляецца прыўносным, выпадковым, тэтыя «літаратуразнаўчыя выказваньні» толькі паслабляюць сілу лобавага ўдару вершаў Зарыцкага. І таму, дзе гэтых «рамантычных прыпадкаў» няма, мы маем поўнацэнныя паэтычныя самародкі шуканьняў паэта (я маю на ўвазе выключныя па свайму эпічнаму дыяпазону вершы «Вясна 1929 г.», «Нікапольскае паўстаньне»).

●

Зусім асобнай у кніжцы выглядае нізка лірычных вершаў. «Вечная» тэма—каханьне, за якую браліся і бяруцца паэты розных катэгорый, якая ў літаратуры мае «вялікі стаж», распрацоўваецца ў гэтай нізцы. Была ў беларускай савецкай літаратуры такая «эпоха», калі ў паэзіі панаваў вобраз дзяўчыны ў чырвонай хусьцінцы, які ўвасабляў і «новага чалавека» і адначасова эстэтычныя густы нашых паэтаў. Трэба сказаць, што зьбілі на шаблён, «заэстэтызавалі» гэтую дзяўчыну ў чырвонай хусьцінцы, і яна, на маю думку, стала поплеч з іншым сумна-вядомым «вобразам»—з «сіняй панчошкай». Па-сутнасьці, «чырвоная хусьцінка» зрабілася сынонімам «сіняй панчошкі» праз адсутнасьць мінімальнай арыгінальнасьці ў паасобных паэтаў.

«Вечныя» тэмы браць можна і трэба, але заўсёды трэба помніць, што падыход да гэтых тэм патрэбны новы, адменны ад ранейшых, і тады «вечная» тэма робіцца, па-сутнасьці, новай.

«Лірычная нізка» Алеся Зарыцкага—гэта гімн маладосьці, фізычна-здароваму целу, гімн камсамольскай вясьне. На першы погляд тэрмін «гімн» можа выклікаць усьмешку сваёй напышлівасьцю. Але менавіта гэтае слова больш за ўсе іншыя падыходзіць для характарыстыкі гэтых вершаў: выключная паэтычная напружанасьць адчуваецца ў гэтых вершах, у арыгінальнай тыпізацыі канкрэтнага выпадку з любоўнай «пісулькай» праз паэтычнае арыгінальнае асмысьленьне «існасьці каханьня», як глыбока-прынцыповага і ідэёвага таварышаваньня, сяброўства—

„Сэрца маё
Ад твайго
Блізка б'ецца.
Але ты знаеш

— Няма майго сэрца,
Але я знаю
— Няма твайго сэрца,
А адно
вялікае,
важкае
б'еццa...

— да клясавага асмысленьня таго, што

„Дадзена нам кахаць,
Як 'шчэ нікому.
Але я знаю
— Як збочу,
Ты пойдзеш,
Каб не вярнуцца ніколі,
Бо дадзена нам ненавідзець,
Як 'шчэ нікому,
ніколі".

У гэтай нізцы вершаў Ал. Зарыцкі правільна вызначае той шлях, па якім павінна ісьці распрацоўка, так званых, «вечных» тэм, і робіць у гэтай справе першыя—сакавітыя і пераканаўчыя—спробы.

●

Сваімі заўвагамі да кніжкі «Эпічныя фрагмэнты» я не прэтэндую на крытычны разгляд яе, а выказваю толькі с в а е меркаваньні. Гэтыя заўвагі зроблены для таго, каб паставіць перад нашай крытыкай пытаньне аб неабходнасьці крытычнай і ўважлівай прапрацоўкі творчасьці маладога паэта. Але...

Я. Ліманоўскі ў палеміцы з А. Сянкевічам («Полымя рэвалюцыі» № 1 за 1933 г.) між іншым кажа:

«Па-моймy Зарыцкі, якраз не характэрны, ня тыповы як рабочы паэт. Зарыцкі з дробна-буржуазнай, інтэлігенцкай сям'і, нядаўна паступіў на Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, друкавацца Зарыцкі пачаў ва «Ўзвышшы» і меў, здаецца, нахіл залічыцца ў гэтае аб'яднаньне, але Бабруйская філія БелАПП пасьпяшылася яго залічыць у свой склад. Аднак, у працы бабруйскай філіі БелАПП Зарыцкі, ня гледзячы на патрабаваньне яе кіраўніцтва, бадай што ня прымаў ніякага ўдзелу. Нават у працы літгуртка на дрэваапрацоўчым камбінаце. У гэтым сэнсе Зарыцкага і нельга высоўваць, як тыповага рабочага паэту» (sic!)

Гэтая нясуразная цытата прыгадалася менавіта ў сувязі з гаворкай пра крытыку. Я-б' мог таксама паправіць «гістарычныя факты» і тав. Ліманоўскага, але справа ня ў гэтым. Кожнаму зразумела, што калі рабіць вывад аб «нятыповасьці» таго ці іншага паэта для тае ці іншае катэгорыі літаратурнага стылю, трэба перш за ўсё базавацца на фактах т в о р ч а с ь ц і.

Спадзяюся, што Алеся Зарыцкага будуць крытыкаваць ня мэтадамі Я. Ліманоўскага, а гэтыя заўвагі няхай будуць для паэта тым, што называецца на мове амэрыканцаў—«публісыты».

*БОРЫС МІКУЛІЧ*

**ЮРКА ВІЦЬБІЧ**—***СЬМЕРЦЬ ІРМЫ ЛАЙМІНГ;*** Лім, ДзВБ Менск, 1932, старонак 64, цана 80 кап.

Юрка Віцьбіч пачаў сваю літаратурную працу гады тры, чатыры таму назад. Ён напісаў за гэты час каля двух дзесяткаў апавяданьняў, аповесьць «Лшоно Габоо Бійрушалайм» і інш. Усе яны былі аж дагэтуль параскіданы па розных часопісях і газэтах. Кніжка «Сьмерць Ірмы Лаймінг»—першая аўтарава спроба аб'яднаць свае некаторыя апавяданьні ў адно цэлае. Значная частка твораў Віцьбіча, пераважна творы апошніх год, у гэты зборнік не ўвайшлі—што і трэба мець на ўвазе пры разглядзе першай кніжкі пісьменьніка.

Віцьбіч, як пісьменьнік, стаіць сярод нашых маладых белетрыстаў нейк асобна. Ягоныя творы не пазбаўлены некаторага вонкавага мудрагельства, тэхнічнага штукарства, аднак, стыль іх, часамі ацяжараны, але просты, роўны, крыху узьнёслы, з налётамі здаровай рамантыкі. Гэта выцякае з падыходу аўтара да рэчаў і зьяў, да навакольнага сьвету.

Віцьбіч успрыймае сьвет і жыцьцё, як супярэчлівую і стройную гаму рэчаў і рухаў, гукаў і колераў, чытаючы ягоныя апавяданьні, амаль адчуваеш рэчавасьць прадмету ягоны колер і пах. Асабліва выразна гэта праяўляецца ў жанравых малюнках і ў апісаньнях. Вось, для прыкладу, апісаньне надыходу вясны ў апавяданьні «Вятры заходнія»: «На прадвесьні заліло сонца залатаруннымі ўсьмешкамі пушчу і, размываючы пахучыя ў сакавіку сьняті, вызваляючы з-пад глыбокіх гурбаў безьліч захаваных сьпеваў, забілі гутарлівыя крыніцы. І ўзімку ня ведае пушча цішы, і ўзімку сьпявае штосьці паўсоннае, дрымотнае, а цяпер захліснулася шматмоўная, і тысячы жывых гукаў скваплна цягнуцца ад сугліністай іржавіны зямлі ўгару да сонца, да далёкай нябасіні».

«Страсянулі, абліваючыся смолкай, высачэзныя хвоі да долу навісь, наліліся сокам, выпростваючы гібкія галінкі, бярозы, набухлі пучкамі сінянogія асіны хістаючыся над гліцай, віталі вершалінамі шчырзе сонца, а ля камлёў шапацелі леташнім лісьцем жвавыя, як яшчаркі, цуркі. Зьліваючыся адзін з другім, набіраючыся моцы, яны падхопліваліі ў пуцявіне лісьце, схілялі тонкія пралескі і з хапатлівай гутаркай уцякалі з пушчы, дзе на ўзьлесьсі імкнуўся шалёна па яру струмень».

Ня менш сакавіта і ярка падае пісьменьнік і вонкавыя партрэты людзей.

«На прыступках ганку сядзеў, заціснуўшы паміж кален паядынку, палясоўшчык Нікандра. Зьняўшы кашлатую кучму, выціраў чырвонай насаткай пот з высокага ілба, што нязначна пераходзіў у шырокую лысіну. Не стары яшчэ, а ўжо згарбацілася сьпіна, і ляглі сеткай на твар крывыя, як барозны сахі, зморшчкі».

Вось некалькі, здавалася-б дробных, але надзвычай яркіх рыс, якія асабліва выразна акрэсьліваюць чалавечае аблічча. Ільга было-б

прывесьці яшчэ шмат падобных прыкладаў, дзе Віцьбіч выступае як надзвычайна здольны партрэтыст. Але калі пісьменьнік пераходзіць ад вонкавага апісаньня чалавека да ягонай псыхолёгічнай характарыстыкі, ён зьбіваецца тут на схэматызм, на павярхоўнасьць, вобразы выступаюць бледа, словы герояў гучаць часта наіўна. Асабліва наіўна, па-дзіцячы нейк, гавораць Віцьбічавы герої тады, калі яны закаханы: «—Ганулька! Дзяўчынка мая,—шаптаў Гальяш, і, нібы пачуўшы, Гануля абярнулася тварам да вакна, пільна ўглядаючыся ў цемру пушчы. Ён сьвіснуў некалькі разоў, убачыў, як Гануля хутка ўсхапілася, сказала штосьці Нікандру, і пачуў, як заляскала клямкаю.

Вось яна выйшла на ганак і, спавітая пасьля сьвятла цемрай, ішла да пушчы, працягваючы ўперад рукі.

— Гальяш! Га-а-льяш!—клікала ціхутка.

Гальяш моцна абхапіў трымаціліваe дзявочае цела».

У гэтым урыўку, апрача наіўнасьці, ёсьць, я сказаў,-бы, доля саладкавай сэнтымэнтальнасьці, прычым сэнтымэнтальнасьці, навязанай пісьменьнікам сваім героям, бо ў сапраўднасьці яны вельмі цьвярозыя, разважлівыя людзі.

Дзе прычына такога паказу людзей? Нельга сказаць, каб пісьменьнік ня ведаў людзкой псыхалёгіі. У Віцьбічавых апавяданьнях вельмі шмат трапных і глыбокіх характарыстык, шмат такіх месц, дзе чалавечая радасьць і гора раскрываюцца ва ўсёй іхняй паўнаце.

«Пад мяжджэлінай ляжала паўголая Ганулька. У грудзях была глыбокая рана штыхом, другая ў воку, і кішэлі ў ёй, поўзаючы мухі. Гальяш сагнаў мух, паправіў сукенку, чамусьці некалькі разоў абышоў вакол трупа, потым прысеў на корч і раптам услых завыў. Завыў, як вые воўк з раздробленай куляю нагой, бачачы, як далёка пушча з яе дзікай воляй, і як ўсё бліжэй і бліжэй падходзіць паляўнічы. Вочы былі сухія, і ён выў штосьці аднастайнае, бяз слоў, і зьнянацку рынуўся на труп».

У гэтым урыўку няма нічога ад ранейшай саладкавай сэнтымэнтальнасьці Гальляша, ягонае гора паказана рэалістычна і таму глыбока і пераканальна.

Дзе-ж усё-ж такі прычыны таго, што Віцьбіч зьбіваецца на схэму, на сэнтымэнтальную рамантычнасьць? Асноўная прычына ў тым, што пісьменьнік разрывае ўнутраную лёгіку ў разьвіцьці сваіх герояў, вырывае іх з іхняй канкрэтнай практыкі і навязвае ім свае суб'ектывістычныя, часта сэнтымэнтальныя, дачыненьні да сьвету. Вось як, напрыклад, Віцьбіч малюе рэвалюцыйную дзейнасьць Гальляша ў апавяданьні «Вятры заходнія»:

«І гуляў з хлапцамі па шляхох і па тасьцінцах рослы, чорнабровы Гальяш.

Уначы загарваўся небасхіл зарывам. Кідалася ў той бок паліцыя і, прыяжджаючы, бачыла толькі, як дагарвае будоўля маёнтку, з ємардаванымі трупамі гаспадароў на дзядзінцы, а ў гэты-ж момант зарыва гойсала ў другім баку небасхілу і ахрыпла гвалтавалі недабачлівыя званіцы».

Пісьменьнік амаль не паказвае дзейнасьці Гальляша, а толькі апавядае пра яе ў агульных словах. Адрываючы, такім чынам, сваіх герояў ад непасрэднай іх практыкі. Віцьбіч навязвае ім часта выдуманую нейкую рамантычнасьць і сэнтымэнтальнасьць.

Я спыніўся, галоўным чынам, на апавяданьні «Вятры заходнія» таму, што яно зьяўляецца ў зборніку (і наогул у творчасьці Віцьбіча) як-бы граніцаю паміж першымі вучнёўскімі спробамі («Жаўнер Юрка Загар», «Як загінуў Ясь», «Янак Гай» «Гад», «Крыж» (Габрэня Каўкі) і творамі ўжо досыць спрактыкаванага майстра («Сьмерць Ірмы Лаймінг»—у зборніку, і іншыя творы пісьменьніка за апошнія гады). Пачынаючы з гэтага апавяданьня, Юрка Віцьбіч ужо значна перамагае схэматызм і рамантызм у сваіх творах і дае ўжо больш поўнакроўныя вобразы людзей. Гэта можна нават сказаць пра апавяданьні «Сьмерць Ірмы Лаймінг», дзе пісьменьнік ужо не апісвае, а больш паказвае чалавека, паказвае яго ў ягонай практыцы, а таму вобраз выходзіць больш поўны і жывы.

Як станоўчы момант апавяданьняў Віцьбіча, трэба адзначыць іх сацыяльную завостранасьць, клясавую насычанасьць. У сваіх апавяданьнях Віцьбіч малюе цяжкае падняволнае жыцьцё працоўных у мінулым («Янак Гай»), жахлівае становішча і змаганьне іх за сваё вызваленьне ў Заходняй Беларусі («Жаўнер Юрка Загар») «Крыж Габрэля Каўкі», «Вятры Заходнія»), клясавае змаганьне і шкодніцтва рэштак капіталістычных кляс у нашай краіне, з аднаго боку, і рост у гэтым змаганьні і будаўніцтва новага чалавека («Гад», «Сьмерць Ірмы Лайміт»).

У пачатку мы былі ўжо адзначылі, што стыль Віцьбічавых апавяданьняў просты, роўны, крыху ўзьнёслы, з налётамі здаровай рамантыкі (гэта ў сэнсе мэтафарычнасьці). Аднак, нейкая штучная пабудова сказаў (у сынтаксычным сэнсе) занадта ацяжарвае часта мову пісьменьніка, больш таго, прыводзіць часамі да бязсэнсіцы:

«Завыў як вые воўк з раздробленай куляю нагой»...

(Што чым «раздроблена»?); «тонкія пальцы дзяўчыны, трымаючы картку, выразна ўздрыгвалі і востра гвалтавалі хвалянаваньнем думкі» (пальцы гвалтавалі думкі?); «яны даюць веры шчырасьці маёй працы ў культкамісіі» (чаму даюць веры—шчырасьці, ці працы?); «Ірма адмсвілася ехаць з абшарпанымі грэблямі фурманамі і рашыла пайсьці пехатою».

Аўтар, відаць дрэнна ведае жывую мову і таму ўжывае часта словы ня ў іх значэньні: «дагары»—у сэнсе «угару»; «зьнянацку»—у сэнсе «раптоўна», «жывыя парканы сквэру»—у сэнсе «жывая агарожа сквэру», «кархі»—у сэнсе «кулакі».

Шмат таксама русізмаў і слоў небеларускай формы: саланеесаланей, вынуўшы-выняўшы, раскачваецца-калышацца, саскачыўсаскочыў, адкатваў-адкачваў-адвозіў, катацца-качацца па зямлі) дапамагіце-дапамажэце, заламіла-заламала, падайшла-падыйшла,

захапліваючы-захопліваючы, ізьвілістая-вітая, прачла-прачытала, бяжала-бегла, была-было, што-б (хто небудзь ня ўбачыў)-каб (хто небудзь ня ўбачыў), на сьцянах-на сьценах, на вушох-на вушах, (ня ведаючы) зачым-(ня ведаючы) чаго, дзяўчын-дзяўчат, сахарамі-сахарамі, на вярху-на версе, дарослыя чалавекі-дарослыя мужчыны, пойдзем за калёсамі-пойдзем па калёсы.

Як відаць з гэтых прыкладаў, шмат якія словы гучаць навывагат таму, што аўтар ставіць іх ня ў тым склоне, у якім трэба. Віцьбіч, напрыклад, ужывае часта прыназоўнік «па» з давальным склонам («па шклу»), тымчасам як у беларускай мове ён ужываецца амаль толькі з месным (па шкле). Таксама пісьменьнік часта ўжывае не ўласьцівыя беларускай мове дзеепрыметнікі («закінуўшаяся галава», «уцякаючыя ўзад палеткі»), а яшчэ часьцей замяняе іх дзеясловамі з дапаможнікамі, «як». Гэта ўсё страшна перагружае стылістыку, робіць яе штучнаю, і Віцьбічу на чыстату мовы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

У заключэньне трэба сказаць, што зборнік апавяданьняў «Сьмерць Ірмы Лайнінг» пры ўсіх яго недахопах паказвае нам Віцьбіча, як таленавітага мастака і досыць спрактыкаванага майстра. Гэта кніжка знойдзе сабе чытача і, трэба спадзявацца, знойдзе таксама і водклік нашай крытыкі, бо апавяданьні, бязумоўна, заслугоўваюць самага шырокага і глыбокага разгляду.

*П. Г.*

## ПА РЭСПУБЛІКАХ САЮЗУ

### БАШКІРСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Да Кастрычніка башкірскай мастацкай літаратуры не існавала. Былі паэты і пісьменьнікі з башкір, але пісалі яны не башкірскаю мовою, а так званым чагайскім дыялектам, якім пісалі пісьменьнікі розных усходніх нацый.

У час валідаўшчыны (1917—1919) фармавалася і ўмацоўвалася, контррэвалюцыйная нацыяналістычная мастацкая літаратура на чале з паэтамі Шайх-Задэ, Бабічам, Х. Габітавым, М. Тагіравым, Ф. Суляйманавым і інш. Быў створан гурток моладзі пад назваю «Тулкін».

Раней праявы літаратурнага жыцьця ў Башкірстане былі эпізадычныя. У другой палове XIX стагодзьдзя быў вядомым Ак-Мула, які пісаў супроць мулаў. Пасьля 1905 г., калі зьявілася башкірская нацыяналістычная інтэлігенцыя, пачынаецца зьбіраньне песень і, наогул этнаграфічная праца. У гэтай галіне вызначаецца башкір Бабут. Былі папулярныя апавяданьні Суляйманава (на татарскай мове). Сярод валідаўцаў папулярны быў Хабібула Кабісаў. Арганізованая габідаўцамі літаратурная група «Тулкін» (Хваля) была першым літаратурным аб'яднаньнем. Гэта аднача-сова быў і агітпроп Валідава. Выдадзена два зборнікі паэзіі пад лёзунгам «Башкірыя для башкір». У гэтым зборніку вялося актыўнае змаганьне супроць расійцаў і татар. У зборніках паэзіі Бабіча і Х. Габітава Чырвоная армія называецца «Чырвонаю нечысьцю». Не абышлося і без ганебных выпадаў (Хабібулы Габітава) супроць Леніна, як правадыра сусьветнай рэвалюцыі. Вершы Бабіча «Зялёныя песьні», як сьведчыць сама назва, былі сапраўды сьцягам ісламізму і зьмяшчалі малітвы для башкірскага войска. Адпаведныя колы дбалі пра тое, каб падобная творчасьць была «народнымі» песьнямі.

Пасьля пераходу башкірскага войска на бок савецкай улады, у лютым 1919 г., некаторы час ня было савецкіх пісьменьнікаў: усе сілы былі кінуты ў Чырвоную армію і на партыйна-савецкую работу. Але да пачатку 1920 г. ужо выяўляюцца новыя паэты: Юлтыяў, Якабі Пухват (Калімуліж), пазьней Амантаяў, Ушамгулаў. Яны паявілі змаганьне супроць нацыяналістаў, супроць рэлігіі, за новае жыцьцё. Але яны запазычылі ад старых дарэвалюцыйных паэтаў за-

старэлую вершаваную форму і лексыку. Разам з тым пранікалі ў іхную творчасьць і розныя варожыя рэвалюцыі ўплывы, але гэтыя новыя пісьменьнікі шчыра служылі рэвалюцыі, і ад іх бярэ свой пачатак новая башкірская літаратура—савецкая.

Такім чынам літаратура на башкірскай мове ўзьнікла толькі ў Савецкім Башкірстане. У савецкай башкірскай літаратуры вызначыўся пралетарскі авангард, што загартоўваўся ў змаганьні на два фронты за генэральную лінію партыі: супроць вялікадзяржаўніцтва і мясцовага нацыяналізму.

Досыць маладая башкірская літаратура прайшла некалькі этапаў свайго разьвіцьця: першапачатковае згрупаваньне башкірскіх рэвалюцыйных літаратурных сіл і змаганьне іх супроць буржуазна-нацыяналістычных тэндэнцый пісьменьнікаў-валідаўцаў; далейшае разьвіцьцё башкірскай літаратуры на грунце змаганьня за адбудаваньне народнай гаспадаркі і ў першую чаргу яе сацыялістычнага сэктару; далейшая дыфэрэнцыяцыя башкірскай літаратуры ў рэканструкцыйны час і змаганьне за сацыялістычнае будаўніцтва ў пэрыяд уступленьня краіны ў сацыялізм.

Валідаўская група пісьменьнікаў на савецкім грунце паволі загнівала, захапляючыся містыкаю. У час голаду яна выкарыстоўвала цяжкасьці працоўных мас, нацкоўваючы іх на бальшавікоў і тлумачачы голад, як кару Алаха за грахі башкір-няверніка, што перайшлі да бальшавікоў (тут асабліва былі актыўныя В. Мірзанаў, Х. Габітаў, Айдзі).

У пачатку НЭП'у варожыя клясавыя сілы на літаратурным фронце яшчэ больш актывізаваліся, пачалі браць удзел у пэрыядычным друку, намагаючыся выкарыстаць лёзунг адбудовы народнай гаспадаркі ў кірунку адбудовы капіталізму і прыватнай уласнасьці. Рэвалюцыйныя пісьменьнікі заклікалі да адбудовы народнай гаспадаркі, усхваляючы сацыялістычную працу. Але трэба адзначыць, што ад рэволюцыйнай крытыкі нацыяналісты ў той час ня мелі належнага адпору. Праз гэта і наогул праз слабасьць рэвалюцыйных сіл на літаратурным фронце нацыяналістам пашэнціла ў канцы 1924 г. арганізаваць башкірскую моладзь у літаратурны гурток. Гэта была спроба ўваскросіць даўно памёршую літ-арганізацыю «Тулкін». Гэтая арганізацыя не магла доўга існаваць і, выдаўшы тры нумары рукапіснае часопісі «Кзыл Калям», разваліласяа. Пасьля распаду нацыяналістычнага гуртка пачалі ўтварацца дробныя гурткі ў сярэдніх школах і па клюбах. Гэты рух даў новыя кадры літаратуры, што пераважна прыйшлі з вёскі. Тут мы маем такіх пісьменьнікаў, як: В. Валідаў, Р. Нігмаці, І. Зайні, Т. Суляйманаў, Губай Даўлетшын, С. Апшаў і шэраг іншых.

У 1927 г. зроблен пачатак літаратурнай арганізацыі краявога маштабу, якая ў 1928 г. ператварылася ў Башкірстанскую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў («БАПП»). У гэты час зьяўляюцца новыя пісьменьнікі і паэты з батрацтва, серадняцтва і рабочых,

напрыклад: Кулібаяў, Аблайскі, Таджыдзінаў, Хасанаў Б., Ш. Марат, Бікбоў, Бікбаеў, Х. Даўлетшчына, Зубаірава і інш. Увайшлі ў башкірскую літаратуру і старыя бальшавікі: Афзал Тагіраў (бэлетрыст). Х. Навумаў (крытык), Ш. Шаградзінаў і багата іншых.

Ханаф Навумаў гаворыць пра творы Тагірава, як пра творы пралетарскія. Гістарычны твор «Ямэльке Тавэ» (гора Ямелькі) напісаны на аснове гістарычных дакумантаў. Тут паказан удзел башкір і татар, асабліва рабочых, у пугачоўшчыне, а таксама крыніцы самой пугачоўскай рэвалюцыі. Гэта—безьзямельле, палітычнае і эканамічнае нявольніцтва, голад, зыяўленьне «часовага» пралетарыяту, што зімою працуе на заводах, а летам вяртаецца ў вёску. Частка застаецца на заводах зусім. Гэта ўжо першыя кадры сапраўднага пралетарыяту. Тагіраў дае вобразы рабочых: Карбан-Бабай, Ватыр-Мінгаліяў—маюць ужо па дваццаць год сэзоннай заводзкай працы. Паказана эксплёатацыя на заводзе і зародак рабочага руху. Рабочая забастоўка пераходзіць у бунт: башкірскія рабочыя радасна сустракаюць Пугачова.

Апавяданьні Афзалы Тагірава («Этрэк-Элемкэр», напр.)—гэта малюнкі бесчалавечнай эксплёатацыі і клясавага змаганьня рабочых і сялян у час імпэрыялістычнай вайны. Асабліва яскрава адлюстраваны моманты разбурэньня сялянства і яго расшластаваньня ў выніку капіталістычнага разьвіцьця. А. Тагіраў стварыў цэлы шэраг вобразаў сэзонных рабочых, што зімою працуюць на заводах, а ўлетку на пана. Працэс пралетарызацыі сялянства ў выніку разьвіцьця капіталізму, роля духавенства, як слуг эксплёататараў рэальныя малюнкі клясавага змаганьня. Афзал Тагіраў піша лёгкаю моваю, сьцісла і пластычна. У Тагірава ёсьць творы пра камсамол і зрухі на вёсцы (новая аповесьць «Хлебная фабрыка»).

Параўноўваючы творчасьць Афзалы Тагірава з творчасьцю татарскага пісьменьніка Г. Ібрагімава, крытык Ханаф Навумаў робіць такія высновы: «Багата тыпаў, Ібрагімава рэлігійныя, а тыпы Тагірава—антырэлігійныя. Мастацкія творы Тагірава—гэта зброя антырэлігійнай прапаганды. Гэта асабліва важна таму, што, прыкладна, буржуазная татарская літаратура на 99 проц. пранізана рэлігійнаю ідэалёгіяй».

БАПП за час свайго існаваньня аб'яднала пралетарскіх пісьменьнікаў усіх нацыянальнасьцяй Башкірстану навокал аднаго цэнтру пралетарскага літаратурнага руху. Яна праводзіла змаганьне на два фронты. Па-першае, давялося змагацца супроць дробна-буржуазнага анархічнага выступленьня літаратурнай арганізацыі «Усу», якою кіравалі Г. Хайры і В. Валідаў. «Усу» называла сябе «левым» крылом пралетарскага літаратурнага руху. Практыка іхняй падпольнай работы паказала цалкам процілеглае: яны ішлі супроць генэральнай лініі партыі, супроць партыйнага кіраўніцтва. Паказала, што Г. Хайры і В. Валідаў і шэраг маладых пісьменьнікаў выступалі супроць старых пісьменьнікаў-бальшавікоў, загартованых у баёх. Ім

быў дадзены належны адпор з боку праўленьня і пераважнай большасьці членаў БАПП.

У 1930 г. БАПП'у давялося мець справу з падпольнаю літаратурнай арганізацыяй «Дгідзігані», якая была прытулкам сынкоў татарскай і башкірскай буржуазіі і мулаў. З контррэвалюцыйнаю мэтаю была створана літгрупа «Дзігран» («Сем зорак» або «Вялікі воз»). Асноўнай мэтай гэтай арганізацыі было працягнуць сваю контррэвалюцыйную літаратурную прадукцыю ў савецкую прэсу, заваяваць у ёй манаполію шляхам узаемнага падтрыманьня як у татарскай, так і ў башкірскай прэсе. Апрача таго яны дбалі, каб іхныя драматычныя творы ставіліся ў тэатрах абодвых рэспублік. З 1928 г. яны дасягнулі ў гэтым немалых посьпехаў, бо мелі ўплыў у некаторых часопісах Башкірстану і Татарстану. Яны нацкалі на пралетарскіх пісьменьнікаў і як мага не давалі ім магчымасьці друкавацца, тымчасам як самі друкаваліся скрозь без перашкод. Супольным змаганьнем БАПП'у і ТАПП'у пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый абедзьвюх рэспублік «Дгідзіган» быў выкрыты перад працоўнымі масамі і разьбіты.

Башкірская літаратура яшчэ ня мае сваіх цалкам падрыхтаваных з шырокім марксыцкім сьветапоглядам крытыкаў, але ёсьць некалькі імён, што працуюць у гэтай галіне: Ханаф Навумаў, М. Юсупаў, Г. Гузаіраў, Д. Юлтыяў, Г. Шагрэдзінаў і інш. Большасьць з іх— татары. Але гэтыя крытыкі не праводзяць сыстэматычнай літаратурна-крытычнай працы, апрача Гузаірава і Шагрэдзінава. Вось чаму значная колькасьць башкірскіх пісьменьнікаў яшчэ ня мела належнай ацэнкі ад пралетарскай крытыкі.

У асяродзьдзі БАПП'у была пэўная дыфэрэнцыяцыя. Малады паэт, член савету РАПП, Хайры і Батор Валідаў, былі ў літаратуры носьбітамі не пралетарскай ідэалёгіі утварылі ўпадніцкую плынь з матывамі, самагубства, напрыклад у Б. Валідава, што выяўляла ясенінскі уплыў (твор «Уфа» накшталт «Масквы кабацкай» Ясеніна). Хайры «усlавіўся» парнаграфічнымі матывамі. Да таго-ж яны былі яшчэ носьбітамі трацкісцкіх ідэй, мелі аднадумцаў, што былі аб'яднаны ў групу, якая зьбірала нелегальныя сходы і праводзіла змаганьне супроць кіраўніцтва БАПП'у.

Цяперашняе літаратурнае жыцьцё Башкірстану ўвайшло ў новае рэчышча, вызначанае пастановаю ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка гэтага году.

## НАД ЧЫМ ПРАЦУЮЦЬ УКРАІНСКІЯ ДРАМАТУРГІ

Пісьменьнік Мікола Хвылёвы закончыў п'есу «Таварыш Старк». П'еса будзе абмяркована гэтымі днямі на паседжаньні драмсэктару.

Драматург Якаў Мамантаў перарабіў камэдыю Івана Табылевіча «Мартын Баруля», якая мае ісьці ў тэатры імя М. Занька-

вецкай. Ён таксама здаў у вышэйшы рэпэртуарны камітэт Наркам асьветы спэцыяльную бытавую камэдыю з трох разьдзелаў «Сама вар». П'еса трактуе тэму сацыялістычнага гораду і змаганьня з ста рым бытам.

Кіеўскі дзіцячы пісьменьнік Юр. Будзяк закончыў дзіцячук п'есу «Абордаж», напісаную па ўмове з Усеукомдрам'ам.

Пісьменьнік Валадымір Гжыцкі закончыў гістарычнук песу з пяці актаў «Опрышкі» з падзей у Галіччыне ў 1743 годзе У аснову п'есы пакладзены гістарычныя падзеі з часоў паўстанскага руху «опрышкаў» на Заходняй Украіне, што набыў асабліва яскравы характар, скіраваны супроць паноў і багацеяў пад кіраўніцтвам вядо мага правадыра «опрышкаў» Доўбуша Алексы. Як вядома, гэты ру: і, у паасобку, фігура Доўбуша знайшлі адпаведнае адлюстраваньне ў шэрагу літаратурных і мастацкіх твораў. Яшчэ Іван Франко пры сьвяціў гэтай тэме адну з першых сваіх аповесьцей «Пётры і Даў бушчыкі»; ёсьць драма на гэту тэму ў вядомага ўкраінскага драма турга Міхайлы Старыцкага; пісаў вершы пра «опрышкаў» буковінск пісьменьнік Осіп Фядковіч, оперу даў заходня-украінскі кампазытар Варабкевіч. Таксама шэраг мастакоў адлюстравалі ў сваіх творах фігуру Доўбуша. Апошнім часам вядомы мастак Ф. Крычэўскі выста віў на Усеўкраінскай мастацкай выстаўцы, прысьвечанай XV-годзь дзю Кастрычніка, вялікае палатно «Доўбуш»—сцэну расправы Доў буша над панамі.

Кінодраматург Васіль Радыш напісаў гукавы сцэнар «Пляцдарм» паводле п'есы М. Ірчана тэй-жа назвы. Усеўкомдра гэты сцэнары прыняў да распаўсюджаньня. Сцэнары прысьвеча пацыфікацыі польскімі фашыстамі Заходняй Украіны і належаць д твораў абароннага характару на тэмы рэвалюцыйнага руху за кар донам.

Драматург Аляксандр Карнійчук, які працуе цяпер Адэсе намесьнікам дырэктара Адэскай кінофабрыкі Ўкраінфільму працуе над п'есаю з часоў грамадзянскай вайны пад назваю «Пагі бель эскадры». П'еса прысьвечана гістарычным падзеям зьнішчэньня эскадры на Чорным моры ў час інтэрвэнцыі немцаў на Украіне.

Усеўкомдрам вядзе перагаворы з Кіеўскім тэатрам імя Франко аб пастаноўцы новай п'есы драматурга Якава Гарадзкота «Раён» напісанай на матар'ялах змаганьня за бавоўну ў сацыялістычным сэктары ўкраінскай вёскі.

П'есу-рэўю для Харкаўскага чырвонаармейскага тэатру пісьмень нікаў Васіля Чэчвянскага і Юхіма Гедзя пад назваю «Ёсьць, таварыш камандзір» прэзыдыум усеукомдраму, на падставе дадатных ацэнак прэсы і адказных работнікаў тэатру, вырашыў прэміяваць на суму 1500 рублёў.

Гак Анатоль працуе над камэдыяй «Мабілізованае племя» у трох дзеях і дзевяці карцінах для рабоча-калгасных тэатраў. Тэма—

унутры-калгасная барацьба і ўдзел у ёй заводзкай камсамольскай брыгады. Дзея адбываецца ўлетку, у час малацьбы. Дзейных асоб дваццаць. П'еса будзе гатова да першага мая 1933 году.

## ХАРКАЎСКІ ТЭАТР РЭВАЛЮЦЫІ

Год таму назад у Харкаве па ініцыятыве працоўных сталіцы, адпаведных дзяржаўных органаў і мастацка-літаратурных кадраў, што моцна зьвязаны з барацьбою за разьвіцьцё тэатральнай і драматургічнай савецкай культуры, быў заснован Сталічны Тэатр Рэвалюцыі. Ужо рэпэртуар першага сэзону паказаў, што Тэатр Рэвалюцыі ня толькі дэкляруе свае палажэньні, але і намагаецца іх зьдзейсьніць. Пасьля першай п'есы—«Справа тонару» Івана Мікітэнкі,—якую тэатр пачаў сваю чыннасьць, ён далей умацоўваў сувязь з пралетарскімі пісьменьнікамі, будуючы рэпэртуар на іхняй прадукцыі: «Страх»—Афінагенава, «Зямля парыць»—Аркадзя Любчынкі, «Жалезная брыгада»—Я. Гарадзкога. «Эта»—Лявітынай.

Тэатр пазбыўся некаторых акторскіх кадраў, што не змаглі перамагчы цяжкасьцяй і выйшлі з яго. У гэтым годзе тэатр папоўніўся маладымі сіламі.

У тэатры трэйцюю пастаноўку афармляе заслужаны мастак Рэспублікі—Анатолі Петрыцкі, работа якога спрыяе разьвіцьцю тэатру. У гэтым годзе тэатр запрасіў для афармленьня адной пастаноўкі вядомага мастака Б. Эрдмана.

Рэпэртуар тэатру ў гэтым годзе таксама ідзе па лініі мастацкага падвышэньня. Тэатр даў як адну з сваіх праграмных пастановак новую п'есу Івана Мікітэнкі «Дзяўчата нашай краіны», далей ідзе— п'еса Ўсевалада Вішнеўскага «На Захадзе бой», клясычны рэпэртуар—Шэксьпір, Франко—«Жандар» («Украдзенае шчасьце») у апрацоўцы Івана Кулька. У гэтым другім годзе перад Тэатрам Рэвалюцыі вырысоўваюцца ясныя выразныя пэрспэктывы. Гэта— пэрспэктывы росту, і для гэтага ёсьць усе ўмовы.

## ЗА МЕЖАМІ

### КРЫЗІС БУРЖУАЗНЫХ ТЭАТРАЎ

Крызіс як грозная навала ходзіць па краінах капіталу. Пад ягонай жалезнай пятою трашчаць ня толькі прадпрыемствы, ня толькі банкі, але і розныя культурныя і літаратурна-мастацкія ўстановы. Асабліва жорстка здушыў крызіс у сваіх абдымках буржуазныя тэатры. У мінулым нумары нашай часопісі мы падавалі цэлы шэраг фактаў, якія надзвычайн, выразна говарць пра распад буржуазных тэатраў у Нямеччыне. Падобнае зьявішча наглядаецца і ў іншых краінах.

Вядомы амэрыканскі буржуазны мастацтвазнаўца Джазэф Вуд Крутч апублікаваў артыкул пра заняпад амэрыканскага тэатру. У гэтым артыкуле Крутч зазначае, што з 70 нью-ёрскіх тэатраў у мінулым летнім сэзоне працавала толькі шэсьць-сем; усе астатнія тэатры былі зачынены. Больш таго, нават у самы разгар зімовага тэатральнага сэзону звыш трыццаці тэатраў альбо не працавалі зусім, альбо здавалі свае памяшканьні пад кіно.

Зразумела, што заняпад тэатральнай справы палажыў свой адбітак і на рэпэртуар тэатраў. Каб угадзіць устрывожанаму крызісам буржуа, тэатры ставяць самыя «лёгкія» вясёлыя рэчы, як мага падрабляюцца пад самыя нізкія густы абывателя. Аднак і гэта не дапамагае—гледач у тэатр ня ходзіць. З 150 новых пастановак мінулага году, паводле слоў Крутча, 120 былі цалкам праваленыя, астатнія трыццаць таксама, апрача страты пастаноўшчыкам, нічога не далі.

«Тэатральная справа Нью-Ёрку,—гаворыць Крутч,—прышла амаль да поўнага заняпаду. Калі ў гэтым самым ў самы бліжэйшы час не адбудзецца якіх-кольвек зьмен, дык шмат якія тэатры будуць зачынены, шмат якім акторам са значнай рэпутацыяй давядзецца шукаць новых прафэсій, і Брадвэй пакіне зьдзіўляць эўрапэйскіх наведвальнікаў размахам сваёй тэатральнае справы... Урэшце ўсё гэта зводзіцца да наступнага: нью-ёркскі тэатр хварэе ў значнай ступені тэю-ж хваробаю, што і ўсе амэрыканскія камэрцыйныя прадпрыемствы, і прычыны гэтай хваробы ў агульным аднолькавыя, калі толькі ня браць пад увагу, што тэатральная справа заўсёды была больш рызыкоўная і няўстойлівая, ніж якая-небудзь іншая... Зімою 1930 году, калі ўсе прафэсыйныя аптымісты расцэньвалі кожную новую хвалю дэпрэсыі як спрыяльны прыпынак у пераможнай хадзе

«праспэрыці»,. хтосьці разумна заўважыў: «Яшчэ адна такая парагоўная рэакцыя, і пацыэнт сканае». Нешта падобнае прыходзіць мне ў галаву ў сувязі з тэатрам, ён стане лепшы, калі яму пашэньціць стаць на ногі. Але яшчэ невядома, ці пашэньціць яму гэта зрабіць».

Такія сумныя і хісткія высновы вымушаны зрабіць буржуазны мастацтваэнаўца аб пэрспэктывах амэрыканскіх тэатраў. Зразумела, што буржуазнаму тэатру стаць на ногі ніколі ўжо больш ня ўдасца. Гэта здолее зрабіць толькі тэатр рэвалюцыйны, тэатр шырокіх працоўных мас, які будзе клікаць іх на змаганьне супроць буржуазнага ладу. Вось чаму буржуазны друк і цэнзура гэтак жорстка змагаюцца і зьнішчаюць у самым пачатку ўсялякую спробу таго ці іншага тэатру перайсьці да рэвалюцыйнай тэматыкі. У гэтым сэнсе вельмі паказальныя тыя падзеі, якія адбыліся з прычыны пастаноўкі ў Львоўскім тэатры п'есы Сяргея Трэцьцякова «Рычи, Китай».

Як вядома, амаль усе тэатры ў Польшчы альбо знаходзяцца ў непасрэднай залежнасьці ад ураду ці гарадзкога самакіраўніцтва, альбо належаць прыватным асобам. Зразумела адгэтуль, што ўсе яны пільна стаяць на варце клясавых інтарэсаў буржуазіі, выконваюць яе сацыяльны заказ. Сапраўдныя-ж рабочыя тэатры ня маюць ніякай магчымасьці разьвінуць сваю чыннасьць, бо кожную іх спробу загаварыць з сваім гледачом пралетарскім словам цэнзура зьнішчае нашчэнт.

Аднак і сярод тэатральных дзеячоў ёсьць работнікі, якія імкнуцца каб хоць крыху зьвязацца з пралетарскім гледачом. Такім зьяўляецца польскі рэжысэр Леў Шыльлер. Ня гледзячы на шалёнае цкаваньне яго з боку буржуазнага друку і буржуазных тэатралаў, Леў Шыльлер вандруе па розных гарадох і спрабуе з буржуазных падмосткаў гаварыць з працоўнымі масамі іх-жа моваю.

У мінулым годзе Шыльлер паставіў у Львове п'есу Трэцьцякова «Рычи, Китай». Рабочая частка гледачоў вітала кожную сцэну гэтай пастаноўкі грамовымі воплескамі. Буржуазны друк перапалохаўся, супроць Шыльлера пачаўся новы паход. Не памагло і тое, што цэнзура зрэзала тэкст і што на генэральнай рэпэтыцыі прысутнічалі дзень і ноч шэсьць сот чыноўнікаў адпаведных установ; не памагло і тое, што пачынаючы з другога спэктаклю, было забаронена прадаваць танныя білеты. Пасьля чацьвертага паказу п'еса была забаронена.

Агнём і мячом змагаецца буржуазія з парасткамі рэвалюцыйнага тэатру, аднак яны прабіваюцца і растуць, тым-часам як буржуазны тэатр гіне і распадаецца разам з усёю буржуазнаю культураю.

## „ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ІДЗЕ ДА НАС“

Пад такім загалоўкам часопісь «Інтэрнацыянальная літаратура» (орган міжнароднага аб'яднаньня рэвалюцыйных, пісьменьнікаў) друкуе шэраг фактаў і дакумэнтаў, якія сьведчаць пра вялікі зрух у

шэрагах амэрыканскай інтэлігенцыі ў кірунку набліжэньня яе да камуністычнага руху.

«Вялізарны зрух амэрыканскіх пісьменьнікаў і наогул інтэлігенцыі ўлева,—піша часопісь,—зьяўляе асаблівую палітычную цікавасьць тым, што ўпяршыню ў Амэрыцы на старану камуністычнага руху перайшлі многія перадавыя інтэлігенты—нэгры. Зрух гэты адбыўся нядаўна, на працягу апошніх месяцаў. Ён зьявіўся вынікам новага ўздыму, што ахапіў чатырнаццаці-мільённую масу нэгрыцянскіх рабочых. Кампартыя Амэрыкі афарміла гэты зрух, павёўшы за сабою выдатных выдаўцоў, журналістаў, прафэсароў і пісьменьнікаў».

Часопісь «Інтэрнацыянальная літаратура» у доказ гэтага прыводзіць факты пра рэвалюцыйную працу, у прыватнасьці, пра удзел у апошняй перадвыбарнай кампаніі кампартыі цэлага шэрагу інтэлігентаў—нэграў, напрыклад, бастонскага нэгрыцянскага літаратара Юджына Гардона, паэта Каунці Кульлена і вядомага паэта Лэнгстона Хьюза.

Далей часопісь «Інтэрнацыянальная літаратура» падае яшчэ цэлы шэраг цікавых фактаў, якія сьведчаць аб тым-жа паляваньні значнай часткі інтэлігенцыі ў Амэрыцы.

«Нядаўна ў Нью-Ёрку,—піша часопісь,—адбылося ў адзін вечар два сходы, што прадэманстравалі палявеньне амэрыканскай інтэлігенцыі ў цэлым. Каля 200 тысяч прафэсыйных мастакоў, пісьменьнікаў і вучоных сабралася для адкрытага падтрыманьня камуністычных кандыдатаў на гэтых выбарах. Чарльз Рамфорд Уокер, былы рэдактар «Атлантык мантсьлі», пісьменьнік і драматург, старшыняваў на адным з гэтых сходаў, а Сыднэй Хук, прафэсар Нью-Ёркскага ўнівэрсытэту—на другім.

«Абодва сходы былі наладжаны «Незалежным камітэтам» Фостэра і Форда сумесна з Лігай прафэсыянальных груп.

«У ліку аратараў былі: Малькольм Каулі, Мэт'ю Джозэфсон, Дусон Хэрман, Майкл Голд і прафэсар Скотт Нірынг.

«Малькольм Каулі, літаратурны рэдактар «Нью Рыпаблік» расказаў, чаму ён стаў на рэвалюцыйную пазыцыю: «Мяне пераканала на дэпрэсыя,—сказаў Каулі,—а біржавая сумятня. Я бачыў сваіх таварышоў, што пісалі ходкую халтуру, атупелых, распусных і няздольных па сапраўднаму выкарыстаць свае таленты. І я зразумеў, што гэты стан рэчаў абумоўлен самою прыродаю вяршэнскай клясы, што жыве эксплёатацыяй іншых».

«Джон Хэрман (дарэчы, нядаўна ён атрымаў прэмію на конкурсе апавяданьня, што праводзіла часопісь «Скрыбнэро Мэгэзын») толькі што вярнуўся з раёнаў Мідль-вэст, дзе цяпер забастоўка, і апавядаў пра тое, што ён бачыў на фэрмах:

«Адзінае, што зрабіла на мяне такое-ж моцнае ўражаньне, як гэтыя фэрмэры, што змагаюцца,—сказаў Хэрман,—гэта харкаўская канфэрэнцыя рэвалюцыйных пісьменьнікаў, якая адбылася два гады

таму назад у СССР. Тады я зразумеў, што азначае жыць у вольным паветры рабочай краіны. Фэрмэры ўжываюць рэвалюцыйную тактыку масавага змаганьня. Паслухайце іх прамовы на працягу дзесяці хвілін, і вы пачуеце ўсе лёзунгі кампартыі».

«Эрль Браудэр, камуністычны лідэр, у сваім выступленьні назваў гэты «сход гістарычным». «Гісторыя Амэрыкі ня ведала нічога падобнага—сказаў ён,—цэлыя сацыяльна-значныя групы нашай нацыі мяняюць свае палітычныя ўстаноўкі».

«Ліга прафэсыянальных груп, сумесна з якою наладжваўся гэты сход, з'арганізавалася ўсяго за месяц да заканчэньня выбараў, у кастрычніку 1932 году. Дзякуючы свайму вялізарнейшаму посьпеху, яна стала цяпер ужо сталаю арганізацыяй. Сакратар яе—Джэмс Рорці, вядомы пісьменьнік.

«Сярод членаў яе—значныя маладыя крытыкі: Эдмунд Вільсон, Н'ютон Арвін і Грэнвіль Хікс; драматургі—Эмджо Баш, СыднэйХовард і Эльмэр Райс; мастакі—Альфрэд Фруэ і Адольф Дан; вядомы публіцыст Лінькольн Стэфэнс Кайль С. Крайтон, рэдактор вялікага буржуазнага штомесячніка «Скрыбнэрс Мэгэзын»; і нарэшце такія амэрыканскія пісьменьнікі, як: Тэадор Драйзэр, Шэрвуд Андэрсон, Уолдо Фрэнк, і Джон Дос-Пасос, былыя кіраўнікі нацыянальнага камітэту абароны палітычных вязьняў, што адыгралі вялікую ролю ў справе моладзі са Скотсборо і харландскіх гарнякоў».

## КОНКУРС НА ЛЕПШЫ АНТЫВАЕННЫ ТВОР

Міжнароднае аб'яднаньне рэвалюцыйных пісьменьнікаў апавясьціла інтэрнацыянальны конкурс на лепшы літаратура-мастацкі твор, накіраваны супроць імпэрыялістычнай вайны і наогул імпэрыялізму. У сувязі з гэтым міжнароднае аб'яднаньне рэвалюцыйных пісьменьнікаў зьвярнулася да перадавых пісьменьнікаў усяго сьвету з наступнай адозвай:

«У жніўні 1932 году, у самы разгар ганебнага нацкоўваньня аднаго народу на другі, лепшыя прадстаўнікі сусьветнай літаратуры—Ромэн Ролян, Барбюс і Горкі—арганізавалі антываенны кангрэс у Амстэрдаме.

«Збыліся запаветныя надзеі: за ідэю арганізатараў кангрэсу выказаліся ня толькі прадстаўнікі рабочае клясы без падзелу на партыі і нацыянальнасьці, але і лепшыя прадстаўнікі буржуазнай культуры. Дрэйзэр, Шэрвуд Андэрсон, Гэнрых Ман, Альбэрт Айнштэйн, Андрэ Жыд, Джон Дос-Пасос, Карын Міхаэліс, Андэрсон Нэксэ і шмат іншых у голас урачыста прызналі, што падзяляюць ідэі арганізатараў кангрэсу. У Амстэрдамскім маніфэсьце яны заявілі, што не дапусьцяць, каб ізноў паўтарыўся ганебны 1914 год. Тады большасьць пісьменьнікаў, альбо прынялі непасрэдны ўдзел ў бойні і зьнішчэньні культурных і матар'яльных каштоўнасьцяй, альбо сваім маўчаньнем патуралі ўсяму гэтаму.

«Пасьля Амстэрдамскага кангрэсу перадавыя пісьменьнікі ўсяго сьвету ўступілі ў нацыянальныя і мясцовыя антываенныя камітэты, выказалі сваю гатоўнасьць да змаганьня за вызваленьне чалавецтва ад ярма капіталізму. Яны здолелі па творчы, проста паглядзець у вочы падзеям і прызналі, што зайна, пакуль яшчэ не апавешчаная, ужо на парозе, праўдзівей, што яна і ня спынялася.

Але пасьля Амстэрдамскага кангрэсу, пад аховай Лігі нацый пры актыўнай садзейнасьці зацікаўленых вялікіх дзяржаў, усё яшчэ ідзе разбой і напад Японіі на Кітай, заваёўны паход на Манжурыю, якія (паходы) прасьледуюць інтарэсы кучкі ваенных прамыслоўцаў, фінансавых каралёў і мілітарыстаў.

«Вайна паміж Парагваям і Балівіяй набыла яшчэ больш жорсткі характар. Ува ўсіх калёніях пануе яўная і скрытая вайна. Гара трупаў расьце, павялічваецца армія калек. Мільёны беспрацоўных, мільёны галодных дзяцей просяць хлеба і працы, а барацьба інтарэсаў імпэрыялістычных дзяржаў набывае ўсё больш жорсткія формы. Выдаткі на ўзбраеньне дасягнулі фантастычных памераў.

«Але ўсе гэтыя сутычкі інтарэсаў капіталістычных дзяржаў падпарадкаваны змаганьню двух сьветаў: сьвету капіталізму і сьвету сацыялізму. Усе падрыхтоўкі да вайны ўрэшце-рэшт зводзяцца да аднаго: падрыхтвааць адзін-магчымы, з пункту гледжаньня капіталізму, выхад з міравога крызісу—вайну супроць Савецкага Саюзу.

«Супроць Савецкага Саюзу! Супроць адзінай у сьвеце краіны, дзе працоўны сам куе свой лёс, дзе ў самаахвярнай і ўпартай барацьбе ствараецца новае бясклясавае грамадзтва, новая сацыялістычная культура! Супроць адзінай у сьвеце краіны, якая паказвае чалавецтву шляхі канчатковага вызваленьня ад імпэрыялістычнай сыстэмы.

«Героі другога Інтэрнацыяналу, што дазваляе сабеназывацца «сацыялістычным» і «рабочым», таксама сьпяваюць у лад агульнага хору хіжых гіен. Прыкрываючыся пацыфісцкімі словамі і сацыяльнай дэмагогіяй, былыя, цяперашнія і будучыя «сацыялістычныя» вайсковыя міністры падтрымліваюць на ўсходзе вайну, крывавае прыдушэньне калёніяльных народаў, што змагаюцца за свабоду, тармозяць адзіна правую вайну—вайну рабочых мас супроць вайны, супроць капіталізму.

«Гэтаму хору крывавых гіен утуруюць і «слупы грамадзтва»—рэдактары і журналісты прадажнай белай прэсы, якія пяром і алоўкам працуюць на ўзбраеньне; яны сьвядома нацкоўваюць народы адзін на другі і праводзяць пляны фінансавых каралёў, індустрыяльных трэстаў і генэральных штабаў, ствараючы «настрой» неабходнасьці новай сусьветнай вайны. Яна нямінуча пацягне за сабою зьнішчэньне культурных каштоўнасьцяй, створаных пакаленьнямі, зварот да эпохі барбарства.

«Мы зьвяртаемся да пісьменьнікаў усяго сьвету, да празаікаў, паэтаў, драматургаў, гатовых разам з намі

стаць на абарону свабоды і прагрэсу чалавечай грамады ад крывавага прыгнёту!

«Мы заклікаем усіх сапраўдных перадавых пісьменьнікаў, пралетарскіх пісьменьнікаў і рабкораў!

«Аб'яднаемся для сумеснага змаганьня! Створым адзіны рэвалюцыйны фронт літаратуры! Супроць вайны, супроць фашызму і мілітарызму! Выкрыем пацыфісцкія хлусьлівыя махінацыі дыплёматаў, рэфармістаў і фашыстаў, папоў і газэтных пісак, пакажам іх сапраўдны твар: гэта-ж саюзьнікі ваенных прамыслоўцаў, генэралаў і шавіністаў усіх краін!

«Дапаможам працоўным масам усьвядоміць сваю ўласную сілу, пакажам змаганьне пралетарыяту супроць імпэрыялізму, вайны і барбарства!

«Раскажам аб гістарычнай ролі Савецкага Саюзу і яго сьмелай палітыцы міру! Раскажам аб Чырвонай арміі і яе значэньні для міру і будаўніцтва. Прымеце ўдзел у нашым конкурсе!

Вайна вайне мастацкім словам!»

Апошнім тэрмінам падачы твораў на конкурс вызначана першае чэрвеня 33 году. Усе прэміяваныя творы будуць выдадзены Міжнародным Аб'яднаньнем Рэвалюцыйных Пісьменьнікаў.

## ПРАТЭСТ ФРАНЦУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Фашыстоўскі тэрор у Нямеччыне захапіў і паралізаваў усё культурнае жыцьцё. Увесь камуністычны друк забаронен. Рэдактары шмат якіх камуністычных газэт арыштованы. Арыштованы таксама рэвалюцыйныя пісьменьнікі Эгон Эрвін Кіш, Леман Рузвільт, Эрых Юзан, Осецкі і, толькі што выпушчаны нядаўна з турмы, Людвіх Рэн. Асацыяцыя рэвалюцыйных Пісьменьнікаў Францыі з прычыны гэтых падзей у Нямеччыне апублікавала адозву. Адозва называецца «Да агню».

Вайян Кутур'е заяўляе, што ў сучасных нямецкіх падзеях вінават францускі імпэрыялізм, які налажыў на рабочых і на дробны люд Нямеччыны «ярмо вэрсальскага дагавору».

Андрэ Жыд піша: «Нямеччына дае жахлівы прыклад тэрору, на шлях якога фатальна становіцца краіна, якая шукае ратунку ў нацыяналістычным вар'яцтве». Палітыка нацыяналізму,— кажа Андрэ Жыд,—неабходным чынам вядзе да вайны. «Тыя, што хочуць недапусьціць яе, павінны будуць урэшце прызнаць, што толькі змаганьне кляс,—я хачу сказаць: змаганьне кожнай краіны супроць свайго імпэрыялізму,—можа не дапусьціць новы канфлікт, які цяпер падрыхтоўваецца».

Анры Барбюс, далучаючыся да пратэсту «Супроць нечалавечых махінацый», супроць «правакацый, хлусьні, гвалту», што ўжываюцца ў дачыненьні рабочага руху ў Нямеччыне заклікае «сьціснуць кулакі перад агіднаю хваляю фашызму».

1380-4ба



Ромэн Ролян піша, што «карычневая чума» гэрманскага фашызму перавысіла сваімі крававымі выступленьнямі і правакацыямі «чорную чуму», намякаючы на першыя выступленьні італьянскага фашызму. «Мы зьвяртаемся да ўсіх пісьменьнікаў Эўропы і Амэрыкі,—піша Ромэн Ролян,—да якой-бы партыі яны не належылі, да ўсіх, хто мае пачуцьцё пагарды, гледзячы на ганьбаваньні элемэнтарнай годнасьці чалавека і грамадзяніна. Мы зьвяртаемся да ўсіх тых, хто мае пачуцьцё салідарнасьці, што зьвязвае нас з тымі, што выступаюць супроць спушчанага з ланцугу тэрарызму рэакцыі. Усіх іх мы заклікаем далучыцца да нас».

Жан Рышар Блош піша: «Адзінай сапраўднай дапамогаю, якую мы можам даць цяперашнім і будучым ахвярам тыраніі, зьяўляецца наша змаганьне супроць французскіх паклоньнікаў катаў».

*Адказны рэдактар П. Галавач*

*Намесьнік рэдактара К. Зарэмбоўскі*

*Рэдкалегія:* ***Бацюшкоў, Браніштэйн, Галавач, Жылуновіч, Зарэмбоўскі, Клімковіч, Колас, Крапіва, Лынькоў, Чорны.***

*Выдавец:* Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, „Полымя Рэвалюцыі"

